Зося. І сапраўды, не пасьпела яна зьняць жакетку, як ён падляцеў да яе і, нібы найвялікшую радасьць, паведаміў, што сам пан Ляскоўскі наведваўся аб ёй і шкадаваў, што ня можа яе бачыць. Зося нічога не адказала на ліслівы даклад бухгальтара і моўчкі прынялася за працу.

— А скажэце, калі ласка, праўда гэта ці не, што ў вас нейкі кавалер завёўся? Я гэтаму ніколі не паверу, але людзкія байкі такія.

Зося, як маланкаю, бліснула на яго вачмі і зноў уставілася ў паперу.

— Вядома, усё гэта брахня. Вамі, даўно відаць, цікавіцца пан Ляскоўскі, а які-ж яшчэ кавалер параўнаецца з ім? Ён, хто яму спадабаецца, засыпле кветкамі і золатам.

Зося ўскочыла, як на спрунжынах.

— Калі вы яшчэ хоць слова скажаце, я кіну вашу агідную кантору.

Пісарэўскі змоўк, неяк скурчыўся, як печанае яблыка. Увесь дзень ён на наскох хадзіў, калі яму трэба было прайсьці міма Зосі. Пасьля заняткаў, вышаўшы сьледам за ёю на ганак, ён мяккім галасочкам прасіў, каб яна не сердавала на яго і, барані божа, не сказала чаго аб ім пану Ляскоўскаму.

Але словы Пісарэўскага аб яе кавалеры ня былі ўжо так няпрыемны Зосі. Людзі гавораць аб ёй. Значыць, яна ўжо не малая, яна ўжо жанчына... Зося ішла дамоў у такім высокім настроі, быццам яе чакала там пэўнае, хоць і невядомае, шчасьце. Сутычка з Пісарэўскім, яго брыдкія намёкі хоць часам і ўспаміналіся ёй, але гэтыя ўспаміны не затрымліваліся надоўга і зараз-жа засланяліся нейкаю ружоваю хваляю з бліскучымі на ёй зоркамі.

Напяваючы ціха песьню, прышла яна дамоў. Бацька нават быў крыху зьдзіўлены тым, што яна вясёлая, ня гледзячы на тое, што сам сказаў ёй, што Зыкаў у гэты вечар ня будзе. (Стары прыкмеціў прычыну маўклівасьці дачкі!). Яна прайшла ў сваю баковачку, запаліла лямпу, а потым доўга кошкалася ў шуфлядцы з рознаю дзявочаю драбязою. Знайшоўшы напасьледак кніжачку з вызалачаным абрэзам, яна перагартала яе, прачытала некалькі першых старонак. Потым шаснула перачытаныя аркушыкі, скамячыла іх і кінула ў групку. Сеўшы за стол, яна запісала некалькі радкоў на першай, зусім чыстай цяпер, старонцы; перачытала, задумалася, зноў пачала пісаць... Доўга ў гэты вечар то схілялася над сталом, то выпроствалася, задумаўшыся, яе галава.

Была нядзеля. Дзень выдаўся такі цёплы, ясны, якія рэдка бываюць у канцы верасьня ці пачатку кастрычніка. Зранку быў лёгкі мароз, у срэбра апрануўшы далёкія сенажаці. Але сонейка хутка зьняло гэтае ўрачыстае пакрывала, і зноў лагчыны паказалі сваю блёкла-зялёную коўдру. Пад поўдзень у паветры панесьліся белыя ніткі павуціны. Яна чаплялася за лазьняк, за дрэвы, садзілася на адзежу, на валасы. Цішыня і сьветлая празрыстасьць чыстага паветра.

Зося зранку пагаспадарыла, нават зрабіла бацькаву работу, прагледзеўшы вучнёўскія пісьмовыя работы. Наскакалася па садзе, ганяючыся за акрыяўшым ад сонца матылём—апошнім жывым успамінам прашоўшага лета. Потым пляла гірлянду з жоўтых, чырвоных і зялёных лістоў, густа пакрываўшых усе дарожкі і сьцежкі саду. Зрабіўшы сабе вянок, які блішчэў на сонцы ўсімі адценьнямі, яна надзела яго на голаў і ў такім выглядзе, як мадонна ў дарагой аправе, зьявілася да бацькі. Але як толькі пераступіла яна парог, вянок рассыпаўся, лісьцё нехаця разьляталася ў бакі, пакрываючы падлогу. Зыкаў стаяў каля вакна і вясёла ўсьміхаўся.

— Шкода, што вы парвалі яго.

— Ён... ён сам рассыпаўся,—пакрысе прыходзячы ў сябе ад нечаканасьці, адказала Зося.

— Ведаеце, я зайшоў за вамі, каб вы паехалі са мною ў чаўне па рэчцы,—пaглядаючы то на бацьку, то на дзяўчыну, сказаў Зыкаў.

— Як па рэчцы?—запытаўся Пятрусь Мікалаевіч.—Знайшлі час для такое язды.

— А чаму-ж? Сёньня цёпла.

— Цёпла, то цёпла, але ўсё-ж гэта ўжо ня ўлетку. Памойму, гэта вы нядатна прыдумалі.

— Татачка, паедзем!—ускінулася Зося.—Апранемся цяплей, вось і ўсё. А такія дні ўжо астатнія.

— Што ты, дачушка? У цябе-ж нядаўна „воспаление легких“ было. Нельга больш блазанстваваць.

— Ну, паедзем, нічога страшнага ня будзе. Татачка, даражэнькі...

Пятрусь Мікалаевіч доўга думаў, маўчаў. Зося не адводзіла ад яго просячага пагляду.

— Ну, як сабе хочаце, а я не паеду. На сырасьці растраўлю свой раматус, тады кепска будзе. А вы, калі хочаце, то паедзьце. Толькі доўга нельга, ды апраніся цяплей.

Зося заскакала на месцы, забыўшыся, што тут-жа стаіць Зыкаў. Яна хамянулася, але было позна: прышлося толькі засаромецца.

Рэчка то белым, то цёмным волавам агортвала бакі чоўна, які чуцьчуць зыбаўся ў бакі ад нахілаў Зыкава, калі ён апускаў у ваду вясло. Човен лёгка склізгаўся ўперад, і маёнтак, хаткі вёскі, нават будынкі гуты і паперні здрабнелі, толькі малюсенькімі плямкамі адбіваючыся на жоўта-зялёнай коўдры палёў і сенажацяй. Хутка яны зусім прапалі з вачэй, схаваўшыся за ізьвівамі блытаных берагоў. Месца сенажаці на беразе занялі кусты, дробныя дрэвы. Яны аблягалі з бакоў рэчку, як залочаная з малахітам аправа-люстэрка. Калі толькі дакрануцца да куста, дык заўюцца, замільгацяць у паветры рознакаляровыя матылі лісьця. Пакруціўшыся ў паветры, яны ціха лажацца на ваду, гойдаюцца на хвалях, а потым зоркамі плывуць па блакітнай гладзі нямаведама куды.

За портам паказаўся высачэзны чуб сасьняку. Над самаю вадою вісеў дуб. Гэта тое самае месца, куды ўлетку Зыкаў часта езьдзіў з Сымонам Кавальчыкам. Хоць і прарочыў дубу Сымон, што ён зваліцца ў раку, але той усё яшчэ сьмела працягваў у неба свае сталёвыя лапы. Мусіць, не падасьпела яшчэ навальніца. Зыкаў накіраваў човен якраз да гары.

— Куды-ж мы прыехалі?—пыталася Зося.

— А вось узыдзем наверх—пабачыце.

Падтрымліваючы Зосю пад руку, Зыкаў адбіваўся другою рукою ад лазьняку, гарошніку, якія недалікатна лезьлі пад ногі, чапляліся за адзежу, зрывалі з галавы шапку ці хустку. Гэтая барацьба спадабалася Зосі, і яна сама кінулася ўперад, нагнуўшы голаў і выцягнуўшы перад сабою рукі. Яна зачырванелася, як вішня, гальлё дразьніла яе, і яна хахатала, як срэбраны званок.

— Вось глядзеце цяпер!—абвёў рукою Зыкаў вакол, калі яны дасягнулі самага верху гары, дзе кустоў ужо ня было, а толькі рэдкія хваіны ды адна-дзьве яліны.

Зося азірнулася кругом. Істужка рэчкі, блішчэўшая ў бясконцых закутках, сіва-зялёны хвойнік на тым беразе, які цягнуўся, здавалася, на край сьвету, лёгкія палі і сенажаці з другога боку і рассыпаныя там вёскі, як чародкі авечак—усё гэта давала малюнак магутнай шырыні і прасторы.

— Як тут добра!—з захапленьнем прамовіла Зося.—Я з маленства жыву ў Ляскаўцах, а ніколі не даводзілася быць мне на гэтай гары.

Яна лёгка аперлася на руку Зыкава і прыслухоўвалася к цішыні, якую парушаў лятучы дзе-паводдаль лісток. Калі-ні-калі яна ўзглядала зьнізу ўверх на твар Зыкава і радасьць казлытала яе пад сэрцам. Ён-жа ціха наблізіў да яе валасоў руку і выбіраў з іх дробныя лісточкі, хваёвыя іголкі, якія насадзіліся на голаў, калі яна пусьцілася ў барацьбу з чэпкімі кустамі.

Раптам рука яго прыпынілася. Зося зірнула яму ў твар і прыкмеціла, што ён пільна прыслухоўваецца. Яна таксама стала слухаць і праз хвіліну пачула лёгкае плёсканьне ў рэчцы. Але з-за гары нічога ня было відаць. Хутка плёсканьне прыпынілася, потым пачуўся прыглушаны гоман некалькіх чалавек.

— Гэта яны!—быццам дзеля сябе прагаварыў Зыкаў.

Зося занепакоілася. Ёй сорамна стала ад думкі, што іншыя людзі пабачаць яе тут з вока на вока з хлапцом. Яна ўпікліва паглядала на Зыкава, моўчкі сярдуючы на яго за недалікатнасьць. Па ўсяму было відаць, што ён ведаў, хто ідзе сюды, і, мусіць, ён загадзя змовіўся з імі. Значыць, ён ня дзеля яе прыехаў сюды... Усе гэтыя думкі пранесьліся ў яе галаве маланкаю. Яна адступілася ад Зыкава і нецярпліва камячыла між пальцамі ражок хусткі.

Праз некалькі хвілін кусты зашумелі, затрашчэла ламачча пад нагамі ішоўшых. Яны ўжо зусім блізка... Зыкаў вітаецца з імі. Зося падняла вочы. Трое прышоўшых зьдзіўлена разглядалі яе. Але вось адзін з іх прыветнаківае ёй галавою. Ды гэта Піліп Рыгорчык. Добрая палова цяжару спала з сэрца.

— Добры дзень, Зося Пётраўна,—падышоў да яе Піліп.—Вось гэта нашы таварышы.

— Будзьце ўсе папростаму,—сказаў у свой чарод Зыкаў.—Гэта тая дзяўчына, аб якой я вам казаў. А гэта—нашы бліжэйшыя з Піліпам таварышы,—дадаў ён, зьвярнуўшыся да Зосі.

Але хоць так проста было зроблена знаёмства, Зося не магла адразу зусім заспакоіцца. Адзін з незнаёмых раз-по-разу кідаў на яе цяжкія, пытаючыя позіркі, нібы прогся выведаць усё, што было захавана ў яе думках, сэрцы. Ні жаднае прыветнае рыскі нельга было прыкмеціць на яго хмурым твары. Зося старалася не глядзець на яго. Апроч гэтага, яе непакоіла думка аб тым, што-ж будзе далей. Не дарэмна яны сабраліся сюды, і чаму яна тут? Ёй станавілася жудасна.

— Давайце пачнем справу,—прапанаваў Зыкаў.

Зося спалохана зірнула на яго. Што-ж гэта будзе? Няўжо?..

Усе селі ўкруг. Яна ня ведала, як ёй трымацца, куды дзецца.

— Садзецеся, калі ласка,—далікатна прапанаваў Рыгорчык і нават паслаў па імху свой пінжак.

Зося нясьмела прысела, але страх крыху прайшоў.

— Дык вось, таварышы! Справа такая,—загаварыў Зыкаў, калі ўсе разьмесьціліся,—нам трэба абгаварыць, як дзейнічаць далей. Пан Ляскоўскі адмовіў рашуча ў належнай папраўцы будынкаў у пасёлку. Толькі дазволіў узяць крыху дошчак і забіць праломаныя стрэхі. Такім чынам, становішча застаецца цяжкім і грозным з набліжэньнем зімы. Трэба абмеркаваць, як направіць сваю усю справу.

У Зосі зусім адлягло ад сэрца, і нават яна сьмела глянула на хмурага рабочага.

Абмеркаваньне зацягнулася. Вырашыць пастаўленае пытаньне было трудна. Пахмурны рабочы, падтрымліваемы другім, якога Зося раней ня ведала, настойваў на рашучых кроках. Ён прапанаваў аднавіць запатрабаваньні і падтрымліваць іх нават нявыхадам на працу аж да тых часоў, пакуль пан Ляскоўскі ня здасца і не задаволіць іх патрэбы. Рыгорчык трымаўся больш асьцярожна і ў яго ясных прапаноў ня было. Зыкаў-жа адразу заняў позыцыю організацыі самадапамогі.

— Час ужо прапушчаны,—казаў ён.—Пакуль вы організуеце выступленьне ў другі раз, якое зрабіць нялёгка, бо ва ўсіх на памяці вынікі першага, надыйдзе зіма ўжо якраз. Паны на ўступкі ня пойдуць—гэта ясна. Што-ж, павашаму, застацца без работы і кавалка хлеба? Зіма палохае кожнага і організаваць забастоўку ні ў якім разе ня ўдасца.

— Гэтая палахлівасьць і недавер'е мне зусім незразумелы, уставіў хмуры рабочы.

— Справа не ва мне, не ў маіх там здольнасьцях ці недахопах, а ў падрыхтаванасьці ўсяе рабочае грамады. Нам трэба весьці яшчэ вялікую працу дзеля гэтага,—адказаў Зыкаў.

Спрэчкі цягнуліся яшчэ некалькі хвілін, не даючы нічога новага. Напасьледак Зыкаў прапанаваў галасаваць. Як і раней было відаць, галасы іх падзяліліся пароўня: Рыгорчык з Зыкавым былі за адно, астатнія ўдвох—за другое.

— Вы, Зося Пётраўна, як-бы думалі?

Зося ня ведала, што адказаць, бо пытаньне было пастаўлена зусім нечакана для яе. Яна то апускала, то паднімала вочы, прагучыся не глядзець у бок хмурага рабочага. Перад ёю ясна ўстаў малюнак Піліпавае будкі, як яна бачыла яе ў апошні раз. Але мароз праляцеў па сьпіне ад аднаго ўспаміну. Зосі здавалася, што яна адчувае холад ад заліўшае за каўнер вады. Яна ўявіла сабе ясна выгляд Піліпавае хаткі ўзімку, калі праз шчыліны надзьме ў яе сьнегу.

— Я думаю, што вось яны,—паказала Зося ў бок хмурага,—прапануюць больш правільна.

— Такім чынам, галасоў у вас больш,—сказаў Зыкаў. Нам прыдзецца слухаць і выконваць.

Але раптам усё перавярнулася ўверх дном. Хмурны, які ўвесь час упарта прыглядаўся да Зосі, як толькі яна выказала згоду з яго прапановаю, заварушыўся і папрасіў перагаласаваць. Зыкаў падзівіўся, але паставіў на галасаваньне: хмурны адказаўся ад свае прапановы і далучыўся да прапановы Зыкава. Зося адчувала сябе зусім зьбянтэжанаю, ёй сорамна было зірнуць каму ў вочы. Нават туман сьлёз падступіў і на момант засланіў яе вочы, але яна прымусіла сябе ўтрымацца ад сьлёз, захаваць пагарду.

Зыкаў заўважыў па зьменах, якія рабіліся на твары Зосі, што яна ўсхвалявана і можа выявіць сваё абурэньне. Ён схіліўся да яе, крануўся ціха рукі і паглядзеў ёй проста ў вочы. Яна зусім заспакоілася.

Пасяджэньне цягнулася яшчэ нейкі час. Абгаварвалі падрабязнасьці організацыі рабочае самадапамогі. Зося не асабліва ўнікала ў гутарку. Яна толькі ўвесь час адчувала, што кіруючая роля ва ўсім належала Зыкаву, які проста і ясна выкладаў свае думкі і даводзіў іх да ўразуменьня таварышоў.

Калі з гэтым пытаньнем было скончана, Піліп аднекуль прывалок сярэдняй велічыні куфэрак. Нясучы яго, ён аж згінаўся ад яго цяжкасьці. Гэты куфэрак быў да верху завалены кніжкамі, лістоўкамі, нават пісанымі аркушамі і сшыткамі. Зыкаў дастаў адну з невялічкіх кніжак, і пачалося чытаньне. Гэта былі „Павукі і мухі“.

Сонца ўжо хавалася. Кружок яго рубам стаяў на вяршынях хваін зарэчнага лесу. Кніжка была дачытана, куфэрак замкнуты. Піліп ўзваліў яго сабе на сьпіну і праз хвіліну прапаў у гушчарніку кустоў. Калі ён вярнуўся, Зыкаў і Зося разьвіталіся з усімі і пачалі сыходзіць да рэчкі. Таварышы праводзілі іх датуль, дзе пачынаўся круты спуск. Хмурны нешта прабурчэў, падаючы на разьвітаньне руку Зыкаву. Зося злавіла толькі словы „цягнуў сюды яе“.

Назад ехалі ўніз па рэчцы. Кусты пацямнелі, пачарнелі. Рэчка пасыпалася зоркамі, якія адбіваліся ў ёй з неба і трапяталі на дробных хвальках. Іх узьмаў чуць прыкметны вячэрні вецер. Даль закурэлася лёгкімі яшчэ празрыстымі космамі туману... Зыкаў клапатліва аглядзеў Зосю, ці добра закрыта яна ад сырасьці і холаду. Папраўляючы ёй каўнер, ён зьнячэўку крануўся яе цёплае нежнае шыі. Агонь прайшоў па ўсіх жылах. Ён ужо больш ня браў вясла ў рукі. Човен плыў за вадою. Зыкаў сеў на дне. Рукі Зосі і яго сышліся, перадаючы, зьліваючы цяпло абодвых.

Раптам човен уздрыгнуў, раздаўся шолах і трэск. Зося ўскрыкнула і хістанулася ў бок. Човен яшчэ мацней завагаўся.

— Ціха, ціха!—і моцныя рукі Зыкава абхапілі тоненькі стан дзяўчыны.

Галава яе схілілася яму на плячо. Трымаючы аднэю рукою дзяўчыну, ён другою выправіў на сярэдзіну рэчкі човен, які прыгнала да берагу. Човен зноў паплыў сам, яшчэ раз моцна загойдаўшыся.

— Ах, як я перапалохалася!—адхіляючыся ад Зыкава і чуць не задыхаючыся, пралепятала Зося.

— А я хацеў-бы, каб яшчэ раз вы перапалохаліся,—не выпускаючы яе рук, адказаў ён.

І раптам ён схапіў дзяўчыну за плечы, нахіліў да сябе... Зоркі міргалі з неба: ім было завідна...

Каля брамкі школы яны разышліся.

— Можа зайшлі-б да нас?—шапнула яна.

— Не, я пайду яшчэ паблукаюся пад зоркамі,—адказаў ён.

*(Працяг будзе).*

# ВІХОР НА БАЛОЦЕ [1]).

*П'еса ў 4-х дзеях*

**Міхась Зарэцкі**

Прысьвячаю

Л. Мазалеўскай

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Раньні вечар перад нядзеляй у доме Данілы Загорскага. Сцэна падзелена на дзьве часткі. У левай—уласная кватэра Данілы, у правай—пакоі Мяркулавіча. Уваход у кожную асобны. У кватэры Данілы ляжыць адна хворая жонка, а ў пакоі Мяркулавіча сядзяць за сталом Мяркулавіч і Юзік. Бацька па кніжцы правярае сынавы лекцыі, Юзік аднатонна і вяла адказвае.

Мяркулавіч. Ну, кажы „Ворагаў".

Юзік. Яшчэ там „пролетарыят" прапусьцілі.

Мяркулавіч. Я ў цябе пытаю „Ворагаў".

Юзік. Ворагі рабочых і сялян. Самым заклятым ворагам працоўных зьяўляліся памешчыкі і капіталістыя. Яны прымушалі працаваць на сябе рабочых і сялян, жылі і раскашавілася з іхнага поту...

Мяркулавіч. Тут напісана: поту і крыві.

Юзік. Поту і крыві... Гультаі і дармаеды, яны рабавалі цёмны народ і за яго кошт будавалі сабе пышныя палацы, за яго кошт пілі і распусьнічалі...

Мяркулавіч. Тут сказана: пілі, распусьнічалі і абжыраліся.

Юзік. І абжыраліся...

Мяркулавіч (з замілаваньнем). Бывала, князь Пясоцкі на вялікадня ці на імяніны свае або супругі ўласнае Вікторыі Паўлаўны паставіць стол на дзьвесьце пэрсон... Госпадзі, божа. Гусі, індыкі, парасяты... рыба розная заморская... дзічына ўсякая: курапаткі, цецярукі, бакасы, рабчыкі... Віны: портвэйны, хэрэсы, мадэры... каньяк, шампанскае... Благалепіе, пышнасьць!.. Чытай далей!

Юзік. Другім ворагам працоўных зьяўляліся розныя прадстаўнікі гэтак званага духавенства: архірэі, папы, дзякі...

Мяркулавіч. Пратаіерэі...

Юзік. Пратаіерэяў няма там, ня сказана.

Мяркулавіч. Ня сказана? Усё роўна. Твая цётка, стрэчная сястрыца нябожчыцы маткі, была замужам за родным пляменьнікам айца

---

[1]) Гл. „Полымя" № 6.

пратаіерэя Нікольскага. Калі я служыў у казённай палаце, дык два разы гасьцяваў у яго. Ветлы такі, далікатны. Тры мэдалі меў, к Аньне быў прадстаўлен яго прэасьвяшчэнствам владыкай Мітрафанам...

Юзік (перапыняе яго). Гэтая доўгавалосая сволач была фактычна...

Мяркулавіч. Ня сволач, а свора... доўгавалосая чорная свора...

Юзік. ... была фактычна верным паслугачом буржуазіі. Набіваючы галовы сялян і рабочых рознымі недарэчнымі байкамі, яна зацямрала іх сьвядомасьць, прывучала цярпліва зносіць усе зьдзекі памешчыкаў і капіталістых...

Мяркулавіч. Няма тут памешчыкаў і капіталістых. Тут сказана зьдзекі эксплёататараў.

Юзік. Усё роўна. Трэцім ворагам рабочых і сялян зьяўлялася тупагаловае чорнасотніцкае чыноўніцтва...

Мяркулавіч. Дзе ты ўзяў тупагаловае?

Юзік. Так у кніжцы напісана.

Мяркулавіч (чытае)... зьяўлялася тупагаловае чорнасотніцкае чыноўніцтва... Тупагаловае можна прапусьціць. Досыць ужо аднаго, што чорнасотніцкае.

Юзік. А раз напісана...

Мяркулавіч (злосна). А раз я табе гавару... Чыноўніцтва гэта можа было ў тысячу разоў разумней за цябе. Тупагаловае... Іш ты...

Юзік (таксама злосна і голасна). Кастрычнікавая рэволюцыя разагнала ўсю гэту погань, разьмяла яе па сьвету, вызваліла рабочых і сялян ад яе панаваньня.

Мяркулавіч (перапыняе). Погань? Патвойму—погань? Га?

Юзік. Так у кніжцы напісана...

Мяркулавіч (зусім раззлаваны). Твая рэволюцыя сьвет дагары нагамі перавярнула, во што. Погань цяпер якраз і ўзяла ўладу, камандуе ўсім чыста... Што толькі дзеецца. Ні права ні закону. Як яму, паганцу, захочацца, так ён і робіць. Прылічнаму чалавеку—хоць ты ўтапіся ад гэткіх парадкаў.

Юзік. Я ня лічу патрэбным весьці з табой контр-рэволюцыйныя размовы.

Мяркулавіч. А я ня лічу патрэбным, каб ты галаву набіваў усякім глупствам. У кніжцы напісана... бачыце вы яго? А што бацька гаворыць, дык—і ня ў той бок.

Юзік (пакрыўджана). Ты зробіш тое, што мяне з піонэраў выключаць.

Мяркулавіч. Выключаць, выключаць... Мы самі выключымся, вось каб толькі ўзьбіцца як-небудзь на крамку. Тады і піонэраў табе ніякіх ня трэба. Станеш сабе, як гаспадар, ні табе бегчы куды, ні табе шукаць каго—стой сабе ды гандлюй памаленьку. Фунцік цукру?—

Пажалста. Чвэртку чаю?—Калі ласка... Дваццаць капеечак... Трыццаць капеечак... Капеечка да капеечкі...

Юзік. Я ня хочу гандляваць...

Мяркулавіч (ужо спакойным тонам). Ну-ну, ня хочаш. А што-ж ты будзеш рабіць? Вазьмі-тку паперку ды аловак. Я паляжу, а ты падлічы, колькі ў нас не хапае грошай на крамку.

Юзік. Я-ж лічыў ужо колькі раз.

Мяркулавіч (кладзецца на ложак). Ну, яшчэ раз пералічы. Я ўжо забыўся.

Юзік (узяў аловак і паперку). Ну?

Мяркулавіч (дыхтуе). Патэнт трэцяга разраду на дробны гандаль прадметамі першай патрэбы—пяцьдзесят рублёў.

Юзік. Ну?

Мяркулавіч. Арэнда памяшканьня пад крамку на рагу Загорнай і Пералазнай па пятнаццаць рублёў у месяц, адразу за тры месяцы наперад — сорак пяць рублёў. Тавару рознага згодна спэцыяльнага рэестру... паглядзі там, Юзік, у скрынцы рэестр.

Юзік. Ты-ж і так добра ведаеш.

Мяркулавіч. Усё роўна, паглядзі.

Юзік (дастае з скрынкі паперку і глядзіць). Сто дваццаць тры рублі семдзесят пяць капеек.

Мяркулавіч. Правільна. Тавару рознага на суму сто дваццаць тры рублі семдзесят пяць капеек. Пішы далей. Купіць замок і жалезную штабу—усяго чатырнаццаць рублёў восемдзесят тры капейкі. Запісаў? Далей... Падмазаць фінінспэктара—дзесяць рублёў. Падмазаць кіраўніка дамамі—пяць рублёў. Запісаў? Падмазаць міліцыянэра два рублі пяцьдзесят капеек. Падмазаць дворніка—дваццаць пяць капеек. Запісаў? Колькі ўсяго?

Юзік (падлічыўшы). Дзьвесьце пяцьдзесят адзін рубель трыццаць тры капейкі.

Мяркулавіч. Аднімі трыццаць.

Юзік. Нашто?

Мяркулавіч. Аднімі, кажу, трыццаць.

Юзік (пакрыўджана). У мяне няма спортыўнай вопраткі і чаравікі падраліся. Кніжкі трэба купляць... А ён трыццаць рублёў беражэ на нейкую краму...

Мяркулавіч. Аднімі трыццаць рублёў.

Юзік. Сам аднімай.

Мяркулавіч. Юзік!

Юзік (злосна). Дзьвесьце дваццаць адзін рубель трыццаць тры капейкі.

Мяркулавіч. Дзьвесьце дваццаць адзін рубель трыццаць тры капейкі! Госпадзі, пашлі мне дзьвесьце дваццаць адзін рубель трыццаць

тры капейкі! Каб знайсьці дзе-небудзь!.. Ідзеш гэта так па вуліцы—зірк, аж паперка на бруку валяецца... людзі ідуць—не прыкмячаюць... каму цікава маленькая брудная паперачка? Я іду—стоп, паглядзім... можа які дакумант... Нахіляюся, бяру, раскручваю... божа мой, трыццаць чырвонцаў!.. Наймаю крамку... купляю тавару... стаю сабе, нібыта-што... Фунцік цукру?—Пажалства. Чвэртку чаю?—Калі ласка... Капеечка да капеечкі... (Засынаючы). Дзьвесьце дваццаць адзін... рубель... трыццаць тры... капейкі... Дзьвесьце... дваццаць... адзін... (Заснуў).

Юзік (асьцярожна). Татка! (Прыслухваецца). Заснуў. (Злосна рве паперку, на якой рабіў вылічэньні, пачынае гаварыць важна, тонам дарослага чалавека). Надакучылі мне гэтыя дробна-буржуазныя разважаньні. Проста жыцьця няма з ім. Такая палітычная несьвядомасьць, такая адсталасьць! І ніяк-жа яго не адукуеш... проста бяда!.. Ну-с, пакуль не прачнуўся, трэба ўцякаць. (Надзявае шапку). Гальштук зноў схаваў. Ах, цемната, цемната. (Ідзе да бацькі і выцягвае ў яго з-пад падушкі чырвоны гальштук. Завязвае яго. Манерна раскланьваецца з бацькам). Бывай, бацька! Твой сын пашоў у піонэрскі атрад. (Сам сабе). Будзь гатоў! Заўсёды гатоў! (Пашоў. У левы пакой уваходзіць бабка Пілаціха).

Пілаціха. Сьпіць... (Мацней). Мусіць, заснула. (Яшчэ мацней). Надзея, сьпіш?

Надзея. Хто тут?.. А, бабка Пілаціха! Сядай, бабулька, у нас.

Пілаціха (засакатала). Ой, няма-ж часу мне, дзетачка, яй-богу-ж, праўда. Бегла да Глыбоцкіх—дай, думаю, навертам да Надзеі заскочу— як яна тут... Ох, якая-ж ты благенькая стала—аж страшна зірнуць, адны вочы і засталіся, яй-богу-ж, праўда.

Надзея. Памру, я, мусіць бабулька!

Пілаціха. Хай бог крые... Яшчэ пажывеш можа крыху. Ня гэткія жывуць... Вунь Кірэева Тэкля—сухотніца, колькі мэнчылася, колькі мардавалася, пакуль памёрла. А то-ж мужык зьвёў са сьвету, яй-богу-ж, праўда. Як пачаў ён з гэтай Рыпінай круціцца, як пачаў чурацца роднае хаты, дык яна і заняўздолела. Кашляла, кашляла, а тады і лягла. Вось, як і ты, стала страшная такая, жоўтая, яй-богу-ж, праўда.

Надзея (з болем перапыняе яе). Скажы лепш, бабулька, што чуваць там у вас?

Пілаціха. Што-ж там чуваць... Ці мала чаго людзі гавораць— усяго-ж не перакажаш. Была я надовечы ў гэтых, у Крывіцкіх, што на Загорнай жывуць. У каровы ў іхнае малако адабраў нехта—на Барбару казалі, але хто іх там ведае. Дык старая Крывіцкая мне па сакрэту казала, што іхны пляменьнік—той, што да Лідкі Казачонкавай залецаўся—ведаеш?—Рыгорам, здаецца, завуць,—дык казала, узяў ён сабе недзе ў Маскве—маладая, багатая, два дамы мае, магазын, адзеньне рознае, яй-богу-ж, праўда. Сюды прывёз быў яе, дзень пажыў ці два, а тады—шась, сьледам за імі—стары яе муж... Замужка яна аказалася і не разводная, дагавор нейкі ў іх, дык ня маюць права разлуку браць.

Што там было! Крык, гвалт, разваруха, яй-богу-ж, праўда. Але-ткі забраў, павёз з сабой у Маскву, а гэты так і астаўся. У той дзень, як Вольку хавалі, дык увечары і паехалі...

Надзея. Скажы, бабулька, з чаго гэта Волька павесілася?

Пілаціха. А бо... Ці-ж ты і гэтага ня ведаеш, мая ты родненкая... Гэта-ж самая шлюха яе загубіла, Ганна-комуністка, яй-богу-ж, праўда. Сам Васіль Дудзянок прызнаўся... а плакаў як, а захадзіўся—сьвету божага выракся. У іх-жа было нешта з Волькай, даўно ўжо кахаліся. А тады гэта распусьніца пачала да яго чапляцца. Ходу яму проста не давала—так і лезла, так і лезла, яй-богу-ж, праўда. Ну і нагаварыла неяк Вольцы: ён, кажа, са мной і тое, і тое—жаніцца будзе, ужо да вясельля ладзіцца, у спалком зараз пойдзем. А табе, кажа, усё роўна няма на што спадзявацца—куды ты супроць мяне. Так дурная вазьмі дый павер—бач, ня думала, што комуністкі могуць брахаць... Узяла ў галаву, што ён яе не кахае, што кінуў яе, здрадзіў. З таго, гаротніца, і павесілася. Сам Васька казаў, прызнаваўся. А плакаў, а заходзіўся—шкода было глядзець на яго, яй-богу-ж, праўда...

Надзея. Што толькі робіцца... што робіцца...

Пілаціха Ой, і ніколі-ж гэткага ня было на нашай вуліцы. Гэта-ж трэба... Вось і твайго завілаводзіла. Ужо проста на ўсіхных вачох—хоць-бы сорам памелі, яй-богу-ж, праўда. Жонка памірае, дык ужо і вольнасьць пачулі. Распуста такая пашла, такое бязульства—проста няма куды дзецца, яй-богу-ж, праўда.

Надзея. Няўжо ніякай управы няма, закону ніякага...

Пілаціха (таемна). Дык яшчэ невядома, што будзе. Рознае людзі гавораць. Яна ўжо дні два дык і не паказваецца дужа, баіцца, каб ня вышла чаго, яй-богу-ж, праўда. Калі на яе закону няма, дык-жа так нейкі знойдзецца спосаб. Гамонка розная ідзе. Казалі, была недзе ў Жлобіне такая шлюха, разлучніца. Сем сямействаў была загубіла, яй богу-ж, праўда. Дык улавілі неяк, сабраўся народ, пакуль тое ды сёе, пакуль чакаць таго суду ды закону... (У гэты момант у хату ўваходзіць Даніла. Пілаціха ўскочыла, замітусілася). Ой, некалі-ж мне, мая дзетухна,—у Глыбоцкіх чакаюць даўно. Пабягу я... Ну, бывай здаровенька! (Палахліва абходзіць Данілу, які глядзіць на яе жорсткім сярдзітым поглядам, і зьнікае).

Даніла. Зноў гэтая вілаводніца тут... (Ідзе да рукамыйніка, мыецца).

Надзея. Дзе ты быў дагэтуль?

Даніла. На заводзе. Была сходка агульная, а потым яшчэ пасяджэньне шэфскай камісіі.

Надзея. Есьці хочаш?

Даніла. Не. Я ў часе полудню перакусіў там троху, у буфэце. Я, Надзея, толькі на поўгадзінкі забег сюды. Мы зараз едзем у падшэфную вёску—там і начаваць буду, а прыеду заўтра апаўдні.

Надзея. Зноў уцякаеш... Адна ды адна—вечна вось так.

Даніла. Я папрашу якую-небудзь жанчыну, каб пераначавала тут. Добра?

Надзея. Ох, як сабе хочаш, мне ўсё роўна. Нашто турбавацца— і так памру.

Даніла (падыходзіць да яе). Ну, як маешся сёньня? Як пачуваеш сябе?

Надзея. А табе што? Усё роўна не пашкадуеш. Глядзі ўжо за сабой, сябе даглядай... ды сваю палюбоўніцу.

Даніла. Ты зноў за сваё?

Надзея. Зноў за сваё. Не магу-ж я, Даніла. Людзі вочы выелі, сьмяюцца ўсе чыста. Хоць-бы на людзях пасароміўся, пачакаў яшчэ крыху. Нядоўга-ж ужо засталося—скора дам волю, ня буду перашкаджаць.

Даніла (нэрвова ходзіць па хаце). Пачынаецца. Кожны дзень, кожную хвіліну... Не пасьпеў у хату ўвайсьці, як пашло і пашло. Калі гэта кончыцца? Дзе мяжа гэтаму зьдзеку, гэтай пакуце? Слухай, Надзея, нашто ты сама гоніш мяне з хаты, нашто ты жыцьцё маё труціш?

Надзея. Тваё жыцьцё... А маё жыцьцё хто атруціў, хто давёў мяне да магілы? Хоць-бы памерці даў у спакоі, хоць-бы астатнія дні адпачнуць... Мне-ж прасьвету няма ніколі... дзень і ноч думаю... сэрца разрываецца... чакаю яго, як добрага... вось прыдзе зараз, слова ветлае скажа, пагаворым так ціха, лагодна—і лягчэй стане... на боль забудзешся... А ён... другую знайшоў... ён і словы ласкавыя, і каханьне... А я... паміраю... адна... (Плача).

Даніла. Я не магу. Я пайду, Надзея, чуеш? Ты гоніш мяне, не даеш хвіліны ў хаце пабыць. (Зьбіраецца йсьці).

Надзея (стрымлівае плач). Я цябе не чапаю... Я сама... проста сум нейкі... Ня ідзі...

Даніла (падыходзіць да яе, сядае на ложак). Надзея! Ты дарэмна рвеш сэрца і сабе і мне. Вось ты кажаш, што не пагаворым ніколі, што ў мяне няма ласкавых слоў для цябе. Ты-ж сама гэта робіш, ты-ж сама адпіхаеш мяне сваймі вечнымі дакорамі, крыўдамі, ты-ж сама гоніш мяне ад сябе... Наслухаешся розных бабскіх плётак і верыш ім, і раструйваеш сваё хворае сэрца. А мне ня верыш... ні аднаму майму слову ня верыш. Хіба-ж гэтак можна?

Надзея. Я-б хацела верыць табе, але... ты так рэдка бываеш са мной... усё ўцякаеш, усё шукаеш якой прычыны, каб пайсьці, каб ня быць у хаце... І тады... помніш?..

Даніла (горача). Надзея! Няўжо ты ня можаш хоць раз, хоць адзін разочак паверыць, што гэта быў першы і астатні пацалунак... Я вінават... я ведаю... Але-ж больш гэтага ня было... павер мне, Надзея. Нават каб з майго боку было якое-небудзь жаданьне, дык яна-б не дазволіла нічагутка. Ты ня ведаеш яе... Яна зусім не такая, як пра яе гавораць. Яна—сумленная жанчына.

Надзея. О, не... Не кажы так пра яе... Я ведаю... Яна страшная, бязьлітасная. Яна хоча мяне загубіць, хоча, каб я скарэй памёрла. Я ведаю... ты не кажы...

Даніла. Аплялі, акруцілі плёткамі, нагаворамі. За імі ты сьвету ня бачыш, Надзея, табе ўсё здаецца зусім не такім, як яно ёсьць сапраўды. І што мне зрабіць? Як пераканаць цябе, як давесьці табе, што ўсё гэта брахня, што нічога няма паміж нас, што мы проста таварышы... проста прыяцелі...

Надзея (бярэ яго за руку, з болем глядзіць яму ў вочы). Даніла... кінь ты яе... пакуль я не памру... Тады ўжо рабі, што хочаш... жаніся сабе з ёй... я сама хачу, каб ты ажаніўся... Як-жа ты адзін будзеш жыць... (Са сьлязьмі ў голасе). Я ўжо... скора... зусім скора... я чую... Даніла... астатнія дні... пашкадуй...

Даніла (з пачуцьцём.) Надзея, нашто ты мучыш мяне? Павер, ну павер мне адзін гэты раз—нічога няма ў нас з ёй, нічога. Зусім не сустракацца нам нельга, бо мы разам працуем, разам бываем на сходах, на пасяджэньнях. Таксама не магу я і ўвесь час сядзець тут каля цябе, бо ў мяне ёсьць яшчэ грамадзкая праца, грамадзкія абавязкі...

Надзея. Ты ўжо ня любіш мяне... Хай сабе... Я не наракаю. Як-жа мяне такую любіць...

Даніла (перапыняе яе). Люблю, Надзея, няпраўда. Ты і цяпер мне дарагая, родная...

Надзея. Ды не, ня трэба гэтага гаварыць... Я ведаю... я ня крыўджуся, не... Калі ня любіш, дык хоць... дзеля таго, што было... што раней... помніш?.. я была здаровая, маладая... ты мяне тады моцна любіў... сьмешны быў такі... Помніш, як мы былі яшчэ нежанатыя... я на вёсцы тады гасьцявала і ты прыехаў быў... мы з табой на Дняпро хадзілі... далёка-далёка зайшлі... а тады навальніца ўзьнялася... мы беглі назад, як шалёныя... сьмяяліся, гарэзвалі пад дажджом, пелі, крычалі... і неяк я—помніш?—скаўзанулася была і паляцела ў кручу. Ты закрычаў тады, як няпрытомны, кінуўся за мной... я тады заўважыла—ты быў белы, як сьмерць, і дрыжэў увесь чыста... Потым ты вынес мяне з берагу і нёс на руках аж да самае хаты... Мне было так добра тады... Я ведала, што ты кахаеш... моцна кахаеш... А цяпер...

Даніла. Не кажы так, Надзея, ня рві маё сэрца... Я кахаю і цяпер...

Надзея. А як ажаніліся... ты мне не даваў анічога рабіць. Сьмешна так было... Я цішком ад цябе вады хадзіла... а ты тады сярдзіты быў такі, лаяўся дужа, калі ўзнаваў... Даніла, што-б ты ў той час рабіў, каб я памёрла? мусіць шкадаваў-бы ня так, як цяпер...

Даніла (пяшчотна схіляецца да яе). Надзея, родная... ты не памрэш... я ня хочу, я ня дам памерці. Табе трэба спакой. Ты ня будзеш больш нэрвавацца, ня будзеш слухаць, што табе злыя людзі гавораць. Добра?

Ты будзеш верыць мне, а я табе буду гаварыць заўсёды адну чыстую праўду... Потым зьбяром грошай, паедзем на вёску, ці можа на поўдзень цябе адпраўлю. Ты станеш здаровая-здаровая, як раней. (Ласкава ўсьміхаючыся). Мы зноў на Дняпро пойдзем бегаць, крычаць пад дажджом... Ты зноў упадзеш у кручу і я зноў панясу цябе на руках дахаты... Добра? Толькі ня трэба злавацца, ня трэба псаваць сабе нэрваў. Трэба быць спакойнай, ласкавай. (Лашчыць яе. Яна радасна да яго прытулілася. У гэты момант адчыняюцца дзьверы і ў пакой уваходзіць Ганна. Даніла ўскаквае, Надзея, нібы адзервянелая, глядзіць на яе страшнымі спалоханымі вачмі).

Ганна. Я зайшла за табой, Даніла. Мы ўсе сабраліся і чакаем цябе аднаго. Час ужо ехаць на вёску...

Надзея. Што яна... нашто яна тут... Я баюся... ня трэба... Ідзі!.. Ідзі!.. (Моцна закашлялася).

Даніла (у замяшаньні). Я зараз... зараз... Я ўжо гатоў...

Ганна (з спакойнай ласкавай усьмешкай ідзе да Надзеі. Тая з жахам ад яе адхіляецца, але яна ўсё-такі сядае каля хворай, кладзе руку ёй на плечы). Ня трэба палохацца, ня трэба злавацца. Я вам ня вораг, Надзея!

Надзея (спалох у яе зьмяніўся на злосьць). Не, не... Ідзі... Ідзі ад мяне... гадзюка... разлучніца... Ідзі! Я не магу глядзець на цябе... Чаго ты прышла сюды?

Ганна (цьвёрда і ласкава). Я прышла, каб сказаць вам, Надзея, што я зусім не гадзюка і не разлучніца, каб сказаць, што я зычу вам толькі дабра.

Надзея. Ня трэба... Я ня хачу і слухаць... Ідзі!..

Даніла. Надзея! Ну ты-ж паслухай... Ты толькі паслухай...

Ганна (з глыбокай шчырасьцю). Я вінавата прад вамі, Надзея... за тое, што было тады... што я гэта дапусьціла... Я прышла сказаць вам, што больш ня было і ня будзе нічога падобнага. Усё, што вам на мяне нагаварваюць, усё гэта толькі хлусьня.

Надзея. Мне ўсё роўна. Мне нічога ня трэба...

Ганна. Супакойцеся, Надзея... Ваш гнеў не дае вам быць шчырай са мной—вы ня хочаце паглядзець на мяне, як на звычайнага чалавека, пагаварыць са мной, паверыць мне. А вы, Надзея, павінны паверыць, вы павінны адчуць сваім нутром, што я прышла к вам з аднымі добрымі думкамі. Гадзюка, разлучніца не пашла-б да вас, не паглядзела-б вам сьмела, адкрыта ў вочы. (З глыбокай праканаласьцю). Вы і верыце мне, Надзея, цяпер вы верыце... я ведаю... Вам толькі цяжка пазбыцца тае падумкі, якую вы аба мне мелі, але вы верыце... Жанчына заўсёды зразумее жанчыну.

Даніла. Надзея! Яна гаворыць шчырую праўду. Няўжо ты ня верыш яшчэ?

Надзея. Ай, я не ведаю... Я хочу памерці... Дайце мне спакойна памерці...

Ганна. Паміраць ня трэба. Нашто паміраць? Мы яшчэ возьмемся добра за лячэньне і напэўна паздаравеем... Я прынесла вам, Надзея, прыемную навіну. Мы дабіліся таго, што вам даюць курортную кніжку—вы паедзеце на поўдзень і там будзеце лячыцца.

Даніла. Чуеш, Надзея? Я-ж казаў... Ты паедзеш на курорт і зноў станеш зусім-зусім здаровая. Няўжо ты пасьля гэтага яшчэ злуеш на Ганну? Ну паглядзі на яе... ці-ж яна ня шчыра гаворыць?

Надзея (пільна ўглядаецца ў Ганну). Прыгожая якая... Як я была здаровая, у мяне былі такія-ж чыстыя вочы... Праўда, Даніла?

Даніла. Ну вось і ўсё добра. Іпамірыліся. І верым адзін аднаму...

Надзея. Я хачу, каб было ўсё ціха, добра... (Пауза). Ці-ж на гэтым курорце сапраўды можна паздаравець? Калі гэта прыдзецца ехаць?

Ганна. Праз тыдні два і паедзеце. А паздаравець—напэўна паздаравееце. Нашто-б тады былі і курорты гэтыя?

Даніла. Ну, дык хадзем, Ганна, а то нас чакаюць. Я, Надзея, прышлю табе якую жанчыну. А заўтра апаўдні... ды не, я сягоньня прыбягу пасьля вечара... тут зусім недалёчка... а заўтра раненька зноў туды пабягу.

Надзея. Ня трэба, Даніла, зморышся толькі. Я і адна пабуду... а заўтра прыедзеш...

Даніла. Ну, бывай, Надзея! (Цалуе яе).

Ганна. Бывайце! Я буду заходзіць да вас калі-небудзь. Можна?

Надзея. Заходзьце, Гануля! (Даніла з Ганнай пашлі). Божа мілы!.. сама ня ведаю... можа і праўда... можа і добра будзе цяпер... Каб пажыць, каб яшчэ хоць трошку пажыць! (Зьнямоžаная кладзецца на падушку і заціхае. У пакой да Мяркулавіча ўваходзіць Барбара).

Барбара. Сьпіць мой Мяркулавіч, як пяньку прадаўшы. Мяркулавіч, а Мяркулавіч!

Мяркулавіч. А? Што? Задрамаў я мусіць... А дзе Юзік? Ах ты, паганец, уцёк. Сядайце, Барбара Карпаўна, сядайце, галубачка! Як здароўечка? Усё дабрэеце, усё прыгажэеце, хе-хе-хе!

Барбара. А кіньце чмурыць, Мяркулавіч! Якое ўжо там хараство! Вось як спасьцігнула тое няшчасьце, як падламіла, дык і дасюль сілы не вазьму—хаджу, як цень, ледзьве ногі валочацца. Такая дачка... Такая дзяўчына... адна-ж і была ў мяне, гаротніца... (Спрабуе плакаць, але зараз-жа варочаецца да звычайнага тону). Загубіла, шлюха. Загубіла, распусьніца—пазайздросьціла на чужое шчасьце. Няпраўда, і на цябе знойдзецца нейкая ўправа, і табе гэта так не абыйдзецца...

Мяркулавіч. Што-ж, Барбара Карпаўна, на ўсё божая воля. Трэба неяк цярпець. А з яе таксама ня будзе дабра... дакруціцца да свайго.

Барбара. Была-ж нешта тут, у Данілы. Толькі што вышлі абое—падаліся некуды на горад.

Мяркулавіч. Што вы кажаце? Была тут? Ня можа быць, Барбара Карпаўна, вы памыліліся.

Барбара. На маіх вачох вышлі з сянец. Я-ж не сьляпая...

Мяркулавіч. Ай-яй-яй-яй... Дзіўнае, немагчымае зьявішча. Проста веры ня йму. Чаго-ж яе сюды панесла? (Дагадаўшыся). Хе-хе-хе... разумею, Барбара Карпаўна,—кватэру прыходзіла аглядаць.. скора-ж, мусіць, прыдзецца перабірацца. Я ўсё разумею, мяне не паддурыш, хе-хе!..

Барбара (энэргічна). Кватэру? Не, мусіць, трасца ёй тут давядзецца пажыць. Не дажджэ яна гэтага...

Мяркулавіч (зацікавіўшыся). Як вы кажаце, Барбара Карпаўна?

Барбара (схапянулася, што залішне сказала). Я кажу, што Надзея можа ня так яшчэ і скора памрэ.

Мяркулавіч. Ага... вядома... А калі і памрэ, дык не канечна Даніла з гэтай круцёлкай ажэніцца. Ці-ж няма больш сталых, сур'ёзных кабет? (Хвіліну вагаецца, ці сказаць, ці не, потым гаворыць таемна і лісьліва). Вось і вам, Барбара Карпаўна, ня шкодзіла-б свой дамёнак замець... А дом— як звон усё роўна, хе-хе!.. Дый мужык малады не зашкодзіць пад бокам... камплекцыя, хе-хе-хе!..

Барбара (раззлавалася). Што вы, Мяркулавіч, ашалелі, ці што? Здаецца, вучоны чалавек, а вярзе нямаведама што.

Мяркулавіч (сьціпла). Я—што, я—нічога, Барбара Карпаўна. Вядома, пры вашым багацьці вам гэта і ня ў галаве...

Барбара. Якое багацьце? Дзе вы багацьце ўбачылі? Што гэта вы, Мяркулавіч?..

Мяркулавіч. Хе-хе-хе!.. Я жартую, Барбара Карпаўна, проста жартую. (Лісьліва). А калі... хе-хе!.. будзеце гаспадынькай, дык нас з сынком не пакрыўдзіце... хе-хе!.. не прагоніце з кватэры.

Барбара. Во прычапіўся, як ліхая кароста. Сораму проста няма ў вас, Мяркулавіч! Каб я ды мела на думках гэткае ашуканства. Ці-ж вы мяне за такую, як Ганна, распусьніцу ўлічаеце, га?

Мяркулавіч. Хе-хе-хе... А яе нядоўга і прыбраць з дарогі... каб не замінала... Пры вашым розуме, Барбара Карпаўна...

Барбара (з хвіліну ўпарта глядзіць на яго). Разумны вы чалавек, Мяркулавіч, ды не да ладу... Так і помніце гэта.

Мяркулавіч. Барбара Карпаўна! Вы мяне ведаеце... Сказаць сказаў, дый анямеў—во як, хе-хе!..

Барбара. Ну, я пашла. Зайдуся яшчэ да Надзеі—чаго яна, тая шлюха, прыходзіла... Бывайце здаровы, Мяркулавіч!

Мяркулавіч. Ідзіце здаровенькі, Карпаўна... галубачка... ідзіце здаровенькі... Заходзьце, ня мінайце!.. (Барбара пашла. Мяркулавіч падыходзіць да сьцяны, што ў кватэру Данілы, пачынае нешта там калупаць). А ў нас дзірачка ёсьць спэцыяльная. Маленькая-маленькая, малюпасенькая... Вось мы і

паглядзім і паслухаем... Це... це... (Прыкладае вуха да дзіркі. Праз усю наступную сцэну то глядзіць, то слухае праз дзірку, што робіцца ў сумежным пакоі).

Барбара (уваходзіць да Надзеі). Добры вечар! (Надзея маўчыць). Заснула, мусіць, небарака... а можа памёрла. (Падыходзіць да яе). Надзея! Надзея!

Надзея (скрозь сон). Я так хачу... мне добра зусім... я здарова... добра...

Барбара. Сьніць нешта, гаротніца. (Будзіць). Надзея! Надзея!

Надзея (прахапілася). Даніла! Ты тут? (Убачыла Барбару). А, гэта Барбара... Сон я бачыла нейкі... такі прыгожы, добры... Я думала тут Даніла...

Барбара. Толькі-ж у сьне і жыцьцё табе, Надзеечка. Пакутніца ты няшчасная, сіротачка горкая...

Надзея. Мне зусім нешта добра стала, Барбара. У грудзёх няма цяжару таго і дыхаць лёгка... Я можа яшчэ і паздаравею. Як ты, Барбара, думаеш?..

Барбара. Ой, не на радасьць табе і паздароўленьне. Усё роўна ня будзе жыцьця. Лепш памерці ўжо, чым зносіць гэтыя зьдзекі.

Надзея (паведамляе, як прыемную навіну). Ты яшчэ ня ведаеш, Барбара, што тут было... Прыходзіла-ж яна сюды... сама Ганна...

Барбара. Во, чаму ня ведаю. Я-ж іх сустрэла, як ішлі ад цябе. Ідуць сабе падручку, такія вясёлыя, здаволеныя, сьмяюцца, рагочуць...

Надзея (зьдзіўлена). Як? Сьмяюцца?

Барбара. Яна так нахілілася блізенька да яго (мяне яны ня прымецілі) дый гаворыць яму, сьмяючыся: во, кажа, добра мы загаварылі яе—цяпер можам рабіць, што захочам... А ён адказвае: так, нам цяпер будзе вальней... І пайшлі да яе на кватэру.

Надзея. Да яе? Яны-ж на вёску зьбіраліся ехаць—там нейкі вечар у іх... Даніла і начаваць там астанецца.

Барбара. Ха-ха-ха! Нашто ім на вёску, калі яны і тут добра пераначуюць.

Надзея. Даніла казаў, што прыбяжыць на-нач сюды, дык я сама сказала, каб там аставаўся.

Барбара. Во-во-во... Таму-ж ён і казаў. Ведаў добра, што ты яго пашкадуеш.

Надзея (зусім зьбянтэжаная). Яна казала, што пашлюць мяне на курорт, што я там паздаравею... Праз два тыдні, казала, паеду...

Барбара. Ха-ха-ха! Ужо?.. Ха-ха-ха!..

Надзея спалохана). Што „ужо"? Што ты кажаш, Барбара?

Барбара. Ха-ха-ха! Ужо рашылі ад цябе адкараскацца... На курорт, ха-ха!.. Каб зусім ужо вольна было. (Таемна). А на курорце ты ведаеш, што робяць з такімі, як ты? Атруты дадуць і—канец... Будуць яны з табой вантэжыцца, ха-ха!..

Надзея. Як-жа гэта... няўжо зманілі, няўжо ашукалі?.. А я ім, як добрым, паверыла... яна так шчыра гаварыла, вочы такія чыстыя, праўдзівыя...

Барбара. У іх ува ўсіх вочы праўдзівыя... у сабак пазычаюць, калі трэба каго ашукаць.

Надзея. Божа мой! Што-ж мне рабіць? Усе—ворагі, усе толькі і чакаюць таго, каб памёрла... Сіротка я горкая, адзінотная... (Плача).

Барбара. Ой, не кажы... сэрца сьціскаецца, калі глядзіш на цябе. Мучальніца ты сьвятая.

Надзея. Памерці, памерці... Нашто так жыць... нашто гараваць...

Барбара. А ўжо-ж. Лепш памерці, чымся так жыць. Бог бачыць людзкую пакуту, бог прымае гаротніцу, супакоіць у сваім сьветлым раі... Ох-хо-хо!.. Хто памёр, той і шчасьлівы...

Надзея (з адчайнай рашучасьцю). Барбара! я хачу памерці... Я памру... Я ня хочу жыць... Дай мне... дай... дай чаго-небудзь...

Барбара (з спакойнай пераканаласьцю). Я прынесла табе, чаго ты прасіла. Вось парашочак... Разбавіць у вадзе, праглынуць—і ня ўчуеш нічога... ціха, спакойна...

Надзея (з жахам). О, не, не... ня трэба... не давай... Я баюся... грэх гэта... грэх...

Барбара. Ну, як сабе хочаш... Пачакай, пакуль ён цябе перавядзе. Ох, грэх тут адзін: і памерці грэх, і жыць—дык яшчэ больш награшыш... Гэткі грэх лепш за спасеньне, гэткі грэх і мучальнікі сьвятыя на душу прымалі. Ты проста яго шкадуеш, каб ня ўчыніць яму гора, каб ня прымусіць мучыцца цэлы век у згрызотах.

Надзея. Яго... мучыцца... О, я хачу, каб ён мучыўся, каб ня меў жыцьця, каб шчасьця ня бачыў... Так-так... ён пачуе тады... ён каяцца будзе, плакаць... І з ёй... і з ёй ня будзе жыцьця... ня будзе... так... Я памшчуся... на ўвесь век... Дай мне, Барбара, дай хутчэй, я вып'ю... дай... ну дай... (Барбара распушчае ў шклянцы атруту і падае ёй... Яна зноў з жахам адхіляецца, глядзіць на атруту шырока расплюшчанымі вачмі). Атрута... сьмерць... як страшна... Нашто гэта сьмерць? Каб можа жыць... яшчэ трошачку... адзін дзянёчак... Я баюся... я не хачу... не-не... не хачу...

Барбара. Пажыві яшчэ крыху, каб пачуць, як яны кахаюцца ды з цябе сьмяюцца ўцішку... Вось і цяпер яны спакойна мілуюцца там, пацяшаюцца—балазе, ашукалі жонку, яна, дурная, нічога ня ведае, чакае сабе свайго любага мужа. Хай пачакае—ім ня к сьпеху, яны могуць спакойна нацалавацца, нацешыцца... ха-ха-ха!..

Надзея (словы Барбары яе канчаткова зламілі, яна адважылася). Дай сюды... дай мне... (Хапае шклянку і п'е з нэрвовай пасьпешнасьцю. Потым кідаецца на падушку і некаторы час ляжыць, як нежывая. Жудасная цішыня. Потым яна хапаецца за грудзі, пачынае стагнаць). Цісьне... гарыць... Што гэта?.. Сьмерць ужо... паміраю... (Барбара сьмяецца дробным жудасным сьмехам).

Надзея (усхапілася, глядзіць на Барбару шырокімі, поўнымі жаху, вачмі). Сьмяешся?..Сьмяешся?..А-а-а... Ведзьма! Ты—ведзьма... гэта... наўмысьля... А-а-а... я ня хочу... ня хочу...

Барбара (грозна). Ня крычы!

Надзея (сьціхла. Толькі ня зводзіць з Барбары сваіх страшных вачэй ды паўтарае ціха, поўшэптам). Ведзьма... ведзьма... (Пачынае задыхацца і праз некалькі сэкунд памірае).

Барбара (нахіляецца над ёй). Памёрла. Адгаравала сваё, адпакутавала. (Хрысьціцца). Царства нябеснае, вечны спакой яе душачцы. (Выходзіць з хаты).

Мяркулавіч (у сваім пакоі). Дзякуй табе, госпаду богу, што паслаў мне дзьвесьце дваццаць адзін рубель трыццаць тры капейкі!..

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ЧАЦЬВЕРТАЯ

Магільнік на краю горада. Магілкі, крыжы, помнікі. Некалькі сухарлявых дрэўцаў. Зьлева направа ідзе чысьценькая, пасыпаная жоўтым пясочкам дарожка, на якой стаіць садовая лавачка. У глыбі сцэны аграда, за ёй няшырокая бедная вуліца. Ужо досыць позьняе раньне—яснае, сонечнае. Праз аграду добра відаць, як па вуліцы туды і сюды праходзяць падарожныя, сьпяшаючыся па сваіх справах. Сярод магілак, так, што яго ледзь відаць гледачу, сьпіць Санька-шавец.

Санька (прахапіўшыся, зьдзіўлена азіраецца навокал). А бадай цябе немач! Дзе-ж гэта я апыніўся? (Праціраe вочы, зноў азіраецца). Ну, так і ёсьць... мікольскія могілкі... вунь Сенька Дрозд ляжыць... вунь Мікіта Багроў спачывае... вунь і Волькіна сьвежая магілка... Вось-жа на табе... помню ўсё-чыста: як Міколу Швэда сустрэў, як Ваську Дудзіна падчапілі, як зайшлі да Ахроіма, як поўкварты ўзялі... яшчэ поўкварты... здаецца, яшчэ... потым больш хлопцаў сышлося... здаецца, я некаму ў пысу заехаў... ці можа мне хто-небудзь. (Мацае твар). Мусіць, мне... А тады што... пачакайце, дык гэта-ж заўчора было... яшчэ ў Петры начавалі ўсе разам. А ўчора таксама пілі... учора... як-жа гэта ўчора было... Ганулька... здаецца, я бачыў недзе Ганульку... Ага! Яна-ж мяне прагнала п'янога... Я, мусіць, хадзіў да яе, няйначай... (Раптам успомніўшы, хапаецца за галаву). А-а-а... Гармонь мая! Гармонь трохрадная! Усё... кончана... Я кінуў піць... Ганулька будзе здаволена. Я пазбыўся свайго вечнага змусьціцеля. Я прапіў гармонь. (Пауза). Нашто гэта людзі п'юць гарэлку? Проста не разумею. Калі ты цьвярозы—зусім у цябе іншае жыцьцё. Ты робіш сваю справу, ты імкнешся да нечага сур'ёзнага, важнага, ты бачыш, што ў цябе ёсьць наперадзе. Ці толькі вольная часінка—пашоў у бібліотэку, пачытаў кніжку, газэту, у клюб схадзіў, у кіно, у тэатр, пайграў сабе на гармо... о, не-не... не паддурыш... калі гармонь, дык і выпіць захочацца... І што гэта такое? Вось няма гармоні, дык і піць ня хочацца... Фэ...

брыдка ўспомніць пра гарэлку. А бывала, зірнеш на яе, яна гэта замамыліцца—нудная такая, маркотная... Кранеш яе—яна пісь-пісь, бы няжывая... Ну, як-жа тады ня выпіць, не павесяліць яе, небараку? (Стараецца ўзяць радасны тон). Як я рад! Як я рад! Я цяпер стаў зусім другім чалавекам! А Ганулька... Як яна будзе здаволена! Дзеля яе я гэта зрабіў, толькі дзеля яе... Любая мая Ганулька, сонейка маё яснае... Як добра ты ўчора зрабіла, што прагнала к чорту мяне, горкага п'яніцу. Ты ўзагнала мяне на правільны шлях. Эх, Ганулька, Ганулька! (Кладзецца зноў і млява пацягваецца пад праменьнем сонца. З правага боку па дарожцы ідуць Мяркулавіч і Барбара, Мяркулавіч вядзе за руку Юзіка).

Мяркулавіч (яшчэ за сцэнай). ...таму-ж і пазналі. Каб ня гэтая паперка, дык-бы ніхто нічога і ня ведаў. (Увайшлі). А то прыходзяць, бачаць, халодная ўжо. Зірк на стол, а там гэта паперачка з-пад атруты. Паглядзяць у шклянку, аж там яшчэ і недапіта... Ведама, колькі ёй трэба было. (Да сына). Юзік, бяжы ты ў атрад ці куды-небудзь, мне трэба з цёткай Барбарай аб сур'ёзных справах пагутарыць. (Юзік бяжыць на-цянькі да агароды, але натыкаецца на Саньку, хвіліну аб нечым шэпчацца з ім і абодвы прытойваюцца, каб паслухаць, аб чым будзе размова ў Мяркулавіча з Барбарай). Барбара Карпаўна. Можа сядзем тут на хвіліначку, у мяне да вас ёсьць адна надзвычайна пільная патрэба.

Барбара. Чаму-ж не... Пасядзім сабе, пакуль нябожчыцу ня вынасілі. (Сядаюць). Што-ж гэта ў вас за патрэба такая?

Мяркулавіч (гаворыць увесь час надзвычайна лісьлівым тонам, скрозь які дзені-дзе зусім неўзаметку прабіваюцца ноткі едкага самаўпэўненага падсьміхваньня, Барбара, аднак, заўважвае гэтыя ноткі і востра насцярожваецца). Ах, Барбара Карпаўна, галубачка! Ці я-б стаў турбаваць вас, каб не такое ліха. На адну-ж вас, даражэнькая, уся надзея. Хто-ж мне паможа больш, хто мяне выручыць...

Барбара. Дык што там такое? Што за бяда?

Мяркулавіч. Ат! І бяда не бяда, але і так ужо далей няможна... Якое-ж маё жыцьцё, вы падумайце. Пакуль што-якое было, выносіў на рынак, дык троху і жыў, а цяпер—хоць ты што хочаш... Вось купіш якую лахманіну, ходзіш з ёй дні два, пакуль прадасі—ды і то не заўсёды заробіш.

Барбара. Ды ўжо-ж так. Жыцьцё цяпер служачаму чалавеку ня дужа салодкае.

Мяркулавіч. Даўно-даўно ў мяне думка такая зьявілася: узяць ды адчыніць сабе невялічкую крамку. Не такую, як у вас, Барбара Карпаўна, дзе там!—зусім маленечкую... ну, цукер, запалкі там, тое-сёе... Абы зачапіцца за нешта...

Барбара. Што-ж, Мяркулавіч, думка ня дрэнная. Пры месцы заўсёды лепей, чымся так валэндацца.

Мяркулавіч. Я ўжо і грошы пачаў памалу зьбіраць. Па сакрэту кажучы, і сабраў ужо троху, але многа яшчэ не стае... калі іх назьбіраеш столькі!..

Барбара. Ну і што?

Мяркулавіч. Барбара Карпаўна, галубачка! Пазычце мне дзьвесьце дваццаць адзін рубель трыццаць тры капеечкі...

Барбара. Што, гэтулькі грошай? Ці вы гэта сьмяіцёся, Мяркулавіч, ці што? Калі-ж у мяне былі такія вялікія грошы!

Мяркулавіч. А хто-ж іх там ведае, можа і былі...

Барбара. Божа барані... і ня думайце. Я толькі чакаю, што ён там скажа, аж ён вунь куды... (Цьвёрда). Няма ў мяне грошай.

Мяркулавіч. Бывае, што ёсьць ды няма, а бывае, што няма ды ёсьць... хе-хе!.. Як якая патрэба...

Барбара. Што гэта за такія мудроныя загадкі, Мяркулавіч?

Мяркулавіч. Бывае, што ня толькі грошы, а і сьмерць бывае патрэбна. А калі ня прыходзіць, дык чаму-ж яе не падагнаць...

Барбара. Ой, нешта вы сёньня мудрыць пачалі, Мяркулавіч! Глядзіце, бо я хоць і баба, а за сябе пастаю.

Мяркулавіч. Стойце сабе на здароўечка... А загадкі тож ня дрэнная рэч. Па загадках разумны чалавек засёўды дагадаецца, у чым справа, ня трэба і тлумачыць. Вось і загадаю я вам адну загадку, Барбара Карпаўна: колькі каштуе чалавечая сьмерць або пяць год турмы?

Барбара (злосна). Што вы мне чмурыце? Кажыце проста, што вы да мяне маеце.

Мяркулавіч. Дык я скажу проста: калі вы не дасьцё мне дзьвесьце дваццаць адзін рубель трыццаць тры капейкі, дык я дакажу на вас, што вы атруцілі Надзею.

Барбара (ускаквае). Як? Што? Атруціла?.. Ха-ха! Ну і выдумшчык вы, Мяркулавіч, ай-яй-яй... А яшчэ стары чалавек. Што надумаў, ха-ха!..

Мяркулавіч. А сьмяяцца, Барбара Карпаўна, зусім тут не выпадае. За падмушчэньне да самагубства, якое мела месца ў суботу а сёмай гадзіне ўвечары ў доме Данілы Загорскага, па крымінальнаму кодэксу палагаецца пяць год са строгай ізоляцыяй. Так-с...

Барбара. Якое падмушчэньне? Хто падмушчаў? Што вы плявузгаеце!

Мяркулавіч. А мы самі бачылі... так-с... у нас ёсьць такая малюпасенькая дзірачка... Але відаць і чуваць праз яе надзвычайна добра. Вось мы... хе-хе! і падслухалі... і падгледзелі...

Барбара (зноў узяла сябе ў рукі). Ха-ха-ха!.. Хто-ж вам паверыць, Мяркулавіч? Вас-жа засьмяюць, калі вы гэткае глупства дзе-небудзь скажаце. Усім-жа вядома, чаго яна атруцілася.

Мяркулавіч. А мы, галубачка, дакуманцік таксама маем, хе-хе... Паперачка тая... яна-ж у часе сьледзтва прапала, згінула недзе? А паперачка гэта, Барбара Карпаўна, у мяне... так-с... А на паперачцы рацэпцік, а на рацэпціку нумарочак, а нумарочак у кнізе... А хто гэта ў такі-та дзень у такой-та аптэцы зельле атрутнае браў па

рацэпціку? А нашто была гэтаму чалавеку атрута? А дзе аказаўся рацэпцік?.. Хе-хе-хе!.. Разумееце, Барбара Карпаўна?

Барбара. (занепакоеная). Дзе тая паперка?

Мяркулавіч. Хе-хе-хе!.. Грошыкі мне—паперачка вам. І ціха ўсё і спакойна. Я-ж многа з вас не прашу, Барбара Карпаўна. За гэткую штучку і пяцьсот ня грэх запрасіць. (Некаторы час моўчкі глядзяць адзін на аднаго, адзін аднаго вывучаюць. Потым Барбара пагадліва сьмяецца).

Барбара. Ха-ха-ха!.. Ой, разумны вы чалавек, Мяркулавіч!

Мяркулавіч. Хе-хе-хе!.. І вы, Барбара Карпаўна!

Барбара. Дзьвесьце рублёў?

Мяркулавіч. Дзьвесьце дваццаць адзін рубель трыццаць тры капеечкі. Лішняга не прашу. (Чуваць, як зазванілі ўва ўсе званы).

Барбара (хрэсьціцца). Выносяць ужо нябожчыцу. Царства нябеснае, вечны спакой... Пойдзем і мы, Мяркулавіч, паглядзім. (Ідуць налева, але перад самымі кулісамі Барбара спыняе Мяркулавіча і таемна гаворыць яму так, што Санька і Юзік ня могуць пачуць). Во што, Мяркулавіч, дружба за дружбу, а служба за службу. Трэба схадзіць да яе і наказаць, каб зараз прышла сюды, на магільнік. Даніла, значыць, прасіў перадаць... пільна трэба ўбачыць...

Мяркулавіч. Хе-хе-хе!.. Разумею... Адсюль яна здаровай ня вылезе. Такі настрой пашоў, такі настрой—ай-яй-яй!.. Разумею, Барбара Карпаўна. Бягу, зараз, бягу. (Пашлі. Санька і Юзік сьперш асьцярожна падымаюць галовы, а тады і самі ўстаюць).

Санька. Бачыў?

Юзік. Бачыў.

Санька. Чуў?

Юзік. Чуў.

Санька. Гэта-ж вялікае злачынства.

Юзік. Гэта-ж ён і сапраўды на маю галаву крамку адчыніць.

Санька. Гэтага так пакінуць няможна.

Юзік. Я зусім ня хочу быць гандляром... Іш чаго выдумаў...

Санька. Як ты думаеш, Юзік, трэба, мусіць, заявіць?

Юзік. Пойдзем заявім. Хай ведае, як мяне ў дробнага буржуя абарачваць.

Санька. Пашлі!

Юзік. Пачакай. А мне-ж у атрад... (Мяркуе). Не, глупства. Яны будуць тут ісьці на экскурсію, дык я іх сустрэну. Гайда! (Пераскакваюць цераз агараду і бягуць па вуліцы. На сцэну з правага боку выходзяць Люся і Нюся).

Люся. Можа, Нюсечка, маеш жаданьне пайсьці насустрэчу?

Нюся. Ох, Люсечка, горача вельмі. Сядзем на гэту лавачку. Тут так прыемна паразважаць з табой аб жыцьці і сьмерці. (Сядаюць).

Люся. Фі! Я зусім не ў распалажэньні гаварыць аб жыцьці і сьмерці. Я страшэнна баюся мерцьвякоў, асабліва самагубцаў.

Нюся. Аднак гэта так поэтычна—пакончыць з сабой. Мне Бондзікаў аб'ясьняўся, што калі я яго ня буду кахаць, дык ён абавязкова пакончыць з сабой.

Люся. Наўпроціў, гэта абсолютна нядобра, калі з-за цябе чалавек паміpae. Я-б ніколі гэтага не дапусьціла. Мне-б стала шкода яго, і я пакахала-б абавязкова.

Нюся. А ці праўда, Люсечка, што Волька з-за Ваські Дудзіна павесілася?

Люся. Наўпроціў, яна павесілася з-за гэтае распусьніцы—Ганны-комуністкі. І Надзея з-за яе атруцілася. У той дзень яна прышла да яе ў хату і сказала, што яны з Данілам едуць на курорт у Сінфіропаль, а яе кідаюць адну, бо ўсё роўна вылечыць яе немагчыма. Ёй стала, канечна, грустна ад гэтага і яна прыняла парашок трыхініны.

Нюся. Якая жудасьць. Няўжо яе засудзіць за гэта няможна? Памойму, Люсечка, яе трэба за гэта на катаргу аддаць або ў Сібір адаслаць.

Люся. А памойму, наўпроціў, яе трэба самую павесіць, а тады яшчэ трыхініны даць, каб ведала, як губіць бязьвінных людзей.

Нюся. А памойму, яе трэба вывесьці на пляц ды прывязаць да слупа—хай б'е, хто хоча, такую распусьніцу. (З правага боку ўваходзіць Дудзін).

Дудзін. Добры дзень, грамадзянкі! Што-ж вы не пашлі цела нябожчыцы праваджаць?

Нюся. Горача так, Васіль Пятровіч, што аж млосна. Сядайце каля нас. Зараз ужо прынясуць...

Дудзін (сядае паміж іх). Ох, сапраўды горача. Ня так ад сонца, як ад вашых гарачых сэрцаў.

Люся. }
Нюся. } Што вы, Васіль Пятровіч, не жартуйце!..

Дудзін. Ня жарты, а шчыры праўдзівы комплімэнт. А я, ведаеце, не магу проста глядзець на ўсё гэта. Я, натуральна, так знэрваваўся, я так моцна абураны, што і сам ня ведаю... (Патэтычна). Дзьве сьмерці! Дзьве бязьвінныя сьмерці і, натуральна, з-за аднае шлюхі... Дзе закон! Дзе справядлівасьць! Я не магу спакойна глядзець на яе, я яе ненавіжу... А яна, сьцерва, хоць-бы што... Што вы на гэта скажаце?

Люся. У вас, Васіль Пятровіч, такі гарачы тэмпэрамант.

Нюся. Васіль Пятровіч, скажэце, чаму гэта Волька пакончыла з сабой? Гэта не сакрэт?

Дудзін. Ах, ці варта аб гэтым казаць! Яна так любіла мяне, так любіла... А гэта шлюха пачала да мяне чапляцца. Праходу не дае... разумееце? Я сюды — яна сюды. Я туды — яна туды. Бачыць, што ня выходзіць нічога, дык яна пайшла дый нагаварыла Вольцы ўсяго-ўсякага.

Ну, тая, ведама, мяне страшэнна кахала—яна ня сьцерпела гэтага і павесілася... Ах, гэта такое няшчасьце!

Нюся. А што-ж яна ёй нагаварыла? Гэта не сакрэт?

Дудзін (уздыхнуў). Ох, чаго яна толькі ёй не гаварыла. І што я яе (Ганну, значыць) кахаю, і што я ёй праходу не даю (гэта я—ёй... разумееце?), і што я прапанаваў ёй жаніцца, і што я сам казаў, быццам мне Волька так абрыдла, што я і глядзець на яе не магу, і што я з Волькай толькі жартаваў, толькі падманваў яе... Ох, ці мала чаго можа нагаварыць жанчына!..

Люся. }
Нюся. } Ня ўсякая...

Дудзін. Я разумею. Я сур'ёзных барышняў паважаю і, натуральна, заўсёды гатоў вадзіць з імі кумпанства, хе-хе!..

Люся. Які вы комплімэнтшчык, Васіль Пятровіч.

Нюся. Якая далікатнасьць! (З левага боку паказвэецца Барбара. Яна мігамі кліча да сябе Дудзіна. Дудзін устае і, папрасіўшы прабачэньня, ідзе да яе. Недзе далёка-далёка чуваць, як пяюць „сьвяты божа").

Люся. Ужо блізка. Нясуць ужо. Пройдземся, Нюсечка, паглядзім. (Пашлі налева).

Барбара (Дудзіну). Зараз-жа прыдзе сюды твая мілютачка. Падвухры там каторых мужчын—трэба яе добра праўчыць. Лыткі як пераб'юць, дык ня будзе дужа нос задзіраць.

Дудзін. Цётка Барбара, прашу абсолютна на мяне спадзявацца. Я-ж вам казаў, што мы з вамі такую штучку наладзім... хе-хе!.. такую штучку... Як скажу зараз хлопцам, каб яны... (Пашлі за кулісы. Па вуліцы зьлева направа ідуць мешчанін у падзьдзёўцы і мешчанін у фрэнчы. Яны праходзяць направа, там узыходзяць на магільнік і паказваюцца на дарожцы справа. Увесь час чуваць іхная гутарка).

Мешчанін у падзьдзёўцы (гаворыць груба). Надзею, Данілаву жонку, хаваюць. Зойдзем хіба, ці што...

Мешчанін у фрэнчы (гаворыць тоненька). Казалі, атруцілася?

Мешчанін у падзьдзеўцы. Вядома, атруцілася. Дзе-ж ёй не атруціцца, калі мужык з другой жыве, а над ёй толькі зьдзекваецца. Тут і ты-б атруціўся, ня то што...

Мешчанін у фрэнчы. Па дрэўнему пісаньню хрысьціян, якія рукі на сябе налажылі, належала аддаваць праху без адпяваньня і іншых царкоўных почасьцяў...

Мешчанін у падзьдзёўцы. А хто цяпер глядзіць на гэта пісаньне. Цяпер усім адна пашана... Памёр—значыць „вечная памяць" ды ў ямку...

Мешчанін у фрэнчы. А хавалі іх не на магільніку, а за аградай, каб, значыць, пры ўскрасеньні мёртвых не пераблыталіся праведныя з грэшнымі. Па вучэньню сьвятых айцоў, вялікі гэта грэх—налажыць рукі на сваё жыцьцё, богам дадзенае.

Мешчанін у падзьдзёўцы. Бог і так разьбярэцца, дзе праведны ляжыць чалавек, а дзе няправедны. На тое-ж ён і бог... (Насустрэчу ім з левага боку выходзяць Барбара, Пілаціха і яшчэ колькі жанчын. Барбара разыгрывае трагэдыю).

Барбара. Ой, цётачкі, ой мае ясачкі! Хай-бы яна ўжо і маё жыцьцё ўзяла, хай-бы і мяне загубіла разам з маёй любай дачушкай... Што яна зрабіла са мной? За што яна сьвет завязала мне? Што я зрабіла ёй, акаяннай? Цётачкі... родненькія... (Вакол яе пачынае зьбірацца натоўп).

Пілаціха. Ну, супакойся, Барбарачка. Сьціхні ўжо, досыць... Божа мой, што гэта толькі робіцца, што гэта робіцца, яй-богу-ж, праўда...

Мешчанін у фрэнчы (крычыць). Гэта-ж ліхалецьце нейкае падышло, гэта-ж нямаведама што рабіць пачалі. Бога няма, на бога забыліся—не баяцца ўжо ні грэху, нічога—гэта-ж канец сьвету, гэта-ж антыхрыстава царства прыходзіць!..

Барбара. А мае родненькія! А мае залаценькія! Завядзеце мяне да яе... хай яна зарэжа мяне, хай возьме маю душачку... хай здаволіцца, акаянная! Нашто яна душачку ўзяла ў мяне? Нашто яна мяне сіроцінкай пакінула?.. (Жанчыны яе стараюцца супакоіць).

Мешчанін у падзьдзёўцы. Брацца мае! Дык што-ж гэта такое? Дык дзе-ж тая праўда, дзе-ж той закон? Гэта, значыцца, узяў, загубіў аднаго чалавека, загубіў другога дый па тым? Дый гуляй сабе, круці хвастом—ніхто цябе не кране, ніхто цябе не зачэпіць. Якое-ж гэта права? Які-ж гэта парадак?

Мешчанін у фрэнчы (крычыць). Бяз бога і парадку ня будзе... Які парадак, якое права, калі няма страху божага ў чалавеку!

Барбара. Ой, родная! Дайце мне яе сюды! Хай заб'е мяне, хай атруціць, як атруціла Надзею... Дайце мне гэту распусьніцу, гэту шлюху паганую!

Мешчанін у падзьдзёўцы (зусім распаліўся. Натоўп падтрымлівае яго крыкамі спачуваньня). Калі няма закону, дык мы самі знойдзем закон! Бога няма, дык-жа ёсьць людзі. Браточкі, ці-ж гэта можна так даравацы! Двух чалавек загубіла, сямействы пасіраціла. Дзе-ж гэта бачана, га?.. Людзі труцяцца, людзі вешаюцца, а яна сабе круціць хвастом. Хай пападзецца толькі, падлюга! Я не пагляджу, што ў цябе морда прыгожая! Я табе з гэтае морды пушчу крывавую юху. Ах ты, гадаўка, ах ты, круцёлка бязбожная, га?.. (Натоўп крыкамі абурэньня заглушае яго голас. Скрозь агульны гармідар праразаецца істэрычны плач Барбары. У гэты момант чуваць крыкі: Нясуць! Нясуць! Далятаюць ужо зусім блізкія гукі „сьвяты божа". Натоўп шпарка падаецца налева. Адтуль чуваць на фоне гнеўнага гоману голас Барбары, якая галосіць: Дачушка мая любая! Сонейка маё яснае! На каго-ж ты мяне пакінула!.. Потым гукі памалу заціхаюць. На сцэну зьлева ўбягае Пілаціха).

Пілаціха. Божухна, бацюхна! Гэтага-ж ніколі ня было на нашай вуліцы. (Бяжыць направа, але, не дабегшы да куліс, спыняецца, быццам убачыўшы нешта вельмі страшное, і з крыкам бяжыць назад. На сцэну зьлева ўваходзяць Люся і Нюся. Таксама спыняюцца, асалапелыя, і з крыкам бягуць назад. Праз момант на сцэну справа ўваходзіць Ганна).

Ганна. Ад мяне ўжо ўцякаюць, як ад нячыстае. Што-ж, для іх я нячыстая, для іх я чалавек другога сьвету, які не прызнае ні іхных звычаяў, ні іхных законаў. Я іду супроць бруднай каляіны іхнага жыцьця, і таму яны глядзяць на мяне, як на ворага. Каб прымелі, яны-б расправіліся са мной з усёй жорсткасьцю свайго дзікага фанатызму. (Усьміхаецца). Яны-б з ахвотай пабілі мяне каменьнямі, як некалі іудэі білі грэшных распусных жанчын. (Сядае на лаўцы і задумляецца. Чуваць, як сьпяваюць „Вечную памяць“, як галосяць жанчыны). Балота, балота... Колькі яшчэ тут бруду, гнільля, колькі хворае цьвілі і страшнога калецтва. Старавечныя гнілыя карчы распусьцілі свае цупкія лапы, ловяць, аплятаюць, уцягваюць у бяздонную багну... Над гэтым балотам носіцца магутны віхор. Ён узрывае цэлымі хмарамі бруд і гнільлё, ён выварачвае старыя карчы, паліць іх, зьністажае. Ён жыватворчым агнём асушае балота і рассыпае ў ім зярняты новага, здаровага, сьветлага... Там, дзе праносіцца гэты віхор, там астаюцца ахвяры. Часам бязьвінныя, трагічна-выпадковыя, але неабходныя... Гэта—няміноуча... (Задумляецца. З левага боку ўваходзіць Даніла).

Даніла (убачыў яе). Ты прышла?

Ганна (з усьмешкай). А ты, мусіць, і сам мяне не чакаў?

Даніла. Я ня думаў, што ты сюды прыдзеш.

Ганна. Я прышла, бо ведала, што табе цяпер трэба мая прысутнасьць. Табе цяпер цяжка, а са мной будзе лягчэй. Я-ж яшчэ не развучылася разганяць твае чорныя думкі.

Даніла. Не, Ганна, мне з табой ня будзе лягчэй. Я хачу сказаць табе... я думаў аб гэтым і рашыў... нам з табой ня трэба больш сустракацца.

Ганна. Гэта што, Даніла, страх ці асьцярожнасьць? Ты баішся са мной сустракацца?

Даніла. О не, Ганна, ты дарма мяне абражаеш. Я не баюся. Сьмешна было-б, каб я баяўся. Твая прысутнасьць, Ганна, будзе прыносіць мне не палягчэньне, а страшны балючы цяжар. Паміж нас цяпер стаў цень маёй жонкі. Калі-б і дзе я ні ўбачыў цябе, ты заўсёды адновіш у маёй памяці гэту трагэдыю, ты заўсёды ўзбудзіш гэта страшэннае пачуцьцё віны ў сьмерці блізкага мне чалавека.

Ганна. Я не адчуваю віны ні перад тваёй жонкай, ні перад табой. Тое, што было там на вуліцы, той выпадковы пацалунак—гэта вынік простага ўзбуджэньня нэрваў, гэта магло быць у цябе і з іншай жанчынай, таксама, як у мяне з іншым мужчынам. Нашы адносіны, ня гледзячы ні на што, усё-ткі ня вышлі з рамак таварыства. (Стараючыся схаваць пачуцьцё). А тое, што кожны з нас за гэты год перажываў... гэта не магло зрабіць уплыў на яе адчуваньне... і на трагічны канец.

Даніла. О, каб гэта можна было падвесьці пад законы звычайнага разважаньня! Я-б лёгка давёў сабе, што ня я вінават у гэтай

сьмерці. Я і пэвен у тым, што гэта так. Я ведаю гэта... Але тут нешта другое... у нутры, у сэрцы... Сэрца не пераканаеш, яно ўвесь час гаворыць сваё... І цяжка... дужа мне цяжка. Яе вобраз—такі трагічны, пакутны—стаіць уваччу ў мяне, як жудасны дакор, як вечнае напамінаньне аб маёй віне...

Ганна (ласкава). Гэта, Даніла, проста часовая слабасьць. Знэрваваўся ты, абясьсілеў зусім. Трэба табе адпачнуць, супакоіцца, і мінецца ўсё гэта, забудзецца. Розум возьме сваё, розум пераможа гэта несьвядомае сэрца. (У гэты момант Барбара неўзаметку пераходзіць ззаду ў іх і хаваецца направа. З розных бакоў пачынаюць асьцярожна выглядаць злосна цікуючыя твары мужчын і жанчын).

Даніла. Я ведаю, што гэта мінецца, забудзецца. Але мне трэба быць аднаму. Твая прысутнасьць усё роўна напомніць мне аб гэтым—зноў будзе цяжка... Аднаму мне, Ганна, будзе лягчэй...

Ганна (з несхаваным пачуцьцём). А мне аднэй будзе цяжка, Даніла. Мне будзе дужа-дужа цяжка...

Даніла (з парываньнем). Што? Што ты сказала? (Стрымлівае сябе). Не-не... Ня трэба... Усё роўна нічога ня будзе... Ідзі, Ганулька ідзі...

Ганна. Калі я буду патрэбна табе, тады паклічаш. Добра?..

Даніла. Ганулька, родная, ідзі адсюль... ідзі... Табе зусім ня трэба было сюды прыходзіць...

Ганна (з дакорам). Даніла! Ты-ж паклікаў мяне—і я прышла.

Даніла. Што? Я паклікаў? Цябе? Хто сказаў табе гэта?..

Ганна. Твой кватарант... стары гэты...

Даніла. А-а-а... Я разумею... Гэта наўмысьля. Яны нешта надумалі, яны нешта хочуць зрабіць. Ідзі, Ганулька, ідзі хутчэй...

Ганна. Я не баюся, Даніла. У мяне стане сьмеласьці астацца з табой нават тады, калі гэта небясьпечна.

Даніла. Ну ідзі, я прашу цябе. Пачакай, я цябе сам правяду, я адну ня пушчу... Хадзем! (Яны падаюцца направа, але дарогу ім загараджвае Барбара).

Барбара. Стой, галубачка, пачакай. Я-ж таксама хачу табе слоўца сказаць.

Даніла. Адыйдзі! (Хоча яе адштурхнуць, але Ганна яго стрымлівае. З усіх бакоў пачынае вылазіць народ, у некаторых у руках палкі, каменьне. Абкружаюць Данілу, Ганну і Барбару з крыкамі: А! Папалася! Цяпер мы з табой пагаворым! Распусьніца! Злавілі нарэшце! Пазнаеш, як зводзіць добрых людзей! Шлюха! Круцёлка! (Тут-жа зьяўляюцца Васька Дудзін, Мяркулавіч, Пілаціха, Люся, Нюся, мешчанін у падзьдзёўцы, мешчанін у фрэнчы і інш.).

Ганна. Аб чым вы хочаце гаварыць са мной, грамадзянка?

Барбара. Аб чым... Сама ня ведаеш... Нявінёнтак які!.. Што табе зрабіла мая дачка, скажы ты на міласьць? Чым яна табе завадзіла?

Ганна. Я, грамадзянка, вашай дачкі ня ведала і ня мела да яе ніякага дачыненьня.

Барбара. А бач ты, ня ведала... Ты-ж загубіла яе, ты-ж яе да пятлі давяла, га?.. Што яна зрабіла табе, ты мне скажы?

Галасы з натоўпу.
- Ня ведала... Чулі вы гэта?
- Ах ты, круцёлка!
- Яшчэ адмаўляецца!
- А Надзею нашто атруціла?
- Разлучніца акаянная!

Мешчанін у фрэнчы (збоку) Да чаго людзі сумленьне згубілі. Ілжэць, а вочы чыстыя, як у анёла...

Люся і Нюся. Якое нахальства!

Пілаціха (круціцца ззаду). Божухна, бацюхна! Біць будуць, біць будуць, яй-богу-ж, праўда...

Ганна (цьвёрда). Яшчэ раз кажу, грамадзянка, што я вашай дачкі ня ведала. Скажэце проста: што вам ад мяне трэба?

Барбара (істэрычна). Дачку маю нашто загубіла? Шлюха праклятая! Я табе не дарую! Я табе пакажу, як зводзіць людзей. Я табе вочы павыдзіраю! Я табе...

Галасы з натоўпу.
- Дай ёй, Барбара!
- Чаго там вантэжыцца!
- Даць ёй, праклятай!
- Пусьці мяне, я яе, гадаўку!
- Хай помніць, як круціцца!

Даніла (становіцца перад Ганнай, стрымліваючы разьюшаны натоўп). Назад! Толькі пасьмей каторы! Толькі крані! Жывым не астанешся... Заб'ю! (Натоўп крыху адступае. У прахоне, які цяпер зрабіўся каля Ганны і Данілы, зьяўляецца мешчанін у падзьдзёўцы).

Мешчанін у падзьдзёўцы (адпіхвае Данілу, якога потым хапаюць хлопцы і трымаюць). Не замінай! Суд народны—суд божы. Госпадзі, прасьці цяжкі грэх! (Замахваецца на Ганну рукой, у якой відаць вялік камень. У гэты момант на сцэне зьяўляюцца Санька і Юзік. Санька спраўляецца ўхапіць мешчаніна за руку і камень вывальваецца на зямлю).

Санька (становіцца перад Ганнай і як мага крычыць). Стой! Братцы! Што вы надумалі! Вы нічога ня ведаеце! Я вам скажу ўсё, я скажу чыстую праўду. Барбара, во хто... во хто вінават. (Яшчэ мацней). Яна атруціла Надзею, яна падгаварыла яе, яна і атруту купіла. Я сам чуў—во тут, во на гэтым месцы яны гаварылі... Братцы! За што-ж бязьвіннага чалавека...

Галасы з натоўпу.
- Ня чмуры!
- Пашоў прэч!
- Сам зьнюхаўся з ёй!
- Дай яму там, каб ня лез!
- Іш чаго выдумаў! Ха-ха!..

Мешчанін у падзьдзёўцы. Адыйдзі, блазнота! (Штурхае яго ў бок. Натоўп кідаецца на Ганну, але ў гэты момант раздаецца прарэзьлівы крык: Міліцыя! Міліцыя!.. Сярод натоўпу адразу пашло замяшаньне. Ганну пакінулі ў спакоі).

Санька (зусім іншым тонам, чымся раней). Ага! Спалохаліся! Ах вы душагубцы акаянныя! Надумалі, га? На бязьвіннага чалавека нападаць! Я вам пакажу, дзе ракі зімуюць! (Зьяўляецца міліцыя).

Старэйшы міліцыянэр. Стой! Не разыходзься! Хто тут Барбара Карпаўна Хлюпкіна?

Санька. Во гэта!

Старэйшы міліцыянэр. Вы арыштаваны, грамадзянка!

Барбара. Як гэта? За што?

Старэйшы міліцыянэр. Там разьбяруцца. А хто тут...

Санька. Вунь ён, уцёк. Вунь-вунь...

Старэйшы міліцыянэр (крычыць). Стой! Страляць буду. Стой! Назад!.. Грамадзянін, калі ласка... (Зьяўляецца Мяркулавіч).

Мяркулавіч. Што? Я проста хацеў прайсьціся. Я-ж тут нічога. Я ішоў па вуліцы—дай, думаю, зайду пагляджу...

Старэйшы міліцыянэр. Вы арыштаваны.

Мяркулавіч. Я? Арыштаваны? Ня можа быць. Гэта можа так хто-небудзь?

Старэйшы міліцыянэр. Вы Аўсьціней Маркелаў Крупачкін?

Мяркулавіч. Гэта я.

Старэйшы міліцыянэр. Калі ласка, хадзіце за мной.

Мяркулавіч. Хто гэта на мяне выдумаў нешта?

Барбара. Во хто, во хто! (Паказвае на Саньку).

Юзік. І я. І я чуў, як ты прасіў у яе грошы на крамку.

Мяркулавіч. Юзік! Сынок... Ты... на мяне...

Юзік. Я ня хочу быць гандляром. Я даўно табе казаў, што ня трэба ніякае крамкі.

Мяркулавіч. Божачка міласьлівы! Да чаго я дажыўся! Да чаго я дажыўся!..

Старэйшы міліцыянэр. Ну, калі ласка, ідзіце за мной.

Барбара. Калі так, дык-жа і яго забярыце... во-во... не хавайся, не хавайся... Ваську Дудзіна бярыце! Ён ува ўсім тут быў галава. Ён усё вымудраў за тое, што яна на яго глядзець не хацела... (Узрушана). Ён і дачку маю загубіў. Ён увагнаў яе ў гроб—распусьнік гэты, падлюга!..

Старэйшы міліцыянэр. Грамадзянін! Калі ласка!

Дудзін. Я лічу, што ня ўсякае пустое слова вар'яткі павінна прымацца як аргумант. Натуральна, вы ня маеце права мяне арыштаваць без асаблівых аснаваньняў.

Старэйшы міліцыянэр. Там разьбяромся. Ідзіце за мной. Разыйдзісь! (Вядзе арыштаваных. Народ разыходзіцца. На сцэне астаюцца толькі Даніла, Ганна, Санька і Юзік).

Даніла. Што гэта такое? Я ніяк не магу ахамянуцца. У мяне неяк усё пераблыталася—усё зьлілося ў адно страшное, чорнае... Што гэта было?

Ганна (ласкава). Гэта, Даніла, віхор над балотам пранёсься. А цяпер выгляне сонейка, стане сьветла-сьветла, і нам так добра будзеісьці ў наша далёкае падарожжа. А каб нам абодвым было лягчэй, мы пойдзем разам. Добра, Даніла? Згодзен? Дай руку! (Падае яму сваю руку).

Даніла. Ганулька! Любая! (Парыўчата цісьне яе руку).

Санька. А я тут прычым?

Ганна. Санька! Хлопчык мой! А ты кінеш піць і паступіш на фабрыку.

Юзік. А мяне напэўна выберуць правадыром зьвяна. А цяпер я пайду на экскурсію—вунь ідзе мой піонэрскі атрад. (Па вуліцы пад бой барабана ідуць піонэры. Юзік жвава ўскаквае на агароджу і адтуль крычыць задорным звонкім голасам). Да барацьбы за рабочую справу будзем гатовы!

Піонэры. Заўсёды гатовы!..

*Заслона.*

# НАД АБРЫВАМ[1])

*Аповесьць*

**Я. Ліманоўскі**

## IV

Клопаты аб фронце займалі амаль усю ўвагу Карпіцкага, ён часта езьдзіў у воласьці па справах мобілізацыі або праверкі іншае працы. Быў організаваны для фронту атрад большы па ліку, чымся першы. На гэты раз пастановай павятовага камітэту партыі былі мобілізаваны Шатур і начальнік каравульнай каманды Віхроў.

Для ўзмацненьня працы выканком, разам з прадстаўніком цэнтру, які прыяжджаў дасьледваць працу, пастанавіў назначыць старшынёю выканкому Глебава, замест Рыбакова. Рыбакова пастанавілі адаслаць у цэнтр для пасылкі на іншую працу. Праца ажывілася.

Галоўная бяда была—недахоп харчоў. Асабліва цяжка было іх дастаць у апошні час, калі наблізіўся фронт. Супрацоўнікі атрымлівалі цяпер яшчэ меншы паёк.

Карпіцкі накіраваўся ў партыйны камітэт, каб вырашыць пытаньне аб харчох для дзіцячых прытулкаў.

У Штэйнмана быў начальнік міліцыі Арцюхін. Абодва сядзелі і пераглядалі нейкія паперы. Арцюхін дастаў паперы з папкі, раскладаў іх перад Штэйнманам, паказваў на падкрэсьленыя чырвоным алоўкам месцы і даваў тлумачэньні.

— Па Забалоцкай воласьці конфіскавана ад „зялёных“ 17 кароў, 3 сьвіньні, 10 авечак і 30 пудоў збожжа. Аб гэтым мне далі спраўку ў воласьці. Гэта сьцьвярджае старшы міліцыянэр, які прымаў удзел ў конфіскацыі. Усё адаслалі ў земаддзел, а далей невядома куды дзелася. Праўдзівей кажучы, вядома куды дзелася. Толькі позна схамянуліся! Я вам раней казаў, годзе вам цырымоніцца з гэтым анархістым. Час паставіць перад ім пытаньне—ці хоча ён стаць бальшавіком. А вы ўсё казалі, што ў мяне асабістая крыўда, асабістыя рахункі з Батурскім і больш нічога. Цяпер вось ведаеце, якія ў мяне асабістыя рахункі,—дадаў Арцюхін, зьвяртаючыся да Карпіцкага.

— У чым тут справа?—запытаўся нічога не разумеўшы Карпіцкі.

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 5 і 6.

— Справа зусім няпрыгожая,—адказаў яму Штэйнман.—Пасьля арышту Батурскага, Арцюхін узяўся за рэвізію земаддзелу. Праверыў разьмеркаваньне маемасьці, конфіскаванай ад „зялёных“. Частка маемасьці раздана беднаце, ёсьць дакуманты на гэта,—адным словам, усё ў парадку. На рэшту-ж маемасьці няма ніякіх дакумантаў. Воласьці паведамляюць, што конфіскавана і адаслана ў земаддзел. А ў земаддзеле ня відаць, куды гэта дзелася. Справу ўзяў вясьці сьледчы. Трапіў на сьлед, што частка гэтай маемасьці прадавалася спэкулянтам! Забалотны спачатку даваў няясныя, зблытаныя тлумачэньні. Потым дзесьці зьнік і ніяк адшукаць яго нельга.

— Даў лахі-пад-пахі кудысьці,—адказаў упэўнена Арцюхін.—Пэўна-ж ведае, што па галоўцы за гэта не пагладзяць!

— А Батурскі?

— Невядома, ці замешаны ён у справе. Сьледзтва яшчэ вядзецца.

— Няпрыгожая рэч. Толькі цяпер ужо позна яе паправіць. Я, тавaрыш Штэйнман, прышоў па такой справе. Вельмі цяжкае становішча дзіцячых прытулкаў. Я прапаную большую частку конфіскаванай у бандытаў маемасьці і ўсё збожжа перадаваць для дзіцячых прытулкаў. Бо інакш мы нідзе харчоў не дастанем. Армія рыхтуе для сябе, а ў павеце і так лішкаў няма. Некаторая частка сялянства ўжо для сябе хутка ня будзе мець хлеба і насеньня, а тым часам рэквізыцыі для фронту.

— Добра, пытаньне вырашым на пасяджэньні камітэту ў панядзелак; прыдзецца яшчэ пагаварыць аб Рыбакове. Здаў справы, а выяжджаць у цэнтр не выяжджае. Некалькі дзён так, без работы валэндаецца і чамусьці ня едзе. Я яму ўжо напамінаў. „Паеду, кажа, няма чаго сьпяшацца“.

— Няма дысцыпліны,—заўважыў Арцюхін,—распусьціліся хлопцы. Вось каб мне толькі далі права, дык я іх падкруціў-бы.

— Міліцэйскай, браце, дысцыплінай нічога ня зробіш,—адказаў, ківаючы галавою, Карпіцкі.—Патрэбна сьвядомасьць і прызвычаеньне да парадку, тады будзе і дысцыпліна бяз усякага прымусу.

Моцны подых ветру ляснуў вакном, зачыняючы яго з трэскам. На вуліцы закруціла вірам пыл. Штэйнман пасьпяшыўся зашчапіць вакно на кручок, глянуў праз касяк вакна ўздоўж вуліцы і сказаў, як-бы здаволены, што патрапляе згадаць, якое будзе надвор‘е:

— Бачыце, хмара якая,—будзе вялікая навальніца з маланкай і грымотамі.

— Гэта ня шкодзіць,—прамовіў Карпіцкі,—даўно ня было дажджу, сьпякота ўсё высушыла. Для жыта і ярыны надта патрэбны дождж. Ну, я пабягу, а то прыдзецца тут сядзець,—адвітаўся і вышаў.

На захадзе небасхіл заслала цёмна-сіняй хмарай, якую праразалі час-ад-часу бела-залацістыя зьвіліны маланкі. Шэрыя калматыя кавалкі

хмары ўжо плылі над галавой. Вераб'і, чыркаючы, хаваліся пад стрэхі; цёмна, панура стала на дварэ. Працілеглая частка небасхілу пабляднела, як быццам спалоханы твар. У дамох зачынілі вакеніцы, пазіраючы нейк спалохана на хмару.

Карпіцкі пашоў прысьпешаным крокам, засыпаны пылам. На пера-крыжаваньні вуліц спаткаўся з Рагульскім.

— Куды сьпяшаешся?—спытаўся Рагульскі першы.

— Іду палуднаваць, хоць магчыма позна ўжо. А ты куды?

— Я таксама зайду ў сталоўку, бо дождж высьцябае, пакуль да-бягу дадому.

— А, разумею,—хоць і папалуднаваў, але ўсё такі ў сталоўку ідзеш і зусім не ад дажджу хавацца.

— Ды ня так ужо тое, што ты думаеш. Проста няма куды пайсьці. Ну, праўду табе кажучы, Баханская ня зусім дрэнная дзяўчына; я-б ска-заў, што значна лепшая за іншых, сталая, разумная.

— І прыгожая, што галоўнае,—перапыніў Карпіцкі.

— А так, і прыгожая. Ва ўсякім выпадку ня можна раўняць яе з Зосяй Некруш, з Нінай Лапко або з гэтай сухарлявай панскай дачкой Замкоўскай.

— Згаджаюся з табой. Нарэшце, што каму спадабаецца. Толькі полудні ня надта ў нас апэтытныя, хоць і маем такую кралю-загадчыцу сталоўкай.

— Дайце больш харчоў—і полудні будуць апэтытныя. А сама загад-чыца ні сваёй прыгожасьцю, ні іншымі якасьцямі полудні не палепшыць.

Буйныя, важкія каплі дажджу забарабанілі па стрэхах, па мяккаму пяску завулку і прымусілі Карпіцкага з Рагульскім рэшту дарогі да сталоўкі прабегчы, каб схавацца ад навальніцы.

У сталоўцы ўжо нікога ня было. На доўгіх драўляных сталох без абруса, аблітых зупай, засьмечаных крошкамі, стаялі ў бязладзьдзі бля-шаныя ацынкованыя міскі, валяліся лыжкі, нажы, відэльцы. Пажы-лая кабета—падпяразаная шэрым зашмальцаваным фартухом, зьбі-рала начыньне і выцірала шматком стол. Карпіцкі сеў каля выцертага канца стала і чакаў. Кабета, набраўшы ахапку начыньня, пашла на кухню. Праз хвіліну з свайго пакою, куды накіраваўся Рагульскі, вышла Баханская.

— Чаму вы так спазьніліся сёньня,—спыталася пасьля прыві-таньня яна.—Вы, пэўне, галодны, хоць і няможна надта спадзявацца на наш абед. Пачастую ўжо такім, які ёсьць, нічога ня зробіш. Хвілінку пачакайце. Пайду зараз, прынясу.

— Дзякую, я ўжо заказаў, хутка, мусіць, прынясуць.

— Не, не, я сама пайду. Я хачу сёньня сама падаць вам,—адка-зала з усьмешкай Баханская. Чаму, вы спытаеце? Зараз, хвілінку пася-дзіце, прынясу полудзень, тады і скажу.

Баханская хутка пашла на кухню і вярнулася з міскай зупы.

— Цяпер вы маеце мне нешта сказаць,—запытаўся Карпіцкі, калі яна, паставіўшы зупу, стаяла моўчкі.

— Пакуль што не скажу. Як скончыце палуднаваць, зайдзіце да мяне. Там вас вельмі хочуць пабачыць,—дадала яна, падкрэсьліўшы апошнія словы, і пашла ў свой пакой.

Скончыўшы палуднаваць, Карпіцкі наважыў зайсьці да Баханскай, хоць ня часта туды заходзіў. Не таму, што зацікавіла яго гутарка Баханскай. Прыняў гэта за жарт і не прыдаваў вялікай вагі яе словам. Проста ня было магчымасьці пайсьці дадому. На дварэ гуляла нябывалая навальніца. Пяруны ляскалі праз кожныя дзьве-тры хвіліны. Паміж градак пацяклі ручаі каламутнай вады. Праз дзіравую страху вада працякала на столь і адкуль цурком палілася на падлогу. Завулак, з нахілам у бок ракі, зрабіўся сапраўднай рэчкай.

У Баханскай сядзела амаль уся тая кампанія, якая была ў Казінец. Апрача Рагульскага, тут быў Шпідэльскі, Прытульскі, брат Зосі Некруш, малады, гадоў 18 хлопец, Зося Некруш, Лапко, Замкоўская і Таіса Мірская. У маленькім пакоіку было цесна і не хапала крэслаў. Сядзелі па двое на адным крэсьле. Замкоўская і Зося Некруш сядзелі на ложку, а супроць іх на аднэй табурэтцы прыстроіліся Рагульскі і Прытульскі, Таіса сядзела на крэсьле і глядзела праз вакно, як цуркі вады сьцякалі з мокрае вішні. Тут-жа побач, на адным крэсьле, сядзелі Шпідэльскі і Замкоўская.

— Новы госьць, новы госьць,—гучна віталі Карпіцкага.—Нясіце з сабою толькі на чым сядзець, а то прыдзецца стаяць.

— Ён заўсёды прывык за ўсіх стаяць,—жартаваў Прытульскі,—а калі на гэты раз не захоча стаяць, дык хай гаспадыня яго пасадзіць на ложку.

— Знойдзем дзе пасадзіць, я зараз прынясу крэсла з сталоўкі,—адазвалася Баханская, накіроўваючыся да дзьвярэй, каб прынесьці крэсла.

— Не, не фатыгуйцеся,—спыніў яе Карпіцкі, прывітаўшыся з усімі,—я сам знайду дзе сесьці,—азірнуўся па пакоі і сеў на куфэрку, што стаяў каля этажэркі.

— Сеў на пасагу Баханскай,—азваўся Рагульскі,—пэўне сватам будзеш.

— На тваім вясельлі,—ахвотна адказаў Карпіцкі.

Усе зарагаталі. Рагульскі зьбянтэжыўся пры гэтым і ня меў што адказаць.

— Трэба ўлетку згуляць вясельле, пакуль надвор'е добрае.

— На востраве можна, ня трэба будзе і будынку.

— Праўда, праўда, на востраве добра.

— Няхай жыве вясельле Рагульскага!—адзін за другім сыпалі па яго адрасу жарты.

— Увага, увага,—спыніў галасы Прытульскі.—Слова для прапановы мае таварыш Шпідэльскі.

— А хто цябе абіраў за старшыню, што ты мне даеш слова?

— Гэта ня важна, хто мяне абраў, цяпер дыктатура, а ты рабі прапанову, аб якой мы гаварылі.

— Слова Шпідэльскаму. Просім, просім,—раздаліся галасы.

— Ну, калі ўжо просіце, дык буду гаварыць. Ёсьць такая прапанова ад імя ініцыятыўнай групы. Хутка нядзеля. Рабіць няма чаго. У горадзе горача і душна. Ёсьць прапанова паехаць на востраў. Пара, так сказаць, за парай. Запрашаюцца ўсе прысутныя і іншыя, пэрсанальна запрошаныя прысутнымі. Програма гулянкі—там на востраве. Галоўная—гэта вясёласьць. А там, як кажуць: „Подайте мне за рубль с полтиной женщину с огнем“.

— У Шпідэльскага заўсёды агню аж занадта. Але прапанова добрая.

— На востраве ёсьць чым заліць агонь, пажару ня будзе.

— Кажуць, ёсьць агонь, што і на вадзе гарыць.

— У Шпідэльскага іншы.

— Цішэй грамада!—сьцішаў Прытульскі,—хай ставіць старшыня на галасаваньне.

— Усе, усе за!

Усе прысутныя хто адну, хто дзьве рукі пачалі падымаць, галасуючы прапанову. Не паднялі толькі Карпіцкі і Таіса.

— А ты, Карпіцкі, хіба супроць нас,—запытаўся Рагульскі.

— Не, я ня супроць, магу далучыцца да вас, калі толькі ня будзе ніякай справы.

— Трэба толькі пажадаць,—адказала яму Некруш,—дык ніякая справа не пашкодзіць. А вы, Таіса, чаму не галасавалі.

— Я, магчыма, не паеду,—адказала тая няўпэўнена,—мацеры нешта нездаровіцца. Ды іншыя ёсьць прычыны.

— Не, не, бяз вас ніяк няможна,—сьпіраўся Шпідэльскі.—Я, як неабраны старшыня сходу, вельмі прашу вас ад імя ўсіх прысутных. Бяз вас, можна сказаць, усё сьвята прападзе.

— А мы што,—азваліся іншыя дзяўчаты.

— Дык я-ж не кажу, што быццам вы не патрэбны, але-ж вы ўжо далі згоду, а яна не.

— Большасьцю галасоў справа вырашана і ніякіх адмоў,—нібы паважна гаварыў Прытульскі.—Дзе толькі зьбірацца?

— Ведама-ж, тут зьбірацца, дзе-ж мы лепей знойдзем, як у нашай цудоўнай Баханскай,—сыпаў кампліманты Шпідэльскі.

— Значыцца, справа вырашана аднагалосна,—падвёў здаволена вынікі прапановы Прытульскі.

— Не, я яшчэ не згадзілася,—адказала ні то жартаўліва, ні то сур'ёзна Таіса.

— Гэтак няможна,—дакараў Шпідэльскі,—усе згадзіліся, а вы не. Што за прычына?

— Я ўжо казала, якая прычына, а магчыма і вы не паедзеце. Бачыце якое надвор'е,—прамовіла, прыглядаючыся за вакно,—усё заліло, сапраўдны патоп.

— Да нядзелі ўсё высахне.

— А калі да нядзелі будзе ліць?

— Тады ўжо будзе патоп,—умяшаўся Прытульскі,—і Шпідэльскі будзе за Ноя.

— Каго-ж вы дасьцё яму тады за пару,—спыталася Баханская.

— Я сам буду выбіраць,—адказаў Шпідэльскі, не адмаўляючыся ад ролі Ноя і нібы здаволены, што яму даручаюць такую справу, як ратаваньне чалавечага роду.

— Папершае,—пачаў пералічаць Прытульскі,—ён выбера Таісу. Падругое, Шпідэльскі ня згодзіцца паехаць у такую далёкую экскурсію з аднэй дзяўчынай і возьме яшчэ некалькі штук. Патрэцяе, каля студні Казінец ёсьць вялікае карыта, якое і будзе караблём для сучаснага Ноя.

— Пачацьвертае?—спыталася, перадражліваючы, Зося Некруш.

— Пачацьвертае,—адказаў Шпідэльскі,—ён ужо пачынае гаварыць глупства.

— Пачацьвертае,—гаварыў далей Прытульскі,—у парку прыдзецца злавіць пару гракоў, абарваць хвасты для адзнакі і потым пушчаць замест галубоў.

— Падабраўшы прыемную кампанію, Шпідэльскі і не падумае шукаць зямлі,—заўважыў Рагульскі.

— Куды-ж нам дзецца, калі Шпідэльскі ня возьме з сабой?—спыталася Ніна.

— Дамо рады,—супакойваў Прытульскі,—ты адзенеш яшчэ пары са дзьве спадніц, дык паплывеш на сваім парашуце лепей карабля. Замкоўская худзенькая—і так не патоне. Таісу, Зосю і Марту Шпідэльскі возьме з сабой.

— Мне і тут так добра,—адказала з усьмешкай і сапраўдным задаваленьнем Таіса.

— А як-жа вы будзеце ратавацца? Так шкода вас пакідаць на затапленьне,—спыталася Баханская з падробленым шкадаваньнем.

— Я паплыву на геаграфічных мапах свайго аддзелу. Антось Некруш абчэпіць сябе пустымі бутэлькамі ад чарніл і таксама паплыве. Рагульскі зробіць на сваім мыдляным заводзе вялікі мыдляны пузыр

і паляціць паветраным шляхам. Карпіцкі,—дайшоў да яго Прытульскі і спыніўся, ня ведаючы, што-б прыдумаць такога, каб не абразіўся Карпіцкі, яго загадчык,—Карпіцкі зробіць заставу на Дзьвіне і раней накіруе патоп, каб патапіць усіх белых і зялёных, а потым залезе сам у старую гармату каля палацу і выстраліць сябе адразу на сухое месца.

Прытульскі, мусіць, доўга яшчэ без перапынку выдумляў-бы і вышукваў-бы ўсё новыя тэмы для сваіх жартаў, а дзяўчаты сядзелі з утаропленымі на яго вачыма і дружна рагаталі на кожны жарт, што яго яшчэ больш падбадзёрвала. Толькі навальніца сьціхла, і прысутныя пачалі разыходзіцца. Вада сьцякала раўкамі ў яры і адтуль у раку, са страхі і дрэў яшчэ капалі празрыстыя кроплі. На вуліцы стала гразка, у некаторых мясцох стаялі лужыны.

— Чаму ты адмаўляешся паехаць?—запытаўся ціха Карпіцкі ў Таісы, калі ўсе вышлі з дому і маленькімі групкамі рассыпаліся па завулку.— Можа і сапраўды варта паехаць, там так прыгожа.

— Я з прыемнасьцю паехала-б, мне толькі кампанія не падабаецца. Лапко, Некруш, Прытульскі... Шпідэльскі,—дадала, хвілінку прамаўчаўшы. Я табе прызнаюся шчыра, што гэта проста не мая кампанія. Ну, каб паехала-б толькі Баханская, Рагульскі, Казінец з кім-небудзь, тады яшчэ нішто.

— Я з табой згаджаюся. Мне таксама ня зусім падабаецца частка гэтай кампаніі. Але паехаць неяк варта. Мы з табой так мала былі разам. Усяго два-тры вечары. Вось што я думаю: яны паедуць а гадзіне трэцяй, а мы ўдвох можам паехаць а гадзіне дванаццатай. Да іх прыезду мы пабудзем адны, а потым яны нас ня знойдуць у гушчары.

Таіса пару хвілін прамаўчала, і калі Карпіцкі пытліва глянуў на яе, чакаючы адказу, прамовіла:

— Добра, паедзем удвох. З табой мне будзе больш прыемна, як у кампаніі. Праўда, пусьцяць плёткі і ў першую чаргу гэтая-ж кампанія. Але я ня буду зьвяртаць на іх увагі. Мне хочацца пабыць з табой і хай сабе гавораць, што хочуць.

Занятыя гутаркай яны так дайшлі да дому Таісы, павярнулі каля кляштарнай сьцяны і вышлі да самага абрыву ракі.

Засьвяціла ізноў сонца, заблішчэлі сьветлымі радаснымі сьлязінкамі кроплі вады на траве і лістох. Пах кветак і асьвежанай навальніцай зеляніны насычаў чыстае паветра. Дрыготліва шчамліва казытала нутро, прыемна-радасна рабілася, як на спатканьні шчасьця пасьля перажытага гора.

Сонечная прозалаць асыпала разьвесістыя клёны і дубы на востраве. У высокіх берагох Дзьвіны сонечныя праменьні не дасягалі ўжо яе ціхіх хваль, сьветла-жаўтаватых ад каламутнай вады. Ніжэй па рацэ за яе выгінам віднеўся кавалак мосту. Відаць было, як некалькі чалавек спацыравалі на мосьце. Абрыў у гэтым месцы быў стромкі, проста зьвісаў над камяністым берагам. Крыху далей, наўкось, праз абрыў была

праароблена сьцежка, па якой можна было спусьціцца да вады. Насупроць кляштару, каля забітых у бераг шэрагу паляў (відаць, калісьці была нейкая прыстань), гойдаліся на вадзе некалькі лодак. Яшчэ вышэй каля парку, зусім нізка над вадой, схіляліся вербалозы. Плынь у рацэ паміж востравам і кляштарам была хуткая, амывала вялікія каменьні, што выступалі з вады, пераліваласа ў некаторых мясцох журкатаньнем на плыткім дне, віравала ў больш глыбокіх мясцох, як-бы жадаючы праглынуць у сваё цёмнае прадоньне. Маўкліва, спакойна было на пустым востраве ў прадвячэрні час, пасьля навальніцы.

Спыніліся над самым абрывам.

— Мне асабліва падабаецца гэты абрыў і востраў. З першых дзён пасьля прыезду ў горад мы брадзілі па беразе з Рагульскім і вось натрапілі на гэту мясьціну. На востраве я быў усяго адзін раз і то ня прыгледзеўся да яго добра. Пару раз езьдзілі толькі туды, ніжэй за мост, на качак раніцой. Выйдзем яшчэ да сонца. Такая прыгожа-ўрачыстая раніца, цішыня, над вадой яшчэ сьцелецца туман, і пачынае ўзыходзіць крывава-чырвонае сонца. Езьдзіш па рацэ, чуеш толькі плёскат вёслаў ды вады каля каменьняў.

— Я дык яшчэ ні разу на востраве ня была! Ён нейкі таемны і, мне здаецца, страшны. Цяпер пад вечар адна я нізашто не адважылася-б пайсьці ў яго гушчар.

— А са мной не баялася-б?

— З табой зусім ня страшна. Я чамусьці ўпэўнена, што нічога страшнага ня здарылася-б, калі-б я была з табой.

— Ну вось, уяві сабе—стаім мы над гэтым абрывам, блізка на самым краі. Раптам пад намі абрываецца грунт і мы падаем туды, уніз, на каменьні, коцімся праз іх у ваду, нас пакрывае цёмнае прадоньне і нясе туды ў вір, адкуль ня выбрацца.

— Не, калі з табой, дык і гэта ня страшна. Абрываемся, падаем разам. Трымаемся адзін за аднаго, хапаемся за каменьні. Не, вір нас не перасіліў-бы.

Карпіцкі глядзіць на яе чульлівым поглядам, сьціскае руку і набіраецца сам упэўненасьці.

— Ты праўду кажаш, нам удвох нічога ня страшна. Мне дык страшна было-б толькі за цябе. Страшна было-б згубіць цябе. Згубіць цябе, а самому выратавацца, гэта больш страшна, чымся цябе выратаваць, а самому забіцца. Але навошта нам палохаць сябе страшнымі думкамі. Ці-ж у нас мала моцы, каб заваяваць сабе жыцьцё, лепшае жыцьцё, цяпер, калі ідзе вялікае разбурэньне нягоднага і будаваньне маладога, новага. У нядзелю ты пераканаешся, што ў цьмянай цені пустога востраву зусім ня страшна.

— Спадзяюся,—адказала Таіса,—што ня толькі тады, але і наогул з цябе добры абаронца.

* * *

Таемна-ціха ў гушчары. У густых лістох клёнаў, ліп і дубоў толькі шчабечуць птушкі. Праз густыя кусты арэшніку, хвоек, крушыны ды іншых нізенькіх расьлін цяжка прайсьці. Усё вольнае месца пад разложыстымі ценістымі галінамі, паміж тоўстых ствалоў дрэў шчыльна запоўнена кустамі, усялякай лясной расьлінай, ягаднікам паземак, зарасьнікамі маліны. Тут, у гэтым гушчары, амытым з усіх бакоў поўнаводнай ракой, відаць, ніколі ня была сякера. У невялікіх, але сапраўды дзікіх нетрах старога бору на востраве была поўная ілюзія нейкай адвечнай старажытнасьці, нейкага асобнага расьліннага царства, недаступнага для чалавека. Сонечным праменьнем цяжка пранікнуць у гэты гушчар, асушыць яго, забраць лепшыя жыцьцёвыя сокі. Цяпло прасякае сюды толькі струменямі цёплага парнага паветра. І таму так багата расьце тут сакавітая расьліннасьць, таму так пахне прапрэлымі гнілымі расьлінкамі і сьвежай зелянінай. Таму так высока і разложыста растуць і пераплятаюцца галінамі тоўстыя дрэвы. Ня шкодзіць ім, сплеценым паміж сабой, ні вецер, ні бура. Трымаюцца моцна адзін за аднаго, ня згінаюць сваіх непакорлівых верхавінак. Толькі на беразе вада паздраднiцку падмывае пясок, точыцца пад карэньні сталетняга дубу, і ён, баронячы ад віхуры сваіх суседзяў, як параможаны волат падае ў ваду: абрываюцца і ламаюцца яго галінкі, нясе іх далёка ў розныя бакі рачная хваля. Нарэшце, вада падмые зусім карэньні, адарве ад берагу і праглыне ўвесь тоўсты ствол дубу ў сваё прадоньне, засыпле пяском, пахавае. І зноў шукае бурлівая вада новую ахвяру. А ў іншым месцы наносіць пясок усё вышэй і вышэй, як быццам хочучы аддаць востраву тое, што яна адабрала. Востраў ахвотна прымае гэты дар. Старыя дрэвы рупатліва засяваюць на новым кавалку сваё насеньне, і праз некалькі год маладыя дубкі і клёны бадзёра шапацяць сваімі зялёна-жоўтымі лісткамі над магілай пахаванага старога дубу.

Негасьцінны гушчар на востраве. Карпіцкі і Таіса прабіраюцца праз гушчар. Ідуць проста на другі яго бераг. Тымчасам у гушчары цяжка ісьці ў адным кірунку. Трэба абыходзіць непралазныя месцы, ухіляцца ў бок і, замест таго, каб выйсьці на процілеглы бераг, выходзяць ці ўправа, ці ўлева ад таго месца, куды кіраваліся, або няпрыкметна варочаюцца на старое месца. Іх ахапляе задор, ім хочацца перамагчы перашкоды, як-бы гэтым самым пераканацца, што яны могуць перамагчы перашкоды ў жыцьці. Яны прабіраюцца праз гушчар па некалькі раз, з дзяцінным задорам пралязаюць праз такія месцы, дзе няма сьцежак, нізка схіляючыся, разгортваючы галінкі. Нарэшце, правандраваўшы па ўсіх кірунках, стомленыя, здаволеныя сваім вандраваньнем па пушчы, шукаюць месца для адпачынку. З сонечнага боку вострава, куды лягчэй пранікаюць у вільготны гушчар цёплыя павевы ліпеньскага дня, на карэньнях тоўстага дубу, абапершыся, як аб сьпінку крэсла, аб яго ствол шаршавы, сядаюць.

— Якое бурнае вандраваньне, няпраўда? Ты, пэўне, стамілася ўжо ад непрызвычаеньня,—пытае Карпіцкі і цалуе яе паружавелы пунцовы ад хадзьбы твар, глядзіць у яе гарэзьліва-бліскучыя вочы, туліць да сябе яе ўзбуджаную, усхваляваную істоту.—А мне дык гэта напамінае наша бурнае жыцьцё цяпер. Я адчуваю сябе як-бы ў роднай стыхіі. Табе, пэўна, цяжка яшчэ захапіцца ўсёй гэтай нясупыннай магутнасьцю, жорсткім гэроізмам нашага жыцьця. Вырасла каля квецістых газонаў маёнтку Браніцкага, дык табе, пэўна, больш падабаецца, скажам, ня дзікая пушча, а гладкі квяцісты луг, ня стромкія абрывы, а ціхае роўнае поле.

— Я яшчэ ня ведаю, добра не разумею ўвесь сэнс гэтай бурнай эпохі нашага жыцьця, пра якую ты кажаш,—кажа як-бы ў забыцьці яна.—Мяне часам палохае яе жорсткасьць і невядомасьць. Але мне здаецца таксама, што пасьля гэтага жорсткага і магутнага часу, пасьля гэтае вялізнае катастрофы нешта павінна быць такое, што прыцягвае і вабіць да сябе і мяне. Каб хто мне растлумачваў-бы заўсёды сэнс сучасных падзей, растлумачваў-бы такі, каму я веру, пераканаў-бы мяне ў тым, што прыдзе за гэтымі падзеямі, дык мяне таксама, можа, як і цябе, яно вабіла-б. Мне здаецца, што ўсё-такі самастойна нешта рабіць, да чагосьці імкнуцца зараз я не магла-б. Я магла-б толькі быць дапамогай таму, хто пераканаў-бы мяне ў канечнасьці рабіць тое, што і ён робіць, Я, напрыклад, часта бачыла цябе за працай, слухала твае выступленьні. Запамяталася мне асабліва тое першае, на бальконе партклюбу. Мяне захапляла іх шчырасьць. Я з усім тым, што гаварыў ты, згаджалася. Потым, аднак, гэта не замацоўвалася ў памяці, пераканаsuccessful. У мяне ня было такой моцнай веры потым, як тады, калі я цябе слухала. Часам мне здаецца, што жанчына наогул у жыцьці самастойна тварыць нічога ня можа. Ведама, ёсьць адзінкі, можа дзесяткі і сотні, пра якіх гэтага нельга сказаць, але рэшта, дык яны могуць толькі быць дапамогай і іншым, скажам, мужчыне.

— Новая эпоха павінна будзе стварыць і новую жанчыну, жанчыну самастойную. Новая эпоха павінна стварыць такую жанчыну, якая выкажа і большую здольнасьць, і такую самастойнасьць, як і мужчына. Вось ужо ты разважаеш паважна і паказваеш здольнасьці новае жанчыны,—заўважыў Карпіцкі жартаўліва, ня могучы стрымаць ахапіўшай яго вясёласьці.—Наогул, мы з табой абыходзімся, як дзеці: блукаемся па пушчы, абнімаемся, цалуемся, сьмяёмся, кахаем адзін аднаго, а разважаем паважна, як старыя.

— Ня зусім так. Цалуюцца і кахаюцца ня дзеці, а ўжо дарослыя, прытым, калі каханьне мы сьцьвярджаем нашымі ўчынкамі, абыходжаньнем, дык няма патрэбы гутарыць аб каханьні, і мы можам абраць у гутарцы іншую тэму,—адказала Таіса, села ніжэй на карэнь дубу, абапёрла голаў на Карпіцкага руку і выказвала далей свае думкі, якія, відаць, дагэтуль ня мела каму выказаць. З часам, ведама-ж, жанчына можа будзе

іншай, але цяпер не. Цяпер людзі, памойму, вельмі розьняцца адзін ад аднаго. Я нават іх разьбіваю на тры катэгорыі. Першая катэгорыя—невялікая. Гэта тыя людзі, якіх я або кахаю, або вельмі паважаю. Гэта людзі, якія маюць пэўную мэту, імкнуцца да яе, не замыкаюцца ў вузкае кола сваіх інтарэсаў,—якія хочуць сваёй працай, жыцьцём прынесьці нейкую карысьць іншым. Гэтыя людзі зьяўляюцца як-бы тварцамі жыцьця. Да другой катэгорыі я залічаю такіх людзей, якія маюць часам добрыя імкненьні, якія маюць пэўную мэту перад сабой, маюць шчырыя, праўдзівыя настроі, хочуць быць карыснымі для жыцьця. Але ў іх не хапае здольнасьці ці сілы волі, каб гэтыя свае імкненьні і настроі ажыцьцяўляць, змагацца за іх. Іх мэты і імкненьні і астаюцца толькі імкненьнямі, толькі ўнутранымі пачуцьцямі. Трэцяя катэгорыя, самая вялізная, гэта тыя людзі—уся рэштка ад першых дзьвюх катэгорый, якія ня маюць ні выразных імкненьняў, ні выразных мэт. Гэта проста „капцільнікі неба“,—жывуць сёнешнім днём, ня дбаюць аб заўтрашнім. Яны ў прыватным жыцьці могуць быць добрымі, уважлівымі, могуць нават падабацца, толькі так падабацца, як прыгожыя, але непрактычныя, некарысныя, непатрэбныя рэчы.

— Да якой-жа катэгорыі ты залічаеш мяне, мой стары філёзоф,— запытаўся Карпіцкі, прыгарнуўшы да сябе Таісу.

— А ты згадай сам.

— Ва ўсякім выпадку хіба не да трэцяй.

— Не, не, даражэнькі, не да трэцяй, а да першай. А я—ужо другая, дапаможная катэгорыя.

— Ня ведаю, наколькі я належу да людзей першай катэгорыі. Толькі вельмі мяне захапіла вось гэтае шумнае бурлівае жыцьцё. Пасьля вайны, як толькі надышла рэволюцыя, я быццам знайшоў сябе. Можа таму мяне так пацягнула да спраў грамадзкіх, што тут усё вялікае, бурнае, магутнае. Можа таму няма ахвоты і часу падбаць аб чымсьці ўласным, асабістым, што тут усё ціхае, спакойнае, радаснае ці сумнае, але непараўнальна меншае, да мізэрнасьці меншае. Таму і добра неяк жыць у гэтую цяжкую бурную эпоху. Як толькі вольны час ад працы, вольная думка ад падзей, ад ваколеньня, тады мне неяк сумна. Тады мяне ахапляюць сумненьні: ці здолею я ўтрымацца на паверхні бурлівых хваль жыцьця? Ці можа яны мяне падмыюць, затопяць, засыплюць пяском мяшчанскай цішыні, пахаваюць пад зелянінай мірнага дабрадушша, накшталт гэтых людзей трэцяй катэгорыі?

— Мне верыцца, што з табой гэтага ня здарыцца. У цябе столькі веры ў правільнасьць твайго шляху, столькі моцы. Ты знайшоў сваё месца ў грамадзе і гэтае месца ня ўступіш.

— Мне надта хочацца жыць па-новаму, думаць і адчуваць па-новаму. Нават цябе кахаць я хачу па-новаму, толькі яшчэ ня ведаю, у чым гэта новае павінна адбіцца. Навакол яшчэ так шмат старога, брыдкага, яно

хапае чалавека, цягне яго да сябе моцай прызвычаеньня, хапае, як той казачны нябожчык, за жывога чалавека і цягне да сябе ў магілу. У жыцьці яшчэ шмат нязьнішчаных перашкод, шмат супярэчнасьцяй. Вось сёньня, бачыш, мы з табой уцяклі ад грамады і нам так добра. Выходзіць, што і тут нейкая супярэчнасьць. Трэба імкнуцца да грамады, з грамадой адчуваеш сябе добра і без грамады ня кепска.

— Гэтая грамада якраз толькі па ліку грамада. Я не кажу пра ўсіх. Я буду доўга памятаць гэтае маё вандраваньне па востраве,—прамовіла Таіса, адкінула голаў, каб зірнуць у твар Карпіцкаму і гарэзьлівы агеньчык вачэй давёў недаведзенае словамі.

— А мне гэтае вандраваньне,—адказаў Карпіцкі, схіліўшыся да яе твару,—здаецца, як пачатак нашага з табой вандраваньня ў нетрах жыцьця, дзе перашкоды на шляху трапляюцца значна цяжэйшыя, чымся галінкі арэшніку ці хвоі. Мяне яно пераконвае яшчэ ў адным: прабірацца скрозь гэтыя нетры ўдвох можна лягчэй тады, калі ісьці ў адным кірунку да аднаго жыцьцёвага берагу.

— Я пайду з табой да аднаго берагу. Толькі вясьці мяне, папераджаць аб перашкодзе, папераджаць аб небясьпецы павінен ты. Я толькі— дапамога.

— Не, так няможна. Чалавек павінен ведаць сам, куды ён ідзе, а ня ісьці пакорліва за павадыром, хоць-бы нават добрым. Чалавек павінен сам шукаць шляху, ведаць шляхі жыцьця, каб ісьці самастойна, незалежна ад іншых. Можа спачатку ён пойдзе ня простым шляхам, будзе адхіляцца ў бок. Бываюць у жыцьці хвіліны, калі трэба ісьці аднаму, без павадыра, без дапамогі, парады. Калі чалавек сам выбера сабе шлях, тады ён не заблудзіць, бо будзе сам ведаць, куды вядуць крыжавыя дарогі.

— Гэта я добра разумею. Толькі знайсьці шляхі можна хутчэй, калі пакажа іх той, хто іх ведае, хто па іх ішоў. Трапіўшы на сьцежку, можна ўжо адшукаць шлях. Памятаеш, калісьці, пры нашым першым спатканьні ў Глебавых, ты казаў пра сьвяцільнік. Я цяпер зразумела тваю думку. Чалавек тады ня будзе блудзіць, калі панясе сьвяцільнік з сабой, калі будзе ісьці наперад і асьвятляць свой шлях. Ён ня можа ісьці наперад тады, калі ходзіць толькі каля сьвяцільніку, прымацаванага на адным месцы: адыйдзе далей ад сьвятла, далей—усё больш і больш ахутвае цемра, ня відаць шляхоў, ня відаць, куды ісьці.

Рачаіснасьць зьмяняецца марамі, гутарка перапыняецца пацалункамі. А там ізноў пляны аб будучыне, вандраваньне па жыцьцёвым акіяне, пад сьмелым парусам каханьня. Рачаіснасьць і мары, салодкашчамлівая хваля набягае, калыша, узьнімае, кідае на іншую, больш моцную, асыпае срэбнымі іскрамі.

Маўклівыя цені гусьцей акутвалі нетры пушчы, прахалодная вільгаць сьмялей сачылася з-пад карэньня старых клёнаў і дубоў, з-пад леташніх лістоў і гнілых галінак, над ціхай роўнядзьдзю Дзьвіны

ўзьнімаліся шэраватыя, бледна-шызыя хмаркі пары, сьцішалася гамонка птушак і гудзеньне аваднёў, санлівая ленасьць ахапляла востраў, пазалочаны чырваньню праменьняў сонца, якое павісла зусім нізка над далёкім лесам, ад будынкаў і дрэў на высокіх стромкіх берагох ракі ляглі далёкія цені. У вушох яшчэ шумеў сумна-ціхі гоман пушчы, перад вачыма яшчэ стаялі тоўстыя дубы і густыя кусты арэшніку з маленькімі, дрыготлівымі плямкамі ад сонечных праменьняў, яшчэ кружыла прыемна голаву першая блізкая, сардэчная блізасьць, думкі яшчэ то прыемна ласьліва ахапляла адчутае, то пытліва несьліся ў неасяжныя далі, шукаючы адказу на нешта і зразумелае і таемнае.

Карпіцкі і Таіса павольна падняліся па вузенькай зьвілістай сьцежцы на стромкі абрыў каля кляштару, хвілінку пастаялі, паглядзелі на востраў і разышліся.

## V

Зьвілістай зьмяёй-істужкай набліжаўся фронт. Быццам атрутны вужака, дзе хітрасьцю, дзе сваім джгалам прабіваўся, укліньваўся, выпростваўся, ахутваў і душыў у сваіх абдымках. Баронячыся ад яго з упартым гэроізмам і зацятасьцю, ценькая пасма чырвонай істужкі, што загараджала яму праход на прасторы вялізнае краіны, месцамі рвалася, ізноў зьвязвалася, адсоўвалася назад. З затоенай трывогай і са сполахам чакалі набліжэньня фронту. Неадчутая яшчэ ў рачаіснасьці, але інстынктыўна ўсьвядомленая жудаснасьць ахапляла шмат каго, прыкоўвала яго ўвагу да фронта. Былі і такія, што чакалі фронту з іншым настроем. Успаміналі „добрыя мінулыя часы“, успаміналі з надзеяй і радасьцю. Даставалі са схованак усё, што напамінала ім гэтае мінулае, усе рэчы, зьвязаныя з гэтым мінулым, усе адзнакі сваёй мінулай годнасьці,—любоўна-пяшчотна гладзілі іх, у замілаваньні называлі ласкавымі слоўцамі, уздыхалі, падымалі ўгару благальна вочы. Вернецца ўсё адабранае, усё пойдзе сваім „законным“ шляхам, ніякая „несправядлівасьць“ ня здолее парушыць адвечны парадак. То далікатна папярэдліва, то з гордай іроніяй, то з кепска ўтоенай радасьцю спатыкалі яны ўсіх тых, каго дагэтуль хоць ненавідзелі, але баяліся і прымушана паважалі.

Там на фронце зацята выразна біліся дзьве сілы, лілася кроў, вялася барацьба на жыцьцё і сьмерць. Тут у тылу дзьве сілы, таксама адчуваючы варожасьць, пагарду і ненавісьць адзін да аднаго, часова стрымлівалі сваю ненавісьць.

Адны ўмелі толькі ненавідзець і шаптацца па кутках, дбаць аб сваёй скуры, а таму не мяшаліся ў адкрытую бойку. „Мы вас ненавідзім, але змагацца ня хочам. Прыдуць на вас „укроціцелі“ вось тады вам будзе“. Другія адчувалі сваю сілу і моц, гатовы былі прыняць выклік і змагацца з кожным, хто ўзяў зброю, хто выступіў адкрыта і хоча памерыцца сіламі.

І вёска, якая яшчэ нядаўна была нездаволена харчразьвёрсткай і фурманкамі, гэтымі цяжарамі пераходнага часу, цяпер панура і глуха змоўкла, стулілася, моўчкі, вохкаючы, без ранейшай лаянкі і незадаваленьня выконвала ўсе патрабаваньні ўлады ці Чырвонай арміі і палахліва прыслухоўвалася да таго, што з гукам гармат і трасканінай кулямётаў паўзло з поўдня.

Нэрвова-сумны настрой ахапіў працоўных жыхароў гораду.

Фронт набліжаўся з кожным днём усё болей і болей настолькі, што ўжо трэба было падумаць аб эвакуацыі. Павятовы камітэт партыі і выканком прымалі пільныя меры. Быў утворан спэцыяльны штаб з Карпіцкім на чале, якому і была перадана ўся ўлада па кіраўніцтву незанятай часткі павету. Апрача дапамогі фронту, штаб павінен быў падрыхтаваць установы да эвакуацыі. Больш грамозднае і каштоўнае ўжо пакрысе пачалі вывозіць за Дзьвіну. З бліжэйшых да фронту савецкіх гаспадарак выганялі быдла, вывозілі больш каштоўны інвэнтар. З большага падрыхтавалі да эвакуацыі і павятовыя ўстановы, запакаваўшы ўсё менш патрэбнае для непасрэднае працы.

Па меры адступленьня да Дзьвіны бойкі на фронце рабіліся больш упартыя. Часам націск палякаў дружна адбівалі, адганялі назад, па некалькі дзён трымаліся ўпарта на адных позыцыях. І тады ахапляла ўсіх надзея, што будзе на фронце пералом на карысьць чырвоных і будзе забясьпечана магчымасьць спакойнай і мірнай працы. Праходзіла некалькі дзён упартай барацьбы, у выніку якой—новае адступленьне. І тады ізноў ахапляў нэрвова-сумны настрой, трацілася ўпэўненасьць, думалася аб эвакуацыі.

Карпіцкі больш, як раней, быў заняты і разам з тым яго часам агортваў сум. Ён як мага працаваў у сэнсе дапамогі фронту, да болю хацелася яму адхіліць эвакуацыю.

Аддзел народнае асьветы цяпер Карпіцкі ўжо зусім закінуў, бо ня было часу наведвацца туды. Быў пераважна ў ваенкамаце, або хадзіў у партыйны камітэт ці ў іншую ўстанову, дзе была пільная патрэба.

Сёньня толькі засядзеўся больш у сваім габінэце, падлічаючы, колькі патрэбна будзе вагонаў для эвакуацыі павятовых установ і маемасьці. Разглядаў надасланыя ад установ паперы, папраўляў, часам павярхоўна зробленыя, неабгрунтаваны разьлік вагонаў і маемасьці, складаў агульную сводку па павету.

— А ты ведаеш, якую навіну я табе скажу?—сказаў, убегшы ў пакой, Арцюхін.

— Ну, хіба на фронце што-небудзь новае,—запытаўся, чакаючы пачуць нешта важнае, Карпіцкі. Палажыў аловак і выцягнуў над сталом абедзьве рукі, як быццам хочучы выпрастаць іх ад цяжкой працы.

— Не, пра фронт я нічога асаблівага на чуў. Іншае. Скончылі мы сьледзтва па справе няправільнага разьмеркаваньня маемасьці земаддзелу-

Выясьнілася, што каровы і збожжа, адабранае ад бандытаў, прадаваў спэкулянтам Забалотны. Калі даведаўся, што робяць сьледзтва, дык кудысьці ўцёк. Усюды шукалі яго ў горадзе, няма. Даў загад міліцыянэрам у валасьцёх, каб арыштавалі, калі дзе спаткаюць.

— Куды-ж яму больш уцякаць цяпер, як не да палякаў. І злаві ты яго там з сваімі міліцыянэрамі. Усё такі ён прахвост,—дадаў Карпіцкі, падышоўшы да вакна.—Я з самага пачатку не адчуваў да яго асаблівай сымпатыі. Нейкая заўсёды фамільярнасьць у абыходжаньні, надаедлівасьць і разам з тым хітрасьць. А Батурскі ў справе не замешаны?

— Па дакумантах і паводле паказаньняў сьведак, вестак аб тым, што ён прымаў удзел у гэтым, няма. Можа ён і ведаў, толькі сьледзтвам не ўстаноўлена. Сам Батурскі адмаўляецца і кажа, што нічога ня ведаў.

— Магчыма, што Батурскі не вінават. Ён робіць уражаньне чэснага і шчырага чалавека, толькі нейкі дзіўны: ваб'е што-небудзь сабе ў галаву, дык ніяк яго не пераканаеш. Каб яго шчырасьць можна было-б накіраваць у пэўнае рэчышча, скарыстаць так, як трэба, тады ён быў-бы вельмі карысным працаўніком.

Я толькі за адно яго не магу апраўдаць. За тое, што калі я налягаў зрабіць рэвізію раней і хацеў сам прымаць удзел у разьмеркаваньні маемасьці, дык ён са сваёй дурацкай амбіцый як упёрся, дык хоць кол на галаве чашы. Чаму ён так бараніўся ад рэвізіі?

— Магчыма, была тут звычайная яго ўпартасьць. Ну, як у цябе ідзе выкананьне апошняй пастановы палявога штабу, каб узяць на вучот усе фурманкі.

Даў суровы загад па ўсіх валасьцёх. Старшыя міліцыянэры складуць такія сьпісы і паведамяць пад расьпіску гаспадаром фурманак, што на першае патрабаваньне міліцыі яны павінны прысласць фурманкі ў назначанае месца.

— Ды на тваю міліцыю асабліва пакладацца нельга. Там ужо занадта рознастайныя ёсьць элемэнты.

— Пры апошняй чыстцы шмат такіх ненадзейных павыкідалі, цяпер больш-менш асталіся лепшыя. Шмат з іх паступілі ў міліцыю добраахвотна і далі падпіску служыць доўгі тэрмін.

— Ат, ня хочуць ісьці на фронт, дык і лезуць у міліцыю.

— Можа і такія ёсьць, не спрачаюся, але што-ж ты зробіш, адразу добрую міліцыю ня створыш. Ну, я пайду, трэба яшчэ зьбегаць у комхоз па справе рамонту памяшканьня міліцыі. А ведаеш яшчэ што я табе скажу,—адазваўся Арцюхін, калі ўжо ўзяўся за ручку дзьвярэй,—сёньня на Рыбакова ўночы зрабілі замах.

— Які замах, каму ён цяпер патрэбны, калі ўжо зьняты з працы за невыстарчальную энэргію?

— Нешта, праўда, недарэчнае сталася, але ты паслухай. Паводле яго слоў, сёньня ноччу, так а гадзіне другой, ён ішоў дадому ад знаёмых.

На завулку, каля старых могілак нехта ў яго быццам стрэліў. Куля прабіла скураную сьвітку на правым плячы і крыху зачапіла плячо. Так, невялікая царапіна, але ляжыць у сябе на кватэры, як хворы.

— Дзіўнае здарэньне. Зусім не разумею, што тут можа быць. Кончылася яно неяк надзвычайна добра. А ты рабіў якое-небудзь дазнаньне?

— Я ня меў часу заняцца гэтай справай, паслаў памоцніка. Ён апытваў жыхароў каля месца здарэньня. Тыя нічога ня ведаюць пра здарэньне і ніякага стрэлу ня чулі. Трэба будзе яшчэ зайсьці да Штэйнмана параіцца. А сьледзтва будзем рабіць далейшае.

У пакой увайшоў Мірскі. Заўважыўшы, што Карпіцкі гутарыць з Арцюхіным, ён памкнуўся ізноў выйсьці, каб не перашкаджаць, але яго спыніў Карпіцкі.

— Вы да мяне, таварыш Мірскі?

— Так, да вас. У мяне, выбачайце,—гаварыў ён неяк нерашуча,—справа асабістая, можа, я хіба потым, як вы будзеце не заняты, зайду,—сказаў ён і даў зразумець, што можа тады гаварыць, калі будзе Карпіцкі адзін.

— Можаце зараз, я ўжо з ім скончыў,—адказаў Карпіцкі, кіўнуўшы галавой у бок Арцюхіна.

— Ну бывай, я пайду да Штэйнмана,—прамовіў Арцюхін, зірнуў пытліва на Мірскага і вышаў.

Мірскі стаяў хвілінку быццам ня маючы досыць рашучасьці сказаць тое, з чым ён прышоў. Глянуў на Карпіцкага, зноў вочы апусьціў. Нарэшце падышоў бліжэй да стала і на запрашэньне Карпіцкага сесьці зрабіў гэта не адразу.

— Можа вы мяне не зразумееце так, як мне хацелася,—пачаў Мірскі, павёўшы неяк з прызвычаеньня рукой па сваёй ужо пасівелай барадзе,—але як ёсьць патрэба, дык нічога ня зробіш, трэба гаварыць. Перш мне хацелася-б даведацца, як вы мяне цэніце, ну, як працаўніка. Мне, выбачайце, хочацца раней даведацца пра ваш погляд у гэтай справе.

— Я ня ведаю, навошта вы пытаеце гэта,—адказаў Карпіцкі.—Аднак, калі вы хочаце, я магу выказаць мае думкі наконт гэтага. Папершае, я люблю гаварыць проста і адкрыта.

— Вось, вось, я і хацеў, каб вы казалі проста і адкрыта,—перапыніў Мірскі.—Адкрытасьць у такой справе вельмі пажадана.

„Што ён хоча ад мяне“,—падумаў Карпіцкі, „няўжо што-небудзь зьвязанае з Таісай“.

— Я лічу вас вельмі сумленным, акуратным і старанным працаўніком. Грашовая частка выканкому ў вас пастаўлена досыць добра, ляпей, бадай, як у іншых установах. Такія працаўнікі, як вы, нам вельмі патрэбны. Вось, што я магу сказаць пра вас, бяз лішняе хвальбы.

Мірскі заварушыўся на крэсьле, яшчэ раз незнарок павёў рукой па барадзе і на твары яго адбілася ўсьмешка ўтоенае радасьці.

— Я вельмі здаволен, што сваёй працай мог стварыць аж занадта добрае ўражаньне аба мне. Магчыма, што вы далікатна ня ўспомнілі і пра мае недахопы. Толькі прынамсі такая ацэнка маёй працы дасьць права спадзявацца мне, што вы ня лічыце мяне ворагам савецкай улады.

— Што вы, таварыш Мірскі, каб мы лічылі вас ворагам, дык, папершае, вы ня былі-б у нас на службе. Падругое, няма ніякіх падстаў лічыць вас ворагам, я і ня ведаю, навошта вы пра гэта пытаецеся.

— А вось цяпер, калі я даведаўся, што вы лічыце мяне сумленным чалавекам, а ня ворагам савецкай улады, я больш маю сьмеласьці выказаць маю просьбу.—Тут Мірскі спыніўся, як перад нейкім цяжкім прызнаньнем і хвілінку маўчаў. Карпіцкі нецярпліва чакаў, пакуль ён пачне.

— Кажэце, калі ласка, я вас слухаю.

— Можа яшчэ і ранавата аб гэтым гаварыць. Але, калі я ўжо надумаў, дык ня буду адкладаць надалей. Час, бачыце, цяпер трывожны, на фронце ня зусім добра. Хто ведае, што будзе праз некалькі дзён. Магчыма, што прыдзецца рабіць эвакуацыю. Я шчыра кажу, што не жадаў-бы гэтага. Дык хто-ж яго ведае, не ад нас залежыць. Прыдзецца, відаць, шмат каму выехаць адсюль. Адны добраахвотна паедуць, па доўгу, так сказаць, па ідэі. Іншым загадаеце выехаць, як людзям патрэбным, зьвязаным з установамі. Я таксама ваш служачы. Але мяне гэткая эвакуацыя, каб яна была-б няўхільнай, закранае больш балюча. У мяне хворая жонка. Яна здаўна так прыхворвае, а апошні час зусім занядужыла і ляжыць у ложку. Выяжджаць разам з ёю немагчыма. Яна ня вытрымае па стану свайго здароўя ўсяго непакою эвакуацыі, памрэ. Паехаць з вамі мне, пакінуўшы каля жонкі дачку, таксама немагчыма. Што яны будуць рабіць, астаўшыся ўдвох, бяз мужчыны. Паехаць нават дачцы, у выпадку, калі-б я тут астаўся, таксама немагчыма, ня будзе каму даглядаць хворай маці. Вось, бачыце, якое становішча. Я наважыў прасіць вас, бо гэта залежыць толькі ад вас, не прымушаць мяне выяжджаць на той выпадак, калі будзе эвакуацыя. Каб была здаровая сям'я,— іншая справа. Што людзям, то і мне. Тут нічога не параіш. Цяпер я вельмі прашу вас дазволіць мне застацца тут. Вы-ж, спадзяюся, зразумееце, што прашу я гэта не таму, нібыта мне новая ўлада будзе лепшай, а выключна па сямейнаму становішчу.

— Ня ведаю я, як зрабіць з вамі,—адказаў Карпіцкі, азадачаны просьбай Мірскага.—Калі прыдзецца рабіць эвакуацыю, дык на новым месцы нам неабходна будзе праводзіць ліквідацыю спраў выканкому. Асаблівае значэньне мае грашовая частка, дзе трэба акуратна ў парадку здаць усе кнігі, дакуманты і г. д. Я ня ведаю, ці мы здолеем гэта бяз вас зрабіць. Я спачуваю вашаму становішчу і правільна разумею прычыны, па якіх вы хочаце астацца. Але тут і патрэба вашай прысутнасьці,— проста ня ведаю, што рабіць з вамі.

— Кнігі і дакуманты ў мяне і цяпер у парадку. Я іх так падвяду, так падрыхтую, што ня трэба будзе нічога ў іх разьбірацца: проста запакаваў іх у скрынку, а хто ведае больш-менш бухгальтэрыю, дастаўшы іх адтуль, усё ўбачыць, як на далоні. З гэтага боку ніякіх, спадзяюся, цяжкасьцяй вам сустрэнуць не давядзецца.

Карпіцкі не адказаў адразу на гэтае пытаньне. Мірскі таксама змоўк і, відаць, нецярпліва з надзеяй і сумненьнем чакаў адказу. Цяпер Карпіцкі адчуваў, што сапраўды справу вырашыць цяжка. Дагэтуль ён яшчэ ня думаў, што будзе з Таісай на выпадак эвакуацыі. І вось цяпер яе бацька, бацька гэтай цудоўнай дзяўчыны, апрача таго, паважаны ўсімі чалавек за чэснасьць і сумленнасьць, чалавек, які яму, Карпіцкаму, нічога дрэннага не зрабіў, просіць усяго толькі ня везьці іх са сваёй хаты ў далёкі яшчэ можа больш галодны край. Патрэба, грамадзкая патрэба тут ужо не такая вялікая, каб для яе разбурыць жыцьцё чалавека. Эвакуацыя, Мірскі, Таіса і ён, Карпіцкі, вось пытаньні, якія спляліся ў адзін агульны ланцуг і невядома, у якім месцы яго можна разарваць. „Што рабіць, што адказаць Мірскаму? Навошта разбураць жыцьцё чалавека, калі можна абыйсьціся бяз гэтага“. Некалькі хвілін цішыні, якія, відаць, ужо занепакоілі і засмуцілі Мірскага, бо сядзеў ён быццам чакаючы прыгавору над сваім лёсам, былі даволі цяжкімі і для Карпіцкага.

— Патрэба ў вас, бязумоўна, ёсьць,—адказаў нарэшце Карпіцкі ціхім, але станоўчым голасам.—Але, шануючы вашую працу (тут Мірскі неяк павесялеў, абнадзеяўся), я думаю, што трэба будзе знайсьці выхад са становішча. Прыдзецца лічыцца з тымі перашкодамі, якія не даваляюць вам выяжджаць. Добра, я ня буду вас прымушаць да выезду,—канчаткова і цьвёрда адказаў Карпіцкі.

— Вельмі дзякую і шчыра дзякую,—гаварыў Мірскі, устаўшы з крэсла.—Я з свайго боку зраблю ўсё, што ад мяне залежыць, каб найлепш падрыхтаваць для задачы мае справы. А калі прыдзеце зноў, дык я буду не апошні сярод тых, хто першымі прыдзе працаваць у савецкія ўстановы. Абы толькі быў жывы. Вельмі вам дзякую.

— Ну, што-ж ты зробіш, калі трэба, дык трэба,—адказаў Карпіцкі, неяк зьбянтэжаны шчырай радасьцю і падзякаю Мірскага.—Заставайцеся сабе, а мы ўжо як-небудзь бяз вас абойдземся.

Цяпер Карпіцкаму справа зусім здалася лёгкай. І чаму ён яшчэ сумняваўся, калі можна яе так лёгка вырашыць. Навошта патрэбны былі думкі і развагі, калі такой маленькаю ступкай, такім звычайным дазволам можна так шчыра і глыбока ўзрадаваць чалавека, што аж сабе стала так радасна і весела. У гэтую хвіліну ў ім мацней загаварыла ўпэўненасьць хуткага звароту. „Так, мы хутка вернемся зноў, выедзем адгэтуль часова. Мы сюды яшчэ прыдзем. Мы выходзім часова, каб сабраць сілы і разрубіць тую вужаку, што паўзе да нас і хоча задушыць у сваіх вільготна-студзёных абдымках. Мы яе разрубім на такія кавалкі,

якія ўжо ня здолеюць варушыцца, зрастацца і паўзьці да нашага горла. Найдалей, у будучую вясну, з новымі струменямі каламутнай вадзіцы паплыве яна, агідная, туды, адкуль зьявілася. З новымі праменямі цёплага сонейка, з новым натхненьнем у грудзёх і вераю ў сваю перамогу мы прыдзем".

Ї спакойна стала і радасна.

* * *

Пасьля некалькі спакойных дзён на фронце наступіла непажаданая зьмена. Чырвоная армія адступіла адразу на дзесятка паўтара вёрст. Цяпер небясьпека захопу гораду сталася больш відавочнаю. Пачалася эвакуацыя. Ва ўстановах ня было ўжо нормальнае працы, супрацоўнікі займаліся больш запакоўкай рэчаў, складалі ў скрынкі, забівалі дошкамі. Толькі некалькі чалавек займаліся бягучай працай, каб здавальняць патрэбы тых, хто прыходзіў за якой-небудзь справай. Пацягнуліся праз горад фурманкі з рознымі рэчамі, грымелі на мосьце, падымаліся на высокі правы бераг Дзьвіны да станцыі чыгункі. Раней блізка гораду ня было чыгункі. Толькі ў часе вайны вайсковае ведамства правяло сюды так вёрст 15 галінку ад галоўнае магістралі. Цяпер ужо былі паданы вагоны для пагрузкі эвакуяванай маемасьці. А маемасьці было шмат. Усё каштоўнае пажадана было вывезьці. Карпіцкі загадаў вывозіць нават фортапіяны і піяніны з клюбаў і ўстаноў. Вывозілі больш каштоўныя машыны з заводаў і майстэрань, вывозілі і мэблю. Сваячасовую вывазку тармазіў усё такі недахоп фурманак. Міліцыя не выяўляла патрэбнай энэргіі, а сяляне часам ухіляліся ад павіннасьці, бо непакоіліся за сваю ўласную маемасьць у часе іх адсутнасьці, баяліся, каб не астацца па гэты бок фронту.

Так беглі хутка трывожна-рупатлівыя дні. Шмат было працы, пляназ, невялікіх адначасовых заданьняў і не хапала часу і ня было магчымасьці ўсё выканаць. Для Карпіцкага гэты пэрыод часу быў нязвычайна дзіўным. Працаваў з падвоенай энэргіяй, усюды стараўся сам быць, дагледзець, зрабіць патрэбнае,—удвая больш часу быў заняты справамі. Ї такі бадзёры, добры настрой у вакаляючай сумятні, не адчуваў стомленасьці ні журботы. Раней яму здавалася, што каханьне да Таісы будзе перашкодай для працы, адарве ад справы, павабіць да адзіноты для спагнаньня часу разам з ёй. Ї дзіўная рэч, цяпер яшчэ больш захапляла праца. Узбуджана-рухлівы настрой, настрой упэўненасьці, задаваленьня дадаваў ахвоты і энэргіі пры выконваньні сваіх службовых абавязкаў. Кожны раз успамін аб Таісе як быццам падбадзёрваў яго ў хвіліны зьмяншэньня энэргіі і настойлівасьці. Апрача ідэі, пераконаньня ў канечнай патрэбе самаадданай працы, была ў ім цяпер яшчэ адна захаваная сіла і імклівасьць яе якраз злучалася з агульнай імклівасьцю Карпіцкага. Такі стан настрояў перайначыў яго ў кірунку яшчэ большай працаздольнасьці.

Гэта прыкмячалі нават староньнія. Гэтую перамену адчуваў і ён сам.

„Кажуць, што асабістае, больш сабе блізкае, няможна пагадзіць са сваімі-ж агульна-грамадзкімі імкненьнямі“, разважае ў думках Карпіцкі, калі знайшоў часу на некалькі хвілін забегчы ў свой габінэт адпачыць перад паездкай на станцыю. „Казалі яшчэ калісьці, што ў чалавека нейкі свой лёс ёсьць, які зьмяніць нельга. Усё гэта глупства, і лёс будзе глупства калі чалавек патрапіць яго моцна ўзяць у свае рукі. Моцнае жаданьне і моцная воля, вось галоўнае, што трэба мець. Ці ёсьць яны толькі ў мяне?“ запытаўся ў сваіх думак і пачаў шукаць адказу, прыпамінаючы больш паважныя здарэньні з свайго жыцьця.

У пакой увайшла Таіса, сказала пару слоў, робячы патугу ўсьміхнуцца і нядбайна неяк прысела на бакавой сьценцы мяккага крэсла. Цёмнаглыбокія вочы яе былі на гэты раз неяк больш сумнымі, ня сьвіціліся радасным бляскам вільготныя куткі іх. Непакой, роспач і беспараднасьць веялі ад яе постаці, звычайна задорнай сваёй маладой бадзёрасьцю.

— Што будзе?—спыталася каротка і ў яе мяккім, лагодным голасе пачуліся ноткі роспачы.

Карпіцкі ўстаў, павольна падышоў да яе, абапёрся на сьпінку крэсла, лагодна ўзяў Таісу абедзьвюма рукамі за галаў, адхіліў крыху і пацалаваў замест адказу. Сеў на тое самае крэсла, глянуў на яе доўгім поглядам.

— Пытаеш у мяне, што будзе. Я разумею тваё пытаньне, але яшчэ ня ведаю сам. Бліжэйшыя дні пакажуць, што будзе.

— Мне неяк вельмі боязна,—сказала Таіса, абапёршыся рукой на плячо Карпіцкага.—Фронт, эвакуацыя... хто ведае, як усё гэта будзе. Няўжо нам прыдзецца расстацца... ты паедзеш, а я застануся тут?

— Я яшчэ ня думаў аб гэтым. Чаму нам расстацца? Ці-ж ты ня досыць ведаеш, што я таксама ня хочу з табой расстацца,—казаў Карпіцкі шчыра, але ў той самы час яму здавалася, што словы яго не пераконваюць Таісы. Хацеў яшчэ нешта сказаць, але тут узьбегла на ўспамін яго гутарка з Мірскім. Вось на гэтым самым крэсьле ён сядзеў і таксама, як цяпер Таіса, затоена нецярпліва чакаў ад Карпіцкага адказу. Успомніў жыва тое, што абяцаў Мірскаму. „Няўжо гэта датычыцца і Таісы?“ працяла яго думка. „Няўжо сапраўды прыдзецца і яе пакінуць. А можа вернемся хутка, выедзем часова? А што будзе, калі выедзем надоўга?“ Да болі шкада зрабілася яму Таісы. Ня маючы слоў выказаць гэта, Карпіцкі туліў яе да сябе, супакойваў, цалаваў. „Не, тут яе не пакіну, не“. Вырашыў моцна Карпіцкі.

— Ня бойся і не палохайся. Мы-ж яшчэ не расстаемся. І ня будзем раставацца. Магчыма, яшчэ фронт затрымаецца і астанемся тут усе.

— Каб-жа гэта сталася. Я нічога ў сьвеце цяпер больш не жадала-б, каб толькі не дайшоў да нас фронт,—прамовіла Таіса ўжо супакоеная і павесялеўшая.

За дзьвярыма пачуліся нечыя крокі. Карпіцкі пасьпешна ўстаў і крыху адышоў ад Таісы.

— Сёньня ўвечары пагутарым. Я зайду да цябе, пасядзім у гародчыку і ўсё абмяркуем. Прымем такую моцную пастанову,—дадаў жартаўліва,—што ніхто яе не скасуе.

Таіса хацела нешта адказаць, але ў пакой увайшоў Штэйнман, і яна змоўкла.

— Здароў, Карпіцкі, апошнімі днямі цябе і ўбачыць няможна.

— Ты-ж сам ведаеш, колькі клопату з гэтымі эвакуацыйнымі справамі. Ходзіш, бегаеш і ўсё яшчэ няможна наладзіць справы, як сьлед. Зараз таксама паеду на станцыю паглядзець, як ідзе пагрузка. Забег вось толькі на хвілінку сюды, дадаў, як-бы апраўдваючыся, калі Штэйнман неяк хітравата глянуў на Таісу.

— Ды яна-ж вядома, не рэгулярная праца,—згадзіўся Штэйнман і, калі Таіса вышла з пакою, Штэйнман дадаў,—я табе ня раз казаў, што спраў па горла ёсьць, а рабіць няма каму. Так, здаецца, і работнік, а як паскрабеш яго, возьмешся за яго бліжэй, дык убачыш, што ён гніль. Вось узяць хоць-бы Рыбакова. Сядзеў на пасадзе старшыні, ніякага ня было толку. Зьмянілі, пасадзілі другога, справа ляпей пашла. Рыбакову трэба было выехаць у цэнтр. Апошнімі днямі ён нешта туляўся па-за вугольлем, не паказваўся, адцягваў свой ад'езд. Пару раз неяк выпадкова папаўся мне. Напамінаў я яму аб выезьдзе, прыгразіў, што за парушэньне партдысцыпліны пастаўлю пытаньне аб выключэньні з партыі—і хоць-бы што. Потым здарэньне вось гэта самае.

— Ну, што такое было,—перабіў яго Карпіцкі,—няўжо сапраўды замах?

— Ды каму ён патрэбен,—махнуў рукой Штэйнман, каб больш падкрэсьліць сваю думку. Выясьняецца зусім іншае. Стварылі сьледчую камісію, якая і занялася справай. І цікавыя, між іншым, здабылі матэрыялы. Папершае, зрабілі экспэртызу яго прастрэленай скураной сьвіткі. Экспэртыза прышла да выніку, што скура сьвіткі каля прастрэленага месца апалена агнём і пацарапана нават гарэлымі парашынкамі. Значыцца, стрэл зроблены з блізкае адлегласьці. Тут ужо, каб быў-бы замах зроблены, дык на такой адлегласьці не папасьці нельга было-б. А тымчасам толькі царапіна на плячы. Падругое, камісія ўстанавіла, што ён апошні час занадта часта наведваўся да аднэй дзяўчыны, тут, на акраіне гораду. З усяго відаць, што хлапец закахаўся. Ну, вось тут табе і нявыезд і замах. Усё так проста.

— І разам з тым так дуракавата,—дадаў Карпіцкі.—Няўжо ў чалавека хапіла розуму на такое глупства.

— А вось бачыш, якраз, наогул кажучы, не хапіла розуму. Рэволюцыя рэволюцыяй, а глупства глупствам. Зрабіў глупства падзіцячаму. Прыдзецца паставіць пытаньне аб выключэньні з партыі.

— Можна чакаць было ад яго ўсяго іншага, але гэта для мяне, прызнацца, неспадзявана. Я ўсё-ткі яго не разумею, што яму мог-бы даць гэты выпадак.

— Хто яго там ведае. Романтыка, жаданьне зрабіцца „ахвярай“, ну і, мусіць, магчымасьць некалькі дзён яшчэ пабыць у горадзе.

— Мне здаецца, і нашыя дні пабыту тут ужо палічаны. Калі толькі ня будзе лепшае перамены на фронце, магчыма, і эвакуацыю нават поўнасьцю правесьці не пасьпеем.

— Ну, што-ж, калі прыдзецца выяжджаць, нічога ня зробіш. Толькі я ўпэўнен, што выедзем не надоўга. Ня можа быць, каб яны тут доўга патрымаліся. Ну, найдалей—да вясны.

— І я таксама думаю,—згадзіўся Карпіцкі.

Спакойная і шчырая ўпэўненасьць Штэйнмана падмацоўвала і пераконвала Карпіцкага. Яму здавалася, што погляд на часовасьць адыходу зьяўляецца найлепш абгрунтаваным. Гэтая вера, якую падзяляў яшчэ і Глебаў, зрабілася з пэўнага часу сваясаблівай тэорыяй Карпіцкага, апраўданьнем адыходу чырвоных за Дзьвіну.

* * *

На вуліцы цемра і цішыня. Цемра звычайная пані пасьля дзесятай гадзіны ўвечары ў жніўні. Цішыня на гэты раз нязвычайная. Загадам палявога штабу забаронены ўсякі рух па вуліцы гораду пасьля 10 гадзіны ўвечары. У апошнія дні гарадзкое жыхарства нават удзень зрабілася яшчэ больш непаваротліва ціхім. Ходзяць туды-сюды, як восенскія мухі, ня ведаюць, за што ўзяцца. Чакаюць якойсьці лепшай перамены, чакаюць такога спакойнага часу, калі іх праца і клопаты ня будуць дарэмнымі. Рана гасяць агні, рана кладуцца спаць, рана неспакойна-трывожна ахутвае іх сон. У маленькіх пакоіках з выцьвеўшым, запэцканым мухамі, абдзёртым абіцьцём, з набітым сенам і шаршавай матэрыяй скрыпучымі канапамі, з газавымі, аклеенымі карункамі з паперы, лямпамі, з бязногімі сталамі, з пакошанымі дзьвярыма буфэтамі, з вышчарбленымі, паточанымі шашалем камодамі і з іншай трухлява-благой маемасьцю,— дзе кожная рэч стаіць на сваім месцы дзесяткі год, дзе рэчы і людзі як-бы зрасьліся са сваім месцам, са сваім ваколеньнем,—склалася ўжо так жыцьцё, што кожнае здарэньне палохае магчымасьцю зрушыць з месца, парушыць старадаўны парадак. Цішыня і спакой, аднастайнасьць трываласьць. Згінацца перад кожным подыхам ветру, хоць-бы душыцца ў затхласьці і цьвілі, але згінацца ніжэй да зямлі, урастаць у яе, каб ветрык не крануў з свайго месца ні валаска з галавы. Жыць сёньня так, як учора, па прызвычаеньню. Спакой і цішыня—ідэя і цэлы сьветагляд гэтых людзей. Вось такіх людзей было ў горадзе большасьць. І хоць цяпер падзеі маглі крануць іх менш за іншых, яны больш палохаліся,

глыбей лезьлі ў свае дамовыя норы і шкадавалі, мусіць, што ня могуць сапраўды дзесьці схавацца і праспаць пад ватовымі коўдрамі ўсе падзеі.

Таму сёньня асабліва ціха і бязлюдна на вуліцы. Ціха, спакойна, прытульна ў гародчыку Таісы. Бэз і язьмін даўно ўжо адцьвілі, асыпаліся. Толькі аксамітныя астры, гвазьдзіка і настурцыі буйна красуюць, дачакаўшыся сваёй пары. Месца бэзу заступіў пахучы тытунь; пасьля заходу сонца распусьціць свае пялёсткі і льле з сваіх вузенькіх чарачак лагодна прыемны пах.

Карпіцкі і Таіса сядзяць у гародчыку на лаўцы, як у той першы памятны вечар. Толькі няма той ружовай узьнятасьці, няма тае бязрупатнасьці і вясёласьці. Нават старыя ліпы за кляшторным мурам не шапочуць сёньня так таемна ціха, як тады. Моцныя павевы ветру гнуць галінкі і рвуць лісты. І неспакойна бурліва шумяць ліпы. Змагаюцца з ветрам, што пасьмеў парушыць іх ціхую адвечную гамонку.

— Як нядаўна мы з табой сядзелі тут упяршыню. Мне так памятаецца гэты вечар. Раней ты быў такі ад мяне далёкі, унікаў нават мяне, а потым раптам за адзін вечар стаў такім блізкім, дарагім,—гаварыла Таіса, абапёршы голаў на плячо Карпіцкага і ўглядаючыся ў абрыс кляшторнае вежы на небасхіле.—Мне так было лёгка на душы. Я так была ўпэўнена, што ніхто не парушыць наша шчасьце. Я так верыла, што ты здолееш перамагчы ўсе перашкоды. І раптам нешта страшнае, неспадзяванае насоўваецца на нас. Скажы, што ты думаеш рабіць? Ты-ж усё ведаеш. У цябе на кожнае самае цяжкое пытаньне заўсёды ёсьць абмеркаваны і поўны адказ.

— Часам у мяне бывае такі адказ. Часам я магу вырашыць трапна і добра самае зблытанае пытаньне. Толькі сёньня так усё пераблыталася, што і я шукаю і не знаходжу адказу.

— Няўжо ты паедзеш, а я застануся тут? Няўжо нам прыдзецца расстацца,—дапытвала з роспаччу Таіса.

— Падзеі страшэнна нявыразныя, і цяжка сказаць, як будзе ляпей. Ты ведаеш добра і ўжо не сумняваешся ў тым, што самае горшае для мяне—расстацца з табой. Набліжацца фронт, прыдзецца адступаць, ачышчаць горад. Ты разумееш добра, што я павінен буду выехаць, мне астацца нельга. Калі-б нават і можна было, калі-б нават не пагражала мне небясьпека тут, дык мой доўг быць там. Цяпер аб табе. Самае лепшае для мяне было-б тое, каб ты магла паехаць са мной. Але ці паедзеш ты, калі бацька і маці не захочуць паехаць?

— Мне шкада было-б іх пакінуць. Я не павінна гэта рабіць. Яны балюча ўспрынялі-б мой ад'езд. Але-ж мне так страшна тут без цябе. Мяне палохае, што мы больш ня ўбачымся. І калі-б я ведала, што табе сюды ня прыдзецца вярнуцца, дык я лепей паехала-б з табой зараз, кінуўшы сям'ю.

— Якая ты шчырая і чульлівая,—адказаў Карпіцкі,—таму пакінуць цябе тут мне яшчэ больш балюча і цяжка. Я ведаю, што ты гатова была на такую ахвяру. Мне лягчэй за ўсё было-б вырашыць пытаньне так. Аднак, ведаю, што ты сама балюча адчуеш расстаньне з сям'ёй, а нягоды жыцьця, якія нас там чакаюць, яшчэ больш узмоцняць твой сум па сям'і і паменшаць твае пачуцьці да мяне.

— Ты маеш уладу,—адказала Таіса станоўча з гонарам,—ты можаш загадаць бацьку, каб ён паехаў разам з вамі. Ён павінен будзе паехаць.

— Так, я маю ўладу, але не хачу ёю карыстацца, каб разьбіваць жыцьцё людзей. Некалькі дзён таму твой бацька прыходзіў да мяне, прасіў дазволу астацца тут, не выяжджаць.

— І што ты адказаў яму, ну, кажы хутчэй, ты загадаў яму ехаць з вамі,—спыталася ўзварушана Таіса.

— Не, ня выдаў я такога загаду. Я дазволіў яму застацца тут. Ён казаў, што твая маці хворая і няможна яе турбаваць, што яна ня вытрымае гэтага падарожжа. Я лічыў гэта досыць моцнай прычынай і дазволіў бацьку не выяжджаць. Я не хачу браць на сваё сумленьне жыцьцё тваёй маці. Але, самае цяжкае пытаньне... пра цябе.

Таіса напружана слухала яго і маўчала. Карпіцкі цяпер стараўся справіцца з сваімі думкамі, разабрацца ў іх, упарадкаваць, каб знайсьці лепшы адказ, каб лепш вырашыць справу. А думкі націскалі, балюча ахутвалі голаву, праціналі сэрца.—„Паехаць аднаму, яе тут пакінуць? А што, калі ня прыдзецца вярнуцца і ўбачыць? Не, не, згубіць яе я не магу. Але-ж як зрабіць? Скарыстаць яе пачуцьцё, адданасьць, самаахвярнасьць, угаварыць пакінуць сям'ю, паехаць з намі? Што чакае яе там? Вандраваньне ў брудных, цьвёрдых цяплушках, галадоўка, холад, нягоды вандроўнага жыцьця. Ці будзе яна здаволена такім лёсам? Ці не пахістае гэта яе адданасьці, ці ня выкліча нездаваленьня і пагарды да ўсяго таго, што мне так блізка і зразумела. Але, можа пры мне яна здольна будзе ўсё гэта пераажыць, перанесьці з усьмешкай на вуснах. Можа яна знойдзе таксама ў гэтай завірусе сэнс, апраўдае ўсе тыя нягоды, якія чакаюць. Можа яна, пад маім уплывам і наглядам, вытрывае да лепшае спакойнае пары. Можа яна, з часам і забудзе пра сям'ю, ня будзе тужыцца да яе? А маці хворая? Ці ад'езд дачкі яна вытрывае? Ці не скароціць яе жыцьцё? Бязумоўна, скароціць. Маці аднолькава ня вытрымае як эвакуацыі, падарожжа, так і „ўцёку" дачкі. Значыцца, адабраць ад бацькі і маткі дачку, а ад бацькі дачку і жонку? Вялікае патрабаваньне, вялікая цана, вялікая ахвяра для свайго ўласнага шчасьця. Так няможна. Але-ж няможна і расстацца з ёй. Што рабіць?"

— Табе паехаць, паехаць табе? А ці здолееш ты пакінуць хворую маці, ці здолееш ты вытрымаць дакор сумленьня, калі гэты ад'езд твая маці не пераажыве?—спытаўся яшчэ раз Карпіцкі пасьля маўклівай задумлёнасьці.

— Маці я вельмі кахаю і мне надта цяжка было-б яе пакінуць. Але што рабіць? Чаму-ж я такая няшчасная, што няма ніякага паратунку,—заламала рукі Таіса.—Чаму ты мучаеш мяне запытаньнямі, замест таго, заб параіць, што рабіць, замест таго, каб даць адказ, як нам быць, каб не разлучацца.

— А можа, Таіса, яшчэ ня трэба будзе рабіць эвакуацыі? Або можа мы прымушаны будзем толькі выехаць адсюль на час, каб потым вярнуцца? Я моцна ўпэўнены ў тым, што мы хутка вернемся. Да тэй пары выздаравее твая маці, да тэй пары мы яшчэ не забудзем адзін аднаго. Тады ўжо ня будзе таго зачараванага кола, з якога мы ня можам выйсьці. Тады ўжо нішто не пашкодзіць нам зыйсьціся так, каб ужо больш не разлучацца.

— Мне страшна, вельмі страшна. Мяне палохае тое, што мы больш не спаткаемся. Пагубляемся ў гэтай завірусе, не адшукаем адзін аднаго. Рабі як ведаеш, я нічога не магу параіць. Мне так цяжка. Я разважаю голасам пачуцьця, а ня розуму. Я зраблю так, як захочаш ты.

Ізноў балюча ахапілі Карпіцкага думкі: „Не, на сваю толькі адказнасьць, на сваё сумленьне я гэтага ўзяць не магу. Разьбіць жыцьцё людзям, добрым людзям, я не магу. Што будзе—я ня ведаю. Можа і раблю памылку. І я, здаецца, не магу разважаць“.

— Таіса,—сказаў, ціха ўздыхнуўшы, Карпіцкі,—у мяне моцнае жаданьне, каб ты ехала, але ты ехаць ня можаш. Вырваць цябе так, неяк, скажам, як сэрца з грудзёў, балюча, крывава, нельга. Мы адступаем не надоўга. Прыдзецца нам на пэўны час расстацца. Мой абавязак ехаць туды, твой астацца тут. Ніхто, і наша сумленьне не адважыцца зрабіць нам дакору, калі мы гэтыя абавязкі выканаем. Цяжка разлучыцца і перажыць расстаньне. Але з яшчэ большай радасьцю і больш моцным пачуцьцём, адчуваньнем шчасьця мы спаткаемся.

— Калі ты лічыш, што так лепей, я згаджаюся з табой,—адказала Таіса, змоўкла, старалася стрымаць і схаваць ахапіўшую яе шчамліва-балючую роспач і толькі непаслушныя сьлёзы адна за другой пакаціліся па яе твары. Не адразу магла іх стрымаць, ня гледзячы на спачуваньне і лагодныя просьбы Карпіцкага. І калі нарэшце выцерла хустачкай апошнія сьлёзы, супакоілася, у голасе ўсё яшчэ адчуваліся надарваныя ноткі прыцішанага, затоенага ўнутры сардэчнага болю.

Супакоіўшы Таісу, Карпіцкі, каб больш адарвацца ад цяжкага настрою, пашоў праверыць варту; прайшоў па галоўнай вуліцы, на мост, схадзіў на акраіну, да могілак, вярнуўся дадому і лёг спаць.

У пакоі Карпіцкага душна. Можа і ня было-б так душна, але яго душаць цяжкія думкі. Яшчэ на вуснах гараць пацалункі, яшчэ ў вушах гучыць ласкава-ціхі голас Таісы і разам з тым нейкае бяздоньне цёмнае, страшнае іх разьдзяляе. Варочаецца на ложку, ня можа заснуць, ня можа супакоіцца, разагнаць сваіх думак. Стомленасьць за дзень яшчэ павялічае

боль і цяжар думак. Стараецца ён сябе супакоіць, пераканаць, што інакш паступіць ня мог. То ізноў стаіць перад вачыма Таіса, ціхая, лагодная, пакорлівая, шэпча з пачуцьцём: „я твая, я паслухаю цябе і пайду за табой на край сьвету". Расхваляваныя думкі выклікаюць вобразы, разганяюць іх, малюць новыя. Хоча Карпіцкі іх пазбыцца, уцячы ад іх, перанесьціся кудысьці далей, але немагчыма. Хоча заснуць,—не прагнаць думак, не пазбыцца вобразаў, што стаяць, быццам, перад вачыма.

Вось вясеньняя дарога, чорныя палі з палоскамі нязышоўшага сьнегу, з бурлівымі струменямі каламутнай вадзіцы, з затопленымі далінамі, жаўранкам. Гаі, горкі, лес, вёскі, прысады каля дарогі. Дзесьці ён бачыў гэтыя прысады. Вядуць яны ў маёнтак. Гэта-ж спалены маёнтак графа Браніцкага. Усё цьвіце, зелянее, і пасярод пышнага, прываблівага парку, абкружанага з трох бакоў возерам, дзіка, нясуладна тырчаць абгарэлыя купы-руіны. А каля іх, ва ўсёй сваёй магутнай прыгожасьці пышна цьвітуць ружы. Ружовыя, белыя, крывава-чырвоныя, з аксамітнымі, мяккімі пялёсткамі, пахучыя. Пуста, бязьлюдна ў гэтай сядзібе. Тут-жа калісьці, даўно, недаверліва, пахмурна прыглядаючыся да чысьценькіх, прыбраных панскіх дзяцей, хаваючыся за тоўстую ліпу, украдкам прыглядалася маленькая Таіса. Тут яна вырасла, любавалася таксама з воддалі гэтымі ружамі каля палацу. Так, так, яна тут была. Можа яна цяпер тут? Не, яе няма. Карпіцкі наламае ёй кветак ружы. Разгортвае калючыя галінкі, каб выбраць лепшыя кветкі. Раптам за галінкамі, пасярод гэтых кветак бачыць Таісу; схавалася, усьміхаецца да яго. Карпіцкі разгортвае калючыя галінкі, хоча падыйсьці бліжэй, праз куст руж выцягвае рукі да Таісы. Зусім блізка, вось кране за яе руку. Толькі чаму гэта рука такая калючая? Не, гэта ня рука, гэта ён зрывае кветку ружы. А галінкі ўпарта засланяюць Таісу, Таісы няма. Зьнікла, схавалася, якбы яе і ня было тут. Зрывае кветку, ламаючы галінку. Вострая боль у руцэ. Няма кветкі, няма Таісы. Карпіцкі ўпарта прыглядаецца, шукае вачыма. Навокал цемра і трывожна непакойная боль.

Ізноў варочаецца Карпіцкі на ложку, стараецца адагнаць думкі, адагнаць сумныя вобразы, забыцца, заснуць. Стараецца думаць аб іншым, думае аб Батурскім, аб пабыўцы з атрадам на фронце, усплывае на памяць аблава на бандытаў. Лес шуміць цяністы, густы, непраходны. Толькі ізноў чамусьці гэта ня лес, а нейкі невялічкі гай. Такі знаёмы гай. Дзе і калі ён бачыў гэты гай, гэтыя старыя клёны і дубы і густыя кусты арэшніку? Так, так, вельмі знаёма, але цяжка ўспомніць. Ды гэта-ж востраў. Сонца сьветлымі плямамі сваіх праменьняў дзе-ні-дзе прабіваецца ў яго нетры. Тут дзесьці і Таіса павінна быць. Ізноў думкі аб ёй. Якая яна хітрая, схавалася за куст арэшніку і думае яе ня ўбачаць. Не схавае арэшнік, не адбярэ яе. Вось яна там, усьміхаецца і заве да сябе Карпіцкага. Ідуць праз гушчу вострава. Грэе сонца. Чаму толькі так балюча царапаюцца галінкі, царапаюць грудзі, твар, рукі? Чаму так горача

пячэ сонца, што нават нельга схавацца ад яго ў цяністых нетрах. Але-ж і нетраў гэтых няма і дрэў няма, гэта толькі здалося. Карпіцкі стаіць на нейкай раўніне і сонца яго пячэ, і глядзіць ён чамусьці ўважліва, пільна ў далячыню. Далёка, далёка ў гэтым прасторы вырысоўваецца нейкая сьветлая постаць. Постаць падыходзіць бліжэй, усё бліжэй. Вось відаць, як вецер калыша нешта празрыста белае, нібы павуціньне. Спачатку цьмяная, нявыразная, ахутаная вэлюмам постаць робіцца ўсё больш яскравай. Гэта-ж Таіса. Чаму яна тут адна? Чаму яе так вецер парывае, што вось, здаецца, адарве ад зямлі і кудысьці скіне. Чаму яна нібы спалохана? Можа кліча на дапамогу? Так, так, вецер яе хоча кінуць у нейкае бяздоньне, і яна просіць паратунку. Яна стаіць, аказваецца, над стромкім абрывам і ня можа адыйсьці, адарвацца. Падхапіў вятруга і ўсё бліжэй і бліжэй яе сьпіхае на край абрыву. А там, у доле, на каменьнях бурлівая цёмная вада бяжыць, пеніцца, віруе. Таму і Таісе так боязна, яна кліча да сябе: „Мне так страшна тут аднэй, хадзі хутчэй, падай мне руку, я адна ня ўтрымаюся над абрывам!“ Карпіцкі сьпяшаецца як мага, выбіваецца з сіл, а тымчасам нібы стаіць на месцы, ня слухаюць ногі, не падымаюцца. Бяжыць да яе, вось ужо недалёка, блізка. Таіса ўбачыла яго, пазнала, узрадавалася, але нешта яе цягне ў бяздоньне. Блізка ўжо Карпіцкі, ужо, здаецца, выратуе яе. Віхура, парывае Таісу і яна падае з абрыву. Жудасна і цяжка Карпіцкаму. Дабягае да абрыву, глядзіць у дол. Там, у доле, на каменьнях, у вадзе Таіса. Бурлівая, пеністая вада падмывае яе, цягне туды, на сярэдзіну, ў вір. Яшчэ можна ратаваць, але як дабрацца да яе? Стромкі абрыў, вострыя каменьні ў доле. Скочыць з высокага абрыву, каб загінуць разам з ёю? Як ратаваць? „Што рабіць, што рабіць? Так усё пераблыталася“, быццам нехта шэпча на вуха Карпіцкаму. А Таісу ўсё больш падмывае вада, вось, вось адарве ад каменьняў. Карпіцкі не адважыцца саскочыць да яе з высокага, стромкага абрыву. Ён шукае тут сьцежкі, той самай, па якой калісьці хадзіў. Знашоў, бяжыць хутка да яе. Каб хоць не спазьніцца, ратаваць, ратаваць яе. Прыбег да месца, дзе яна звалілася. Праз вострыя каменьні, праз бурліва-пеністую ваду прабіраецца да яе. А вада усё больш узьнімаецца, захапляе. Вось блізка, блізка. Схіляецца,валіцца з каменьняў у ваду, хоча схапіць Таісу, схапіў, але... няма Таісы. У руках ён трымае толькі белы шаль. Таісы няма. Падхапілі хвалі, уцягнулі ў бяздоньне. Віруе цёмная вада, праглынуўшы сваю ахвяру. Карпіцкі трымае ў руках шаль. Вільготная, сьцюдзёная, ліпкая. У вадзе змачылася. Толькі чаму такая ліпкая і чаму так хутка сохне? Так моцна баліць у грудзёх. Сэрца хоча, здаецца, выскачыць з грудзей, балюча гулка стукае. Карпіцкі прыціскае да сэрца шаль, хоча заглушыць, супакоіць. А шаль ліпкая, робіцца такой сухой, шурпатай. Камечыць яе ў руках Карпіцкі, сьціскае, хоча выціснуць ваду, а шаль прыліпае да пальцаў. Глянуў на рукі, а рукі ў чырвона-крывавых

плямах. Глянуў на грудзі,—і на грудзёх, і на сэрцы крывавая пляма. І так баліць, сьціскае моцна грудзі...

Карпіцкі варочаецца на ложку і сьціскае рукамі моцна жорсткую, ваўняную коўдру. Душна, баліць галава, як абцугамі сьціскае грудзі. Карпіцкі ўстае,—у пакоі і на дварэ пасьвятлела. Адчыняе вакно, каб удыхнуць сьвежае ранічняе паветра, астудзіць разгарачаную галаву і грудзі.

Пасьля паўночы месяц узышоў і бледна зеленаватым бляскам асьвятляе зямлю. Праз вакно пакою віднеецца мост. За мастом серабром блішчаць зьвіліны ракі, якія хаваюцца за паваротам. Вецер сьціх. Не ўзварухнецца галінка. Пяюць пеўні, а навокал ціш. Карпіцкі чуе, як моцна б'ецца сэрца, і нейкі сьвінцовы цяжар агарнуў голаў. Падыходзіць да акна з другога боку пакою. Зусім блізка кляшторная агарожа. Вось у адным месцы на ёй сарвана бляшанае пакрыцьцё і размочаная ад дажджоў сьцяна сыпле маленькімі асколкамі цэглу. Далей мураваная падпора сьцяны таксама абсыпалася. А за агарожай пад старымі ліпамі так ціха, спакойна, зусім змоўклі ліпы. Цішыня навокал, а Карпіцкаму так бурна, цяжка. Па-за кляшторнымі ліпамі, крыху далей, віднеецца цёмная пляма парку. Карпіцкі высунуўся праз вакно, каб пабачыць домік Таісы. Ня відаць яго, схаваўся за цёмнымі кляшторнымі ліпамі.

Карпіцкаму так хочацца зараз пабачыць Таісу. Неспакойна-трывожныя думкі цяпер напружана, упарта рояцца каля яе: „Чаму яе няма тут. Што яна цяпер адчувае? Так добра быць у гэтую хвіліну разам з ёй, гладзіць яе мяккія, шаўковыя валасы, глядзець у глыбокія цёмныя вочы з вільготнымі, празрыстымі, як кропля дажджу, куткамі, прытуліць да сябе, супакоіць, расказаць пра нешта страшнае, але якое было толькі ў сьне. Так, так, толькі ў сьне, бо ніякая стыхія іх не разлучыць. Няма тае моцы".

Сьвятлее на дварэ, за кляшторнай вежай усё больш чырванее неба, а Карпіцкі ня можа заснуць, ня можа супакоіцца, думае пра толькі што бачаныя вобразы, выразныя яшчэ ва ўсіх іх драбніцах.

„Які дзіўны сон, нібы прароцтва нейкае. Так устрывожыў і напалохаў сваёй таемна-жудаснай завірухай. Глупства ўсё гэта і зусім не прароцтва. Ды нават і ня сон. Думаў моцна аб ёй, вельмі не хачу, каб што-небудзь дрэннае сталася, вось і лезуць думкі ў галаву і малююць самае страшнае. Зусім не заснуў, а заўтра столькі працы".

*(Канец будзе).*

# ПАДАРОЖ НАЎКОЛА СЬВЕТУ ДВОХ ПРОЛЕТАРАЎ

*Апавяданьне*

**Гергарт Поль**

I

Па-над „надбярэжжам Жоліеты“ Марсэльскай гавані мёў пустахрыпаты містраль бруд апошніх тыдняў на запэцканую хваляватую бляху вады. За старанна складзенымі скрынямі ляжаў нярухома скрутак рызьзя на абшарпанай пляме сонца: памуленыя, спаленыя, латаныя і зноў трэснутыя майткі з манчэстэра з закатанымі штанінамі, якія зрабіліся каляными ад скарынкі бруду, і тонкая блакітная палатняная блуза (такія ўлетку носяць чыноўнікі), якой левая драная знадворная кішэня была заколата дзьвюма шпількамі. На канцы гэтай кучы ляжаў шэры, мяккі капялюш, заплямлены алеем і пахілы, на другім—пара дзіравых гамашаў з крывымі абсацамі ды пацёртымі пяткамі.

Раптам містраль быццам спыніўся парывацца ля барыкады скрынь, але ўзмацнеўшы пачаў асобнымі кароткімі штуршкамі праносіцца з-пад зямлі. Бо скрутак рызьзя пачаў паволі рухацца і спачатку затрэслася пад тонкай блузай, як лісьцё на вячэрнім ветры, потым зрушыліся майткі, як абалонка дужага вусеня, і зноў спыніліся. Цяпер задрыжэла старое рызьзё, заварушылася моцнымі кароткімі штуршкамі. Майткі з манчэстэра і блуза папаўзьлі адно на адно і набралі з зямлі невялічкую хвалю шэрага важнага пылу. Потым з скрутку рызьзя пачулася трапятаньне, рызьзё пацягнулася па надбярэжжу, шалёнае дрыжэньне і штурх, так што пацёртыя пяткі камашаў цьвёрда грукаліся аб каменістую глебу, гнуты капялюш пакаціўся ў бок, і зьявіўся вапенны высахлы твар, які аблямавалі два тонкія цуркі крыві. Чалавек ляжаў у корчах на мядзянай пляме сонца на „надбярэжжы Жоліет“ у Марсэльскай гавані.

---

Цяпер стаяў перад ім на каленках і нязграбна прабаваў чырвонай у кветках грубай хусткай у гузаватых пальцах сьцерці кроў і пыл нехта: ён сноўдаўся па надбярэжжу з рукамі ў кішэнях, апусьціўшы шыю, адсунуўшы назад шапку і сваімі вадкавата-блакітнымі вачыма, нібы шукаў нешта згубленае на грубых квадратах бруку надбярэжжа.

Калі хворы на зямлі расплюшчыў свае шэра-зялёныя мігаючыя вочы і ўбачыў схілены над ім чырвоны ад крыві, запалены твар з вусамі і вытырхнутым падбародкам, ён зморана ўсьміхнуўся.

„Ну, стары? Не варушыся! А то—канец!“

„Вы гаворыце панямецку!“

Першыя словы хворага сагрэлі вялізнага прысадзістага чалавека, які нязграбна сядзеў на карачках на зямлі.

... панямецку... урэшце... паперы... калі шпег... падняў...

Чалавек выдыхнуў паветра праз нос.

„Трошкі, іншы раз io parlo italiano (я гавару паітальлянску), але магу панямецку!“

Хворы ўсьмяхаючыся закрыў вочы.

„Wa bene“ (добра).

Потым пробаваў ён падняцца, адчуў спрунжыновыя мускулы рукі за сваёй сьпіной і даўся, як дзіця, сябе падсунуць, пакуль замест рукі не прытуліўся сьпіной да муру.

Калі яны сядзелі цяпер адзін побач з адным на надбярэжжы, з працягнутымі далёка нагамі, прытуліўшыся сьпінамі да драўляных загародак, і глядзелі на бледнае сонца зморанымі бліскучымі вачыма, іх можна было-б палічыць за двох валацуг, якія баяцца работы і думаюць толькі аб крадзежы ды ашуканстве.

Тымчасам хворы, які, відаць, хутка прышоў да памяці, сказаў:

„Шмат вандраваў, таварыш, ведаю шмат моў, адну, дзьве, чатыры, сем з роднай румынскай, ніколі не паверыў-бы, што буду калісь здыхаць у гэтай смуроднай яме“...

„Да гэтага мы яшчэ не дайшлі, сыньёр! Галаву вышэй і вочы шырэй! Хто ведае сем моў, знойдзе хлеб і на вуліцы, як праўда тое, што я завуся Вінтэрам і служыў пры пад'ёмным храпце!..“

„Лейбовічы, Марсэль з Тульцэа, потым Бухарэст, і з таго часу без затрымкі“.

Хворы праветрыў свой заплямлены капялюш з нязграбнай далікатнасьцю. Другі падняў два пальцы левай рукі да канту шапкі, глядзячы тымчасам над гаваньню ў далеч мора.

„Рыхард Вінтэр з Нэймархту ў Верхней Сылезіі, монцёр і пролетар, усюды і недзе дома, як і ты, мілы Лейбовіч...“

„Лейбовічы“, паправіў той і засьпяшаўся, калі пачуў, што другога ня цікавіць тое, як выгаварваецца яго прозьвішча, з старадзявоцкай саромлівасьцю:

„але, мы про-ле-та-ры—

(ён прапыніў кожны склад асобна, нібы яму цяжка было вымавіць гэта слова)—усе маем аднолькавы лёс“...

Замест адказу, Рыхард Вінтэр хватка плюнуў упорчывым рухам на галоўку канатнага цьвіка.

„Калі-б усе гэта разумелі, дык мы абодва не сядзелі-б тут на карачках і не паглядалі-б у паветра. Але пролетары ўсюды занадта прыдуркаваты і добрадушны. Толькі цяпер у Італіі я пазнаў гэта...“

„Ты быў у Італіі, таварыш, о, я добра ведаю Італію, прыгожая краіна, цікавая, пышная краіна...“

„...фашыцкая дзірка“.

На гэта Лейбовічы больш не адказваў. Маўчаў таксама і Вінтэр.

Дзьве пары вачэй жмурыліся на жоўтае сонца, якое павольна працiскалася над высокім масывам воблакаў...

„Ты быў у Мілане...“

„Турын“, прабурчэў другі.

...Асёл... шпег... штурх... сучок...

Ускочыў кароткім грукаючым рухам. Схапіў Марсэля за правую руку і старанна пацягнуў яго высока ўгару.

„Хадзі, мілы Лейбовіч, цяпер пойдзем палуднаваць. Маё бруха трэскаецца, ды і ты, здаецца, ня вельмі заплыў тлустасьцю...“

Калі Лейбовічы прамармытаў нешта незразумелае, Вінтэр пасунуў яго за левую руку перад сабой уперад.

„Дурнагаловы, я плачу—і ўсё. Ты мой спадарожнік і тлумач. Бо з праклятай францускай мовай мне ніяк ня справіцца. Бач, вось майму запасу слоў і канец...“

Калі яны, трымаючыся за рукі, пераходзілі плошчу Жолiеты, моцна грукочучы самаход з чужаземцамі прымусіў іх адскочыць у бок. На ім сядзелі добра апранутыя паны і пані ў веснавых капялюшох з яркімі парасонамі.

„Урэшце, Марсэль, як ты думаеш аб невялічкай падарожы наўкола сьвету? Мы ўдвох!“

Гучны сьмех Вінтэра раздаўся па плошчы.

Лейбовічы паглядзеў на кончык свайго левага бота, у дзірках якога зачапіўся дрот.

## II

Пасьля поўдню сядзеў Рыхард Вінтэр на паламанай лаўцы перад катэдрай, трымаў у левай руцэ пару абшарпаных асыгнацый італьлянскай валюты, а правую засунуў кулаком у кішэню, Вінтэр глядзеў на мора, якое аднастайна варушылася ўсьцяж берагу. Яго пуклявыя бровы кучаравіліся, на чале тры ўздоўжныя змаршчакі. Канцы яго вусоў рухаліся, як тэлеграфны дрот.

...30 лір... 50 франкаў... 8 марак... яшчэ два дні... з яўрэем... без чатырох... урэшце два... заўтра далей... Лейбовічы... тлумач... паперы... ці Корсыка... глупства... тут... рабочы па спэцыяльнасьці...

Падышоў Марсэль, дробна перабіраючы нагамі цераз плошчу, завялыя штаніны яго майтак з манчэстэру біліся аб яго схудалыя ногі. Непрызвычаены да хуткай беганіны, ён спатыкнуўся аб далёка выцягнутыя Рыхардавы ногі, абутыя ў цяжкія, добра зробленыя, пакрытыя пластом бруду, ваенныя боты. Хрыплае дыханьне, якое ішло з яго

лёгкіх, перашкаджала гаварыць, і ён бязмоўна падаў Рыхарду Вінтэру 50-франковую асыгнацыю. Той прыплюшчыў правае вока, пакратаў куткі роту і ня рушыў з месца. Як малюпаткія стракатыя сьцяжкі, віліся пад іх пальцамі на пасьляпаўднёвым ветрыку асыгнацыі.

„Ня крадзеныя, як ты думаеш, таварыш, але толькі здабытыя ў нашых людзей. Я быў спачатку ў рабіна—яго ўсе ведаюць і наведваюць у прыморскім горадзе, але дастаў толькі нямнога яўрэйскіх адрасаў. Гэта ўсё прыстойныя людзі. Яны шырока адчынілі свае портфэлі для беднага брата...“

„Такіх братоў і я жадаў-бы мець“.

Рыхард падцягнуў ногі і схаваў старанна свае грошы ў запісной кніжцы з чорнай цыраты, Марсэль сеў побач. Ціха сунуў ён асыгнацыі ў кішэню Рыхарда.

„...ты прыстойны чалавек, таварыш, хоць і хрысьціянін...“

Рыхард пачасаў сабе левай рукой патыліцу пад краем шапкі.

„Добра: шматок гэты я пакіну пры сабе. Для аднаго разрахунку разумееш. Сёньня мы яшчэ пажывём тут, потым добра павячэраем у гасьцініцы, а заўтра—пачнем: ты, як тлумач, я, як монцёр-спэцыялісты на паравых крантах. Сьмешна было-б, калі хто з нас не пранырнуў. А тады, Марсэль, тады мы яшчэ пагушкаемся“.

І з прычыны таго, што другі, здавалася, не зразумеў выразу, зрабіў Рыхард рух, быццам ён нешта ламае, і паказаў вялікія пальцы рукі аднолькавай даўжыні.

Па бяскроўнаму твару Марсэля прабегла шэрая ўхмылка.

„Ты ўжо, таварыш... Ты ўжо...“

Калі ён працягнуў цяпер ногі на сонца, дык убачыў Рыхард, як зношаны яго боты і майткі. Ён дастаў з кішэні хрусьцеўшыя асыгнацыі.

„На, ідзі, купі сабе крыху адзеньня. Даволі рызьзя“.

Шэрая ўхмылка зноў зьявілася на зморaным твары Лейбовічы, нярухомая і вострая.

Зусім ціха, нібы кожнае слова катавала яго грудзі, сказаў ён з няжывой ухмылкай на скамянелых рысах твару:

„Кон, нямецкі яўрэй, кампаніец фірмы „Dames de France“, даў мне, замест грошай, пару далікатных камаш. Я іх прадаў. Грошай больш, таварыш. Твае боты, добрыя, прыгожыя ваенныя боты, вытрымаюць яшчэ доўга, а я, таварыш... мне больш і ня трэба“.

З ціхім рыданьнем пасунуўся хворы ў рукі чалавека, якога нібы адкрывала якаясь таемная мэханіка. Сваей спрактыкаванай правай рукой Марсэль падтрымліваў асьцярожна пад пляча таварыша, быццам ён быў больш крохкі за тонкае шкло, а левай—ласкава падаючы яму руку, трапаў па схудалых сьцягнох. Галава таго рухалася кароткімі энэргічнымі штуршкамі. Вочы яго былі пакрыты волкім дыханьнем.

„Усё глупства... Тварыш... лёзунг—уперад!.. галаву вышэй“.

Як паслухмянае дзіця ў гэтых жылаватых руках, падняў Марсэль высока галаву ў блакітную сінь пасьля паўднёвага неба. Па абсіверанаму растрэсканаму вапеннаму твару сачылася вада.

„Сёньня адчуваю я, як ніколі, ясна, што Лейбовічы, Марсэль з Тульцэа хутка ўвойдзе ў краіну сваіх дзядоў, ты ня гневайся“.

Марсэль цесна прытуліўся да другога.

„Ты брат і чалавек, добры чалавек. Я больш не магу, не—я адчуваю гэта, таварыш, я сапраўды больш не магу“.

І, як жалезныя абцугі, да болю ўеліся ў руку Рыхарда шышкаватыя пальцы хворага.

„І калі я раскажу табе, што яны мне зрабілі—дзевяць доўгіх год—ты зразумееш, дзе мая сіла. Але—адно ты паабяцаеш мне, таварыш,—я буду называць цябе лепш Рыхардам,—ты павінен усяму паверыць, чуеш ты, усяму. Ніякіх папер няма ў мяне—як доваду, толькі тут адна...“

Марсэль памацаў, зморана ўхмыляючыся, сваё зношанае адзеньне.

„...забі мяне маланка на месцы, калі я хоць слова брашу...“

Вочы Рыхарда сьлізганулі па зялёнай, хвалістай далечы з вялікімі глыбока-сінімі сонечнымі плямамі. Ён крыху нахіліў галаву, і зморанае сьвятло зьявілася ў вачох хворага.

„Нарадзіўся я ў Тульцэа, у невялікім горадзе Заходняй Румыніі, звыш як трыццаць год таму назад. Бацька мой—вечны яму спакой—быў набожны яўрэй, вучоны, ведаў сьвятое пісьмо і тору. Мае бацькі мелі крамку дробнага гандлю, якая добра карміла нашу невялічкую сям'ю. „Марсэль, я хачу, каб мой адзіны сын зрабіўся рабінам. Грошы на гэта ляжаць у касе. Ідзі і вучыся“—казаў бацька, і я зрабіў, як ён казаў. Вучыцца мне падабалася, але і вялікім сьветам я цікавіўся. Хацеў у Бухарэст і Вену, і Парыж, і Бэрлін, і Лёндон. А што мне было рабіць рабінам у Тульцэа ці ў другім якім румынскім гняздзе мякіны. Нарэшце сказаў я бацьку, куды я імкнуўся, стары засумаваў, але маё жаданьне ажыцьцявілася. Я зрабіўся зубным урачом і трапіў у Бухарэст. Таварыш, ці ведаеш ты Бухарэст, невялічкі Парыж Бальканаў? Гэта найпрыгажэйшы горад на сьвеце, багаты, стракаты, з пышнымі палацамі ды вялікімі плямамі, раскошнымі магазынамі і мастацкімі помнікамі. Увечары па-над Бухарэстам плыве прыгожае поўнае сьвятло. Ах, я люблю гэты горад і сам дзіўлюся гэтаму. Бо ён даверу мяне і да вялікага няшчасьця. І вось у Бухарэсьце пражыў я тры гады, найлепшых у маім жыцьці. Малады быў я, меў грошы, дзевак, сяброў, а перада мной адкрыта ляжаў вялікі прыгожы сьвет, які я так кахаў, бо ня ведаў яго. Тут надышла вайна, і пачаліся мае няшчасьці. У 1916 годзе немцы захапілі Бухарэст. На ўсіх слупох былі прылеплены чырвоныя пісулькі: шукаюць тлумачоў. З прычыны таго, што наша зубалякарня была зачынена,—загадчыку трэ' было на фронт,—а мне ня было чаго есьці, я заявіўся. Тлумач—гучэла далі-

катна. Як глядзелі дзяўчыны ў Тульцэа: дантысты—і тлумач. Мяне прынялі. Цяпер павінен быў я справаджаць паноў афіцэраў, калі яны ішлі на рэквізыцыі. Трэба сказаць табе, таварыш, што яны, вашы паны афіцэры, ня трымаліся пры гэтым прыстойных звычаяў. З рэвальвэрам да сялян—давай віна і хлеба. Мне было шкода, і я хацеў адыйсьці. Але пан комэндант, дваранін фон Гронінгэн, паклікаў мяне ў сваю канцылярыю, нагаварыў мне кучу прыгожых рэчаў,—а фанабэрысты быў я тады, яшчэ зялёны хлапец, мо' дзевятнаццаці гадоў,—і я застаўся. „Гэта-ж вайна"—думаў я. „Ты-ж сапраўды нявінны ў вайне". І жылося мне лепш, як у мірны час. Калі ў 1917 годзе румыны адабралі зноў Бухарэст, яны адразу залічылі мяне ў войска. Пры гэтым пан штабны ўрач, тонкі і разумны чалавек, напісаў на маім пасьведчаньні, нібы я няпрыгодны да службы, як хворы на лёгкія. Спачатку я нічога з гэтага не заўважыў і мне трэ' было-ж есьці. І вось я зрабіўся даручным. Але ўсе сярод вайскоўцаў былі да мяне дрэнна настроены, штурхалі ды лаялі: „жыд, зраднік". Чаму-ж я зрадзіў? Зраднік? Як і чаму слова „жыд" зрабілася адразу лаянкай. І вось я зрабіў першае глупства. Замест таго, каб трымаць рыла закрытым, пайшоў я да нашага камандзіра, пана маёра Катыяна. Яго я вельмі шанаваў, бо ў мірны час ён быў слынны адвакат, аб якім пісалі ўсе газэты. Далікатна запытаўся я ў яго,—таварыш, я ніколі ня быў нясумленны,—тады ён рыкае на мяне: „выбірайся, сьвіньня, паскудная, смуродная жыдоўская сьвіньня, зраднік айчыне", і кідае бізун мне ў галаву. Далікатны адукаваны чалавек—і вось што робіць. На другі дзень наш лейтэнант Тодэрэску адкамандыраваў мяне на фронт Домнэсты. Там стаяў я па восем гадзін штодня на 30-градусным марозе на варце. Аднак-жа я быў у добрым настроі, радасны, як дзіця вясной. Бо тут было толькі пяць таварышоў, якія давалі мне спакой, а ў Бухарэсьце жыла Фані, мая нявеста, мілая добрая дзяўчына. Мой лёзунг быў: ня ўсе задаволены вайной, усё-ж такі будзе і ёй калісь канец. І вось адным халодным вечарам,—вецер мёў па абледзянелых сьнежных палёх,—гаворыць мне мой таварыш Міхалеску, калі я вярнуўся з варты: „Слухай: званілі з палка – заўтра ў восем гадзін раніцы табе трэба зьявіцца з рапортам у полк". І вось я наўцёкі, дваццаць кілёмэтраў пехатою, уначы, на сібірным ветры, які пранізваў мае грудзі. У пяць гадзін я быў ужо ў Бухарэсьце. Выгадаў тры гадзіны, якія я мог прабыць у маёй Фані. Вялікая радасьць: мы кідаемся адзін аднаму на шыю, пацалункі, і я паказваю ёй забаронены лісток, які даў мне адзін таварыш у Домнэсты. „Вільсон робіць згоду" было там напісана, потым мы правялі дзьве шчасьлівыя цёплыя гадзіны, моцна абняўшыся ў ложку, і ўвесь сьвет быў для нас поўны сонца. Адыходзячы, пацалаваў я дзяўчыну і, зусім п'яны ад шчасьця, закрычаў ёй: „да спатканьня, мая даражэнькая, можа сёньня ўвечары на нашым рагу, напэўна-ж у нядзелю". Адкуль было мне ведаць, што я яе больш ня ўбачу, ні-ко-лі ў сьвеце ня ўбачу".

Рыданьне задушыла апошнія словы. Хворы пуста захаркаўся. У куткох роту паказалася трошкі чырвона афарбаванай сьліны.

Рыхард хацеў пагладзіць хворага па каленах, але сталёвыя шыны трымалі, як абцугі, яго левую нагу.

„Таму, што я цяпер расказваю, ты Рыхард, напэўна, не дасі веры, і ўсё-ж ткі гэта простая праўда. У бюро комэндатуры мяне прымае Тодэрэску з газэтным лістом у руках. „Чытай, быдлё!“ Толькі хачу я выканаць яго загад, хапаю лісток, як бачу: ён паднімае са стала рэвольвэр. Я на крок адступаю і ўжо хістаюся. Ён б'е мяне па твару ручкай у пэрлямутравай аправе так, што кроў пырскае на вокладкі актаў. Я чую сьвіст бізуна ў паветры, ляск па майму мундыру—удару я не пачуў—і рык: „сьвіньня, жыд, Тэрэнтэ“ і ўсё зноў: „Тэрэнтэ“. Хто завецца Тэрэнтэ, ты, ён, трэці? У маёй галаве шуміць як-бы цурок р-р-р-р-р...“

У Лейбовічы забулькатала ў горле.

„пакуль я не зваліўся. Тут, таварыш, паламаныя зубы, у левым баку верхняй сківіцы пабудаваны мною-ж мост, ніжнія пярэднія, як іх завуць, зубы ўсе штучныя, а тут на верхняй губе—зажывы...“

Тонкія пальцы Мэрсэля паказалі кавалак „поля бойкі“, афарбаваны шрапнэльным агнём.

Рыхард абхапіў сваёй левай рукой дзіцячае тонкае плячо таварыша.

З яго вуснаў, напалову адкрытых ад натугі, пачуліся словы:

„Што казаў Тодэрэску? Тэрэнтэ? чаму? Можа—ён разбойнік? Тэрэнтэ?

Спалоханы бледны дзіцячы твар зморшчыўся ў сударжнае рыданьне. Але ні гуку ня было чутно.

„Марсэль Лейбовічы павінен быў зрабіцца Міхалам Тэрэнтэ, якраз атаманам разбойнікаў, як ты кажаш. Ня верыш. Я сам гэтаму не даваў веры і ўсё-ж такі так яму прышлося.

Але я раскажу далей. Прачнуўся я ў ваенным шпіталі, быў абвязаны і слабы. Там расказаў мне адзін салдат-санітар, што ўласна сталася—форт Домнэсты ляжыць далёка, і я нічога ня ведаў, ня ведаў, чаму Тодэрэску так апрацаваў мяне пісталетам, бізуном і ботамі са шпорамі, што пена цякла ў яго з рыла. У аднэй газэце ў Бухарэсьце якісь наглядач напісаў артыкул „Тэрэнтэ ў войсках“. Чалавек гэты, якога я зусім ня ведаю, сьцьвярджаў, быццам я, Лейбовічы, Марсэль, і ёсьць той страшны бандыт Дунайскай дэльты, кароль балот, які накладаў даніну на сёлы, рабаваў пошту, забіваў людзей і ўсё-ж ткі ня быў схоплены сыгуранцай. Сярод артыкулу быў і мой портрэт. Калі я прачытаў артыкул, які быў адзінай вялікай, бруднай брахнёй...“

Ад сьлюны, якую Марсэль выплюнуў на высахшую зямлю, засталася невялічкая мокрая пляма з цьмяна-чырвонымі кантамі.

„...Я быў так усхваляваны, зусім бяз памяці, ты зразумееш, таварыш: гэткая неймаверная подласьць,—але станцыйны ўрач, яўрэй, шля-

хетны і адукаваны чалавек, зноў палажыў мяне на падушкі: „тут ніхто нічога ня зробіць вам. Ляжэце і ачуньвайце. Гэта першая ваша задача. А пасьля пабачым. Палажыцеся на вашага ўрача". Але я быў неспакойны, мяне трэсла, я гаварыў усялякую лухту. Цурок у галаве гудзеў і выліваў на мае вочы жоўтыя, зялёныя ды чырвоныя фарбы..."

Марсэль утаропіўся сваім гарачкавым узрокам на хлебнага жука, які поўз па гладкіх брукаўцах па зямлі.

„З таго часу пачаў я харкаць крывёю. Лявіна пакацілася, гэты страшэнны крывавы клубок, які павінен быў сарваць мяне ў бяздоньне... На пятнаццатую ноч,—я сёньня яшчэ памятаю гэту дату,—зьяўляецца ўрач да майго ложка. Ён нізка нахіляе галаву нада мной. Ён шэпча мне паяўрэйску: „цывільнае адзеньне ляжыць на правым канцы калідора, грошы ў бочнай кішэні, на Strada Victoria стаіць самаход, давязе цябе да граніцы, тут табе небясьпечна, таварыш", каротка ціскае мне руку і шэпча ўпоўголас: „пульс 32, тэмпэратура 37,2". Як перадаць мне, што я перажыў за гэтую ночную паездку на самаходзе. Магутны струмень, Місысыпі ці Дунай, захапіў трэсачку сваёй нястрыманай хваляй. Гэтай (трэсачкай) быў Марсэль, а Місысыпі—яго адчуваньне. З васей самахода гуло, у тэлеграфным дроце ўсьцяж дарогі нешта пяяла, у гудкох ды гуках, у скрыпе тормаза, усюды чуў я толькі адно ціхае найзначнейшае ў сьвеце слова: свабода. Напэўна, ты разумееш мяне, Рыхард, і ўсё-ж ткі я быў ідыёт, бо я павінен быў уцяміць, што для нас, для бедных яўрэяў, няма больш наогул вольнасьці ў Эўропе..."

„А для другіх пролетараў?"

Рыхард прытуліў вялізарную верхнюю частку цела да выпетранай сьпінкі лаўкі так, што яна пачала трашчаць.

„У пролетараў няма радзімы, пісана ўжо ў комуністычным маніфэсьце. Гэта ня толькі пра пару яўрэяў".

Пануранаы ў сябе глядзеў Марсэль у паражнечу.

Амаль што бязгучна вымавіў ён:

„Я нічога не разумею ў політыцы. Мой бацька заўсёды заклінаў мяне: „сынку мой, ніколі не займайся політыкай, гэта прыносіць толькі няшчасьце". Я слухаўся старога Арона і ніколі не рабіў політыкі, і ўсё-ж ткі няшчасьце напала на мяне".

Рыхард зрабіў рукой рух зьнявагі пры такой някемнасьці. Нейкая сьцяна вырасла паміж іх. Каб яе зьнішчыць, немец казаў:

„Ну, таварыш, расказвай далей, што з табой здарылася, што цябе штурхала. Я вельмі зацікаўлены!"

Марсэль расказваў:

„Так, штурхала, ты ўжываеш адпаведнае слова, Рыхард,—штурхала на ўсе бакі. Яны штурхалі мяне па ўсёй Эўропе. Я быў ва ўсіх гарадох маіх юнацкіх сноў—акрамя Парыжу—і яшчэ шмат другіх, па якіх я нудзіўся. Але ня пытайся аб абставінах. Як палонны паліцыі, як уцякач,

як фальшавальнік пашпартоў, бадзяга... у голадзе, холадзе, хворы. Нарэшце, у Гыургыу пражыў я тры тыдні пад падстрэшкам гандляра скур—яўрэя. Тут на сцэну зьявіўся фальшывы пашпарт. „Аляксандар Фогга", чалавек з вялікай чорнай барадой, якога ты не пазнаў-бы, Рыхард, паехаў, як вугляр на старым італійскім параходзе „Брындызі" ў Канстантынопаль. Адтуль хацеў я ў Палестыну—туркі, тады яшчэ ворагі Румыніі, ня пусьцілі-б мяне. Ні консула, ні дапамогі—нарэшце да саюзьнікаў. На „Россі", які стаяў па шмат дзён у кожнай гавані, матаўся я цераз Сьмірну, Крыж, Пірэй, Патрас (юга-слаўскі порт) міма Палестыны чатыры месяцы да Трыэсту. Тымчасам надышла згода, па якой я маркоціўся, як і па сваёй Фані. У кожным выпадку аб згодзе пісалі ўсе газэты, гаварылі ўсе людзі. Калі-б ведаў ты, мілы Рыхард, які шчасьлівы быў я тады. Я чуў усюды званы, бачыў белых анёлаў, і сьлёзы каціліся па маіх шчоках, якія тады былі яшчэ даволі поўныя і загарэлыя. Аб згодзе пісалі ў газэтах, так! а я ўжо дзевяць год шукаю яе..."

Упэўнена гаварыў гэтыя словы Рыхард, быццам ня былі яны аформлены дзесяткі гадоў таму назад Каролем Марксам, але толькі цяпер знойдзены ім самім, як балянс усяго лёсу гэтага малюсенькага чалавека.

„Тое, што ты гаворыш, таварыш, да таго бязрадасна праўдзіва, што я зароў-бы. І ўсё-ж ткі... ніколі я гэтага ня ўцяміў".

Кароткае гаўкаючае рыданьне вырвалася з спустошаных грудзей.

„Але я не хачу красьці нашага часу, хоць і не крадзеж пэўна браць тое, што нічога не каштуе... У Трыэсьце сыньёр Тано быў кіраўніком яўрэйскай эміграцыі. Мілы чалавек, поўны ласкі, як цудоўны рабін з Хоновіц і разумны, як патрыярх, з даўгой барадой і хітрымі сінімі вачыма. Ён пісаў усюды—у Лёндон і Ерузалем, у Загрэб і Бухарэст—зьбіраў конфэрэнцыі і рабіў візыты. Быццам Лейбовічы Марсэль быў ня ўбогі дантысты і абадраны ўцякач, а Хаім Вэйсман уласнай пэрсонай. Ды што мне доўга гаварыць: усё было спаганена. Урачы казалі: лёгкія, а ангельцы:—пашпарт. Якраз гэтыя дзьве рэчы ня клеіліся. Тут і сыньёр Тано ня мог дапамагчы. Урэшце з „калі-б былі грошы..."

Грубыя абломкі сьмеху нянавісьці зазьвінелі па плошчы.

„...цябе, дурня, добра прымалі-б і ў Трыэсьце, і ў Нью-Ерку, і бадай у Гонолулу. Усюды ёсьць пышныя готэлі для ўцекачоў, „зайцаў" ды сьвістуноў. Трэба толькі грошы".

Хворы не дачуў адказу. Ліхаманкавыя сны ўспамінаў хвалявалі яго.

„Нашто асобныя мясцовасьці, хіба я географія. Я зрабіў падарож наўкола сьвету, цудоўную, вялікую падарож праз краіны згоды,—быў у Мілане, Рыме, Загрэбе, Вене, потым у Стразбурзе. Усюды паліцыя, паперы, дазвол, высланьне. Усё тое самае ва ўсіх краінах. Ах, як надта бязрадасна—уначы шукаць страчанага... Толькі аб адным я раскажу

табе яшчэ, бо гэта, можа, цікавіць цябе. Быў я і ў Нямеччыне, таварыш, у тваёй бацькаўшчыне.

Другі прашаптаў нешта і плюнуў на „загарадкі“.

„...і там жылося мне найлепш і пры гэтым цэлых дзевяць год. Калі я мусіў пакінуць Францыю, я забраў свае грошы—у страсбурскай зубалякарні я добра зарабляў і паехаў у Бэрлін. Там пайшоў я на Бэндлерштрасэ да вайсковага начальства, якое цяпер называлася „рэйхсвэр“. У галаву прышла мне думка: хто даверў цябе да гэткага няшчасьця, той павінен цябе і вызваліць. Я патрабаваў пана міністра, швайцар усьміхнуўся неяк брыдка. Быў-жа я тады адзеты, як далікатны пан, прыгожы шэры ковэркотавы гарнітур, капялюш, палка, камашы. Я раззлаваўся, напісаў заяву, далажыў усе мае дакуманты і паслаў пану міністру заказным лістом. Кожны дзень пытаўся я адказу — дарэмна. Але я быў упарты. Мяне браў і страх: Куды мне, калі і яны адпіхнуць мяне. Нарэшце—прайшлі ўжо чатыры дні—мяне паклікаў нехта ўладны. Дзяржаўны дырэктар ці, як павашаму ў Нямеччыне, субміністар. У кожным разе я сказаў яму „Ваша яснавяльможнасьць, пане міністру“, што яму, я думаю, вельмі спадабалася. Я расказаў яму ўсё па праўдзе...“

„...дурная сьцерва“.

Зноў прасьвісьцеў камяк сьліны цераз загародку.

„У гэты раз, таварыш, я не зрабіў глупства. Бо ўжо на заўтра атрымаў асыгнацый на пару тысяч, праезны білет і ліст, які мне трэ‘ было здаць да Контынэнтальнага заводу ў Гановэр. Там мяне адразу прынялі, як дробнага мэханіка. Прашло сем месяцаў і шчасьце ўсё не пакідала мяне. Тады Вэльзэвул паслаў жанчыну мне на шлях, прыгожую жанчыну, я кажу—лёс...“ і засьмяяўся.

„Тут зрабіў я трэцяе і найвялікшае глупства ў маім жыцьці. Але я быў такі адзінокі, таварыш, а дзяўчыне трэ‘ было ў Фленсбург. І я паехаў разам. Я думаю: ты і там знойдзеш работу, а пан міністар і там абароніць цябе. Але гэта былі мары закаханага. І вось—подкуп... Уцёкі... Голяндыя, Бэльгія. Голад, холад—і ўсё кроў у лёгкіх. Потым Антвэрпэн. У Соўгэмптоне я раптам зноў Тэрэнтэ. Пара румынскіх штурманаў павалаклі мяне на „Елену“, бо хацелі зарабіць пяць тысяч лэй прэміі. Бо сыгуранца, якая закатавала і забіла ўжо шмат людзей далікатным спосабам, не магла заарыштаваць „караля балот“. З кожным месяцам павялічвалі яны прэмію, а дурні з „Елены“ думалі, што яны злавілі, урэшце, вялікую рыбу. Тут удалося мне ўцячы з вуглянай ямы, куды яны мяне засадзілі. У раньні змрок, калі лодка стаяла ўжо пад парамі, праплыў я ціха па гнаёвай жыжцы Vieux Port‘a. У падбярэжжа Port‘a на той бок...“

Касьцьлявая рука паказала наўскасяк на басэйн.

„І вось ляжала куча сьмярдзючага паскудзьдзя, калі ўзышло сонца. Ні бялізны, ні папер, ні грошай. І ўсё думаў: ну, сьвет гіне; але так

напісана ў бібліі. Усё гніе, сьмярдзіць, гіне, і пры гэтым у мяне была ўсё-ж такі вольнасьць. Воль-нась-ць, таварыш Рыхард!“

З дрынкатлівым шалёным сьмехам раптам ускочыў, хворы. Ускочыў, хістаючыся, да каменных загародак плошчы, сударажна хапаў левай рукой вапняк, а правай страсаў у паветры з такой сілай, што ўсё яго цела пачало дрыжэць, быццам яго ахапіў выбух вантробаў.

„—там, таварыш, там стаіць залаты ідал вольнасьці. Бачыш ты там Рыхард, статуй Notre Dame de la Garde, Марыю з дзіцем, як блішчыць на сонцы яна, гэтая шатанская пахабная разьба. На гэту кучу каменьняў, трохі абмалёваную золатам, на гэтую праклятую кучу здалёк пазіраюць мараплыўцы, у гэтую пагардлівую балванскую морду веруюць дзьвесьце мільёнаў шалёных на сьвеце, як ва ўласнае жыцьцё. Сто семдзесят мільёнаў плююць на яе, як на кавалак бруду. А яна стаіць ды шчэрыць зубы і пацяшаецца з таго, як Лейбовічы, Марсэль з Тульцэа, прачмыхае свае лёгкія невялічкімі кавалкамі, як паршывы сабака, кавалкамі, якія больш не нарастаюць, пакуль ня зьявіцца яшчэ труп. І ніхто не дапаможа мне... ніхто...“

Зусім ціхі плач пачуўся з зморанага.

„Пойдзем, Лейбовіч...“

Падушка мускулаў, якая зноў мірна прыляпілася да яго сьпіны, здавалася, давала спакой ліхаманкаваму.

„...тут угары прахалодна, дый час паесьці“.

І высока падрослае, вузкагрудае дзіця затрусіла ў руках прысадзістага мужчыны, які шырокімі калыхаючымі крокамі марака перасек катэдральны пляц.

А за імі няўмольна закрывалася чорнае мора ночы.

## III

Вузкія струмені маленькіх памяранцаў каціл апошнія пасмы вячэрняга сонца праз пахілую вулічку бяз назвы ў старым горадзе. Тут і там спыняліся яны на кучах сьмяцьця ці на растаптаных брудных чарапашках—рэштах таннага полудню.

З прадзіраўленага гаршка, які стаяў сярод дарогі ў нізіне бруку, паднімаўся вадаграй мяккага пылу ў асьветленае сонцам паветра. Гуляючыя дзеці прыслухоўваліся да гукаў прыроды. Зьнізу ішлі цяжкія крокі.

„Ну, а хто ўчора насупліваўся і соваў галаву ў рышток? Ты! А чыя была праўда? Рыхарда Вінтэра“.

Гучна выцяў ён рукой па валасатых грудзях у кашулі з белымі кропкамі.

„Я кажу табе, Лейбовіч, мы тут, як граф—Роц (сапляк). Яшчэ 70 франкаў у кішэні—і ўжо палажэньне. Як дурная малпа, на якую пазіралі матросы моторнай лодкі. Але калі ён пачуў, што я монцёр, ён супакоіўся...“

На раскат сьмеха адказала слабае звонкае водгульле.

„Ты, пакуль я не забыўся... пашана, сыньёр. Вы маеце сёньня выгляд, ну, як капусны барон з Сылезіі, які трохі занадта добра пажыў „у гарах“, зьлёгку зморыны, але шыкоўны гатунак...“

Рыхард ляснуў языком, і слабае звонкае водгульле зноў адказала яму. Голены твар Марсэля, на якім па левай шчацэ ішоў белы рубец, хутка глянуў на шэры сьмех хворага.

А заўтра купім табе, урэшце, уласны гарнітур, далікатную кашулю, прыгожыя жоўтыя камашы і, калі хопіць грошай яшчэ, і капялюш. І вось гатовы пан, які сем моў праз нос добра ведае, і вось будзе сьмеху, паршывец“...

Галава Марсэля хутка захісталася. Жарты Рыхарда, відаць, асьвяжалі яго. У кожным разе ён прабаваў выпрастаць грудзі і цягнуўся растапыранымі пальцамі да ніцяй пылу, якія варушыліся на сонцы.

„Калі-б так назаўсёды засталося... можа... я не адважваюся і думаць аб тым... А ты такі добры да мяне, такі добры, як толькі можа быць яўрэй да другога яўрэя...“

„Дурань, пролетары дапамагаюць адзін аднаму. Гэтым пачынаецца абэцэда згоднасьці. А ты слухаешся тых вярблюдаў, аб якіх нагаварылі табе глупства твае дзяды сто год таму назад і заўсёды акуратна траплялі ў сьмяцьцё. Раней у Нямеччыне я і ня ведаў, што ёсьць яўрэі, якія таксама рабочыя. Іцка і далікатны буржуй Пінхэль былі ў мяне ўсё адно і тое самае. Калі я пасьля працаваў у гары ў Татры на славацкай фабрыцы, былі там тры таварышы, яўрэі, найдалікатнейшыя людзі, кажу я табе, і добрыя пролетары...“

Зноў раздалося водгульле на гучнае ляскаце.

„...і таму, што мы тут так сабе шпацыруем і нічога іншага ня прыдумалі, дык я раскажу табе, што са мной здарылася і хто-ж я ўласна. Сьпярша думаў я, можа ты якісь агент, асьцярожнасьць перш за ўсё! Але зараз ведаю я, хто ты, і будзе, бадай, добра, калі і ты пазнаеш маю асобу. І вось я завуся зусім ня Рыхард Вінтэр...“

Марсэль спытаўся. Бясклопатна ішоў другі далей.

„...а Альбэрт Ваніэркэ. Бо Рыхард Вінтэр ёсьць толькі кучка сьмяцьця і касьцей на „Chemin de Dames“ у Фляндрыі. Бо ён у ваенным бяздоньні меў амаль такі самы выгляд, як і я, я забраў яго паперы. Няўжо-ж патрэбны былі для расстрэленага асабовыя пасьведчаньні? Я меў тады гэткі нюх. Мо' і ты можаш так пакарыстацца. Пасьля выправіў я сабе і пашпарт па гэтых дакумантах. І вось я завуся Рыхард Вінтэр, разумееш, Лейбовіч. Пашпарт быў маім анёлам-абаронцам, як кажуць папы. У 1918 і 1919 годзе я быў са спартакаўцамі. Але калі яны хацелі мяне схапіць, дык не: Альбэрта Ваніэркэ больш ня было, затое ў Дусэльдорфе ці Кёнінзбэрзе быў Рыхард Вінтэр. І вось аднойчы,—я быў якраз у Гале на пабудове тунэлю, як я табе ўжо расказваў,—нам, пролетарам, даводзі-

лася туга. Буржуазія і соцыял-дэмократы, гэтая сволач, напалі на рабочых. Не, думаем мы, гэта дарма ня пройдзе, і добра ўсё з'арганізавалі. І вось мы падкладаем пад чыгуначны мост дынаміту, які мы дасталі з Леўны і—бах! мост выбухнуў, як дзіцячая бурбалка. І зноў нічога. І кажу я таварышом: „Альбэрт Ваніэркэ на ўсё вас падбухторыў“ ды і ўцёк у Чэхію. Рыхард Вінтэр атрымаў—усё-ж гэта лётэрэя—адразу зноў пасаду, і тут я здорава павандраваў: Аўстрыя, Сэрбія, Константынопаль, Сьмірна, Александрыя. Маё гора было, што пролетары па краінах нічога не разумелі ў машынах. Машына для іх была пара колаў і шпянёў. Але не, мой мілы Лейбовіч, машына жыве, як чалавек ці жывёліна. Яна даручана таму, хто ўмее з ёй абыходзіцца. Урэшце, па горла было мне ад розных тропікаў, жужаляў і вечнага жраньня алею, думаю проста з Александрыі махнуць у Нямеччыну, і вось прыходзіць заказны ліст ад аднаго добрага таварыша, ён даведаўся, што I а ёсьць палітычная паліцыя Нямеччыны; ты, вучоная галава, цяпер ведаеш, што Вінтэр і Ваніэркэ адно і тое-ж. Як-бы ні так—а заўтра мой човен ад'яжджае. Сем фунтаў к чорту, Альбэрт, і валяй адважна, як Оскар. Але ў Генуі мне стала падазрона і я думаў: не—дзесяць год адсядзець, ня трэба гэтага. Заставайся проста тут. У тваёй прыгожай, дзіўнай, гордай Італіі“.

Яго голас пераймаў голас Лейбовіча.

„—у гэтай фашыцкай крамцы яны будуць шукаць цябе перш за ўсё. І якраз правільна. Зрабілі ўсё у Генуі. Бачаць мае паперы і скачуць ад радасьці: адзін ёсьць. У Турыне нейкі бонза махаў нешта, але я не разумеў гэтага. А ў Турыне была ў мяне пасада—во!“

Ён напружыў мускулы так, што правы рукаў падняўся.

„—дваццаць сем месяцаў працаваў ужо я там з далікатнымі таварышамі, толькі сапраўднымі комуністымі, і вось прыходзіць такі дурань анархісты, які таксама завецца Вінтэр, да мазгі высушаючай думкі—забіць пана „Duce“ (Муссоліні) і яшчэ ня цэліць. Увечары я ляжу ўжо ў чаўне, таварыш Альбэрты прыносіць мне падарунак, я адтуль вон, адзяюся, бяру грошы ды паперы і на чыгунку. Хутчэй, як задумаў. Шчасьце, што чыгуначнікі ведалі, што я сёньня тут працаваў, а то я-б і не вярнуўся больш. Перад граніцай з цягніка,—Зуза завецца гэтае гняздо,—і пасьля да Цаніцкай краіны. Там я, седзячы на карачках у шчыліне скалы, цэлы дзень у чадзе, ляскаў зубамі, як на паўночным канцавосьсі. А ўначы зноў далей з кішанёвай лямпай, невялічкім компасам і картай, якую я захапіў у маіх гаспадароў. Уначы, думаў я іншы раз, усё разам ёсьць, Альбэрт і паршывы вецер, і холад. Там ты, хлапец, замарозіў сваё лёгкае і выплюнуў адным кавалкам. Калі надышоў дзень, убачыў я тут-жа пад сабой французскую вёску Модан. Адтуль згінуў я сюды, бо ў партовым гнязьдзе можна згінуць, як у балоце, і ніхто ня знойдзе цябе. Сапраўднага Вінтэра ўначы схапілі ўжо карабінэры, калі я ўцёк, але скуль-жа мне было ведаць гэта...“

Цяпер дамы расьлі адзін пад адным. З вузкіх вуліц даносіліся шум і смурод. Мясістая жанчына, сьцягны якой былі адзеты ў брудную горную паркалёвую спадніцу, і тлустыя мясістыя грудзі віселі, як мяшкі з адкрытай кофты, з нафарбаваным тварам і раскудлачанымі чорнымі валасамі, загарадзіла абодвум дарогу.

„Ну, таўсьцёха...“

Рыхард зьлёгку выцяў рукой яе па выступаючаму заду. Раздаўся тлусты сьмех жанчыны.

„Міленькі...“

„Хочаце, мо' бульбяную поліўку, ці гаворыце пафранцуску?“

Сьмяяўся Рыхард, усьміхаўся Марсэль.

„Лейбовіч, ты, обэр-тлумач, скажы ёй, каб яна пашанавала свой голас. Мо' пазьней...“

Махаючы жанчыне шапкай:

„Да пабачэньня, сыньёра“

і зьвярнуўшыся да Марсэля:

„Ну, цяпер гайда; што гаворыць таварыш Сабіяні?“

## IV

Яны прайшлі наўскасяк праз чадны брудны бар за буфэт, на бляшанай стойцы якога стаялі напалову парожнія бутэлькі, перакуленыя шклянкі, ляжала сушаная рыба, рэшта чарапашак, кавалкі хлеба, у добра закрытыя патайныя дзьверы. Перад імі адкрылася памяшканьне, шэсьць мэтраў удаўжкі і напалову шырынёй, з нізкай столі пара ігрушападобных электрычных палілак разьлівалі слабае сьвятло. Лямпіёны, якія віселі на дроце ў невялічкай салі, ня былі асьветлены. Чалавек у сінім, алеем запэцканым, у палатняным адзеньні, з морскай шапкай на патыліцы, з старанна завязанай на шыі шаўковай хусткой, з папяроскай у правым кутку рота, зашморгаў нязграбнымі драўлянымі ботамі ім насустрач.

„Куды?“

і сьцісנуў ім рукі, калі шпарка прагледзеў адну з папер Рыхарда, якую яму растлумачыў Марсэль.

„Таварышы“.

Абодва яны знайшлі ў левым заднім кутку яшчэ два садовыя крэслы і селі нязграбна з крайчыку. Невялічкую салю, над якой вісеў, як нежны полаг, жоўтазялёны воблак тытунёвага дыму, напаўняла няскладнае зыканьне, грудзеньне, шэпт, выклікі, сьмех, быццам з тысячы глотак. Побач з Рыхардам сядзелі за шашкамі два тоўстыя нэгры з прапацелымі каляровымі фэскамі на галовах, з тоўстымі чырвонымі губамі і скурай чырвонага дрэва; гучна стукалі драўляныя шашкі пад муканьне чужаземных слоў. Патроху Рыхарда пачало ахапляць новае акружэньне. Ён цьвёрда ўсеўся на сваім крэсьле, так што слаба заскрыпелі мэталёвыя завескі.

Марсэль усё яшчэ сядзеў нязграбна з крайчыку з бяссэнсоўным тварам, па якому часам прабягаў нядоўгі жах.

„Лейбовіч, паглядзі на таго ў... пятым, шостым... у восьмым радзе, з маленькімі бакамі і добра напамаджанай, як у фэльдфэбаля, барадой. Ці ня будзе гэта швайцар вайсковага міністэрства, які выскаліў на цябе зубы...“

Па твару Марсэля прабегла ўсьмешка.

Рыхард сунуў сабе ў зубы невялічкую цыгару.

„Глядзі, хлопец, людзі тут падобны да нас, калі мы хадзілі, здаралася, на баль: крывыя шапкі тухірам, шалі, чырвоныя набрушнікі, стракатыя хусткі на сьпіне, шырокія майткі, няголеныя твары — усё тут, а ўсё-ж такі гэта сапраўдныя пролетары. Ты, палітык, нічога ня бачыш, а ў мяне на гэта навостраная вока. З імі разаб'ю я ўшчэнт цэлы эскадрон паліцэйскі... Калі яшчэ яны разьюшаны, хлапец... Уяві сабе толькі...“

Яго невялічкая цыгара паміж трох пальцаў паказала на прысадзістага чалавека, магутныя грудзі якога пакрываў цёмна-сіні ваўняны сьвітэр. Чырвоны шалік заканчваў сьвітэр на бруху. За ім пачыналіся шэрыя майткі. Зусім новая сьветла-жоўтая падарожная шапка сядзела адзінока на напамаджанай кучы тлустых валасоў. Хістаючыся на крэсьле, чалавек адбіваў тахт марсэльезы жоўтымі добра вычышчанымі галёшамі па чырвоных пыльных плітках падлогі, засунуўшы два магутныя пляскатыя паказальныя пальцы, сапсаваныя цяжкай працай па мэталю, пад драўляныя паземныя поручы крэсла.

„...быццам на барыкадзе. Чырвоны сьцяг у лапе. У буржуазіі сэрца ўжо ў забруджаных майтках“.

Марсэль ня рушыўся. Ён зацікаўлена глядзеў на геаграфічную карту, стракатыя фарбы якой былі забруджаны мухамі, быццам яны тут шукалі месца, дзе-бы паражніцца. Рыхард з прыемнасьцю сасаў сваю цыгарку, выпускаў з шырока адкрытага рота воблакі дыму і моцна ўставіў свае ногі ў падлогу.

Зьлёгка паказваючы галавой налева, быццам яго суседзі разумелі панямецку, ён ціха шапянуў Марсэлю:

„Ці гэта таксама таварышы?“

Тут пасярэдзіне салі падняўся шум.

„Што яны кажуць? Марсэль, перакладзі-ж, чаго сядзіш ты тут?“

„...ужо даўно дзевяць! Сабіяні! Пачынаць! Сабіяні!“

Прамармытаў той сабе, нібы ў сьне.

„Пачынаць!

Нямецкае слова няскладна і жорстка раздалося сярод закруглёных форм францускай мовы, якая запаўняла памяшканьне. Пара тузінаў галоў заківаліся. Чвэрць салі, дзе сядзеў Рыхард, раптам застыла, пачулася мармытаньне зьдзіўленьня. Аднак пара драўляных ботаў застукала

па радох: „не фатыгуйцеся: нямецкія таварышы, маюць паперы і нам таварышы“.

Тады прамоўца зайшоў за невялічкі, крывы пульт, які адзінока стаяў на моцным, зялёным стале. Гэта быў той самы чалавек, які толькі што гучна барабаніў марсэльезу.

Шырокая рука, якая цяжка звалілася на пакрыўку пульта, спыніла гутаркі і сьмех у памяшканьні.

„Два нямецкія таварышы—нашы госьці. Вітаем іх ад імя камітэту рабочых і сялян Марсэлю“.

Па салі раздалося, як водгульле:

„Віват, Жызэпэ! Віват, Сабіяні! Ура нямецкім таварышом!“

Рыхард ківаў часта і энэргічна. Яго твар паказваў усьмешку задаволеньня. У рысах твару Марсэля, які ўсё яшчэ сядзеў нярухома з крайчыку свайго крэсла, таілася слабая ўсьмешка, якая дадавала хвораму хітры выраз.

Тады абодва прысунулі свае крэслы зусім цесна адно да аднаго. Вінтэр прыцягнуў Лейбовіча ў свае адкрытыя абнімы, як тады на лаўцы на катэдральным пляцу.

„Ты! кажы мне на вуха, як гэта панямецку. Але дакладна, Лейбовіч, бо мне трэба арыентавацца, што мне тут застаецца рабіць“.

Маўчаньне спынілася пад ударам кулака, велічынёю з сярэдні бурукавец, аб дошку пульта. Шырока адкрыты рот уцягнуў паветра ў магутны мех лёгкіх. І вадаграй вялікіх слоў магутна паліўся ў перапоўненай салі. З кароткіх выклікаў расла новая хваля, якая абмывала людзей. Як захопленыя, сядзелі яны на сваіх крэслах, трымаючы нярухомымі пальцамі мільгаючыя недакуркі. Калі ўздымалася пена слоў, усе затрымлівалі дыханьне і ўдыхалі паветра толькі тады, калі прамоўца запаўняў свае лёгкія. Над семдзесяцьмя квадратовымі мэтрамі гэтай дрэнна асьветленай неаздобленай салі магутна і бязьлітасна бушавала мора. Сотня зморaных рабочых галоў зьнікалі пад гарамі яго хваляй, якія выззвалялі магутную дзікую кроў гэтага рабочага па мэталю. З мора слоў уставаў ашаламляючы пах блізкай выспы Корсыкі, ушчэмленай горамі радзімы Сабіяні. Калі ён цяпер выцяў коротка магутным кулаком па пульту, быццам падбухторваючы гэтае мора, пакаціліся дзьве сухія дошкі па чырвонаму сукну на стол. Кароткі штурх нагі ў жоўтым камашы сьпіхнуў кучку гальля ды сьмяцьця на зямлю. Ніводны не зварухнуўся: усё яшчэ цёк гарачы вадаграй слоў з дзікага чалавека, які качаў сваё шырокае ды цяжкае цела ў тахт сваім словам.

Кроў кінулася ў твар Рыхарду і паралiжавала яго мазгі. Шышкаватая рука, як у трасцы, гладзіла Марсэля па сьпіне, які глядзеў шэразялёнымі бліскучымі вачыма ў паражнечу і шаптаў пераклад.

А прамоўца ўсё-ж ткі казаў толькі тое, што кажуць ужо на працягу поўных дзесяці год нязьлічоным мільёнам у шматтысячных мясцох

Эўропы дзесяткі тысяч рэволюцыйных рабочых; урэшце, такім чынам толькі ўбогія заношаныя фразы і ўсё-ж ткі няўмірушчыя, бо за імі мільгае простая праўда разбэшчанага грамадзтва.

Зьнік струмень слоў. Сабіяні звыклым скокам саскочыў са стала. Спрунжыновы рух—маўчаньне. Волава бяздыханага ап'яненьня трымала дваццаць, трыццаць поўных сэкунд людзей у аслупяненьні. Потым выбухнуў гураган усхваленьня. Воплескі і гучныя крыкі.

Пасьля гаварыў стары чалавек у чыстым шэрым гарнітуры, з каўнерам ды гальштукам пад хусткай і з цяжкім срэбным гадзіньнікавым ланцужком на невялічкім бруху.

Рыхард зашаптаў:

„...напэўна галяр—дробная буржуазія таксама тут...“

Тады чалавек сказаў:

„Організацыя просіць аднаго нямецкага таварыша коратка інформаваць аб становішчы ў Нямеччыне, каб дэлегаты маглі таксама паведаміць свае акругі...“

Марсэль пераклаў і казаў:

„Не рабі гэтага, Рыхард, твой пашпарт...“

Беспарадна бадзяўся погляд Рыхарда па воплескаўшых руках ды ківаючых галовах.

Чужаземныя словы, цяплыню якіх ён адчуваў, агарналі яго.

Рыхард Вінтэр падняўся. А Марсэль усё-ж ткі трымаў яго за блузу. Шпаркі шэпт:

„... не... пашпарт... шпегі...“

Яшчэ невялічкая затрымка, дзіцячая задуменная ўсьмешка, і Рыхард упэўнена перайшоў наўскасяк шырокімі, віхлястымі крокамі марака памяшканьне. Яго нямецкую прамову, пару гучна і шпарка вымаўленых патэтычных фраз сустрэла пабожная маўчаньне неразуменьня, якое пакрылі рытмічныя і гучныя воплескі.

---

Тады абодва пакінулі сход. Прыпёршыся да стойкі чаднага бару, апаражніў Рыхард разам шклянку віскі. Ён выпрастаў цела.

„Вось, хлопец, гэта быў сход... сапраўдныя людзі—гэты Сабіяні, вось, сабака, прамоўца... а цяпер іду я да прыемнай сыньёры, а заўтра зноў працаваць. Да пабачэньня, сыньёр Марсэль, у нашым чаўне...“

Ён засьвістаў:

„Ўставай, пракляцьцем...“

І спыніўся. Аднэй рукой ён пачасаў сабе патыліцу паўз крайчык шапкі, а другой патрапаў нежна па шчацэ і накіраваў на Марсэля сінія вочы, у якіх яшчэ адсьвечваўся бліск усяго пражытага.

„... і калі-б вось гэткі шпег...“

„Застанься тут, Рыхард! Так лепш: мы пойдзем з усімі гэтымі магутнымі людзьмі...“

Рыхард гучна плюнуў на падлогу.

„Падлюга! Значыць вон, а то жанчына будзе спаць з другім“.

Яны вышлі на вуліцы. Нікога ня было відаць.

---

На рагу перагарадзілі ім дарогу двое людзей, якія раптам вырасьлі з цемры.

„Панове, вашы дакуманты!“

Адзін выцягнуў рэвольвэр, а другі палажыў руку Рыхарду Вінтэру на плячо:

„Імем рэспублікі вы арыштаваны“.

## V

Мех цяжкавобалачнай начы бяз месяцу пакрываў Марсэль. Як кліны з выпетранай медзі, сьвяцілі нямногія лямпы цьмяных ліхтароў усьцяж надбярэжжа на чорным, як атрамант, Bassins du Lazarett.

Дзьве пары голых ног гучна пляскалі па бруку. Напоўгромкія словы адкрывалі сьметнік цывілізаванай мовы, якая разьліта па гаванях усяго сьвету ад Гонгконка да Рыо, ад Капштадта да Бэргэна, значыць, і на гэтым узьбярэжжы агідны зладзейскі жаргон бяз форм і законаў.

„Zeit ist für pennen, merde...“ (Час—грошы).

„Allons, wite star e first classe house für die Niggerbogs...“ (Ну, ідзем у „Зорку“, дом першага гатунку для нэгрскіх хлапцоў).

„Не, я застануся тут, зьберагу шэсьцьдзесят су...“

„Віскі для бруха, ці тлустая Сусанна з Фрыско-бара...“

„Я хачу вольнасьці“...

„Ты—трасца—вольнасьць... як гэта...“

І касьцьлявай правай рукой пацёр сабе палатняныя майткі на задзе.

„Ня холадна... сапраўды...“

Абодва памастацку балянсавалі на сваіх доўгіх шчуплых нагах сярод складзеных у штабалі мяхоў з кавай.

„Ніца і Гранд'отэль“.

Адзін уцягнуў, смаркаючы, паветра праз нос і абодва ўлягліся сярод пакгаўзаў і складаў мяхоў.

Адзін, ужо ў поўсьне, жартуючы, кінуў руку на зямлю, і кавалак сукна павіс на ёй.

„Вось—чалавек...“

„... сьпіць у Гранд'отэлі на марскім паветры“.

Тады другі ўскаквае і адным рухам падгортвае пад бруха ногі.

Скруціўшыся, шэпча ён таварышу:

„...руку, холадна, лёд...“

„...хачу жанчыну, ліха на яго...“

Другі ляскае сківіцамі:

„...сачатва... як забойца... merde... una... паліцыя...“

Тут паляцелі пад бруха і ногі другога. Нярухома сядзелі яны адзін побач з адным. Здалёк нясецца па надбярэжжы кавалак паперы.

Урэшце, адзін з іх паўзе асьцярожна на каленках і руках туды, дзе ён пачуў нягывога... Сярнічка, адлякаваная жоўтым, як мёд, асьвятляе запэцканую шэра-зялёную пустэчу, яшчэ нядаўна чалавечы твар які належыў Лейбовічу, Марсэлю з Тульцеа.

З хрустам паперы за штабалям мяхоў замяшаліся ціхія словы:

„Ці мо‘ і ён матэр...“

„Дурань, дзіця памёрла...“

„...мабыць, у паліцэйскім вучастку... madonna... засуджаны на сьмерць... а другі як водгульле:

„...сачатва...“

Пару сэкунд цішыні слаба запаўняла хруст паперы, якую гнаў вецер.

І кароткае шурханьне лёдавай пэўнасьцю прасякае бязуважнае „нішто“ начы. І ў чорную, як атрамант, глыбіню басэйна павольна каўзануўся жмуток рызьзя.

---

У гэту ноч лёдавы вільготны вецер, які сьвішча тут з паўночы цераз даліну Рэйна, трасе вакенныя краты міжнароднага транспартавага вагона. Гэты стаіць ужо чатыры гадзіны на запасным пуці станцыі Апэнвэйер. Тут якраз перадае францускі паліцэйскі нямецкаму „накладную“ на транспарт, прыгожа на машынцы напісаны сьпіс прозьвішчаў з месцам, днём ды падставай арышту і высланьня. У апошняй шпальце стаіць: Ваніэрке, Альбэрт, ён-жа Рыхард Вінтэр, арыштаваны ў Марсэлі, 4-га красавіка, на падставе загаду начальніка паліцыі Бэрліну, аддзел I a, № VI/2448 ад 16-га ліпня 1926-га году: выбух, паўстаньне, фальшывы пашпарт.

---

Два пролетары скончылі сваю падарож наўкола сьвету, адзін на шмат гадоў, другі назаўсёды.

Гэта было вясной 1928 году, калі сонца вечнай згоды стаяла ў блакітнай сіні аднолькавай вольнасьці над гэтай шчасьлівай Эўропай.

Перакл. з нямецкае мовы **Ю. Зэмель.**

## ІМЧЫЦЦА ЧАС...

### Ал. Дудар

Імчыцца час, як ураган,
Тканіна дзён бяжыць на кроснах.
Што раз—на новых берагах
Мы сустракаем нашы вёсны.
І толькі ў памяці ўстаюць
былыя дні, былыя цені—
расчараваньняў першых муць
ды смутак першых лятуценьняў.

Старая грэбля, ціхі стаў,
трухлявы млын на тоўстых палях—
там вецер сітнікі хістаў,
к балоту вольхі адступалі...
О, нас яны не праклянуць—
нам гэтак ласкава і ветла
клён за ваколіцай кіўнуў,
калі мы рушылі адгэтуль.

Цьвярозасьць нам дало жыцьцё—
і ўмеем мы з такою зброяй
праз чалавечае сьмяцьцё
пазнаць сапраўднага гэроя.
Праходзяць годы мар і сноў,
і мы вядзём пад бубнаў лёскат
на гільётыну нашых слоў
дэгэнэратаў і прахвостаў.

Рашучым крокам рушым мы.
Мы знаем, з кім нам па дарозе.
І веру нашу паглуміць
ня могуць кпіны ды пагрозы.
Ня лёгка праўду павязаць
у словах лёгкіх ды прыгожых:
мы можам многае сказаць,
а колькі—выказаць ня можым!..

І вось разьвеялася золь.
Ў такую даль сягае вока,
дзе і бяз слова ясна ўсё
ў жыцьці і сьветлым і глыбокім.

# ЧУЕШ, БЕЛАРУСЬ?..

## Валеры Маракоў

Кастусю Каліноўскаму

Былі імкненьні,
Мары,
Барацьба,
Былі пажары бацькаўскіх палеткаў.
Узьнімала сьцяг свой—
Галыцьба—
Іх пачуцьцёў і радасьці іх
Сьведку.

Кляпалі косы,
Плавілі сякеры,
На панскі чэрап плавілася сталь.
Ў разгары іх
Вялікай веры
Ён на чале, павадыром іх
Стаў.

Любоў і вера...
Мары й маладосьць...
Хто іх стрымае прагнаю рукою,
Дзе зьдзек,
Дзе катаваньне ёсьць—
Ня можа быць там ціша
І спакой.

Кіпела сэрца над нядоляй краю,
Уздыхаў наш край
Балотнымі грудзьмі.
Тут пад пятой
Расійскіх генэралаў
Душыўся ён крывёю
І сьлязьмі.

Ішла стыхія...
Воля...
І адплата...
Палаў касьцёр ў расхрыстаных грудзёх.
З любоўю сына,
Друга,
Брата
Ён аддаваў юнацкае жыцьцё...

О, Беларусь!
Ці чуеш ты,
Ці чуеш?..
Твой лепшы сын расьпяты за цябе.
Няўжо ў грудзёх тваіх
Начуе
Яго вялікіх дум разьбег?

О, мабыць не.
Я чую твае словы...
Я чую твой палаючы ўздым—
Яны, як радасьць песьні
Новай,
Даюць натхненьне й веру
Маладым.

## АДЫГЕЙСКІ ПЯСЬНЯР [1])

*Поэма*

**В. Палішчук**

І лілася песьня, і слоў было нямала,
Але найпрыгажэйшых гукаў ня было!
Ішоў, валіўся (камень на дарозе)
І рэзаў рукі—о, нязнаньне!
Узлазіў ён на скалы і зрываўся,
Аб каменьні грудзі разьбіваў.
Адыге мовы дзікай і зьдзічэлай
І гукаў гордых іх арлоў
Ўжо не хапала ў бурных песьнях.
Хоць і захлыналася ўжо сэрца,
А словам выказаць ня мог.
Кідаўся, як злачынец, на парог,
К сялібе ўсё-ж дабраўшыся праз сілу,
Калі ўжо гналася пагоня.
Вось крышку йшчэ, і вырвецца тады
З страшэнных мукаў—вострых кіпцюроў—
І будзе вольна зноў сьпяваць!
Але, узьняўшы долі гнеў,
Не выпушчае.
І на вапняк ён кінуўся,
Аж боль і кроў
Ад выбітых зубоў скрывіла твар.

* * *

Калі ўжо абуджаліся пачуцьці,
Іх зьверху межы запыталі:
„Жывеш яшчэ! Ты зноў ажыў?“
А як!
Якімі гукамі адыге кіне
Нязнаную ім назву труб фабрычных,
Бэтону, антрацыту,
І каб другі таксама зразумеў?
Як тое шкло, вітрыны,

---

1) Гл. „Полымя“ № 2.

Стогн аўтомобіляў і сірэны,
Якія ён, Іскандзер, чуў і бачыў
У шумных гарадох,
Па Поўначы хадзіўшы,—
Як гукамі губнымі
Адыге іх раскажа зразумела?
Ніхто ня знаў і ён ня знае,
Пра сілу, хоць адыге расказаў,
У громах што
Шабле кідае гнеўны,
І чалавек, што з поўначы, і простымі
рукамі
Бярэ для лямпаў і для печ,
І стальлю лётае і вогнішчам бліскае...
Адыге ў сьмех—не зразумець ім.
І тут хай супакой рве валасы свае,
На твары ты адно хавай усьмешку:
І можа вось тады паслухаюць цябе.

* * *

У горы уцякаў, ад мілае хаваўся,
І гукі, як паранены арол,
У прасторы ветрам раскідаў.
Але той голас, гоман гор
Адразу затаіў;
Ноздрамі ўздыхнуўшы ў шчэлах скал,
Адгукнуўся водгульлем прыбітым.
Так і выгнанец буйны гнеў
Схаваў пад крыльля сосен,
І ачумелы сьпіць,
Дый недарэмна, не!

* * *

Нібы загнаная сабака,
Ашчаціпіўшы сьпіну, бяжыць,
І ўжо тады, як ляскаюць зубамі па
сьлядох,
Як зграі гончых, думкі,
Блукаў Іскандзер па гарах.
Ён толькі сонцам жыў
І ласкаю суседзяў.
Народы Дагестану і Абхазы
Яго прымалі—ваўдроўніка чужога.
І толькі ў бацькаўшчыне

Між адыге родных
Ён раскідаў багацьце сваіх сіл.
За горы пераходзіў
І раптам як-бы ў цемры;
Ў цемры мовы не сваёй,
І звычаяў чужых.
І толькі хлеба ўзяць хапала сіл,
Як камнем кінуць на ваду
Адно слаўцо гаручае, адно:
— „Выгнаньнік—я!"
Ён мусіў мігамі расказваць аб пагоні
Прад зьдзіўленым народам.
І горкім потам абліваў
Свае мучэньні (сухія губы)
У рукі чэрствыя пагібелі халоднай.
І стрымліваў сябе, каб не упасьці.
Тады прыпомніў ён дзяцінства;
Чалом гарачым думкі зьвіў
З чароўнай песьняй-калыханкай,
Каб рытмамі ўспамінаў
Цяжкую боль закалыхаць.
Калісьці поле кукурузы,
Бывала, цешыла дзяцей.
І горы колерам пралесак
Дзяцей пужалі,—ўспомніў ён,—
І раптам
Думка,
Як распаленым жалезам,
Сэрца ўдарыла
І з боляю галасіла
— „Я—ў адзіноце!.."

* * *

О, зможа ўвесь паўстаць Каўказ,
Ды трэба толькі душы горцаў,
Разьбітыя на мовы і звычаі,
Злучыць ў адну магутную душу!
Ды хто ў адно зьяднае поле?
Якімі зельлямі засеяць нашы мовы,
Каб вось народы ўсе аднэю мовай,
Як воды, гаварылі?
Я адчуваю сам,
Што сілы нацыі маёй
Занылі творчымі падумкамі ў мяне,

Як быццам дрот над трактам.
Прасторы трэба аб'яднаць нам,
Гэй, прасторы!—
І ўсіх пакрыўджаных
Адным вялікім жмутам—
На ўсіх тыранаў кінуць!

* *
*

Іскандзер знаў,
Што горстачка адыге,
Так па сабе сама,
А ня ў віхры адзінай сілы—
Ня зьнішчыць царскі ўціск,
Ня вызваліць братоў!
І толькі ўвесь Каўказ,
Калі на ногі ўстане,—
Уздрыгне мора,
Уздрыгнуць акіяны,
І зацьвіце ўвесь край
Сваёй свабоднай працай!
Ды хто магутным водгульлем
Падменіць роспач на уздым!
(Ні гоману, ні гуку!).
І гэтыя вось гарады,
Дзе сьветла без агню,
Нас не пачуюць,
Нам не дапамогуць!
О, жменька кінутых аулаў,
Ты зрухаў волата ня зможаш зразумець,
Малая ты ў сваіх шуканьнях,
У агульны рух нязлучана яшчэ.

*
* *

О, мая сіла, мая творчая сіла,
Лягла на мяне ты цяжарам дасьмертным.
Ня кіну я цябе,
Ня кінеш й ты мяне.
Мяне ніхто ня чуе.
Маіх—тваіх ня чуюць думак,
Маіх—тваіх жаданьняў
На мову міліёнаў
Не пераложыць, о, ніхто!
І не захоча знаць ніхто адыге,
Што маюць сэрца, розум і агонь,

Што маюць голас сакаліны,
Песьняра, што грудзі рве
Сярод застыўшых скал...

* * *

Іскандзер спрабаваў
Паўстаньне распачаць,
Як вандраваў адзін
Краінай горнай славы.
Не зразумелі ўсё-ж яго
Ня толькі кабардзінцы,
І нават блізкія, і нават натухайцы.
Шапсугі, як сава на сонцы,
Вачыма лыпалі ад неразуменьня,
Калі-ж Іскандзер словамі, авітымі агнём,
Гаварыў пра волю.

* * *

Трагедыя вялікая была
Таланта, што быў сьціснуты
Малой мяжою мовы.
Бо клічу
Ён ня мог раскідваць па Каўказу,
Бо невялічкая нацыя радзіла
Такую грамавую сілу.
Выпадак толькі зможа
За сотні год яшчэ
З нізін падняць забітае гадамі
Жывое слова волі і паўстаньняў!
А мо' ўжо будзе позна,
Ці і зусім ня трэба?
Чакай,
Калі той волат прыдзе
І мову ён сваіх прастораў злучыць
З беднай моваю пакрыўджаных адыге.
Дый ці захоча ён
Сівую старыну
Ўзьнімаць з-пад пылу?
А можа і ніколі?
Так і памрэ жывое слова,
Як рыбка буйнае пароды маладая
Ў зачыненай бутэльцы.
Не разьвярнуцца там уласнай сіле,
Ня выбухнуць агнём.

Перагарыць само ў сябе,
Загіне, стлее,
Як вугаль пад зямлёю.

* * *

О, колькі гэніяў
Загінула бясьсьледна,
Ня даўшы сілы
Крыльлем узмахнуць!
І я слабею, не сказаўшы
Чаго хачу, мільёнам
Гулкіх душ.
А грамада, як цемень шахты,
Вось толькі і чакае праглынуць
Жывы, узьняты гук.
І для тварца тут сьмерць
Ў цьме падзямельных калідораў,
Дзе антрацыт вісіць
І капае вада са сьцен.
Тут кропля кожная зьвініць
Пажарышчам стэповым,
Ахопіць страх душу,
Ахопіць сэрца роспач.
І крык ударыцца аб камень сьцен,
Як брызгі шкла,
З глухім шыпеньнем.
О, тады і зайздрасьць
Сьмертным болем сьцісьне
Апошні стогн душы.
Нашто радзіўся я
У цёмным падзямельлі
Маленькай нацыі маёй?
О, дык чаму-ж, пашто ня сын я
Бязьмежных мас,
Гаручых сэрцаў,
Якія б'юцца і палаюць,
Як бура першая, змываючы
Былінку на сваім шляху—
Былінку нацыі маёй.
Надыйдзе час, і ногі утрамбуюць
Маіх нязлучаных мурашак,
І людзкасьці магутная рука
Зраўняе мовы ўсіх бяздольных.
Цяпер-жа цемра разглядае

З усьмешкаю агіднаю, глухой.
Ён—для сябе дыміцца сэрцам,
Нібы цяжарам сьціснутая сопка,
Пясьняр, якога і ня знаюць за далінай,
Свой век пакутвае пясьняр.

* * *

Іскандзер зноў у лес пайшоў,
Палаў і сох, стагнаў, маліўся.
Дзеці раз спаткалі там яго,
І ён уцёк: дзяцей пачаў баяцца.
Жывога голасу пачаў ён ня любіць,
Але ўжо смутак надышоў,
Хацелась споведзі, народу,
І ў песьнях плакаў і казаў:
— Слова маё—
Мова народу майго,
Ты—мая сіла,
Ты—мой творчы агонь.
Твае вусны імкнуцца да маіх,
І смага скрозь душу маю
Праходзіць спазмамі,
Як быццам-бы віхор,
Чарпаючы ваду.
Тваё багацьце застыўшае вякамі,
У душы маёй кіпіць.
І вусны ўжо мае счарнелі...
Гул абвалаў горных,
Выцьцё ў Дар'яле буры,
Агністасьць слоў загадывае мне,
Каб людзям я сказаў
Пра мысьлі ўсе твае.
О, бедны мой народ!
О, як люблю цябе.
Мова мая!
Ты—мая зброя
Ў змаганьні пачуцьцяў,
Што хвалямі плешчуць
У сэрцы бязьмежным.
Я змучаны валюся
Ў конвульсіях творчых,
А ты, мой народзе,
Ты іх прымаеш і п'еш,
Дый не да дна!

* * *

Але ты, мая мова,
Ты—маё пракляцьце!
Ты—вузасьць берагоў
Для хваль, што рвуцца ў далеч.
Скала з граніту ты,
Што пену разьбіваеш пачуцьця,
Якая валіцца бясьсільна ўжо назад.
Ты—возера маленькае,
Але ня мора, не!
Бо волат дужы
Захлынуцца ўжо ня здолее ў цябе!
Ты—загародка вузкая для сіл,
Для тых, дзе розум, пачуцьцё, сьвядомасьць.
О, як-бы загародку тую перарваць,
Як-бы раскідаць грэблю,
Загнаўшую ў камыш гнілы
Мільён вядроў вады.
Тады хлыне паводка у даліну
І з сабой зьнясе
Агіду ўсю,
І ад яе ачысьціць назаўсёды.
Цяпер—праклятая ты,
Мова народу майго!
Ты зьвязваеш, ты—путы,
Ты—плаціна, загарода
Да міліёнаў душ людзкіх.
Бо ты замкнулася тысячай
У жмені дробнага народу,
Тады як кола міліёнаў
Вакол цябе гудуць.
Ты невялічкімі замкамі
Падвалы буйныя алмазаў зачыніла.
Разьбіць замкі!
О, волат, дзе ён, дзе?
Калі ён прыдзе?
Тады, калі ўжо і міліён
Будзе перашкодай
Для міліярду
Тварышаў сусьвету?

* * *

О, трэба зьнішчыць
Нацыі малыя

(Як і вялікія пасьля).
Ў чырвоны перац порахам расьцерці,
І востраю прыправаю такой
Заправіць месіва
Ўсялюдзкіх мас.
Так, зьнішчыць трэба іх,
Яны трымаюць ўзьлёт ідэй,
Як драцяная сетка
Абмяжоўвае прастор,
Каб дух арла
Ня ўзьвіўся ў неба.
О, будзь праклятая, зямля,
За тое, што у сэрца мне
Дала агні ўспрыйманьня сьвету,
І крыльле мне дала,
І рукі слоў
Ты мне скавала стальлю.
Яшчэ да падашвы мне
Камень прывязала,
Каб камень я ад ног не адарваў.

* * *

Вандруючы краінаю адыге,
Ў адзін аул аднойчы ён зайшоў,
Расказваў аб мінулым.
Дзяўчына загарэлася ад слоў.
Чуцьцём салодкім сэрца прывязала,
І з саклі ўночы уцякла.
Узбуран быў і рад быў наш Іскандзер,
Дарэмна раіў ён
Абдумаць свой учынак.
Бо бацька можа з помстаю паўстаць
За тое, што ён згоды не даваў.
А ці-ж у горкую часіну
(Смага на вуснах)
Расу жывучую з даючаю рукой
Адважыцца схіліць?

* * *

„Мая ты мілая“,—казаў:
„Твая прыязьнь боль маю адчула,
Твае ноздры, што горны ловяць пах,
Яны-ж цалуюць сэрца майго росквіт.
А родныя адыге
Мяне ня зловяць, не.

Мае вобразы полымем рвуцца
Ды гукаў слоўных ў іх няма.
Іх ня даў народ абмежаваны мой.
Мая песьня да іх далятае,
Быццам як клёкат арла,
Што ўбачыў і сонца і далі.
Але гукаў ня знаюць маіх,
Бо яны-ж ня глянуць на сонца,
Мова іх сьляпая.
Іх нямоцныя духоўныя зрачкі
Яшчэ ня могуць стрэльнуць у агонь нябёсаў
І раніць поглядам сваім,—
Яны—не арлы.

З украінскае мовы пер. **А. Александровіч.**

# УКРАІНЕ

## Ал. Салагуб

Распаляюць мне сэрца ўспаміны
Пра лугі і Украіны стэп.
А Дняпроўскіх парогаў руіны
Пяюць песьню мне новых дней.
О, дазволь мне, Чырвона Украіна
Табе выліць удзячнасьць слоў.
За тваю красу і шчырасьць
Прымі шчырую з сэрца любоў.
Тваіх гоняў шырокіх раздольле,
Тваіх стэпаў бязьмежны разгон
Залілі мяне шчасьцем волі
І навучылі кахаць жыцьцё.
Я учора—вязень, нявольнік,
Сьціраў вочмі іржавасьць крат,
А сягоньня я п'ю свавольнік
Малако тваіх белых хат.
Я учора—прыгнечаны мурам,
Апяваў ланцугі, замок,
А сягоньня я вольна бяз суму
Апяваю Дняпро і „сэло".
Тваіх домнаў магутных рыканьне,
Зыкі сталі, бэтону, цыстэрн
Патрасаюць вечарам, раньнем
Наш магутны СССР.
Не заліць у моры слоў рыштаваньні,
Не заліць, ня ўстрымаць Днепрэльстан.
Я машынам складаю літаньні,
Апяваю сталёвую рацъ.
Не славамі апець будаўніцтва,
Яго дзікі, шалёны разгон.
Я хачу індустрыі маліцца,
Дыхаць песьняй пропэлер-мотора.
„Перамычкі" ўстрымалі стыхію,
О, дрыжы, наш шырокі Дняпро,
Перад шквалам машын, індустрыі,
Закелзаў цябе электрыкі ток.

Менск, 21-VIII—28 г.

## СЯМ'Я І ШЛЮБ ПРЫ КАПІТАЛІЗЬМЕ

**Проф. С. Вольфсон**

Вялікая рэволюцыйная роля паравой машыны, меўшая ўплыў на ўвесь грамадзкі лад, адбілася і на лёсе сямейна-шлюбнай організацыі.

Падкрэсьліўшы ў „Капісале“, што „буйная прамысловасьць, разам з экономічнай асновай ранейшага сямейнага ўкладу і адпаведнай яму сямейнай працы, разбурае і ранейшыя сямейныя адносіны“, Кароль Маркс паказаў ужо на тое, што прамысловы капіталізмператварае сям'ю, надае ёй новую організацыю.

Гэта рэорганізацыя сям'і ажыцьцяўляецца ў тым кірунку, што яна траціць шэраг традыцыйных функцый і, значыць, звужваецца сфэра яе ўплыву. Процэс рэорганізацыі сям'і ў эпоху прамысловага і фінансавага капіталізму ажыцьцяўляецца ў вышэйадзначаным кірунку такім інтэнсыўным чынам, і канчатковым вынікам яго зьяўляецца настолькі значнае зьніжэньне соцыяльнай адноснай вагі сям'і, што вышэйадзначаны процэс ня будзе памылкаю назваць не *рэорганізацыяй, а дэзорганізацыяй* сям'і. У Мільлер-Ліэра ёсьць, паміж іншым, для гэтай мэты больш „мерны“ тэрмін *дэзынтыграцыі*, ужываны ім для характарыстыкі таго распаду сям'і, які спалучаецца з капіталістычным ладам.

Чым-жа абумоўлена дэзынтыграцыя сям'і пры капіталізьме?

У адказ на гэтае пытаньне, я думаю, можна пералічыць наступныя факты.

1. Падпарадкаваньне буржуазіяй шлюбу агульным законам капіталістычнага рынку, абярненьне яго ў звычайную экономічную зьдзелку.

2. Уцягненьне прамысловым капіталам жаночай працы ў сфэру сваёй эксплёатацыі. Зьяўленьне значных кадраў жанчын, крыніцаю існаваньня якіх зьяўляецца наёмная праца і заработная плата.

3. Пераход так званых „хатня-гаспадарчых“ функцый сям'і да організацый і ўстаноў грамадзкага карыстаньня.

4. Пазбаўленьне сям'і яе вытворчых функцый, якія адышлі да капіталістычных прадпрыемстваў.

5. Перадача сям'ёй сваіх выхаваўчых функцый органам народнага выхаваньня і асьветы.

6. Страта сям'ёй свайго значэньня як „культурнага прытулку“ ў сувязі з ростам культурных установаў грамадзкага характару, які ідзе поруч з капіталізмам і разьвіцьцём політычнага жыцьця.

7. Значнае пашырэньне ўстаноў грамадзкай аховы здароўя і догляду, куды пераносіцца ад сям'і ўся ўвага і клопат аб хворых і інвалідных яе членах.

Спынімся на тых пералічаных фактарах дэзынтэграцыі сям'і, якія заслугоўваюць асаблівай увагі.

У эпоху, калі буржуазія выходзіла толькі на гістарычную арэну, калі яна выконвала ня толькі гістарычна-прогрэсыўную, але нават гістарычна-рэволюцыйную ролю, і калі яна не пасьпела яшчэ ў „халоднай вадзе эгоістычнага разрахунку" затапіць чалавечую асобу,—у гэты час шлюб яшчэ быў абвеяны ў яе вачох пэўным ідылічным орэолем.

Перад буржуазіяй у часе яе гістарычнага юнацтва, калі яна толькі пачала выступаць у ролі грамадзкага гегемону, з непераможнаю сілаю паўстаў шэраг пытаньняў, ярка акрэсьленых Энгельсам: „Хіба двое маладых людзей, для якіх надышоў час злучыцца, ня мелі права вольна ўладаць сабою, сваім целам і яго органамі? Хіба дзякуючы рыцарству не ўвайшло ў моду палавое каханьне, і хіба, у процілегласьць рыцарскаму каханьню, зьвязанаму з нявернасьцю мужа і жонкі, не зьяўлялася каханьне ў шлюбе правільнай буржуазнай формай. Але калі абавязак мужа і жонкі кахаць адзін другога, дык хіба не павінны яны злучыцца ў шлюбе, ня думаючы ні аб кім іншым? А хіба-ж гэта права закаханых не стаіць вышэй права бацькоў, сваякоў і іншых звычайных шлюбных фактараў і пасярэднікаў?"...[1]) У романтычны пэрыод свае маладосьці буржуазія магла сабе дазволіць раскошу пастаноўкі гэтых пытаньняў. Яна магла пашырыць сьвятое для яе права свабодных дагавораў і на дагавор шлюбу. Яна магла дэкляраваць і свабоду шлюбу. „Шлюб застаўся клясавым шлюбам, але ў межах клясы за бакамі была прызнана пэўная ступень свабоды выбару. І на паперы, у моральнай тэорыі, і ў поэтычных апісаньнях нішто не прызнавалася настолькі нязрушна-моцным, як аморальнасьць кожнага шлюбу, які ня грунтуецца на ўзаемным палавым каханьні і сапраўднай згодзе мужа і жонкі. Адным словам, шлюб па каханьні быў абвешчаны правам чалавека і пры тым ня толькі droit de l'homme (правам мужчыны), але таксама і droit de la femme (правам жанчыны)"[2]).

Але гэта былі толькі *прынцыпы*, якія буржуазія магла на досьвітку свайго гістарычнага жыцьця *абвясьціць*, але ажыцьцявіць якіх яна, зразумела, не магла з прычыны ціску ўсяго таго комплексу экономічных адносін, які азначаў сабою месца буржуазіі ў клясавым грамадзтве і які накіраваў яе клясавую думку. І пачаўшы з абвяшчэньня шлюбу па каханьні, буржуазія скончыла ўстанаўленьнем шлюбу па грашох. Яна паставіла шлюб на службы прыбытку, нажыве, гатоўцы, яна абярнула шлюб і каханьне ў разуменьні, якія ўзаемна выключалі адно аднаго, зрабіла іх ворагамі, якія жывуць на розных астравох.

[1]) Фр. Энгельс. Пахаджэньне сям'і і г. д., стар. 53.

[2]) Ibidem, стар. 54.

Вэрнер Зомбарт выказаў цікавую думку аб тым, што буржуа, як экономічны чалавек пэўнай формацыі, ня можа аддавацца сапраўднаму каханьню. „Добры гаспадар, калі мы наогул можам так назваць, г. зн. добры мешчанін, і эротык у якой-бы там ні было ступені—стаяць у непагодлівай супярэчнасьці (Зомбарт строга адрозьнівае палкасьць і эротыку—С. В.). У асяродку ўсіх жыцьцёвых каштоўнасьцяй стаіць альбо гаспадарчая зацікаўленасьць (у самым шырокім сэнсе), альбо зацікаўленасьць каханьня. Жывуць, альбо для таго, каб гаспадарыць, альбо для таго, каб кахаць. Гаспадарыць азначае—ашчадна зьбіраць, кахаць азначае—траціць“ [1]).

Буржуа вырашыў для сябе гэтую альтэрнатыву ў поўнай меры пэўна. Ён жыве, каб гаспадарыць, каб ашчадна зьбіраць. Гаспадарачы і зьбіраючы, ён купляе каханьне, г. зн., зразумела, не каханьне, а яе цень—сурагаты каханьня. На гэтай аснове і ставрае буржуа свой шлюб. Шлюб павінен мець пад сабою моцны экономічны грунт, ён павінен быць падпарадкаван вышэйшаму прынцыпу матэрыяльнага дабрабыту. Рэшта потым дакожыцца. Па добрай буржуазнай прыказцы: Erst Kommen die Gütru, dann kommen die Gemuten. (Спачатку павінна прыйсьці багацьце, а за ім ужо будуць ісьці і добрыя пачуцьці)...

Буржуа робіць свой шлюб сродкам узбагачэньня. Яго дапамогаю ён стараецца падняцца па ўсходах соцыяльнай драбіны капіталізму. Пры яго дапамозе ён „робіць жыцьцё“, г. зн. абсталёўваецца дамовымі прыладамі, вілай, аўтомобілем, павялічвае зваротныя сродкі *свайго магазыну*, павялічвае свой бягучы рахунак, становіцца акцыянэрам новых прадпрыемстваў. Усё гэта ў якасьці дадатку—„пасагу“ да жонкі. Калі ў буржуазным асяродзішчы абсталяваньне, вілла і інш. называюцца „пасагам“, дык мы маем тут справу з тэрмінолёгіяй, якая ня зусім адпавядае рачаіснасьці. Сапраўды жонка „дадаецца“ да фунтаў стэрлінгаў і нафтавых акцый, а не наадварот. Капіталізмператварыў чалавека ў „пасаг“ да тых матэрыяльных выгад, якія шлюб прыносіць для буржуа.

Для капіталізму характэрна ня тое, што пры ім заключэньне шлюбу абумоўлена прадпасылкамі экономічнага характару. Калі Людвіг Штэйн ці Іван Блох стараюцца давесьці, што яшчэ да капіталізму ў аснове шлюбу ляжалі меркаваньні экономічнага парадку, яны ломяцца ў адчыненыя дзьверы. Важна толькі тое, што буржуазны шлюб у такой ступені падпарадкаваўся законам капіталістычнага рынку, што з яго вытруціліся ўсе элемэнты прыхільнасьці, сымпатыі, узаемнага імкненьня, каханьня, палкасьці,—усё гэта аказалася затопленым у „халоднай вадзе эгоістычнага разрахунку“. І калі добрыя паны на манер Шмолера імкнуцца давесьці, што буржуазны шлюб перастае быць гаспадарчай справай і што сучасная сям‘я ўсё больш абмяжоўвае свае гаспадарчыя

---

[1]) Вэрнер-Зомбарт. Буржуа ГИЗ. 1925, стар. 162.

мэты ў імя „шляхетных ідэальных мэт“, да якіх яна ў гэтым пытаньні імкнецца, дык гэтыя „адвакаты д'ябла“ самым пахабным чынам перакручваюць рачаіснасьць. Характэрна, што ніхто іншы, як той-жа самы Іван Блох азначае колькасьць сучасных шлюбаў лічбай у 75 проц. усіх тых шлюбаў, якія цяпер заключаюцца, а Макс Нордау ідзе ў кірунку павялічэньня процанту шлюбаў з матэрыяльных выгад яшчэ далей [1]).

Экономічныя формацыі, якія цапераджалі капіталізм, пачынаючы з эпохі нявольніцкай гаспадаркі і канчаючы фэўдалізмам, ведалі шлюб-куплю, калі жанчына набывалася за рагатую жывёлу, за збожжа, за коняй, за гатоўку грашыма. Некаторыя філёлёгі самае слова „heiraten“ вытвараюць ад „heuren tun“, што азначае „наймаць“ ці купляць [2]). Буржуа, зразумела, ня мог пагадзіцца з тым становішчам, калі яго дачка прадавалася-б, як нявольніца, як рэч. Ён з абурэньнем гаварыў аб гэтым барбарскім, дзікунскім звычаі, які ўжываецца сярод дзікуноў, што ня ведаюць цывілізацыі, знаходзяцца на ўзроўні разьвіцьця жывёлы і ня ведаюць моральных законаў культурнага чалавека.

Буржуа зьнішчыў шлюб-куплю. Але на яго месца паставіў шлюб-умову. Бакі, які заключаюць шлюб, „пароўнены“, яны зрабіліся ўзаемнымі контрагентамі. Кожны з іх адначасна зьяўляецца і прадаўцом і пакупцом. Кожны з іх сёе-тое „аддае“, і сёе-тое „набывае“, шлюб ператварыўся ў сымбіоз капіталу, зямельных вучасткаў, фабрык, гандлёвых прадпрыемстваў. Шлюб перастаў грунтавацца на дзікунскай куплі жанчыны. Капіталізм „вызваліў“ жанчыну. Яна зрабілася адным з двух роўнапраўных бакоў, якія заключаюць „сьвятую таемніцу шлюбу“ на рынку, на біржы...

A la guerre comme a' la guerre. На рынку, як на рынку. Усе рыначныя аксэсуары зрабіліся вернымі спадарожнікамі буржуазнага шлюбу. У гарадзкіх цэнтрах узьнікаюць пад фірмай вялікасьвецкіх баляў, танцавальных заляў, клюбаў, кафэ і г. д. шлюбныя біржы. З якім непераймальным гумарам маляваў стары Бэбэль, як сьпяшаюцца на гэтыя біржы „афіцэры, якія загразьлі ў даўгох, але яшчэ могуць пахваліцца старой дваранскай годнасьцю вялікасьвецкія распусьнікі, якія распасорылі ўсю сваю маемасьць і якія ў шлюбнай прыстані хочуць паправіць сваё падарванае здароўе і таму шукаюць даглядальніцу; фабрыканты, купцы, банкіры, якія стаяць напярэдадні банкроцтва ці вастрогу і жадаюць выратавацца, урэшце, усе, хто імкнецца атрымаць ці павялічыць капітал і багацьце“...

На рынку, як на рынку. І таму абавязковым пэрсонажам буржуазнага шлюбу робіцца фігура шлюбнага фактара. Упісваючы аднэй рукой у крымінальныя палажэньні параграфы аб сводніцтве, буржуа

---

[1]) Гл. Ludowiq Stein. Der Sinn des Daseins. Tübingen und Leipzig 1904, s. 235 u D-r Iwan Hoch. Das Sexualleben unserer Zeit. Lonis Marcus. Verlag Berlin 1919, s. 220.

[2]) Гл. Мюллер-Ліэр. Фазы любви, стар. 111.

другой рукой шырока расчыняе дзьверы перад профэсыянальным зводнікам—шлюбным фактарам. Па меры разьвіцьця ўсёй тэхнікі капіталістычнага фактарства, эволюцыянуе і фактарства шлюбнае. Фактар саматужнік тыпу вядома яўрэйскага schadchen'а падмяняецца фактарскім бюро і канторамі. Многія з гэтых бюро організуюцца на шырокую нагу. Яны выпушчаюць пэрыодычныя білютэні з пералічэньнем кандыдатаў, якія імкнуцца да шлюбу. Пералічэньне робіцца пры строгай клясыфікацыі шлюбнага попыту і прапановы, па прынцыпу матэрыяльнай самастойнасьці. Разам з гэтым робяцца анкетныя выпыты асоб, якія жадаюць ці могуць быць кліентамі бюро [1]).

Шлюбныя бюро атрымліваюць за свае послугі камісійную ўзнагароду—ад 1 да 3 процантаў з пасагу. Сетка гэтых бюро ў большасьці эўропэйскіх краін вельмі густая. На адным з першых месц тут знаходзіцца Нямеччына, дзе, напрыклад, у такім горадзе, як Штутгарт, функцыянуе 36 зацьверджаных уладаю фактарскіх шлюбных бюро [2]). Аднэй з найважнейшых форм шлюбнага фактарства зьяўляецца шлюбная газэта і газэтныя абвесткі. У Нямеччыне ў 1921 годзе выдавалася пяць шлюбных газэт, якія ў працягу году апублікавалі 6.400 прапаноў асоб абодвага полу [3]). Асноўная задача такой газэты—наладзіць перапіску асоб, якія шукаюць шлюбу. Пры гэтым імёны тых, што перапісваюцца, невядомы ні аднаму, ні другому боку, бо яны захоўваюцца пад псэўдонімамі, вядомымі толькі газэтнай адміністрацыі. Апошняя абвяшчае іх толькі пасьля таго, як забясьпечыць сабе магчымасьць атрымаць камісійныя.

Яшчэ большую колькасьць асоб абслугоўвае шлюбная абвестка, якая можа быць зьмешчана ў пераважнай большасьці буржуазных газэт.

У пераважнай большасьці гэтых абвестак экономічны мотыў зьяўляецца галоўным і станоўчым. Калі дама, якая жадае пашлюбавацца і паведамляе аб сабе, што яна „пяшчотна-кволая“, „мілавідная“, „прыгожа-стройная“, „добрасардэчная“ і інш., калі анонсадавальнік-мужчына і пачынае з паказаньняў на „стройнасьць“, „музычнасьць“, „энэргічнасьць“, „шляхетнае паходжаньне“, і інш. дык усё гэта нагрувашчаньне эпітэтаў засланяецца галоўным фактам: маемасьць, крыніца прыбытку, заработак. Часта абвесткі маюць нават спасылку на тое, што прэтэндэнт—„без забабон“. Гэта азначае, што ён гатоў пагадзіцца з некаторымі фізычнымі недахватамі наступнай жонкі ці мужа, альбо з грахамі мінулага, зразумела, калі тут ёсьць „пэўная і добрая матэрыяльная сытуацыя“. На шлюбным рынку капіталізму пануе дэмократыя. Станавыя забабоны,

---

[1]) Prof. Victor Mataja. Hejrats vermittbung und Heiratsauzeige. Duncken und Humbolat. München. 1920. S. 15—20.

[2]) Philaletes Kuhu. Ehevermittbung. Handvörterbuch der Sexualvissenschaft. Bonm. 1926.

[3]) Ibid.

расавыя антыпатыі, арыстократычная пыхлівасьць, дыплёмы, чыны, званьні, узросты—усё гэта засланяецца экономічнай выгадай, якую дае шлюб.

Фэўдальная арыстократыя са зьнявагай і абурэньнем гаварыла аб „шлюбе з левага боку"—mésalliance Missheirat. Гэты шлюб шокіраваў яе як саюз паміж „нязроўнымі", як шлюб, які псуе блакітную кроў шляхетных арыстократаў. Адзіны мэзальянс, які вядомы буржуазіі, гэта шлюб без экономічнай выгады, бяз прыбытку, шлюб незалежны ад гатоўкі грашыма, які не апраўдваецца комэрцыйным разрахункам. Усё іншае—як і належыць быць.

Герцогскія атожылкі радасна ідуць у зяцьці да фабрыкантаў сьвіных консэрваў. 17-гадовыя дзяўчынкі „ловяць" жыцьцёвых спадарожнікаў, якія канчаюць свой пяты дзесятак жыцьця. Памэранскія памешчыкі сватаюць сыноў за дочак яўрэйскіх банкіраў—прыдушаючы свае антысэміцкія антыпатыі наказам Бісмарка, фэльдфэбэльскі гумар якога раіў шлюбы „паміж хрысьціянскім жарабцом і яўрэйскай кабылай".

„Выгадны шлюб", „шчасьлівая партыя" становяцца адным з найважнейшых спраў буржуа. У капіталістычным грамадзтве аб дзесятках і сотнях тысяч маладых і не маладых людзей таго і другога полу можна сказаць тое, што аўтар аднаго з сучасных ангельскіх романаў гаворыць аб сваёй гэроіні: „яна была адмыслова вывучана на тое, каб папасьці ў належны момант і ў належную мэту, гэта значыць, падчапіць багатага мужа. Гэта ёй удалося. Яна вышла замуж за гэрцага Шэль. Разам з тым яна вышла замуж за дваццаць з чымсьці тысяч акраў зямлі ў Англіі, чатыры тысячы ў Шотляндыі, дом у Пікадыльлі, сем дамоў у провінцыяльных гарадох, паравую яхту і акцыі чыгунак Сярэдняй Англіі на суму 500.000 фунтаў стэрлінгаў" [1]). Такая формула буржуазнага шлюбу. У ёй мяняюцца назвы краін, колькасьць фунтаў, доляраў, марак, франкаў, назва абсталяваньня. Але яе пабудова сталая. Выходзяць замуж за вуглёвыя капальні, за нафтавыя крыніцы, за унівэрсальные магазыны, жэняцца на бягучых рахунках, на атэльле мод, на вінаградах.

Дух нажывы і гандлярства лунае над буржуазнай сям'ёй ад самага пачатку яе зьяўленьня. Вось чаму ўжо вялікія протэстанты супроць буржуазнага быту, Сэн-Сымон і Фур'е малявалі гэтую сям'ю фарбамі бязьлітаснага сарказму. Сталецьці мінулі з таго часу, усё замацоўвала ўладу рынку над „сьвятою таемніцай" шлюбу. Але ва ўсёй сусьветнай літаратуры ня дана лепшай характарыстыкі буржуазнага шлюбу, чым тая, якой асновазакладальнікі навуковага соцыялізму назаўсёды заклаймілі яго у „Комуністычным маніфэсьце".

Народжаная пад знакам куплі-продажу, буржуазная сям'я на ўсім працягу свайго існаваньня застаецца прасякнутай элемэнтамі гандлёвай зьдзелкі. Капіталізм замыкае пэўную частку палавой сувязі ў соцыяль-

[1]) Арнольд Беннет. „Фігура". Изд. „Время". Л. 1928, стар. 5.

ную форму шлюбу, якую ён абстаўляе ўсімі атрыбутамі гандлярства. „Законны шлюб“ буржуазіі зьяўляецца, паводле неперавышанай у сваёй мяшчанскай цынічнасьці формулёўцы Імануіла Канта, „злучэньнем двух асоб рознага полу для ўзаемнага фізычнага ўладаньня ці юрыдычнаю ўмоваю аб узаемным карыстаньні палавымі органамі цела“.

Буржуазнае грамадзтва, якое робіць чалавечую асобу адным з многалікіх об‘ектаў свайго ўсёхапляючага таваразвароту, легалізуе толькі законна-шлюбную форму палавой сувязі. Але гэта не перашкаджае яму ствараць і культываваць мноства іншых форм гэтай самай сувязі.

Таварны коэфіцыент буржуазнага шлюбу зьяўляецца фактарам, які раскладае сям‘ю з моманту яе зьяўленьня. Жонка, якая прынесла ў сям‘ю свой „пай“,—свой пасаг, займае ў ёй становішча спажыўца матэрыяльных даброт, якія здабываюцца мужам. Яна—спажывец, муж—здабытчык. У эпоху гандлёвага капіталу яна злучала яшчэ са сваймі спажывецкімі і хатня-гаспадарчыя функцыі. Тады ў буржуазнай сям‘і ажыцьцяўляўся хоць некаторы падзел працы. Але буржуазная жанчына даволі энэргічна вызвалялася з-пад ярма хатняй гаспадаркі.

Тэхнічны прогрэс дапамагаў гэтаму яе вызваленьню.

Абавязкі буржуазнай хатняй гаспадыні яшчэ ў першую стадыю прамысловага капіталізму былі надзвычайна вялікімі, да другой палавіны XIX сталецьця надзвычайна зьменшыліся, а к канцу яго амаль што зусім зьніклі. Усё кола яе абавязкаў, як, напрыклад, шыць, вязаць, пячы хлеб і ліць сьвечкі, перайшло да спэцыяльных прадпрыемстваў. Сям‘я перастала быць вытворчай ячэйкай—яна страціла свае вытворчыя функцыі. Гэта акалічнасьць рэзка зьмяніла становішча жанчыны ў буржуазнай сям‘і. Сьледам за гаспадарчымі яна неўзабаве вызвалілася і ад функцый па выхаваньні дзяцей; усё гэта выконваў цэлы кадр спэцыяльнага пэрсоналу, які абслугоўваў сям‘ю. За буржуазнай жанчынай засталіся функцыі—даваць мужу законных насьледнікаў і спажываць здабытыя мужам сродкі. За апошнюю функцыю яна вельмі моцна трымаецца, што датычыць першай, дык ад яе часта ўхіляецца. У адным модным францускім романе амэрыканская мільярдэрша вельмі занята адшуканьнем спосабаў, як-бы перакласьці „няўхільнае зло“ нараджэньня дзяцей на спэцыяльна найманых для гэтай мэты жанчын—на ўзор таго, як у вядомым памфлеце Поля Лафарга „Праданы апэтыт“ беспрацоўны бядняк узяў на сябе абавязак замяняць свайго пана ў страваваньні яды. Буржуазная жанчына, якая вызвалілася ад усіх абавязкаў, захопленая фліртам, модамі, плёткамі і культам свайго ўласнага цела, якая забаўляецца спортам, філянтропіяй, відовішчамі, выконвае толькі адну функцыю: спажывае здабытае мужам. На гэта дае ёй права ў адным выпадку прынесены ў сям‘ю „пай“—пасаг, у другім—заключаная ёю, на падставе пэўнага комплексу матэрыяльных даброт, як эквіваленту аднашлюбнага простытуяваньня, зьдзелка пажыцьцёвага самапродажу...

Так адбываецца процэс пазбаўленьня буржуазнай сям'ёй усякага зьместу, які быў уласьцівы ёй у дакапіталістычную эпоху.

Пакойны трыбун францускага пролетарыяту Жуль Гэд пісаў, седзячы ў Сэн-Пелажыйскім астрозе: „усё часьцей і часьцей сярод тых, хто „нарадзіўся з срэбнай лыжкай у роце", усе функцыі, якія нормальна складаюць функцыі сям'і, выконваюцца староньнімі і за грошы. Староньняя наймітка, мамка, корміць і калыша дзіця. Староньняя наймітка нянька ці нянькі, адзяваюць, мыюць, кормяць і гуляць водзяць гэтага пана-юнака. Староньнія найміты: гувэрнэр, які павінен будзе адкрыць яму шлях да разумовага разьвіцьця, і розныя настаўнікі, якія будуць яго вучыць—за грошы, усяму, чаго часьцей за ўсё ня ведае ні матка, ні нават бацька. Багатая сям'я, якая адна толькі яшчэ захоўвае відочнасьць жыцьця, сама зьяўляецца ўжо ні больш, як касай"...[1])

Вось фактары, якія раскладаюць („дэзынтэгруюць") сям'ю на соцыяльных верхавінах капіталізму.

Процэс дэзынтэграцыі сям'і разгортваецца ня менш інтэнсыўна і ў ніжніх пластох соцыяльнай піраміды капіталістычнага грамадзтва. Але тут ён абумоўлен зусім іншымі фактарамі, чым тыя, аб якіх мы гаварылі да гэтага часу. Першы сярод іх—уцягненьне жаночай працы ў кола капіталістычнай эксплёатацыі.

Маркс піша ў „Капітале": Паколькі машыны робяць сілу мускулаў лішняй, яны робяцца сродкам для таго, каб ужываць рабочых бяз мускульнай сілы, ці з невыстарчальным фізычным разьвіцьцём, але з больш спрытнымі членамі. З гэтай прычыны жаночая і дзіцячая праца была першым словам капіталістычнага ўжываньня машын. Такім чынам гэты магутны спосаб падмены працы і рабочых безадкладна ператварыўся ў спосаб павялічваць лік нанятых рабочых, падпарадкуючы непасрэднаму панаваньню капіталу ўсіх членаў рабочай сям'і, бяз розьніцы полу і ўзросту... Раней рабочы прадаваў сваю ўласную рабочую сілу, якою ён уладаў, як формальна-вольная асоба. Цяпер ён прадае жонку і дзяцей. Ён становіцца прадаўцом нявольнікаў[2]).

Ужо пры сваіх першых кроках, прамысловы капіталізм пачаў набіраць значную частку эксплёатаваных народаў сярод жанчын. Так у 1768 г. была пабудавана ў Англіі першая баваўняна-папяровая прадзільня і ўжо ў 1788 годзе, гэта значыць, яшчэ да выкарыстаньня паравой сілы, у Англіі і Шотляндыі было 142 фабрыкі, на якіх у адным толькі прадзільным аддзяленьні поплеч з 26.000 мужчын і 35.000 дзяцей было 31.000 жанчын. У ткацкіх набіўных і іншых аддзяленьнях гэтых фабрык працавалі пазьней поруч са 133.000 мужчын і 48.000 дзяцей ня менш, як 59.000 жанчын[3]).

---

[1]) Жуль Гэд. Женщина и буржуазное общество. Изд. „Кніга" Л. 1924. Стар. 21.

[2]) Карл Маркс. Das Kapital. Erster Band. Dreizehntes Kapital. 3/a.

[3]) Проф. Ю. Пірсторф. Женский труд и женский вопрос. Изд. Гершунина. СПБ. 1902. Стар. 35.

Таннасьць жаночае рабочае сілы, лепшая дапасаванасьць жанчын да работы ў шмат якіх вытворчасьцях, адсталая клясавая самасьвядомасьць жанчын,—усё гэта павялічвала попыт на жаночыя рабочыя рукі з боку капіталістага. Малы заработак бацькі ці мужа, жаданьне набыць крыніцу прыбытку і разам з тым больш незалежнае становішча абумовілі хуткі рост прапановы працы з боку жанчын. Такім чынам пачалося хуткае ўцягненьне жаночай працы ў сфэру капіталістычнай эксплёатацыі. Лік жанчын, занятых у вытворчасьці, рос на працягу апошніх дзесяцілецьцяў з году ў год і абсолютна, і адносна, а ў некаторыя крытычныя моманты, як, напрыклад, апошняя імпэрыялістычная вайна, давала рэзкія скачкі ўверх, у корані зьмяняючы суадносіны палоў на рынку працы.

Вось некаторыя лічбы, якія характарызуюць гэты процэс.

У Нямеччыне ў 1882 годзе з 23 мільёнаў 71 тысячы 364 жанчын, якія жылі ў краіне, былі заняты якой-небудзь профэсіяй 5.541.517, г. зн. 24,02 проц. усяго жаночага насельніцтва.

У 1885 годзе з 26.361.123 жанчын, якія жылі ў Нямеччыне, мела пэўную профэсію 6.578.350, г. зн. 24,96 проц. У 1907 годзе з 31.259.429 нямецкіх жанчын было занята профэсыянальнай працай 9.492.881, г. зн. 30,37 проц. У 1925 годзе было занята тою-ж працай 11.477.684., г. зн. 35,6 проц. усяго жаночага насельніцтва.

Вось даныя, якія красамоўна сьведчаць аб няўхільным і вельмі значным росьце самадзейнага жаночага насельніцтва Нямеччыны на этапах, якія аддзяляюць адзін ад аднаго 4 апошніх перапісы ў Нямеччыне (1882, 1895, 1907, 1925). Мы бачым, што за тэрмін ад 1882 да 1895 году прырост самадзейных жанчын складае (у круглых лічбах) 1.036.000 чал., гэта значыць 19 проц., за тэрмін ад 1895 да 1907 году—2.915.000 чал., гэта значыць 44 проц., і, урэшце, за тэрмін ад 1907 да 1925 году—1.985.000 чалавек, гэта значыць 20 проц. Апошняя лічба патрабуе, аднак, значнага выпраўленьня коэфіцыэнту ў бок павялічэньня, бо трэба мець на ўвазе, што папярэднія перапісы падлічалі насельніцтва ранейшай нямецкай імпэрыі, перапіс-жа 1925 году меў справу з Нямеччынай пасьлявэрсальскай.

Яшчэ больш паказальны лічбы, што азначаюць месца, якое займае жанчына сярод усяго прамысловага насельніцтва краіны. У 1882 годзе гэта месца азначалася 29,2 проц. у 1895 годзе—29,8 проц., у 1907 годзе—33,8 проц., у 1925 г.—35,9 проц. Такім чынам звыш $^1/_3$ усёй прамысловай працы ў Нямеччыне абслугоўваецца жанчынамі. Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што жаночая праца домінуе ў 30 галінах нямецкай прамысловасьці. У якасьці прыкладу таго, як дыфэрэнцыруецца сучасная жаночая праца можна зьвярнуцца да статыстыкі Бэрліну. З 2.175.000 бэрлінскіх жыхарак заняты самастойнаю працаю 799.000 чалавек, ці 36,8 проц. Няма ні аднэй галіны прамысловасьці, комунальнай гаспадаркі і адміністрацыйнага апарату, дзе жанчыны ня былі-б прадстаўлены ў тэй ці

іншай колькасьці. Работніцы складаюць 10,8 проц. электротэхнічнага пролетарыяту Бэрліну, 17,2 проц. пролетарыяту харчовай прамысловасьці, 18 проц. сярэдняга чыноўніцтва, 21,8 проц. канторскіх служачых, 34 проц. тэхнічнага пэрсоналу, 52,4 проц. пролетарыяту хэмічнай прамысловасьці, 64 проц. тэкстыльнага пролетарыяту, 74 проц. пролетарыяту швіўнай прамысловасьці.

Пакажам цяпер даныя, якія характарызуюць процант самадзейнага насельніцтва сярод мужчын і жанчын па апошніх даваенных перапісах у найважнейшых дзяржавах сьвету, апрача Нямеччыны, аб якой мы ўжо гаварылі больш падрабязна.

| КРАІНЫ | Год перапісу | Процант самадзейн насельніцтва | |
|---|---|---|---|
| | | Мужчын | Жанчын |
| Францыя | 1911 | 68,7 | 38,7 |
| Аўстрыя | 1910 | 61,5 | 43,5 |
| Італія | 1901 | 68,0 | 32,4 |
| Швайцарыя | 1910 | 63,9 | 31,7 |
| Вялікабрытанія і Ірляндыя | 1911 | 65,1 | 25,1 |
| Данія | 1911 | 62,0 | 26,1 |
| Фінляндыя | 1910 | 55,8 | 30,5 |
| Бэльгія | 1910 | 60,6 | 23,8 |
| Вэнгрыя | 1910 | 64,1 | 20,1 |
| Злучаныя Штаты Паўн. Амэрыкі | 1910 | 63,6 | 18,1 |
| Швэцыя | 1910 | 58,8 | 21,7 |
| Норвэгія | 1910 | 56,1 | 23,1 |
| Голяндыя | 1909 | 59,3 | 18,3 |
| Гішпанія | 1910 | 66,4 | 9,9 |
| Расія | 1897 | 41,6 | 8,4 [1] |

Даныя гэтыя сьведчаць аб тым, што ў пэрыод, непасрэдна папярэдні сусьветнай імпэрыялістычнай вайне, у пераважнай большасьці дзяржаў процант самадзейных жанчын дасягае значнай вышыні, хістаючыся за некаторымі выключэньнямі (Гішпанія, Расія) паміж 43 і 18, і што ён быў менш адпаведнага проценту ў мужчынскага насельніцтва ў 2—3 разы.

[1]) Ня ўлічваючы несамастойных, але самадзейных членаў сям'і.

Перапісы, якія адбываліся пасьля вайны, паказалі рост процанту самадзейных жанчын ува ўсіх краінах. Гэты процант складаў (у цэлых) для Францыі ў 1921 г.—42, для Англіі—26, для Злучаных Штатаў—21 [1].

Зазначым яшчэ, што ўцягненьне жанчын у сфэру працы пачалося з найменш забясьпечаных клясавых груповак пролетарыяту і мала сьвядомага сялянства. Паступова пашыраючыся, яно распаўсюдзілася за апошні час і на ўсю дробную буржуазію, усё больш і больш захапляючы заможныя групоўкі.

Якія-ж вынікі мае для сямейна-шлюбнай організацыі капіталістычнага грамадзтва няўхільны і хуткі рост колькасьці самадзейных жанчын сярод усёй масы жаночага насельніцтва?

Вынікі гэтыя вельмі align="" рознастайны.

З аднаго боку, процэс профэсыяналізацыі жанчын уплывае на сям'ю дэзорганізоўным чынам. Жанчына-пролетарка, ідучы на фабрыку ці ў кантору, прымушана ва ўмовах капіталістычнага грамадзтва пакідаць дзяцей на волю лёсу, на догляд суседзяў і на выхаваньне вуліцы. Занятая цяжкою працаю, яна ня мае магчымасьці ствараць „хатні прытулак". Ва ўмовах капіталізму праца жанчыны і яе сямейныя функцыі знаходзяцца ў самай жорсткай супярэчнасьці. Адсюль вось і тыя неперамoжныя, невырашальныя ў капіталістычных абставінах конфлікты, аб якіх гаворыць вядомая дзеячка буржуазнага фэміліскага руху Алена Ланге: „Разьмеркаваньне жаночай сілы паміж домам і заработкам... выклікала глыбокі надрыў у асабістым жыцьці жанчыны... Існаваньне жанчыны ад гэтага часу належыць двум сыстэмам, з якіх кожная мае сваё ўласнае жыцьцё, ажыцьцяўляе ўласныя мэты, кіруецца ўласнымі законамі. У лёсе жанчыны супроцьлежнасьць паміж інтарэсамі сям'і і інтарэсамі вытворчасьці ўзрастае цяпер да самага рэзкага дысонансу; яе жыцьцё робіцца арэнай самых рэзкіх сутычак паміж гэтымі дзьвюма тэндэнцыямі нашага культурнага разьвіцьця, ператвараецца сапраўды ў поле бойкі двух эпох [2].

Бацька—пролетары, муж—пролетары ня маюць магчымасьці забясьпечыць дачку і жонку. Яна прымушана шукаць самастойныя крыніцы існаваньня. А раз яны знойдзены, пачынаецца няўхільны адрыў яе ад сям'і. Захопленая коламі капіталістычнай эксплёатацыі, жанчына-матка і жонка ня мае магчымасьці выконваць сваіх асноўных сямейных функцый. Яна хаця-не-хаця „закідае" хату, і сям'я пачынае дэзынтэгравацца.

[1]) Даныя прыведзены па наступных крыніцах. Statistischer Jahrbuch für das deutsche Reich. 9, Wolf. Der Frauenerwerb in den Hauptkulturstaaten. Minchen 1916. Мировое хозяйство за время с 1913 по 1921 год. Статистический ежегодник под ред. проф. С. Фалькнера М. 1922. D-r Burgdörfer. Statistik der Ehe. Berlin. 1927 Willi R. Francke. Die erwerbs tätige Berlinerin. Berlin, 1927. Мировое хозяйство 1913—1927. Сборник статистических материалов изд. ЦСУ СССР, М., 1928.

[2]) Елена Ланге. Женский вопрос в его современной постановке. Пер. И. и В. Слоним. М. 1909 г., стар. 14.

Стомленая работай жонка і знэрваваны хатнімі непарадкамі муж узаемнымі папрокамі і нападкамі яшчэ больш разбураюць сямейны грунт.

Жаночая праца раскладае сям'ю капіталістычнага грамадзтва, але як-бы ня быў цяжкім процэс распаду сям'і, профэсыяналізацыя жанчыны зьяўляецца глыбока-прогрэсыўнай гістарычнай зьявай. Бо дыялектыка гісторыі заключаецца ў тым, што тая самая жаночая праца, якая раскладае сям'ю капіталістычнага ладу, вядзе да ўтварэньня новых форм сямейна-шлюбных адносін. „Як-бы жудасным і агідным не здавалася разбурэньне старых сямейных адносін пры капіталістычнай сыстэме",—гаворыць Кароль Маркс,—„тым ня менш буйная прамысловасьць моцаю той дадатнай ролі, якую яна дае жанчынам, недарослым і дзецям абодвух палоў у грамадзка-організаваных процэсах вытворчасьці, па-за хатняй сфэрай, утварае новую экономічную аснову для вышэйшых форм сям'і і ўзаемаадносін абодвух палоў". Найбольш важнае соцыяльнае значэньне вытворчай самадзейнасьці жанчыны заключаецца ў тым, што гэта самадзейнасьць робіць жанчыну экономічна незалежнай ад сям'і, што яна вызваляе яе ад абавязку, які для яе не праходзіць дарэмна—быць спажыўцом здабываных мужам сродкаў. Толькі вытворчая самадзейнасьць можа даць жанчыне незалежнасьць, а ня тыя рэформіцкія проекты, з якімі выступілі ў свой час Марыянна Вэбэр і профэсар Форэль, яны думалі ўстанавіць пэўную, дагаворна зафіксаваную суму, якую муж павінен выплачваць жонцы за выкананьне ёю хатня-гаспадарчых функцый.

Экономічная самастойнасьць жанчыны вядзе раней за ўсё да таго, што ў яе няма катэгорычнай патрэбы заключаць зьдзелку законнага шлюбу. Яна можа кіравацца асабістымі прыхільнасьцямі і індывідуальным выбарам, куды шмат вальней, чым жанчына, мэтаю якой зьяўляецца знайсьці ў мужу здабытчыка сродкаў. Вельмі паказальны ў гэтых адносінах наступныя лічбы. З кожных 100 пазашлюбных нараджэньняў ужо ў 1900 годзе ў Нямеччыне 59 прыпадала на долю самадзейных жанчын. У 1910 годзе гэта доля азначалася 67, а ў 1923 г. дасягнула 82 [1]). Такім чынам, звыш $^4/_5$ пазашлюбных нараджэньняў прыпадае на жанчын, занятых самастойнай профэсыянальнай працай. Толькі бязглуздыя філістэры могуць лемантаваць, што праца „распушчае" жанчыну, зьнімае з яе „моральныя лейцы". Для нас зусім ясна, што тут у наяўнасьці натуральны вынік экономічнай незалежнасьці жанчыны, які дазваляе ёй устанаўляць свае палавыя адносіны з куды большай свабодаю, чым гэта можа зрабіць жанчына-ўтрыманка.

Зьява таго-ж парадку дае таксама і большы процант разводаў сярод самадзейных жанчын. Для жанчыны, пазбаўленай крыніц заработку, трэба заставацца замужам, бо гэта яе матэрыяльна забясьпечвае. Вось чаму

[1]) D-r Herbert Schmidt-Lamberg. Mutterschaft und Erwerbstätigkeit. Zeitung für Sexualwissenschaft. Band XIV. 1928. S. 205.

шлюб, дзе адзін бок—здабытчык, а другі—утрыманец, часта застаецца і тады, калі згнілі ўсе яго асновы апрача матэрыяльных. Калі мы вышэй гаварылі, што буржуазны шлюб у пераважнай большасьці выпадкаў заключаецца як комэрцыйная зьдзелка, то трэба заўважыць, што ён амаль заусёды існуе як пэрманэнтная зьдзелка такога-ж парадку. У романе Г. Рэйяра „Голы чалавек“ таксама адбіта псыхолёгія сучаснай буржуазнай жанчыны, якую матэрыяльныя даброты трымаюць на ланцугу шлюбу, які ўжо фактычна даўно не існуе. „Разьвесьціся... пры гэтым слове мадам Сэрвэн успамінае сваё ранейшае незабясьпечанае існаваньне, да замужжа... расстацца са сваіма багацьцямі, раскошаю, знаёмствамі, аддацца на лёс будучыні, поўнай невядомасьці, страху?.. Ня гледзячы на жаданьне, ня гледзячы на каханьне, якое можа цягне яе да другога, яна хоча астацца прыкаванай да таго, хто ўладае багацьцем“ [1]).

Ад гэтай простытуяванай псыхолёгіі нікчэмнай нявольніцы багацьця пазбаўлена жанчына, якая экономічна вызвалілася ад мужа. Вось чаму, напрыклад, колькасьць разводаў сярод самадзейных жанчын у Нямеччыне ў пэрыод 1900—1910 гадоў на 11 проц. перавышае тую-ж колькасьць сярод хатніх гаспадынь і жанчын, якія ня маюць прафэсіі. Ужо ў 1917 годзе на 100 шлюбаў, заключаных самадзейнымі жанчынамі, прыпадала 7 разводаў, а ў 1923 годзе гэта лічба дасягнула 23 на 100 [2]).

Разводы сярод занятых самастойнай працай жанчын пачалі ў два разы перавышаць адпаведную лічбу сярод утрыманак. Тое самае, што мы сустракаем у Нямеччыне, ёсьць ва Францыі, Італіі, Англіі і іншых капіталістычных краінах.

Урэшце, трэба спаслацца яшчэ на адзін вынік, які сям'і капіталістычнага грамадзтва нясе профэсыяналізацыя жанчыны. Гэта зьмяншэньне ліку сям'і. У шэрагу акалічнасьцяй, якія дэтэрмінуюць зьмяншэньне пры капіталізьме нараджэньняў, профэсыяналізацыя жанчыны зьяўляецца аднэй з найважнейшых. З прычыны таго конфлікту між сямейнымі функцыямі жанчыны і яе профэсыянальнай працай, аб якім мы гаварылі раней, кожнае новае дзіця азначае большы ці меншы адыход жанчыны ад працы, утварае новыя перашкоды па шляху ўцягваньня яе ў самастойнае працоўнае жыцьцё. Многасямейнасьць часта азначае для жанчыны канечную патрэбу пакінуць профэсію і цалкам аддацца сям'і. І яна змагаецца з гэтай пэрспэктывай памяншэньнем ліку нараджэньняў.

Адна колектыўная праца, якая выпушчана ў 1913 годзе гальтонінстытутам, устанавіла, што ў дасьледаваным супрацоўнікамі інстытуту фабрычным асяродку Blackburk сярэдняя колькасьць дзяцей сярод самадзейных жанчын складала 3, а сярод утрыманак 5,3 [3]). А. Блюм паве-

[1]) Г. Рэйяр. Голый человек. Библиотека всемирной литературы. Л. 1928, стар. 96.

[2]) Schmidt-Lamberg. Op. Cit. S. 206.

[3]) Pearson и сотрудники. On the correlation of fertility with social value. London 1913. Цытую па працы проф. Fritz Lenz. „Menschliche Auslese und Rassenhygiene“.

дамляе, што дасьледваньне кліентак аднэй з бэрлінскіх страховых кас, якая налічвала 31.509 членаў-жанчын, зробленае ў 1916 годзе, паказала што на 100 нормальных нараджэньняў прыпадае сярод профэсыянальна працаваўшых жанчын 190 выкідышаў, а сярод непрацаваўшых адпаведная лічба азначаецца ў 4,75, г. зн., у 40 раз меней...[1]) Бясспрэчна, у гэтай зьяве некаторую ролю граюць і такія прычыны, як уплыў шкоднай працы на жаночы організм. Але таксама бязумоўна, што пераважная большасьць выпадкаў абумоўлена сьвядомым нежаданьнем работніцы мець новае дзіця, якое перашкаджае ёй, а іншы раз і зусім адбірае ад яе ўсякую магчымасьць займацца профэсыянальнай працай. Аб гэтым красамоўна сьведчаць і адказы на пытаньні ў анкеце, якую ў 1927 годзе праводзілі сярод пацыентак жаночай клінікі ў Лінцы профэсар Франц Эртль і Л. Гшвендтнер. Гэтыя адказы, у асноўным, паказалі адно жаданьне—мець як мага менш дзяцей. Пры гэтым сярэдняя лічба ў самадзейных жанчын вызначылася ў 1,7, а ў вольных ад профэсыянальнай працы ў 2,3. Галоўным мотывам самадзейных жанчын было пры гэтым „жаданьне мець і ў далейшым магчымасьць заработку“ [2]).

Зьмяншэньне лічбы нараджэньняў, якое адбываецца поруч з ростам жаночай працы, вельмі трывожыць сэрцы многалікіх гэлертэраў, якія з жудасьцю прадракаюць, што „калі суадносіны паміж самадзейнымі і несамадзейнымі жанчынамі, якія ўстанавіліся з 1915 году, захаваюцца на працягу яшчэ 30 гадоў, дык самадзейная жанчына будзе даваць у сярэднім жыцьцё толькі аднаму дзіцяці“ [3]). І тут не абыходзіцца без комэдыі. Адзін з гэтых перапалоханых гэлертэраў, накшталт аўтара вышэйадзначанай цытаты, з самым сур'ёзным відам абвяшчае, што „тут гутарка ідзе аб справе міжнароднага значэньня, якую трэба-б абмеркаваць у спэцыяльнай камісіі Лігі Нацый“ [4]). Другія шукаюць паратунку ў яшчэ больш рашучых мерах і дагаварваюцца ці да поўнай забароны жаночай профэсыянальнай працы, ці хоць-бы да таго, каб на сем'і, дзе працуе муж і жонка, накладаць такія падаткі, якія-б зрабілі жаночую працу экономічна-нявыгаднай [5]).

Гэтыя рэакцыйныя утопіі цікавяць нас ня толькі, як паказальнік таго, да чаго могуць дагаварыцца перапалоханыя апалёгеты струхлелага соцыяльнага ладу, але і як ілюстрацыя да вышэйадзначанага палажэньня аб раскладзе сям'і, які ўсё ўзрастае з прычыны наўхільных экономічных законаў пашырэньня жаночай працы.

---

[1]) A. Bluhm. Zur Kentnis der Gattungsleistungen der Jndustriearbeiterinnen im Kriege. Archiw für Rassenbiologie. 1918. Heft I.

[2]) L. Gschwendtner. Frauenberufstätigkeit, Geburtenrückgang und Verpöbelung des Volkes. Zeitschrift für Sexualwissenschaft. Band. XIV. 1928. S. 449.

[3]) D-r Schmidt-Lamberg. Op. Cit. S. 206.

[4]) Ibidem.

[5]) Ibidem S. 446.

Мы гаварылі вышэй аб тыпе жанчыны, якую ўжо з малых гадоў пачынаюць выхоўваць у такім кірунку, каб „злавіць“ добра забясьпечанага жаніха, жыцьцёвай мэтай якой зьяўляецца „выгодная партыя“. Профэсыянальная самастойнасьць пазбаўляе жанчыну ад гэтага простытуяваньня шлюбу, няўхільнага ва ўмовах капіталістычнага грамадзтва для жанчыны, прымушанай застацца вечнай нахлебніцай, сьпярша—бацькі, а пасьля—мужа. Гэтая акалічнасьць асабліва яскрава выяўляецца ў пролетарскім асяродзьдзі. Дзяўчына-пролетарка ўжо рана набывае экономічную самастойнасьць. Разам з тым яна заваёўвае і незалежнасьць ад сям'і. „Маладая работніца“,—гаворыць профэсар Робэрт Міхэльс,—„пакідае бацькаўскі дом, робіцца незалежнай для таго, каб з аднаго боку—пазбавіцца ад апекі, а з другога,—каб ухіліцца паглынаньня яе заработку шырокім рэчышчам сямейнага бюджэту і пры дапамозе тэрыторыяльнага аддзяленьня заваяваць сабе права самавызначэньня“ [1]). Гэты-ж аўтар паказвае, што такім чынам дзяўчына робіцца гаспадаром свайго ўласнага лёсу і атрымлівае магчымасьць паставіць пытаньне аб шлюбным саюзе толькі ў залежнасьць ад сваіх асабістых сымпатый.

Працоўная самадзейнасьць жанчыны дапамагае таму, каб пачуцьцё каханьня не забруджвалася фузам „разрахункаў“, каб яно не забруджвалася меркаваньнямі „экономічнага парадку“, каб яно выяўлялася ў сваім сапраўдным, натуральным выглядзе. Аб гэтым добрым уплыве экономічнай незалежнасьці жанчыны на яе каханьне Мюльлер-Ліэр правільна гаворыць: „як толькі жанчына ў гаспадарчых адносінах стаіць на сваіх уласных нагах, дасягае самастойнасьці, яна становіцца вольнай асобай, якая не залежыць ужо больш ад другіх; можа жыць і выбіраць каго захоча: разам з тым і каханьне яе павінна набыць іншы характар, чым каханьне жанчыны, прыняволенай сям'ёю. І калі нават у нашу позьнясямейную эпоху большая роля належыць усё яшчэ жанчыне сям'і, г. зн. у істоце дачка-спадкаемка, жанчына-ратье, дык будучыня належыць новаму тыпу, новай жанчыне, якая дабіваецца самастойнасьці ўласнаю працаю, раўнопраўнай з мужчынай прадстаўніцы пэўнай профэсіі“ [2]).

Для характарыстыкі сямейна-шлюбнай організацыі капіталістычнага грамадзтва трэба зьвярнуцца да этыка-праўнай абалонкі гэтай організацыі.

Мораль пануючых пры капіталістычнай уладзе кляс робіць сьвятой адзіную дапушчальную шлюбную форму—моногамію. Гэтае-ж устанаўляе і праўны апарат, які знаходзіцца пад іх загадам. „Моногамія“—гаворыць Энгэльс—„узьнікла ад сконцэнтраваньня вялікіх багацьцяў у адных руках—пры тым у руках мужчыны—і ад неабходнасьці перадаць гэтыя багацьці ў спадчыну дзецям гэтага мужчыны і нікому іншаму“ [3]).

---

[1]) Prof. Robert Michels. Altes und Neues zum Problem der Moralstatiatik. Archiv für Socialwissenschaft und Sozialpolitik. Band 57. 1927. S. 737.

[2]) Ф. Мюльлер-Ліэр. Фазы любви. Стар. 72.

[3]) Энгельс. О происхождении семьи и т. д., стар. 50.

Пераход ад полігаміі да моногаміі пачаў ажыцьцяўляцца яшчэ да капіталізму. Ужо ў эпоху нявольніцкай гаспадаркі пачала вызначацца зусім пэўная тэндэнцыя—выдзяляць з шэрагу жонак, якія належылі якому-небудзь мужчыне, адну галоўную, асноўную, на якую фактычна ўскладалася організацыя хатняй гаспадаркі. Поплеч з галоўнай жонкай іншыя займалі другараднае становішча, яны былі пад яе загадам і пераствараліся, такім чынам, у асаблівую групу служак, якія ў той-жа самы час зьяўляліся і сэксуальнымі об'ектамі „мужа". Гэта быў ужо першы крок па шляху да моногаміі, і зроблен ён быў пераважана з мэтаю лепшай організацыі хатняга парадку, а таксама і з тою мэтаю, каб ліквідаваць тую калатніну паміж жонкамі, якая заўсёды ішла поруч з полігаміяй. У эпоху фэўдалізму і гандлёвага капіталізму рост багацьцяў, якія сконцэнтраваліся ў асобных руках, дапамагаў пашырэньню моногамічнага прынцыпу. Патрэба забясьпечыць уласьніку багацьця, каб яно перайшло да „законнага" патомства, у пахаджэньні якога ў яго ня было-б няпэўнасьці, абумовіла ўсебаковую перамогу моногамічнага прынцыпу як у сьвецкім, так і ў царкоўным праве. Капіталізм, пры якім гэтыя прадпасылкі моногамнага шлюбу выявіліся, як асабліва дзейсныя, ня толькі законсэрваваў атрыманую ім у спадчыну ад фэўдальнай эпохі моногамічную форму, але ўмацаваў яе новымі абручамі праўнага прымусу і моральнай санкцыі. Непарыўная, заўсёдная і прымусовая моногамія дасягае ў эпоху прамысловага капіталізму свайго найвышэйшага пункту.

Моногамія абярнулася ў адзіную шлюбную форму, якую прызнавалі закон і мораль буржуазнага грамадзтва.

Буржуазія моцна трымалася за гэтую форму, якая ва ўмовах капіталістычнага грамадзтва ня была рэальным фактам, а зьяўлялася, па слову вядомага дасьлядоўцы сэксуальнай проблемы Івана Блоха, „недасяжным і ніколі неажыцьцёўным ідэалам" [1]). „Моногамію,—гаворыць францускі пісьменьнік Фіно,—абвясьцілі навукаю асноўнаю, галоўнаю і выратаваўчаю, якая адпавядае як чалавечым, так і боскім законам. А на справе—яна толькі выключэньне з полігаміі, пераможнай, хоць і прыкрытай".

Занатаваная як адзіная форма шлюбу ў юрыдычныя кодэксы буржуазіі і на яе этычныя табліцы, моногамія сапраўды была выключэньнем з полігамічнай практыкі буржуазнага грамадзтва. Гэта падвойная бухгальтэрыя буржуазіі ўдала ахарактарызавана Марксам:

— „Распусны буржуа абыходзіць шлюб і патаемна займаецца блудніцтвам, купец абыходзіць інстытут уласнасьці другіх пры дапамозе спэкуляцыі, банкруцтва і г. д., малады буржуа дабіваецца незалежнасьці ад уласнай сям'і, практычна раскладае сям'ю на сваю карысьць, але

---

[1]) Jwan Bloch. Das Sexualleben unserer Zeit. 10—12 Aufl. Berlin. 1919 S. 204.

шлюб, прыватная ўласнасьць, сям'я застаюцца тэорытычна недатычнымі, бо яны зьяўляецца практычнай асновай, на якой буржуазія пабудавала сваё панаваньне, бо ў сваёй буржуазнай форме яны—умовы, якія робяць буржуа буржуем"...

Дуалізм слова і справы, тэорыі і практыкі, ідэалу і факту, які прасякнуў сабою ўсю істоту буржуазіі, ярка выявіўся ў спалучэньні з буржуазным грамадзтвам высокага ідэалу моногамічнай сям'і з бруднай полігамічнай жыцьцёвай практыкай. І чым больш пашыранай рабілася гэта практыка, тым больш шчыра займалася буржуазія многаслоўем аб сьвятой нязрушнасьці моногаміі.

*(Працяг будзе).*

# „ЗАПАДНО-РУССКАЯ“ ШКОЛА І ЯЕ ПРАДСТАЎНІКІ [1])

А. Цьвікевіч

## VI. „Западно-руссизм“ у ідэолёгічным афармленьні

Ня гледзячы на глухі, пазбаўлены якога-б то ні было грамадзкага жыцьця, пэрыод 70-х гадоў на Беларусі, ня гледзячы на перамогу рэакцыі і казённай афіцыяльнай сфэры, якая шэрым пакрыцьцём лягла на Беларусь і зусім захавала ад вока біцьцё народнага пульсу [2]), недзе ў народных глыбінях, пад саламянай страхой курнай сялянскай хаты і па старасьвецкіх засьценках зьбяднеўшай беларускай шляхты, як і раней, жыла і паціху гарэла сьвядомасьць таго, што ні вызваленьне сялян ад прыгону, ні полымя крывавага паўстаньня, ні расійская адміністрацыя з яе чыноўнікамі, школамі, войскамі і турмамі, ні, урэшце, сьвісткі паравозаў, што панесьліся дзікім чортам па лясох і балотах Беларусі—што ўсё гэта не вырашае спрадвечнае загадкі краіны, не нясе ёй канчатковай, блізкай і зразумелай праўды. Народныя масы ўсёроўна ставіліся да ўсіх гэтых і навін, вонкава, толькі споверху іх успрыймалі; як сто гадоў прад тым, яны маўкліва працавалі, слухалі і чагосьці чакалі.

Яны, праўда, бачылі, што жыцьцё нібы зьмяняецца; яны разумелі, што на іх насоўваецца нешта новае, але што гэта новае павінна сабой азначаць—яны не разумелі. Адно для іх было ясна: старая Польшча, тая „польская справа“, якая панавала на гэтых землях столькі часу і ў еднасьці з якой шмат хто ў краю марыў аб больш свабодным і поўным жыцьці, і ўглядаў нешта сваё ўласнае, тутэйшае,—што гэтая старая Польшча памерла і ад іх адыходзіць. Адыходзіць на захад, недзе за Буг да мазураў, да карэннай польскай зямлі, адыходзіць цалкам да Варшавы.

---

[1]) Гл. „Полымя“, № 4.

[2]) Для таго, каб пазнаць ўсю агіднасьць панаваўшай у той час на Беларусі расійскай казёншчыны, вельмі карысна прачытаць хоць-бы ўспаміны А. Жыркевіча аб акад. Н. Чагіне, зьмешчаныя ў „Записках Сев.-Зап. отделения Георграф. О-ва“, 1911 г., кн. 2, стар. 165—231. Акад. Чагін—гэта ўвасабленьне рэжыму старой расійскай культуры на Беларусі за ўвесь доўгі час ад 1863 г. да 1909 г., аўтар нязьлічоных казённых сабораў і цэркваў, якія пакінуў на Беларусі стары рэжым. Паклоньнік Чагіна—А. Жыркевіч напісаў успамін пасвойму таленавіта, так што ў асобе Чагіна ўстае прад намі ўвесь стыль тагачаснай эпохі.

На месца гэтае польскасьці, яны бачылі, насоўваецца са ўсходу нешта новае, мала ведамае і знаёмае, але непераможна-моцнае—насоўваецца „Расія“.

Ішла Расія па чыгунках, па нязьлічоных станцыях, што аселі па Беларусі на самых неспадзяваных мясцох, ішла паравозамі і вагонамі, у асобе машыністаў, кондуктараў, інжынэраў і падрадчыкаў з какардамі і форменымі гузікамі; ішла па судох, па казённых палатах і ўсіх гарадзкіх установах; ішла па паліцыі, па валасных кіраўніцтвах; перавальвалася ў сотнях тысяч пудоў грузаў, што наплывалі ў край чыгункай, ракой і шасой; насоўвалася ў вялізным звароце гандлю ў банках, у банкірскіх канторах; ішла па пошце; наварачвалася сотнямі воінскіх цягнікоў, нагружаных салдатамі з гармонікамі, з заліхвацкімі чужымі песьнямі; замацоўвалася ў дывізыённых штабах, у вялізарнейшых інтэнданцкіх складах і вайсковых кашарах, дзякуючы якім Беларусь абарачывалася ў нейкую бясконцую крэпасьць; урэшце,—пачала ўсё больш і больш націскаць па царквох, школах, кнігах.

Усё, што было новага, напорыстага, пэўнага ў сябе, усё, што звысака і з пагардлівым зьдзіўленьнем глядзела на тутэйшае, „лапацонскае“,—усё гэта было „Расія“. Якая яна была сапраўды гэтая „Расія“, што яна з сабой прыносіла беларускай вёсцы і архаічнаму шляхоцкаму двару, дакладна ня было вядома. Пры канцы 70-х і з пачаткам 80-х год Расія толькі *пачынала* наплываць сюды, яна падрыхтоўвалася да чагосьці большага, да ўсеагульнага, усебаковага ахапленьня. Але было ўжо ясна, што гэтае ахапленьне пачынаецца, што яно нямінуча.

Жалезны закон экономічнага разьвіцьця рабіў сваю справу. Расійскі капіталізм з пачаткам 80-х гадоў перарос граніцы пецярбурскай і маскоўскай мануфактуры і пасьля падрыхтоўчага окумуляцыйнага пэрыоду і пашырэньня на ўсход і поўдзень, пачаў наступаць непераможнай пятой на захад, на Беларусь. Гэта ён,—расійскі капітал пачаў кідаць на Беларусь сотні цягнікоў, тысячы тон тавараў, безьліч гандлёвых агентаў, чынавенства, паліцыі, папоў, салдат. Тое, што на працягу цэльнага стагодзьдзя было не пад сілу імпэратарскаму расійскаму ўраду з яго крывавым дэспотычным рэжымам,—пэратварэньне Беларусі з польскага краю ў край „истинно-русский“,—тое бяскроўна і бяз шуму пачаў рабіць расійскі капітал з яго фабрыкамі, заводамі і канторамі.

І вось пад вясковай страхой, у шляхоцкім засьценку, ды ў старасьвецкім панскім двары на Беларусі адчулася нябесьпека. Загастрылася старое, спрадвечнае пытаньне, якое скрозь стаяла над краінай і ў часы Рэчы Паспалітай і ў часы цара і прыгону: што-ж ёсьць тут, на месцы, ад чаго адхілілася і пачала адыходзіць Польшча і куды насоўваецца Расія?

Што значыць „тутэйшы край“ і „тутэйшы народ“?

Так у самую заняпалую пору, „патапаўшчыны“ на Беларусі, падрыхтоўвалася і нараджалася ўзвышаная ідэя прыгнечанае мужыцкае беларускае

нацыі і адбывалася ў асьведамленьне самастойнасьці беларускай нацыянальнай культуры.

Тое, што цягнулася праз гады, дзесяцігодзьдзі і стагодзьдзі, тое ўрэшце знайшло само сябе, знайшло сваё імя, вырвалася полымем з-пад попелу мінулага.

Мы гаворым аб дзейнасьці Багушэвіча і пачатку беларускага культурнага сэпаратызму. Першыя праявы гэтае сьвядомасьці мы адносім значна далей, чым гэта прынята, мы адносім яе да першых дзесяцігодзьдзяў XIX веку, калі ў мурох Віленскага Унівэрсытэту залажыўся гурток беларускіх (рутэнскіх) адраджэнцаў у асобах Ігната Даніловіча, Міхала Бабро́ўскага, Язэпа Ярашэвіча ды іншых [1]). Праявы яе мы бачым затым на ўсім працягу XIX ст., ад прац Яна Чачота да вершаў Дуніна-Марцінкевіча. Але першае сапраўднае выяўленьні беларускае ідэі і сьвядомае зацьверджаньне яе, як ідэі не провінцыяльна-польскай і не провінцыяльна-расійскай, а самастойнай, незалежнай ад таго і другога боку, мы адносім да 70 гадоў, да дзейнасьці Багушэвіча.

Беларускае адраджэньне, як кожнае соцыяльнае зьявішча, не магло быць вынікам голай ідэі, не абапёртай і ня зьвязанай з тымі экономічнымі прычынамі, якія яго выклікалі. Сама па сабе ідэя гэтая і не магла зьявіцца. Яна магла толькі зарысоўвацца, як пэўная альтэрнатыва, як пэўная потэнцыяльная магчымасьць, але яна не магла знайсьці сабе месца ў жыцьці, як рэальны грамадзкі фактар. Вось чаму ідэя беларускага культурнага адраджэньня лунала ў паветры на працягу ўсяго XIX стагодзьдзя і, аднак, не набыла рэальнай формы: для гэтага ня было адпаведных матэрыяльных умоў. Тае клясы шляхецка-дваранскай, якая ў мінулым заўсёды зьяўлялася носьбітам нацыянальнай ідэі (прыкл., на Украіне, у Польшчы, Чэха-Славакіі, у паўднёвых славян і г. д.), — на Беларусі ня было. Ці, лепш кажучы, яна была, але ў стане дэнацыяналізаваным, поўпольскім. Зьвязаная адзінай натуральнай сельскай гаспадаркай з рэштай Польшчы, складаючы з ёй у экономічным сэнсе адно цэлае, яна з прычыны чыста об‘ектыўных умоў не магла пазбыцца сваёй польскасьці і вярнуцца ў беларускую нацыянальную стыхію. Усе спробы яе ў гэтым кірунку былі і заставаліся толькі спробамі. Польшча душыла Беларусь сваім зямельным капіталам з такой сілай, што, як мы зазначылі, нават Расійская імпэрыя, з усёй грамадой яе дзяржаўных, політычных і культурных засабаў, нічога тут не магла парабіць. Мы ведаем, як рашуча спынілася колёнізацыйна-русыфікатарская політыка Кацярыны II, як гэткім-жа фіаско скончыліся спробы Мікалая I і які мізэрны вынік даў разгром другога польскага паўстаньня: *польскасьць, як праява польскай экономічнай сілы ў краі, заўсёды перамагала і зводзіла на нішто ўсе афіцыяльныя наскокі расійскай політычнай улады.*

---

[1]) Даклад аб гэтым гуртку быў прачытаны намі 4 красавіка 1928 г. на паседжаньні Гістарычнае Клясы Інстытуту Беларускае Культуры.

Няма чаго даводзіць, што ў адносінах да беларускасьці экономічная сіла польскага зямельнага капіталу была непараўнана большай. Выбіцца з-пад яе ўплыву беларускасьць не магла ні пры якіх умовах. Ад Буга і да Дзьвіны і ад Нёману да Дняпра на працягу апошніх стагодзьдзяў усё жыцьцё Беларусі было прасякнута польскай культурай, польскай мовай, усюды панавала польская кніга і асьвета. Ня кажучы ўжо аб памешчыцкім двары, як і наогул аб шляхце, нават такі стан, як папоўства, і тое да 70—80 г. на Беларусі размаўляла папольску і жывіла свой сьветагляд польскай навукай і літаратурай.

Адзіна, што магла рабіць і што сапраўды рабіла беларускасьць ва ўмовах польскага экономічнага акружэньня і выкліканага ім акружэньня культурнага, гэта падтрымліваць свае мясцовыя звычаі, ня цурацца сваёй мясцовай мовы, падымаць і ўсьведамляць па меры магчымасьці беларускага селяніна, як адзін з элемэнтаў магчымага адраджэньня Польшчы.

Кожны шляхціч, кожны пан, які адчуваў сябе беларусам, мог іменна *толькі адчуваць* гэта і ня могператварыць гэтае адчуваньне ў чыннасьць. Яму занадта цяжка была парваць са стагодняй польскай традыцыяй, стаць тварам супроць Польшчы,—г. зн. супроць права Польшчы на Беларусь. Для таго, каб магло гэта стацца, каб беларускі дробны шляхціч мог стаць тварам супроць Польшчы і падняць супроць яе барацьбу, як васал супроць сувэрэна, для гэтага патрэбна было адно з двух: або каб ён быў рэволюцыянэрам, здольным на змаганьне незалежна ад рэальнасьці свайго ідэалу і далёкасьці канчатковай перамогі, або каб сіла Польшчы, у даным выпадку сіла экономічная, была парушана на беларускай зямлі.

Першым праломам экономічнага значэньня Польшчы на Беларусі было вызваленьне сялян. Але дасьледцы нашае экономічнае гісторыі [1]) справядліва даводзяць, што погляд, быццам вызваленьне сялян глыбока парушыла польскі зямельны капітал на Беларусі, памылковы. Бязумоўна, гэта так. Сур'ёзна парушыліся польскія ўплывы на Беларусі толькі ў сямідзесятыя гады, калі творчыя сілы польскага капіталу сконцэнтраваліся ў карэннай Польшчы і калі там, каля лодзінскіх і варшаўскіх фабрык, пачала вырастаць польская буржуазія [2]). І самым паважным крызісам гэтага ўплыву быў аграрны крызіс канца 80-х і пачатку 90-х гадоў, які па часу супаў на Беларусі з надыходам сюды шырокай расійскай фабрычнай прамысловасьці. Тады толькі, у гэтыя гады інтарэсы польскага капіталу канчаткова пахіснуліся і пачалася апошняя барацьба паміж імі і інтарэсамі расійскага капіталу.

У гэтым сэнсе эпоха рэакцыі 70-х і пачатку 80-х гадоў была пераломнай. І вось *на гэтым экономічным пераломе—адыходу польскага капіталу*

---

[1]) М. Довнар-Запольский: „Народное хозяйство Белоруссии“.

[2]) Гл. „Полымя“, 1928 г., № 3, 129—136 стар.

*з Беларусі і набліжэньня надыходу расійскага, і зазначыўся крытычны момант у гістарычным жыцьці Беларусі, калі ў асобе сваіх выдатнейшых прадстаўнікоў яна знайшла сама сябе.*

Было-б вельмі цікава прасачыць, калі і пры якіх умовах складаўся сьветагляд Ф. Багушэвіча, і калі з-пад яго пяра выходзілі першыя прызнаньні і лёзунгі беларускага нацыянальнага адраджэньня. Пытаньне гэтае недасьледванае і, на жаль, з прычыны загубы архіву Багушэвіча, бадай ці будзе калі раскрыта [1]).

Але можна напэўна сказаць на аснове аналізу яго твораў і знаёмства з настроямі тагачаснай эпохі, што да сваіх пераконаньняў поэта дайшоў дзякуючы няўдачы польскага паўстаньня, у выніку таго расчараваньня ў панскіх ідэалах паўстаньня, якое (расчараваньне) было характэрна шмат для каго з беларускіх яго ўдзельнікаў, і, урэшце, на наш погляд, самае галоўнае,—дзякуючы таму, што ходам жыцьця сама Польшча была адціснута далёка на захад да сваіх этнографічных межаў [2]).

Беларусь упяршыню пазбылася польскай экономічнай моцы і выклікавага ёю гіпнозу польскай культуры. Інтэлігентны беларус у гэты момант упяршыню мог глянуць на сьвет сваімі ўласнымі вачыма, без акуляраў польскасьці.

Зразумела, што гэта быў погляд мужыцкі і глыбока народніцкі. „Здаралася і мне чытаць кніжачкі якогась пана Марцінкевіча“, піша Ф. Багушэвіч,—„але ўсе яны, як-бы сьмяючыся з нашага брата, пісаны“. У гэткіх словах сялянская Беларусь канчала са старой ідылічнай беларуска-польскай традыцыяй. Уся творчасьць поэты—у сялянскай нядолі, у процілежнасьці мужыка пану, у шуканьні тае казачнае крыніцы—„напіўшыся з якой, яго народ будзе вольным“.

Першыя крокі беларускага руху ці, лепш кажучы, падрыхтоўка гэтага руху не працякала асобна ад тагачаснага разьвіцьця ведаў і агульнаграмадзкіх настрояў. Так зв. „вайна за вызваленьне славян“ 1877—78 г. выклікала ў расійскай навуцы значную зацікаўленасьць да славянства

[1]) Вядома, што сын нашага поэты,—продукт пазьнейшай эпохі звароту польскіх прэтэнзій на Беларусь пры пачатку XX ст., быў крайнім зоолёгічным польскім шовіністым і адмовіўся аддаць зацікаўленым асобам архіў бацькі. Гл. Юры Алелькавіч: „Стары Менск у беларускіх успамінах“, „Беларусь“, 1920 г., № 2.

[2]) З тым, што разьвіцьцё адраджэнчае ідэолёгіі Фр. Багушэвіча прыпадае на 70-я гады, а не на 80-я, і тым больш не на 90-я, калі ў Кракаве зьявілася „Дудка Беларуская“, згодзен таксама вядомы дасьледца творчасьці пісьменьніка, проф. М. Піотуховіч. У яго аналізе ўмоў узьнікненьня беларускае нацыянальнае ідэі ў 70-я гады адсутнічае толькі важнейшы элемэнт, паказаны намі—гэта паслабленьне экономічнае залежнасьці Беларусі ад Польшчы, адыход яе экономічнае моцы ў карэнную Польшчу. Гл. *М. Піотуховіч*: „Францішак Багушэвіч, як ідэолёг беларускага адраджэньня і як мастак“. Працы Бел. Дзярж. Унів., 1925, асоб. адбітак, стар. 24.

наогул і была аднэй са значных пабудак да этнографічнага вывучэньня славянскіх народаў. Працы Пыпіна, Спасовіча і шмат іншых паставілі славянскую этнографію ў Расіі на вельмі высокую ступень і выклікалі адпаведны ўздым этнографічных досьледаў на мясцох, у тым ліку і на Беларусі. 80-я гады вызначаюцца шпаркім разьвіцьцём беларускай этнографіі і павялічанай зацікаўленасьцю да беларускае народнасьці, як об'екту навуковага вывучэньня. Фактычна кажучы, з гэтых год можна і трэба пачынаць беларускую этнографію, якая пачала разьвівацца мясцовымі беларускімі сіламі. Гэта адно ўжо спрыяла разьвіцьцю думак аб культурнай асобнасьці Беларусі сярод шырэйшых колаў яе грамадзтва. Вядомы гістарычны факт, што этнографічная зацікаўленасьць да таго або іншага народу вельмі сьцісла зьвязваецца з ідэяй яго нацыянальнага адраджэньня, а так зв. „этнографічнае“ разуменьне нацыі зазвычай перарастае ў разуменьне нацыянальнае. Падобнае зьявішча наглядалася акурат і на Беларусі ў разгляданую эпоху, калі этнографічныя працы Бессонова, Насовіча, Шэйна і інш. давалі новы грунт і лішні аргумант для разьвіцьця беларускай нацыянальна-культурнай ідэі.

Падобнае-ж спагаднае значэньне мела і народніцтва, якое шырокай хваляй разьлілося ў тыя дзесяцігодзьдзі па Расіі і якое бязумоўна адбівалася на Беларусі. Хоць нашыя архівы, з прычын ад іх незалежных, і не багаты на адпаведны матэрыял, аднак некаторыя з іх мы знаходзім. З гэтых матэрыялаў відаць, што хоць значнага руху „ў народ“ на Беларусі, дзякуючы яе соцыяльна-нацыянальным асаблівасьцям, ня было, але беларуская моладзь, пераважна мясцовае студэнцтва, з запалам накідвалася на народніцкія поэмы Некрасова, дыхала любоўю да „меншага брата“— мужыка, стварала гурткі, у якіх патаемна распаўсюджвала нелегальную літаратуру, перапісвала забароненыя вершы, вяла гарачыя гутаркі аб долі народа і краю.

Урэшце, вельмі значны ўплыў мела на Беларусі і нацыянальна-культурная праца на Украіне. Украінскі рух перажываў у тыя часы наймацнейшы ўціск, і украінскае слова падпадала яшчэ большай забароне, чым беларускае. Аднак, ідэя украінскага адраджэньня, што паўстала яшчэ ў 40—50 гады ў кірыла-мэфодыеўскім брацтве, не заглохла і ў гэтыя гады. У 1872 г. закладаецца ў Кіеве трупа Старыцкага, Карпэнко-Рудога і Крапіўніцкага, якая на працягу дзесяцігодзьдзя разьяжджае па гарадох і вёсках Украіны і „будзіць любоў да роднага слова“. Вядома, што Багушэвіч жыў у тыя часы на Украіне і, трэба думаць, блізка ведаў аб гэтай культурнай чыннасьці. У гэты-ж час у Кіеве, пад кіраўніцтвам вядомага этнографа Чубінскага, які толькі вярнуўся з ссылкі, працуе „Юго-западный отдел Русского Географического общества“ (вельмі розны ад нашага віленскага!), у якім концэнтруюцца ўсе культурныя сілы Украіны; у мэтах нацыянальна-культурнага будаўніцтва Аддзел зьвязваецца з украінскімі ўстановамі Львова. Пасьля закрыцьця Аддзелу і поўнай забароны украін-

скае літаратуры (да 1881 г. нават спэктакляў і нотных сьпеваў), асноўваецца новы цэнтр барацьбы за адраджэньне—на эміграцыі, у Жэнэве.

Да Беларусі не маглі не даходзіць чуткі аб нацыянальна-культурнай дзейнасьці на Украіне, не магла не даходзіць і пропаганда жэнэўскае „Грамады“. Не дарма апошняя казала ў сваіх адозвах, што „яна не разумее украінскага вызваленьня бяз гэткага-ж вызваленьня польскай, літоўскай, *беларускай* і інш. нацыянальнасьцяй“. Есьць сьведчаньні, што ў складзе жэнэўскай Грамады ў пачатку 80-х год былі і некаторыя з беларусаў, а зьяўленьне ў 1884 г. сярод беларускіх студэнтаў Пецярбурскага унівэрсытэту літаграфаванай часопісі „Гоман“ [1]), у якой ясна гаворыцца аб патрэбе для Беларусі аўтономіі, можна паставіць у беспасрэдную сувязь з украінскім „Гуртком Трынаццаці“, які консьпірацыйна існаваў сярод украінскае моладзі Пецярбургу з 1883 па 1890 год. Гурток гэты называў сябе „групай украінскіх соцыялістых-фэдэралістых“, зьвязваў сваю дзейнасьць з кірылаўскім таварыствам, з шэўчэнкаўскай „Основой“ і фэдэралізмам Кастамарава і меў вельмі выразную і радыкальную палітычную праграму. Між іншым, § 7 гэтае праграмы літаральна паўтараў вымогу жэнэўскай Грамады вызваленьня беларускай нацыянальнасьці, як нацыянальнасьці, якая разам з украінскай, польска-літоўскай і г. д. „зьяўляецца бяспраўнай у культурных адносінах“. Экономічная частка праграмы вымагала соцыялізацыі прамысловых прадпрыемстваў і зямлі [2]).

І калі ў 1887 годзе ў Менску каля рэдакцыі „Минскаго Листка“ сабраліся маладыя энтузіястыя—Ян Няслухоўскі, Ал. Слупскі і М. Доўнар-Запольскі і афіцыяльна, пасьля цэнзурнай цеганіны, прыступілі да выданьня „Северо-Западного Календаря“ з наяўным беларускім ухілам, зрабілася ясным, што, ня гледзячы на лютую рэакцыю і слабыя сілы, справа адраджэньня краіны вышла з падпольля на шырокі сьвет [3]).

За гэты пэрыод часу „западно-руссизм“, як мы паказалі вышэй, знаходзіўся таксама ў заняпадзе. Але таксама, як і беларуская нацыянальная ідэя, ён не заглох, але набіраў моцы і афармляўся. Ад такога чалавека, якім быў М. Каяловіч, не маглі ўкрыцца тыя процэсы, якія праходзілі на Беларусі; ён іх пільна наглядаў, а, наглядаючы, усё больш непакоіўся. Ён адчуваў, як побач з пасіленьнем „западно-русских“ імкнень-

---

[1]) Пытаньне аб „Гомане“ застаецца да гэтага часу яшчэ мала высьветленым у нашай гістарычнай літаратуры, прычым некаторыя дасьледчыкі (У. Ігнатоўскі—Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX ст., стар. 190) называюць месцам яго выданьня Менск, іншыя (прыкладам, М. Гарэцкі—Гісторыя бел. літаратуры, 1924, стар. 222) Пецярбург.

[2]) С. Щеголев. Украинское движение как современный этап южно-русского сепаратизма, 1912, стар. 66—67.

[3]) М. Доўнар-Запольскі быў ласкаў пераслаць нам некаторыя архіўныя матэрыялы ў справе выданьня гэтага календара. З іх відаць, што ў другім выданьні календара, які мусіў называцца „народным“, маскоўская цэнзура павыкідала ўсе беларускія творы, у тым ліку „Гапона“ Дуніна-Марцінкевіча. Пасьля доўгіх клопатаў „Гапон“ быў дапушчаны асобным адбіткам і без біографіі аўтара.

няў, над выхаваньнем якіх ён і яго аднадумцы з гэткім запалам працавалі ў 60-х гадох, на Беларусі вырастае зусім процілежны рух,—пакуль што можа і ня рух, але нейкі няўлоўны настрой, абаперты на мясцовым самаістым пачуцьці і зьвернуты супроць казённай Расіі. Седзячы ў Пецярбургу і атрымліваючы весткі з краю, ён ведаў і аб беларускіх гуртках, і аб беларускіх вершах, што хадзілі ў шматлікіх рукапісах, ведаў і аб рэволюцыйных закліках, што пашыраліся сярод пецярбурскай студэнцкай моладзі з „заходніх губэрняў“ [1]).

Адусюль веяла „духам сэпаратызму“. Ня толькі ў проклямацыях украінскіх і беларускіх фэдэралістых, ня толькі ў пропагандзе народніцкіх і соцыялістычных партый,—„дух сэпаратызму“ дзьмуў нават з солідных навуковых выданьняў, больш таго—аб ім разважалі ў беларускіх царкоўных брацтвах [2]). Тое, аб чым так клапаціўся Каяловіч перад паўстаньнем і пад час яго, „каб мясцовая партыя“, альбо „партыя лепшых польскіх людзей“ на Беларусі адмовілася ад ідэалаў вялікае Польшчы, адхілілася-б ад тварэньня польскае культуры на беларускіх землях і прыняла „новую програму“,—сталася, але сталася зусім ня ў гэткім выглядзе, як аб гэтым марыў „западно-руссизм“: адмовіўшыся ад служэньня польскасьці, „мясцовыя людзі“ польскай культуры не пачалі служыць расійскасьці, але пачалі аддаваць свае сілы мясцовай-жа ідэі—беларускай. У „новай програме“ ня было ўсхваленьняў польскага гістарычнага генія,— але ня было фіміаму і расійскаму пачатку; ня было пакланеньня роман-

---

[1]) Відаць, у 1884 г. нелегальнае групаваньне і дзейнасьць беларускага студэнцтва была; адбываліся сярод яго і арышты. Аб гэтым, між іншым, знаходзім заўвагу ў адным з лістоў Каяловіча да Корнілова, у якім гаворыцца: „Увы! Збываецца тое, чаго я баяўся, што палякі і яўрэі завабяць маладых беларусаў у бяду. Ужо пачаліся арышты некаторых з гэтых ахвяр польска-яўрэйскае інтрыгі, якая кіруецца Спасовічам. Што скажа на гэта Н. Н. Новіков, які перашкаджаў пры самым зараджэньні нашаму з вамі прадпрыемству,—нарыхтаваць хоць-бы малую ахову беларускае моладзі ад яўрэйска-польскае распусты“. (Гл. ліст М. Каяловіча І. Корнілову ад 12 студзеня 1884 г. у Рукапісным Аддзяленьні Публічнае Бібліотэкі ў Ленінградзе).

[2]) Думку аб тым, што брацтвы на Беларусі могуць зьявіцца адным з элемэнтаў краёвага сэпаратызму, распаўсюджвалі па пецярбурскіх палітычных салёнах прадстаўнікі варожага „западно-руссам“ лягеру. У сувязі з гэтым І. Корнілов пісаў рэдактару „Московских Ведом.“ М. Каткову наступныя цікаўныя радкі: „дзіўлюся, як гэта знаходзяцца людзі, якіх непакояць брацтвы і якія думаюць, што гэтыя ўстановы могуць прыняць які-небудзь палітычны характар? Думаю, што гэтыя страхі падказаны польскай партыяй... Заходня-рускі край гэтак зьнясілены моральна, што пажадана, каб хоць брацтвы далі яму некаторую долю трываласьці. Непакоіцца палітычных тэндэнцый і сэпаратызму на заходняй граніцы проста сьмешна! Які тут сэпаратызм, калі Беларусь, якая сьціраецца з мацнейшымі народнасьцямі і стыкаецца з польскім грамадзянствам, ня здолее трымацца на сваіх нагах. Яна можа трымацца толькі апіраючыся на Расію і схіляючыся да яе. *Яна ніколі ня будзе нагэтульки дужай, каб ёй прышло ў галаву дамагацца самастойнасьці*“. (Гл. Материалы И. Корнилова. „Русское дело в Сев.-Западном крае“, стар. 41, ліст да М. Каткова і П. Леонтьева). У гэткім-жа духу пісаў М. Каяловіч Батюшкову (Гл. зборнік лістоў яго ў Рукап. Аддз. Публічн. Бібл.).

тычнай констытуцыі 3 мая, але затое зьявіліся ня менш небясьпечныя дэструкцыйныя намаганьні. Адно зло было варта другога.

Трэба было ратаваць становішча, пакуль ня было позна. Трэба было даць „западно-руссизму“ гэткі зьмест і кірунак, каб яму не пагражала аднекуль узьнікшая пагроза „мясцовага сэпаратызму“. Трэба было ня толькі ўтрымаць стары лёзунг „обрусения“ Беларусі,—лёзунг, як разумеў шмат хто з „западно-руссов“, залішне казённа-патрыятычны і бяздушны,—але ўгрунтаваць яго навукова і ўдыхнуць у яго жывы і паваблівы настрой. Абскурантызм быў тут недарэчны і шкодны,—гэта ўсе добра бачылі,—барацьба вымагала чагосьці больш паважнага і творчага.

За гэтую задачу ўзяўся зноў такі М. Каяловіч—галоўны павадыр і ідэолёг „западно-руссизма“. Уся яго праца ў 80-я гады, дзейнасьць ў „Славянском Обществе“, публічныя лекцыі і даклады, артыкулы ў „Новом Времени“ і іншых тагачасных часопісях і газэтах, солідны том „Истории русскаго самосознания“, праца ў камісіі па організацыі школьнай асьветы на Беларусі, жвавая перапіска з кіраўнікамі расійскай політыкі, урэшце,—тыя гурткі, якія ён тварыў навокал сябе ў Пецярбургу і на мясцох з беларускай моладзі і са сваіх прыхільнікаў,—усё гэта служыла аднэй мэце: ідэолёгічна аформіць „западно-руссизм“, як пэўную гістарычную і політычную школу.

Перш, чым перайсьці да аналізу „западно-русской“ ідэолёгіі, пасябруем з Каяловічам у падарожы, якую ён зрабіў па Беларусі, калі ў ёй ужо зьявіліся „нанова маладыя зялёныя пабегі „западно-руссизма“— г. зн. калі адыйшла ў прочкі знамянітая „патапаўшчына“ і калі Аляксандар III, умацаваўшыся на ўсерасійскім прастоле, абвясьціў, што „Расія існуе для рускіх“.

Падобная падарож будзе нам ня толькі цікавай—яна будзе карыснай дзеля больш рэльефнага выяўленьня тых настрояў і ўражаньняў, растлумачыць і перамагчы якія закліканы быў „западно-руссизм“ на сваім жыцьцёвым шляху.

Ехаў Каяловіч на Беларусь, як і заўсёды езьдзіў, ня толькі дзеля прыемнасьці падыхаць сьвежым, родным паветрам, ня толькі, каб адпачыць пасьля трупэхлых пецярбурскіх канцылярый і лекцый у акадэміі, але дзеля таго, каб разам з тым праверыць свае вывады, і на справе, сярод жывых людзей, замацаваць і пашырыць свае пераконаньні. Кожная яго падарож была зьвязана з гэткімі праверачнымі і агітацыйнымі мэтамі. Ён аб'яжджаў вялізныя абшары, размаўляў, па ўласным прызнаньні, са шмат сотнямі людзей, вывучаў краіну з пункту гледжаньня барацьбы з полёнізмам і распаўсюджаньня „западно-русских“ поглядаў, „углядваўся ў вочы моладзі, у якой сьвяціўся аганёк інтэлектуальнай і моральнай сілы“, зьбіраў патрэбных людзей навокал сябе, аб'едныў іх, раіў, вырашаў найбольш заблытаныя пытаньні, надаваў

веры, усюды, дзе толькі можна, ствараў сярод іх гурткі сваіх прыхільнікаў. У гэтым сэнсе сярод іншых „западно-руссов“ Каяловіч пры ўсёй сваёй эрудыцыі і навуковай паважнасьці, быў і найбольш энэргічным і рухавым дзеячом-арганізатарам.

Падарож яго ў 80-х гадох—гэта жывая кніга грамадзкага жыцьця Беларусі таго часу.

Што-ж ён знайшоў у ёй? Якія суцяшальныя старонкі раскрыліся прад яго „западно-русским“ вокам? Якія дасягненьні сваёй справы ён убачыў на віленскім і менскім грунце.

Агульнае ўражаньне ад падарожы—ня радаснае. У Вільні, напрыклад, у 1885 годзе,—усё ва ўспамінах.

„Жыва ўспамінаюцца мне і поэтычнае натхненьне тагачасных рускіх людзей, калі на хвалях Віліі, з лодак, і на Антакольскіх узгор'ях нярэдка гучэла артыстычнае харавое рускае пяяньне... То быў час ген.-губ. Кауфмана—час вялікага абуджэньня сіл і багацейшых плянаў па ўсіх бакох заходня-рускага жыцьця. Цяпер у Вільні і ўсюды ў Заходняй Расіі шмат „русских людзей“ у параўнаньні з тым, што было дваццаць год таму назад. Але ў гэтых людзях далёка няма таго абуджэньня, таго ажыўленьня ў выясьненьні і вырашэньні істотных задач заходня-рускага жыцьця, якое было дваццаць год назад. Усё асунулася, ахоплена нейкай апатыяй“... „Як пазбавіцца заходня-рускім людзям гэтага апатычнага настрою?“ пытаецца Каяловіч, і адказвае: „для ўсяго так зв. „северо-западного“ края Расіі няма мясцовага навуковага цэнтру і непарушна з ім зьвязанага літаратурнага руху. У Вільні няма ні унівэрсытэту, ні акадэміі, ні ўплывовага органу друку. Пытаньняў, якія патрабуюць вышэйшага разуменьня і распрацоўкі, процьма,—а іх не разумеюць, ня ведаюць, як з імі быць. Мясцовая ўлада самым жыцьцём выклікаецца на клопат хоць чым-небудзь замяніць адсутнасьць у Вільні вышэйшай абуджаючай сілы—вышэйшае школы,—але на пытаньне, што-ж з гэтага выходзіць, мы атрымлівалі адказы, якія выклікалі ў нас смутак і панурасьць. Застаецца пажадаць, каб у Вільні хутчэй надышлі лепшыя часы для навуковай дзейнасьці“ [1]).

Гэтыя-ж самыя думкі прыходзяць Каяловічу ў галаву з прычыны тагачаснай прэсы: „Ніводная са сталічных газэт не займаецца сыстэматычна Заходняй Расіяй. Шмат хто бачыць у гэтым вялікае зло і не разумее, чаму так ёсьць? Матэрыялаў для працы безьліч... але шматгадовыя назіраньні застаюцца асабістай заслугай і рэдка калі выходзяць за межы цеснага гуртка сяброў“.

Яшчэ цяжэй адчуваў сябе падарожнік, разьяжджаючы па беларускай провінцыі:

---

[1]) М. Коялович: „Поездка в Западную Россию“, Церк Вестник, 1886 г., № 45—52 тут цытуецца па асобным адбітку.

„Калі вы разьяжджаеце па малых гарадох і вёсках заходняй Расіі, з расійскім поглядам на тамтэйшых людзей і іх справы, дык першыя ўражаньні здольны прывесьці вас да самых безнадзейных вывадаў“, піша Каяловіч. „Нешта тут нанова будуецца і недабудаванае перадаецца другім для сканчэньня, а часьцей для пераробкі, а то для зусім новай будовы. Па ўсіх павятовых гарадох завяліся клюбы, а ў іх унівэрсальны сродак людзкае супольнасьці—карты. На сходах „русских людей“ павінна было-б быць узбуджэньне расійскае думкі, а ў павятовым горадзе няма ніводнае кніжнае крамы, і вучні гарадзкой школы ня ведаюць, дзе дастаць расійскую кніжку“ [1]).

„Але на гэтым не канец цяжкім рускім думам“, разважае аўтар. „Усюды ўсё часьцей і часьцей чуецца польская мова,—у клюбе, у хаце і на вуліцы. Малады паляк-студэнт, прыехаўшы з С-Пецярбургу на канікулы, з аплёмбам шуміць у паштовай канторы, чаму яму не адказваюць папольску на яго польскую мову, абзывае „нявежамі“ расійскіх чыноўнікаў і заяўляе, што, толькі нічога не разумеючы ў гісторыі, можна казаць, што тут няпольскі край... Можа калі-небудзь расійскі гістарычны гэні і створыць тут нешта новае. Але цяпер усё гэта пакуль хаос і бязладзьдзе“.

Каяловіч згодзен з лёзунгам Аляксандра III—„Россия для русских“, але разам з тым думае, што Заходні Край,—Беларусь павінна быць для „западно-руссов“, для „местных русских людей“.

„У нас так многа заняты абрусеньнем гэтае краіны; але, на жаль, абрусеньне разумеецца часьцей за ўсё самым няправільным і загубным чынам. Абрусеньне разумеецца ня так, што трэба падмацоўваць, ажыўляць і папаўняць тутэйшых рускіх людзей, а так, што іх трэба замяняць новымі рускімі людзьмі. Ад гэтага выходзіць вялікая блытаніна, разважае Каяловіч і мы бачым у Менску, у цэнтры Беларусі, малдаван-абрусіцеляў“, і расказвае сьмешную сцэнку, якую ён бачыў на менскім рынку, калі нейкі селянін, уцякаючы ад дужэйшага малдаваніна, крычаў: „ратуйце, туркі б‘юць“ [2]).

„З рускага пункту гледжаньня трэба, зразумела, з радасьцю вітаць кожную новую рускую сям‘ю ў Заходняй Расіі. Але калі гэта робіцца ў буйных памерах, гэтак кажучы, па адміністрацыйнаму загаду, дык выходзіць вельмі нядобра“... Тыя-ж думкі прыходзяць Каяловічу ў галаву і з другой прычыны: „трэба, каб ва ўсіх момантах жыцьця была ўзноўлена сувязь заходняй Беларусі са ўсходняй, каб слабейшыя часткі гэтае краіны знаходзілі сабе падпору і ўзмацаваньне ў больш дужых. Афіцыяльная сфэра папаўняецца прыежджымі з Расіі, але прыежджыя ня могуць напоўніць усіх месц, дый нядобра гэта было-б“.

---

[1]) Ibid. „По уездным городам и селам“, стар. 18.

[2]) М. Коялович: „Поездка в середину Белоруссии“, Церк. Вестник, 1887, № 3—4.

І вось на фоне ўсіх гэтых сумных назіраньняў, Каяловіч трапляе на апошняе зьявішча, на навіну, якая ўзбуджае ў ім асаблівую трывогу. Імя гэтага зьявішча—сэпаратызм.

„На ўсім прасторы Заходняй Расіі сёньня разгартаецца падвойны сэпаратызм — заходня-рускі і вялікарускі, прычым адзін з іх, заходня-рускі, прымусова заганяецца ў саюз з палякамі. „Русския люди“ ў Заходняй Расіі цяпер займаюцца географіяй, генэолёгіяй і нават фізыолёгіяй, але з такога боку, які ня мае ніякіх адносін да навукі. Яны разьбіраюцца, хто адкуль паходзіць і на што канчаецца яго прозьвішча,— на „ов“ ці на—„іч“. Адны гаворацъ: хто са ўсходу Расіі, той носьбіт поўных расійскіх асноў жыцьця, хто з захаду,—той напоўрускі, палякуючы, або уніяцтвуючы. Другі бок плоціць роўнаважнай монэтай: хто з захаду, той сумленны, прыстойны чалавек, а хто са ўсходу, той гультай“.

„Пад гэтымі дробнымі лаянкамі захоўваецца вельмі сур'ёзнае разьяднаньне,—прызнаецца Каяловіч:—Я шмат з кім гутарыў на гэтую тэму і перадаю свой погляд. Расійскі народ складаецца з трох пляменьняў: вялікаросаў, маларосаў і беларусаў. Гэта—факт расійскага жыцьця: даўно ён існуе і, бязумоўна, будзе існаваць далей, пакуль у Расіі будзе просты народ. Зьмяніць яго ніхто ня мае ўлады і, зразумела, за гэта ніхто ня возьмецца, калі ў яго ёсьць які-небудзь толк у галаве. Але зусім іншая справа, калі мы гаворым аб расійскай так зв. інтэлігенцыі і аб тых асьветных шляхох, якія вядуць да расійскага інтэлігентнага жыцьця. Тут не павінна быць падзелу па плямёнах і мясцох нараджэньня. Усе мы, расійскія інтэлігентныя людзі, навучаліся размаўляць і размаўляем на аднэй і тэй самай расійскай літаратурнай мовай, выхоўваліся на адных і тых самых нашых расійскіх пісьменьніках, на агульна-расійскіх паданьнях і звычаях. *Бязглузда было-б нам дзяліцца на племянныя групы, а тым больш праводзіць гэты падзел у народ.* Гэта псавала-б расійскае народнае адзінства і *перашкаджала-б разьвіцьцю простага народу ў кожнай племяннай групе*“. (Курсіў наш—*А. Ц.*).

„Трудна зьмерыць зло, якое выходзіць нават ужо цяпер ад нашага *інтэлігенцкага сэпаратызму* (Курсіў наш—*А. Ц.*). Ім ужо займаюцца ня толькі адны пустыя галовы, што шукаюць асабістых выгод, але і добрыя людзі, і вынікі гэткага падзелу вельмі часта балюча адбіваюцца на тамтэйшым жыцьці. Але яшчэ важней будуць вынікі, калі гэты сэпаратызм пачне разьвівацца лёгічна і накіруецца ў Беларусі ў тоўшчу простага народу, як гэта ўжо робіцца на Украіне. Ня трэба забываць, што для гэткага кірунку адразу-ж знаходзяцца няпрошаныя апякуны“.

„Шмат хто з заходня-рускіх людзей, як старэйшых, так і малодшых, вельмі занепакоены разьвіцьцём сярод іх гэтага западно-русскаго сэпаратызму і імкнуцца паказаць усім, што яны стаяць вышэй за яго... З радасьцю я сустракаў гурткі, дзе нават не падымаюцца прамовы, хто

са ўсходу, а хто з заходу, але ўсе складаюць адно. Гэта тыя гурткі, у якіх захоўваецца дарагое імя І. С. Аксакова, дзе захоўваецца славянафільства—лепшы расійскі сьветагляд... І я скрозь прыходзіў там да думкі, што калі-б я ніколі ня быў славянафілам, дык зрабіўся-б ім пасьля гэтае падарожы па Заходняй Расіі“ [1]).

Вось як пасьлядоўна, крок за крокам, прыводзіць нас Каяловіч да галоўнейшай ідэі западно-руссизма—да усератуючай ідэі славянства.

*(Працяг будзе).*

---

[1]) М. Коялович. „Поездка в Зап. Россию“, Стар. 29—30.

# НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА РЭВОЛЮЦЫЙНАГА РУХУ

**Ал. Шлюбскі**

I

У выданьні Інстытуту Беларускае Культуры—„Соцыялістычны рух на Беларусі ў проклямацыях 1905 году"—у разьдзеле проклямацый „Соцыялістычнай Партыі Белай Русі" пры дужа кароткім уступе, амаль што нічога не гаворачым аб гэтай партыі (гл. стар. 83), зьмешчана ўсяго толькі дзьве адозвы (гл. стар. 84—93), мала падана адозваў і Беларускай Соцыялістычнай Грамады.

Той, хто піша гэтыя радкі, мае магчымасьць агаласіць новыя невядомыя да гэтага часу, проклямацыі „Соцыялістычнай Партыі Белай Русі" і „Беларускай Соцыялістычнай Грамады", якія ім у аўтэнтыках атрыманы з Варшавы ад вядомага беларускага бібліафіла інжынэра Ромуальда Земкевіча, за што аўтар артыкулу і прыносіць інж. Р. Земкевічу падзяку.

Проклямацыя партыі „Белая Русь" падаецца ў літаральнай копіі з захаваньнем правапісу аўтэнтыку; надрукавана яна ў друкарні, з двух бакоў аркуша, які мае памер 12×34 сантымэтраў. У канцы проклямацыі знаходзіцца дата: „Акцябр 1905 року". Ніякіх паметак і пячатак на дакуманце няма, а проклямацыя Соцыялістычнай Грамады падаецца кірыліцай замест лацінікі, якой яна надрукавана.

II

## Тэксты проклямацый

*Братцы мужыкі!*

З усих старон штораз новые идуць да вас слухи аб страшэнномъ паустанни народу рабочага, аб бунци, што дзесятки миліёноу рабочага народу абняу.

Цар са сваими губернаторами, асэсорами, спрауниками, урадниками да другими памочниками якъ піяука впіусе у народ, якъ шашэль тачыу яго. Морэм кроу народна лиласе на вайне дзеле распусты цара и царских чыноуникоу. А цяпер падаткау трэба мильёны з народу узяць, дауги

ваенные плациць, а цяпер голод у двадцаци расійскихъ губернях. А цяпер усюды миж народом беда, людзей на вайну, на службу ваенную цар пабрау—працаваць, зарабляць нема каму. А цяпер баицса цар вернуць салдатоу з вайны, каб не даведаусе ад их народ таго зьдзеку, каторы над има рабили, баицса каб не расказали яны як японцы жывуць, каб не паказали тае крыуды, што тут народ ад цара церпиць, каб не збунтавали проци цара усяго народу.

Но як шыло з мешка, так прауда народу паказаласе. Стау народ бунтавацса, вон гнаць стау такога цара, трэбовать стау правицельства выборнаго. Цар пробуе выкруцицса—стау выдаваць маніфэсты. Вот назначае ён „гасударственную Думу", каторую народ выберэ. У тую думу цар дапускае найбольш паноў, мужыки и работники ледзьве яе панюхаць магчымуць. Была бы дума, цар рабіў бы з ею што хацеубы, ничога яна яму не зашкодзилаб акрадаць народ. А прынамне як паднялиб податки, то народ думаубы што гэта дума винавата, думаубы што цар сам дык лепшы для народу за якіе там выборные.

Но не удаласе хитросьць цару. Зразумеу гэто народ, не схацеу царскае думы. Стау народ сабирацса па гарадах дзесятками и сотками тысяч, стау радзицса. Не хочэм мы, казау народ, ашуканской царской думы, мы хочэм свабоду мець гаварыць и сабирацса, мы хочэм каб не цар піяука усіо роуно з думаю ци без думы правиу. Мы хочэм каб правили гасударством людзи выбраные па нашэй воли. А покуль будзе цар, заусюды народ душыць ён будзе. Кали што добраго и зробиць як е бунт, то няхай бунт прицихне—цар зноу рабицьме так, як дауней было. Трэба раз ужэ цара и царское правицельство разнес'ци.

Хапіусе народ усюды да бунту, царскую гаспадарку стау ламаць, разганяць царское правицельство.

Бунт штораз идзе большы. Што у цяперашним бунци было—просто расказаць трудно. Вот у Маскве, у Пецербургу, у другіх гарадах стау сабирацса народ тысячами, змауляцся стау да вяликаго бунту, да такого бунту, што весь народ абниме, з котораго згине царскае самадзержауе. У Рызи, у Варшави, царских палицэйских биць стали, як сабак. Цар завёу ваеннае палажэнне па многих гарадах, но ничога яно не памагло, народ так само бунтавау, сабираусе, талкавау, песьни проци цара пеу. На Каукази ужэ месяцоу кольки як паустау народ, у Расіи бунт усюды, у Финляндіи так само. Усюды бунт. Залезные дароги усе ва усём гасударстви стали, не идуць паравозы, вагоны, нема як ехаць, нема як перевезьци тавар. Милioны страты усяки дзень мае з таго правицельство, дый ящэ бунт паднимаецса штораз большы, работники па фабрыках кинули усюды работу—ніяки тавар не идзе. Рабочы народ вышэу на вулицу, стау пець свае работничые песьни, стау гаварыць, разъясьняць другим, што за зладзейства идуць з праклятаго царскаго правицельства.

Цар паслау войско стрэляць у народ. Войско не усюды паслухало — стало и яно памалу бунтавацса, стало и у яго прауда исьци. Стали и салдаты хадзиць на работничые сабрання, стали и яны миж сабой талкаваць, дайходзиць прауды — стали и яны памалу бунтавацса проци цара, злучацса з народом. Бунт пашоу усюды, штораз большы и большы.

Задрыжау цар, угледзеу, што прышли апошніе яго дни. Выдау ён други манифэст—пишэ што ужэ папраудзи дае свабоду писаць, сабирацса, гаварыць—што народных выборных справедливе назначыць.

Цар разных подлых хитросьцей пробуе. Вот вышэу сакрэтны прыказ, каб як пасварыць адных людзей з другими, напрыклад хрысьцян з жыдами. Ведамо што як людзи з сабою сварацса — то на цара не пойдуць дружно. Цар баитса дружбы рабочаго народу. Знае ён, што як паднимаютса миліёны людзей дружно, жыды и хрысьцяне,—рускіе, паляки, усе—тагды вяликая сила у их. Такая сила—гибель правицельству несе. Так вот што цар з правицельством устройваюць. Переадзеваюць падкупленых гарадавых да разную другую сволач—адных за жыдоу, других за хрысьцян. Тые з сабою нибыто умысьне пасварацса, пабьюцса, стануць стрэляць да других людзей. Бегаюць так па сваему городу ци мястэчку, крычадь „бій жыдоў“, „жыды баранецеся“. Гдзе народ цёмны, там яны яго ашукаюць и зробяць вяликую рэзьню. Вот недауно у Адэси быу таки „жыдоуски пагром“, много людзей было забитых, раненых. Як их узяли у бальницу, як разгледзелисе—дык там усё найбольш переадзетые палицэйскіе. Памятайце и вы, жыды таки самы народ братни, як усякіе другіе. Памятайце, что гэто правицельство такіе битвы устройвае. Не дайцесе абмануць. Калиб хто таки падкуплены царом стау крычаць да людзей „бійце жыдоў“, то вы не жыдоу, а яго за тое бійце. Так зрабілі польскіе работнікі у Варшави; яны пазабивали царских падкупленых зладзееу, што крычали, намауляли на вулицах биць жыдоу.

Так, братцы, дружно стаяць усим трэба. Дружно на бой проци цара исьци. Морэм бунт народны цяпер пашоу. Не сьцихне ёнъ, покуль царскаго самодзержауя не разнесе, покуль не заведзе выборнаго, народнаго, справедливаго правицельства.

Взываем вас усих. Работники гинуць, бунтуютса каб и им и вам, мужыкам, лепей жыць стало. Так памагайце жэ вы таварыщам вашым рабочым. Памагайце царское правицельство разносиць. Прызываем вас:

*1. Не заплациць нигдзе податкоу. Каб нихто плациць правицельству царскому не сьмеу.*

*2. Прызыуным да войска дабравольне не исьци. Нехай хиба беруць усякаго ваенною силою. Усюды сапрациуляцса.*

*3. З чыноуниками царскими дзела не мець. Ни з урадниками, ни з прыставами, ни з земскими. Сами свой суд па прыгавору рабеце як трэба. А да гэтой царской сволочы, да гэтых вашых піявок николи ни з чым не сьмейце исьци. Так, якбы их на сьвеци не было.*

*4. Слухаць начальства царскаго адкажэцесе. Не слухайце ніяких царских законоу. Сабирайцесе у сьвята па вёсках, па кирмашох, па мястэчках,—чытайце гэтакіе безцэнзурные листки, научайце адны других гэтаго што тут написано.*

Разом з усим рабочым народом, што кроую и жыцем сваим лепшэй для нас доли дабиваецса, станьце. Усяки хто на нашэ воззванне рабицьме як тут сказано — прыяцель народной справы. Хто не паслухае нас — той проци народу идзе. Усяки чалавек павинен стаць за народ. А як звернем правицельство, як будзем выбирать поуномочных выборных, памятайце такую раду вам даем. Выбирайце таких людзей, што знаюць народные патрэбы, што чытали много безцэнзурных ксіонжэк. Што будуць трэбоваць для вашаго краю асобнаго упрауления, што будуць трэбоваць пакарацить час военной службы, даць народу безплатные школы. Таких людзей выбирайце, што ни панам, ни у валасьцях да канцэляріях правицельству не падлизваюцса, што справедливые и парадочные люди.

*Падаткоу не плацить, на службу ваенную не исьци, з правицельством дзела не мець, правицельства не слухаць.*

**Соціялистычная Партія Белой Руси.**

Актябр 1905 року.

---

*Працавіта беднота усіх краёу, злучайся!*

**Белоруска соціалістычна громада.**

## Як рабіць забастоуки.

Каб забастоукою дабіцца большэй платы за работу, каб дабіцца лепшых варункоу працы, трэба забастоуку рабіць так, як тут напісано.

Перш на перш забастоука павінна быць *агульная:* трэба згаварыцца *усім падзёным і гадавым работнікам, паробкам і усей дворной чэлядзі,* бо чым больш людзей до змовы належыць, тым ляхчэй выіграць забастоуку.

Ня досыць зрабіць забастоуку и адным дварэ, а трэба згаварыцца і зрабіць забастоуку *зразу во усіх* дварох. Калі паны спадзеюцца забастоукі, то яны заучасу будуць меці у запасе другіх работнікоу, каторых прівязуць за усіх канцоу свету. *Забастоука страшна паном, калі яе не спадзеюцца.* Трэба згаварыцца аб забастоуцы *тайно,* каб паны і паліція нічого не ведалі.

Забастоуку найлепш рабіць *у гарачы рабочы час,* бо толькі у гарачы час паны згодзяцца на усё, чаго дамагаюцца работнікі і чэлядзь. Але забастоука не робіцца бэз патрэбы, бо яна цяжкая і для самых работнікоу. Забастоуку рабіце тады, калі пан з доброй волі не згодзіцца на трэбования працуючых.

Ведомо, што у гаспадарцы скаціна без дагляду змарнуецца у адзін дзень; дзеля таго у часі забастоукі работнікі і дворная чэлядзь па чародзі даглядающь панскіе жывёлы. Каліж пан не захочэ гаварыць з забастоушчыкамі, то трэба адразу перэстаць даглядаць яго жывёлу.

*Грабіць і паліць двароу ня трэба,* бо ніякой карысьці з гэтаго нікому не будзе; але *калі пан наведзе на забастоушчыкоу войско, казакоу чы паліцію, то на такого пана німа літосьці! Не шкадуйце яго!*

На забастоушчыкоу заусяды брэшуць непрауду, ганьбяць іх, часом навэт самі паны і паліція наводзяць злодзеёу і конокрадоу, а усё злое ускладают на забастоушчыкоу. *Пільнуйцеж самі парадку у дварэ!*

Пакуль час, усе вёсковые людзі і дворные работнікі *згаварыцеся добра!* Нехай кожны двор ведае аб другім, нехай вёска знаецца з вёскою. Старайцеся, каб гэты лісток прачыталі у кожным дварэ, у кожной вёсцы. Усе вёскі і двары павінны выбіраць сваіх выборных. Гэтые выборные павінны усе разом збірацца у адным мейсцу, каб раіць, калі рабіць забастоуку. Яны заяуляюць паном, чаго усе вы трэбуеце, а у часі забастоукі пастанауляюць, чы уступіць штокольвек паном, чы далей бастоваць. Выборные тады называюцца *„забастовочны комітэт"*. Іх слухаць трэба!

Калі меж забастоўшчыкамі ёсьць людзі, каторым трудно вытрымаць забастоуку, то памагайце грошыма і чым хто можэ.

*Усе падзённые работнікі і работніцы, трэбуйце:*

1) каб за работу плацілі вам на палавіну болей, як цяпер, а гдзе заусім мало плацяць, там і два разы больш;

2) каб з вамі па людзку абходзіліся, не лаялі і не здзековалісь над вамі;

3) на адпачынок каб давалі 4 гадзіны: 1 гадзіну на сьнеданьне, а 3 на полудзень, або як вам будзе лепей;

4) каб асобно плацілі за работу пасьля заходу сонца.

*Усе гадавые работнікі і работніцы і уся дворная чэлядзь!*

1) Трэбуйце каб гадавая плата была на палавіну больш, як цяпер, а гдзе надто малая, там два разы больша.

2) Трэбуйце, каб па людзку з вамі абходзіліся, не лаялі і не здзековалісь над вамі.

3) Трэбуйце здаровых і прасторных хат, асобно для дзеучат, асобно для хлопцоу, а для семейных па хаці на сям'ю.

4) Ордынарыі і харчоу пан павінен даваць столькі, каб кожны наеуся да сыта; мясную страву два чы тры разы у тыдзень.

5) Жонкі семейных паробкоу павінны даіць кароу за асобную плату; так само і за другіе работы павінны палучаць грошы.

6) Трэбуйце, каб лечэньне і лекарства былі на рахунек двара.

*Усе гадавые і падзенные работнікі і работніцы!* Трэбуйце карацейшага рабочаго дня, мяркуючы якая пара рока і якая работа.

*Усе вёсковые людзі!* Дамагайцеся, каб арэнду за зямлю паменьшылі вам па палавіну. На адработкі за пашу чы за што-кольвек да двару не хадзіце, бо адработкі даюць пану надто танных работнікоу, і гэта як за паншчыну выходзіць прыгон. Сколькі трэба будзе работнікоу на маенток, то усё роуно пан наймець і за большу плату. Абработкі перелажыце на грошы і плаціце іх у тым часе, як вам ляхчэй. Каліж гдзе млын затапляе вашы сенажаці, ідзіце усей вёскою да гаспадара таго млыну і трэбуйце або спусьціць воду, або каб абменіу вашу сенажаць на другіе; як ён з доброй згоды не уступіць вам, то самі павыймайце усе застаукі і не давайце затапляць вашы сенажаці.

*Таварышы, усе вёсковые людзі, работнікі і паробкі, уся дворная чэлядзь!* Усе вы зарабляеце сваёй працою на жыцё, усе вы браты—адны у вас крыудзіцелі! Іх вы зваюеце, калі адзін за аднаго трымацца будзеце!

Але не забывайце, што цар і яго слугі будуць бараніць паноу-багачоу! будуць уселяк перэшкадзаць вам у забастоуцы. Не забывайце, што царово правіцельство з дармоедамі-чыноунікамі найбольшы вам ворог. Пакуль яго ня скінеце, не дасьць яно вам дабіцца зямлі, свабоды і лепшай долі! Не слухайцеж царовых слуг—паліціі ды земскіх! Ховайце і бараніце ад паліціі вашых братоу—соціялістоу, што да вас прыдуць з гэтым нашым лістком!

Вон цараво правіцельство!

Вон панское і чыноуніцкое здзірство!

Нехай жыве соціалістычна справедлівосьць!

**Другі Краёвы Комітет—**

**Белорускае Соціалістычное Громады.**

У маі 1906 году.

Друковано 3000 штук.

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў ЛАТВІІ

## М. Касьпяровіч

Да Кастрычнікавае рэволюцыі беларуская літаратура разьвівалася ў розных мясцох Беларусі. Яе дзеячы концэнтраваліся ў Вільні, Менску, Пецярбургу і г. д. З моманту заснаваньня Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі такім цэнтрам стаўся Менск. Гэта, зразумела, ня значыла, што беларуская літаратурная творчасьць спынілася ў іншых мясцох. Наадварот, пры дапамозе Менску, а часамі пад яго кіраўніцтвам, у Бабруйску, Клімавічах, Воршы, Віцебску ды інш. краёвых беларускіх асяродках згуртаваліся новыя беларускія літаратурныя сілы, вышлі літаратурна-мастацкія беларускія зборнікі, шпальты газэт запалымелі бадзёрымі вершамі маладых беларускіх поэтаў, у клюбах загучэла дэклямацыя ўласных беларускіх твораў, чытаная пачынальнікамі ў справе літаратурнай чыннасьці, і г. д. Наша сталіца ня толькі ня імкнулася задушыць культурны развой беларускай провінцыі, як гэта рабілася калісь у былой царскай Расіі, а спрыяла яму. У кругабегавым друку быў зьмешчаны рад аглядаў нашых краёвых літаратур, даваліся рады, старыя пісьменьнікі выяжджалі для дапамогі жывым словам. Такім чынам, пры нормальным культурным разьвіцьці провінцыі, у пераважнай частцы беларускага савецкага грамадзтва ёсьць здавальняючая паінформаванасьць аб ім. Але адначасна з ростам беларускай літаратуры ў нашай савецкай провінцыі ідзе далей у старых і зараджаецца ў новых літаратурных мясцох рост яе па-за межамі Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі,—у Заходняй Беларусі, Латвіі ды інш. Процэс разьвіцьця беларускай літаратуры ў гэтых краінах праходзіць сваясабістым шляхам, абумоўленым соцыяльна-экономічным станам беларускага насельніцтва ў іх. Культурны абмен паміж імі і нашай савецкай рэспублікай амаль не ажыцьцяўляецца. Тым цікавей пазнаёміцца з разьвіцьцём беларускай літаратуры ў гэтых краінах, у даным выпадку ў Латвіі.

Латвійская дэмократычная рэспубліка заснавалася пасьля сусьветнае вайны 1914—1918 г. Яна займае 65.791 кв. клм. абшару, на якім жыве 1.857.004 чал. насельніцтва. За час сусьветнае вайны насельніцтва Латвіі зьменшылася на 935.869 чал., але нават цяпер у самай малалюднай частцы Латвіі—Ліфляндыі—прыпадае больш 17 чал. на адзін кв. кілёмэтр. Да сусьветнае вайны значны лік насельнікаў, выкінутых з вёскі безьзямельлем, знаходзіў сабе заработак у розных гарадох былой Расіі,

а таксама на прамысловых прадпрыемствах самой Латвіі. На сучаснай тэрыторыі Латвіі ў той час у прамысловасьці працавала 93.343 чал. Цяпер-жа ў Латвіі вялікі застой у прамысловасьці ды гандлі, і на яе прамысловых прадпрыемствах занята ледзь 49.905 чал. Гэта, зразумела, ня значыць, што насельніцтва ў гарадох колькасна зьменшылася або што вёска перастала выкідаць новыя кадры безьзямельных у горад. Гэта абазначае, што працоўным Латвіі цяжка атрымаць працу, і затым іх матэрыяльнае становішча вельмі цяжкое. Гэта асабліва тычыцца беларусаў, якім у гарадох цяжэй, бо яны ня ведаюць латыскае мовы, а на вёсках цясьней, чым каму, бо ў Латгаліі, дзе беларусаў найбольш, насельнікаў прыпадае каля 40 чал. на адзін кв. клм. „Латгалія зьяўляецца найбольш густа заселенай часткай Латвіі,—кажа К. Езавітаў („Беларусы ў Латвіі“, Рыга, 1927, стар. 12). Тут пануе востры зямельны крызіс шмат малазямельных і безьзямельных. Шпарка павялічваючыся, жыхарства Латгаліі не рассоўваецца па гарадох, як гэта мы бачым у Ліфляндыі, Курляндыі і Зэмгаліі, бо латгальскае жыхарства ў пераважнай большасьці — няпісьменнае і ня ведае мовы латышоў-болтаў. Лішак жыхарства застаецца тут-жа, на месцы ў Латгаліі“. Апрача Латгаліі, беларусы компактнымі масамі жывуць яшчэ ў Зэмгаліі ды ў гарадох, асабліва ў Рыз і Дзьвінску. Канечна трэба падкрэсьліць, што латгальскія і зэмгальскія беларусы спрадвеку жывуць на сваіх землях. Рыскія і дзьвінскія беларусы паходзяць амаль выключна з Латгаліі і Зэмгаліі. Такім чынам, беларуская нацыянальная меншасьць у Латвіі складаецца не з колёністых, але з тубыльцаў мясцовага краю.

Дакладна вызначыць лік беларусаў у Латвіі даволі цяжка. На яе сучаснай тэрыторыі перапісы насельніцтва адбываліся ў 1897, 1920 і 1925 гадох, а ў Ілукшчыне яшчэ і ў 1919 г. Апошні перапіс праводзіўся польскімі вайскоўцамі, быў вельмі тэндэнцыйны і меў заданьнем давесьці, што гэтыя шэсьць валасьцей—„чыста польскія“. Дзякуючы гэтаму, у „палякі“ былі залічаны ня толькі ўсе каталікі, у тым ліку і каталікі-беларусы, і каталікі-ліцьвіны, і каталікі-латышы, але і больш 200 юдэяў ды каля 250 стараввераў. Зусім зразумела, што ніякага навукова-статыстычнага значэньня лічбы гэтага сфальшаванага перапісу ня маюць (К. Езавітаў, 28). Ня большае значэньне маюць лічбы і другога латыскага перапісу, які адбыўся ў пачатку 1925 г. У той час падрыхтоўваўся ў Латвіі славуты беларускі процэс; беларускае насельніцтва застрашвалі, а часамі без яго згоды нават запісвалі кім зажадаецца, але не беларусам. Такім чынам, найбольш вярыгоднымі лічацца царскі перапіс 1897 году ды першы латвійскі перапіс, які адбыўся ў 1920 годзе. Ня гледзячы на тое, што да 1920 году на тэрыторыі сучаснай Латвіі масавай беларускай працы ня было, г. зн. нацыянальная самасьвядомасьць латвійскіх беларусаў была надзвычайна нізкая, паводле перапісу 1920 г. у Латвіі налічвалася 75.630 чал. беларусаў. Культурнае разьвіцьцё такой вялікай

часткі насельніцтва павінна было пачацца пры ўсялякіх умовах. Апошнія-ж у лепшым выпадку—няспрыяючыя, а ў горшым—варожыя.

Самаю галоўнаю перашкодаю для культурнага разьвіцьця латвійскіх беларусаў зьяўляецца іх незаможнасьць. Беларуская нацыянальная меншасьць у Латвіі складаецца выключна з сялян на вёсцы і рабочых па гарадох; беларускай буржуазіі няма. Беларускай інтэлігенцыі, якая вышла з тэй-жа вёскі, проста на дзіва невялічкая жменька. Малазямельныя, у значнай меры зусім безьзямельныя беларускія сяляне, і, часьцей за іншых, беспрацоўныя рабочыя ў гарадох, пры самым прагавітым жаданьні задаволіць свае культурныя запатрабаваньні, ня маюць матэрыяльных магчымасьцяй на гэта. Нават тыя сумы, якія бярэ ўрад з беларускага насельніцтва ў выглядзе падаткаў, як убачым ніжэй, у пераважнай большасьці ідуць на задаваленьне культурных запатрабаваньняў іншых нацыянальнасьцяй. Адначасна з гэтаю цяжкою эканамічнаю перашкодаю дзейнічаюць і палітычныя: латышызацыя, полёнізацыя і русыфікацыя беларускай нацыянальнай меншасьці. Так, замест таго, каб спыніць гвалтоўную полёнізацыю і русыфікацыю беларусаў, латышы займаюцца латышызацыяй іх. Не ўспамінаючы ўжо пра зоолёгічны шовінізм „Латвіса“ ды інш. латыскіх выданьняў, адзначым латышызатарскую дзейнасьць Міністэрства Асьветы. Яно ў 1924—25 годзе ў Латгаліі адчыніла шмат дзяржаўных пачатковых школ з гэтаю мэтаю. „У той момант, калі вучні ва ўсіх гэтых школах амаль выключна беларусы (іншых нацыянальнасьцяй дужа мала), настаўнікі ва ўсіх школах выключна латышы, і пры тым такія латышы, якія зусім ня ведаюць беларускае мовы, і ня толькі ня ведаюць яны мовы беларускай, але ледзь гутараць і парасійску. Няма чаго ўжо паўтараць, што беларускія дзеці не разумеюць латыскае мовы; аднак, пачынаючы з першага году навучаньня, настаўнікі новастворaных школ пачынаюць навучаць дзяцей у латыскай мове і па латыскаму падручніку. Самі настаўнікі прызнаюцца, што працаваць у такіх школах проста мучэньне. Ну, а як адчуваюць сябе дзеці? Для іх гэта мучэньне ў тры разы большае. Бацькі вельмі неахвотна пасылаюць у гэтыя школы сваіх дзяцей. Каб іх прывабіць, прыдуманы спосаб: дзецям дарэмна раздаюцца падручнікі і іншыя вучэбныя прылады, а часам нават і вопратка і абутак“ („Голас беларуса“, Рыга, 1925 г., № 11). Да гэтага трэба дадаць, што амаль палова беларускіх школ, якія існавалі ў 1924 годзе, перароблены Міністэрствам Асьветы на латыскія.

У тым-жа выпадку, калі настаўнік-латыш уладае расійскаю моваю, ён змушаны карыстацца ў працы з вучнямі пераважна ёю, бо вучнямбеларусам ўсё-ж лягчэй зразумець расійскую мову, чым латыскую. У выніку адбываецца русыфікацыя беларускіх дзяцей латыскаю дзяржаўнаю школаю.

Але ня ў меншай меры адбываецца гэта русыфікацыя ў расійскіх школах, куды дзеці ідуць з прычыны адсутнасьці выстарчальнага ліку

школ беларускіх. Мэтоды русыфікацыі старыя, але ёсьць у гэтым стасунку і навіны. Так, каб вучні ўвесь час памяталі, што гаварыць пабеларуску ня можна, у клясах разьвешаны асобныя лісты, на якіх напісаны беларускія словы, якія ў школе ўжываць забаронена. Лісты гэтыя выглядаюць вельмі цікава. На адным баку ліста напісаны словы так, як гавораць беларускія дзеці пабеларуску, і над гэтымі словамі надпіс— „як ня трэба гаварыць". На другой палове ліста напісаны пераклад беларускіх слоў на расійскую мову, і над гэтымі расійскімі словамі надпіс—„як трэба гаварыць" („Беларуская школа ў Латвіі", Рыга, 1927, № 7, стар. 107). Расійскія монархістыя са сваёй газэткай „Слово" падтрымліваюць гэтую русыфікацыю, нацкоўваючы латыскі ўрад на беларускую нацыянальную меншасьць, падбухторваючы цёмныя элемэнты да рэлігійных непаразуменьняў і г. д. („Слово", Рыга, 1926 г., № 332, 338, 369 ды інш.). Там, дзе расійскія шовіністыя нічога ня могуць зрабіць адны, яны блёкуюцца з польскімі шовіністымі. Расійскія шовіністыя бяруць сабе русыфікатарскую працу сярод беларусаў-праваслаўных, а польскія—сярод беларусаў-каталікоў. Дзякуючы таму, што беларускае сялянства вельмі беднае і затым цёмнае, ксяндзы вядуць сярод яго шалёную ўпартую полёнізатарскую працу. Польскае насельніцтва патрэбна польскім шовіністым для таго, каб вярнуць падзеленыя маёнткі ў Зэмгаліі і Латгаліі. Па іх думцы, Польшча—там, дзе ёсьць польскія маёнткі. Калі-ж іх падзялілі, трэба давесьці, што ў даным краі большасьць насельніцтва—палякі, забраць гэтую тэрыторыю сабе і адабраць маёнткі. Віленскія польскія монархістыя са сваім „Словам", „Дзеньнікам", і „Экспрэсам" з усіх сіл дапамагаюць мясцовым польскім чорнасотнікам у іх ганебнай працы. Пасол польскі ў Латвіі часамі робіць політычныя паездкі па Латгаліі і Зэмгаліі, якія таксама спрыяюць полёнізатарскай чыннасьці ксяндзоў і монархістых.

Урэшце, канечна трэба ўспомніць пра цёмныя сілы, якія ўваходзяць у беларускі культурна-нацыянальны рух, і ўтвараюць так званыя беларускія організацыі, але сапраўды вядуць змаганьне з беларускай нацыянальнай меншасьцю і жадаюць яе зьнішчэньня. Гэта зьява выклікае ня меншую агіду і ненавісьць у латвійскіх беларусаў, чым Паўлюкевічаўская чыннасьць у віленскіх беларусаў. Завецца яна тут тэтараўшчынай, але не адзін Тэтар зьяўляецца яе прадстаўніком.

Вось у такіх цяжкіх умовах матэрыяльнай незабясьпечанасьці і самаабароны ад латыскіх, рускіх і польскіх зоолёгічных шовіністых прыходзіцца латвійскім беларусам працаваць над задаваленьнем сваіх культурна-нацыянальных запатрабаваньняў. Часамі беларуская нацыянальная меншасьць так моцна крыўдзіцца латвійскім урадам, што гэта крыўда адчуваецца і, быць можа, яшчэ будзе адчувацца шмат год. Прыкладам такой крыўды можа служыць так званы беларускі процэс у Латвіі ў 1925 годзе. У часе падрыхтоўкі яго пераважная большасьць

беларускай інтэлігенцыі была пасаджана ў турму, культурна-асьветныя ўстановы зачынены, беларускае насельніцтва застрашана. Суд апраўдаў усіх абвінавачаных. Але дарагі час для пасьпешнай працы непаваротна мінуў, а частка падсудных усё-ж прымушана была шукаць прытулку ў суседніх краінах. Апрача таго, сярод беларускага насельніцтва працэсам быў створан пэўны надлом. Бедны, безьзямельны, няпісьменны беларускі селянін часамі баяўся папасьці ў турму, калі ён будзе лічыць сябе за беларуса, у чым яго чорнасотнікі розных нацыянальнасьцяй, а часамі і ўрадоўцы старанна пераконвалі. Вынікам гэтага зьявілася тое, што лік беларусаў, паводле перапісу, які адбываўся ў часе працэсу, з 73.630 зьменшыўся да 38.010. Дзякуючы таму, што на культурныя патрэбы нацыянальных меншасьцяй грошы ў Латвіі выдаюцца адпаведна колькасьці людзей данае меншасьці, сумы, якія мела беларуская меншасьць, у выніку перапісу зьменшыліся амаль на 50 проц. Патрэбы-ж фактычна павялічыліся.

Такім чынам, усё тое, што беларуская меншасьць у Латвіі мае, вырвана ёю ў варожых об'ектыўных умовах і далёка не здавальняе асноўных культурных патрэб жыцьця беларускай меншасьці. У гэтым акадэмічным годзе існуюць наступныя беларускія ўстановы: двухгадовыя пэдагогічныя курсы ў Рызе, гімназія ў Дзьвінску і 35 пачатковых школ у розных мясцох Латвіі. Вучняў у іх ня вельмі многа: каля 2.300 чал. у пачатковых школах; каля 100—у гімназіі і 15 чал.—на курсах. Такі малы лік студэнтаў на курсах і вучняў у гімназіі тлумачыцца тым, што беларускія сяляне і рабочыя ня маюць матэрыяльнай магчымасьці вучыць сваіх дзяцей, спраўляць ім адзежу, купляць падручнікі і г. д. Апрача таго, і тут латвійскі ўрад крыўдзіць беларускую нацыянальную меншасьць. У той час, як „вучыцельскія латыскія інстытуты даюць поўнае ўтрыманьне сваім слухачом, расійскія курсы ў Рызе даюць 2.000 рублёў у месяц стыпэндыі,—беларускія вучыцельскія курсы ў 1922 і 1923 годзе давалі ў Дзьвінску 1.000 р. стыпэндыі і дармовы інтэрнат... У 1925-26 навучальным годзе стыпэндыяты беларускіх вучыцельскіх курсаў у Рызе атрымлівалі ўсяго 500 рублёў у месяц“, („Голас беларуса“, Рыга, 1926 г. № 36). Тая-ж матэрыяльная незабясьпечанасьць перашкаджае пасылаць дзяцей у горад у гімназію. Ня гледзячы на матэрыяльныя перашкоды, пачатковыя школы перапоўнены: прыпадае больш 65 вучняў на школу. Гэта тлумачыцца тым, што яны знаходзяцца там, дзе жывуць бацькі вучняў.

Школьнай і пазашкольнай асьветай кіруе Беларускі Аддзел Міністэрства Асьветы.

Разумеючы, што гуртом лягчэй задаваляць свае патрэбы, беларуская меншасьць мае ў Латвіі настуныя організацыі: культурна-асьветныя таварыствы—„Беларуская хата“, „Рунь“, „Прасьвета“ і „Таварыства беларускага тэатру“; таварыства беларускіх настаўнікаў; таварыства бела-

русаў-выбаршчыкаў ды інш. Пры апошнім існуе навукова-краязнаўчы гурток.

У такіх цяжкіх матэрыяльных, дэнацыяналізацыйных і культурна-нацыянальных умовах і разьвівалася беларуская літаратура ў Латвіі на працягу апошніх пяці год. Зразумела, выявіць сябе яна змагла ў вельмі нязначнай меры ў беларускіх выданьнях, якія выходзілі ў зазначаны час у Латвіі. Самым дступным для беднай беларускай нацыянальнай меншасьці выданьнем магло быць рукапіснае, у адным экзэмпляры. Узорам такога выданьня і зьяўляецца альманах „Блакітны васілёк“, выданы 17 чэрвеня 1924 г. ў горадзе Люцыне. Гэта—надзвычайна мастацка-выкананы альбом на добрай ватманскай паперы ў прыгожай шэрай вокладцы. Памер—260×350 мм; старонак 24. З густам выкананая вокладка складаецца з малюнку Люцынскага замку тушшу і акварэляй і рамкі з блакітных васількоў і залатых каласкоў, якія паднімаюцца з-пад малюнку замку ўгору і сустракаюцца над шчытом з кветачкай. Усё гэта абведзена срэбнаю простакутнаю рамкаю, а тая, у сваю чаргу—тонкай лініяй тушы. У пустым месцы над замкам—назва золатам, як-бы абкантаваная тушшу і эпіграф: „Не загіне край радзімы, пакуль будуць людзі“. На чацьвертай старонцы вокладкі зьмешчана прыгожая канцоўка тушшу ў выглядзе стылізаванай кветкі. Ня менш памастацку выкананы фронцісьпіс з малюнкам фасаду гімназіі тушшу і васілька акварэляй; мае надпіс аб прысьвечаньні гэтага альманаху Люцынскай беларускай дзяржаўнай гімназіі, якая пасьля была зачынена, з уласнаручнымі подпісамі ўдзельнікаў: Казлоўскай, Івановай, Даўгога, Калініна, Воркуля, Шаўцова, Масальскага і Кудраўцава. Яны, мабыць, і зьяўляюцца тэй групай вучняў Люцынскай другой беларускай дзяржаўнай гімназіі, якая названа рэдактарам-выдаўцом данага альманаху ў канцы яго. У тэксьце альманаху ёсьць 10 прыгожых заставак, 7 канцовак, 1 рамка для вершу і чатыры малюнкі. Адзін малюнак выкананы акварэляй, адзін акварэляй і тушшу, рэшта як і тэкст, тушшу. Адзін малюнак адабражае роўную бязьмежную прастору, другі—раніцу на беразе лесу, трэці—К. Каліноўскага і чацьверты—К. Езавітава, які ў той час сядзеў у турме. Тэкст напісаны прыгожым стылізаваным скарынінскім шрыфтам. Форма тут вылучае зьмест, зьмест выяўляе форму. Наогул гэты альманах можа служыць дасканалым узорам для выданьня рукапісных часопісяй. (Зараз ён здадзены мною на захаваньне ў Беларускую Дзяржаўную Бібліотэку). Усіх літаратурна-мастацкіх твораў у альманаху 12.

Наступным па тэхніцы ўзорам беларускага выданьня ў Латвіі зьяўляецца зборнічак вершаў „Адгукі сяродкі“, напісаны М. Талеркам і выданы на пішучай машынцы ў некалькіх паасобніках. Абслужваная аўдыторыя гэткім спосабам пашырылася, але мастацкасьць выданьня ў даным выпадку зьнікла. Памер: 120×189 мм; старонак 42. Вокладка з нявыразна-зеленкаватай паперы; на першай старонцы яе ўгары чырвоным

і сінім канцылярскім алоўкам стылізаваны ўзор пояска, пад ім—нявыразна напісаная атрамантам шырокімі літарамі назва: „Адгукі сяродкі“. Літары заштрыхаваны сінім і абведзены чырвоным алоўкам. Унізе вокладкі дата — 1926. Папера ў самым зборніку шэрая, дрэнная, пісьмо машынкі праз капіравальную паперу не асабліва выразнае. Усіх вершаў у зборнічку—26. На ўсім зборнічку—адбітак надзвычайнай матэрыяльнай убогасьці і аўтара і тэй аудыторыі, якую ён абслугоўвае.

Але яшчэ большую аудыторыю можна абслужыць пры дапамозе шапірографа. І вось чарговым па тэхніцы выданьнем беднай беларускай нацыянальнай меншасьці ў Латвіі зьяўляецца часопіс „Ластаўка“, які рэдагаваўся рэдакцыйнай колегіяй і выдаваўся на шапірографе выдавецкай сэкцыяй вучнёўскага гуртка Люцынскае беларускае гімназіі ў горадзе Люцыне з траўня 1923 году да сакавіка 1924 г. уключна, у ліку 35—50 паасобнікаў. Усяго вышла 9 нумароў часопісу на 270 старонках. Памер 180×230 мм. Усе нумары маюць старую вокладку—малюнак Люцына, над ім у прасторы—ластаўка, якая ляціць насустрач чытачу, а за ёю другая; унізе назва часопісу, нумар, дата і месяца выданьня. Увесь комплект часопісу мае звыш 100 ілюмінацый: малюнкаў да тэксту, заставак, канцовак, рамак для вершаў і г. д. Увесь тэкст і малюнкі напісаны рукою і, адціснутыя на шапірографе, маюць прыемны сьветла-фіялетавы колер. У самым напісаньні ўсюды адчуваецца індывідуальнасьць старраннай рукі. Некаторыя старонкі дрэнна адціснуліся і ня зусім чытэльныя. Усіх літаратурна-мастацкіх твораў, апрача запісаў народнай творчасьці, налічваецца 44.

Пры палепшаньні матэрыяльных магчымасьцяй ад шапірографу зусім натуральны пераход да шклопісу. На апошнім з сакавіка 1926 г. да чэрвеня 1927 г. Дзьвінскай беларускай гімназіяй выдавалася штомесячная часопісь „Школьная праца“ пад рэдакцыяй рэдакцыйнай колегіі з вучняў, прычым адказным рэдактарам лічыўся дырэктар гімназіі С. Сахараў. Згодна рэцэнзіі на першы нумар часопісі, зьмешчанай у 22 нумары „Голасу беларуса“, „Школьная праца“ выдавалася ў ліку 150 паасобнікаў. Памер—ад 218×285 мм. да 225×300 мм. Вышла 9 нумароў у 7 сшытках на 180 старонках. Вокладка на кожным нумары з тонкай паперы інакшага колеру: жоўтага, сіняга, зялёнага, чырвонага і г. д. На фоне апошняга, у асобнай простакутнай рамцы, зьмяшчаўся малюнак, назва часопісі, нумар, дата і месяца выданьня. У №№ 1, 2 і 3-4 на вокладцы зьмешчаны малюнак Дзьвінскай беларускай гімназіі; у № 5— у вянку лёзунг: „1921—1926. Хай жыве беларуская школа ў Латвіі і яе працаўнікі!“; у № 6—у вянку з дубовых ветак коньнік; у № 7—малюнак старадаўнага Дзьвінскага замку і ў № 8-9—сымболічная застаўка. У тэксьце ва ўсім комплекце зьмешчана каля 80 ілюмінацый, з іх каля 45 звычайным друкарскім шляхам. Гэты нічым не апраўдваны крок псуе ўражаньне парушэньнем адзінства тэхнікі, колёрыту выданьня і да г. п.

Некаторыя старонкі так, як і ў „Ластаўцы“, адціснуты ня зусім чытэльна. Усіх літаратурна-мастацкіх твораў у комплекце часопісі 36.

Урэшце, жадаючы пазнаёміць з творчасьцю сваіх вучняў найбольш шырокія колы чытачоў, Люцынская беларуская гімназія ў 1924 годзе выдала ў Люцыне зборнік лепшых твораў, выбраных з свае шапіраграфнае часопісі „Ластаўка“ пад такой самай назвай „Ластаўка“. Апошняя і зьяўляецца першым узорам беларускага выданьня ў Латвіі звычайным друкарскім спосабам. Зборнічак у цьвёрдай вокладцы жоўтага колеру з надпісам: „Ластаўка“. Зборнік вучнёўскіх твораў дзяржаўнай Люцынскай беларускай гімназіі ў Латвіі. 1924. Выданьне гімназіі. Люцын“. Памер—132×209 мм.; старонак—32, малюнкаў—5; фарба дрэнная; папера—шэрая. Усіх літаратурна-мастацкіх твораў—28.

Наступным выданьнем, якое давала прытулак літаратурна-мастацкім творам, зьяўляецца газэта „Голас беларуса“, што выходзіла з чэрвеня 1925 году да ліпня 1926 году, тры разы ў месяц, і з ліпня 1926 году да 13 ліпня 1927 году ўключна штотыдзень у горадзе Рызе. За ўвесь час вышла 58 нумароў памерам 325×465 мм, па 4 старонкі кожны нумар. Рэдактарам-выдаўцом увесь час быў К. Езавітаў. Газэта друкавалася на добрай паперы, чытэльным шрыфтам, бяз лішніх друкарскіх памылак, і ілюстравалася. Ва ўсім комплекце налічваецца больш 80 выразных фотографій і малюнкаў. Літаратурна-мастацкіх твораў у комплекце газэты—178.

З кастрычніка 1926 г. да лістапада 1926 г. уключна выходзіў дадаткам да газэты пэдагогічны штомесячнік „Беларуская школа ў Латвіі“. З студзеня 1927 году да траўня 1927 году ўключна часопісь выходзіла незалежна ад газэты. Усяго вышла 7 нумароў, памерам 156×230 мм. на 108 старонках. 1—5 нумары бяз вокладкі, 6 і 7 у вокладках з тонкай паперы. На вокладцы ў провінцыяльнай простакутнай орнамэнтальнай рамцы малюнак з будынкам школы, падручнікамі і школьнымі прыладамі і ня зусім чытэльна—назва. Часопісь друкавалася на добрай паперы і ілюстравалася; у комплекце 31 вельмі выразная фотографія. Рэдактарам-выдаўцом увесь час быў К. Езавітаў. У часопісі зьмяшчаліся рэцэнзіі на літаратурна-мастацкія творы.

Урэшце, у 1926 годзе ў Рызе 12 нумарам бібліотэкі беларуса-выбаршчыка выданьнем Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў у Дзяржаўны сойм, павятовыя, гарадзкія і валасныя самаўрады ў Латвіі вышаў „Першы крок“. Зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх поэтаў у Латвіі“. Памер—124×170 мм; старонак—88. На вокладцы з прыгожай белай паперы зьмешчаны малюнак, рэчка, на якім—з левага боку пакідае горад з фабрыкамі, а з правага—палі і лясы; на першым пляне селянін і рабочы моцна трымаюць у сваіх руках сьцяг, які вольна палошчацца ў бязьмежным прасторы неба. Пад малюнкам чырвонымі літарамі назва зборніку: „Першы крок“. Далей, замест фронцісьпісу, зьмешчаны другі малюнак:

узыходзіць сонца; направа—заводы, налева—палі; на пярэднім пляне ля кавадла рабочы, ля сахі—селянін; яны моцна трымаюць за руку адзін аднаго. У зборніку малюнкаў няма; папера добрая. Літаратурна-мастацкіх твораў у зборніку—68.

Такім чынам, ва ўсіх беларускіх выданьнях, якія так або інакш прычыніліся разьвіцьцю беларускай літаратуры, было зьмешчана каля 400 літаратурна-мастацкіх твораў. Тыя мастацка-літаратурныя творы, якія па матэрыяльных прычынах ня былі надрукованы (а іх ёсьць шмат), у наш агляд ня могуць уваходзіць. Зважаючы, што зараз беларускі друк у Латвіі перажывае крызіс і ніводнае з вышэйпамянёных кругабегавых выданьняў ня выходзіць, пяцігадовы час з 1923 да 1927 году можна разглядаць, як скончаны кругабег. Дый сама літаратурна-мастацкая творчасьць беларусаў у Латвіі дазваляе так думаць. На працягу гэтага кругабегу з літаратурна-мастацкімі творамі ў латвійскім беларускім друку выступілі: В. Казлоўская (Лясная кветка), К. Езавітаў (Кастусёнак), П. Масальскі (П. Сакол), Я. Воркуль (Я. Завея), М. Талерка, А. Бартуль, Г. Іванова, М. Рацын, Н. Мікалаева, Меншыкаў, В. Вальтэр, Пятрусь, С. Шаўцоў, Я. Доўгі, Слосман, Даўгая, К. Шауман, Дубавік, Вайводзіш, Я. Сянькевіч і па адным творы далі: Н. А. Іжык, Д. Сьцефановіч, А. Калішук, У. Жучок, Алеся, О. Сахарава, Дэмбоўскі, Я. Кудраўцаў, Р. Кудаса, З. Лірнік, С. Калугін, Оруб, А. Баркоўскі ды інш. Апрача таго, зьмешчана 11 перакладаў твораў Я. Райніса і 1 Л. Лайцэна—выдатных латыскіх пісьменьнікаў, і адзін Франко. Некалькі твораў А. Смаленца і значны лік Ул. Жылкі ды адзін Крэчэўскага трапілі ў латвійскі беларускі друк выпадкова і ў межы нашага агляду не ўваходзяць.

Замежны беларускі друк добра адгукнуўся на пачатак разьвіцьця беларускай літаратуры ў Латвіі. „Блакітны васілёк“ мае сапраўдную літаратурную і мастацкую вартасьць“,—адзначана пра альманах („Голас беларуса“, № 44). „Мотывы высокаграмадзкія пераплятаюцца ў М. Талеркі ў ягоным зборніку з мотывамі асабістых перажываньняў. І ў тых і ў другіх вершах малады поэта шчыра вылівае сваё пачуцьцё і думку. Піша ён заўсёды з натуры, адгукваючыся на сапраўдныя рэальныя здарэньні. Элемэнт фантастычнасьці, прыдуманасьці і штучнасьці ў аўтара адсутны. У гэтай шчырасьці пачуцьця і адгукаў на штодзённае жыцьцё галоўная адзнака творчасьці М. Талеркі. З прыемнасьцю адзначаем выхад гэтага скромнага зборнічку, які робіць новы ўклад у літаратурныя пачынаньні гуртка маладых беларускіх поэтаў у Латвіі. Шчыра жадаемо аўтару далейшага разьвіцьця ягоных здольнасьцяй, якія ён бязумоўна мае“ („Беларуская школа ў Латвіі“, № 4, ст. 53). „Сьмеласьці, запалу і веры ў будучыню шмат на кожнай староньцы „Ластаўкі“,—констатуе нават польская газэта („Пшэглёнд Віленьскі“, Вільня 1925, № 13). „Школьная праца“ пастаўлена правільна... Мова ў другім нумары „Ш. П.“ лепшая,

чым у першым, а агульна бяручы, калі адкінуць некаторыя русыцызмы, даволі добрая; чуваць, што пісьменьнікі стыкаюцца з жывой народнай стыхіяй. Належыць павіншаваць вучняў Дзьвінскай гімназіі і рэдакцыю „Ш. П." за рысунковую старану часопісі" („Крывіч", № 11, ст. 116). Таксама добра сустрэлі лепшыя колы латыскага грамадзтва „Першы крок" маладых беларускіх поэтаў у Латвіі; яны найбольш правільна і ацанілі яго.

У „Першым кроку" сабраны працы 20 поэтаў. Усе гэтыя аўтары—беларусы—з ліку беларускае меншасьці ў Латвіі. Некаторыя з іх ужо памёрлі, аб некаторых трэба сказаць, што, магчыма, з іх не разаўецца сталых поэтаў, бо іхныя вершы толькі юнацкая спроба, але другая частка, наадварот, пры старannай працы над сабою мае ўсе магчымасьці разьвіцьця і быць дужымі сялянскімі поэтамі, аб гэтым гаворыць той спосаб уяўленьня, які мы бачым у іх вершах: поўны жыцьця, сьвежага пачуцьця, думкі і жыцьцёвай праўды. Прыкладам, верш першага поэты В. Ашурка „Жыцьцё селяніна" надзвычайна цікавы сваёй сялянскай прымітыўнасьцю і жыцьцёвым рэалізмам,—ён піша:

Наша дзёшава ўсё...
Ну, паслухай, ай-ей.—
Пудзік лёну цяпер—
Паўтараста рублей.

Старамодны эстэт можа абурыцца: „Як можа поэта ў сваіх штрофах апусьціцца да вызначэньня кошту лёну!" Але, якраз у гэтым месцы самая найбольшая самабытнасьць, бо тут самая сардэчная праўда сялянскага жыцьця. Гэткім-жа праўдзівым вершам, што малюе жыцьцё беларускага рабочага, які рупна апрацоўваў пахнучае дрэва, зьяўляецца верш К. Езавітава „На лясных складах у Рызе". Частка вершаў латвійскіх беларусаў-поэтаў напісана ў турмах—Рыскай і Дзьвінскай. Ужо з гэтага поваду яны ня могуць быць бяз палітыкі, нацыянальнага протэсту. Дзе-ні-дзе гэты нацыяналізм, як сялянскі, крыху анархічны; мясцамі ён супадае з соцыяльнай думкай. Мясцамі адбіваюцца пачуцьці сялянскага сямейнага жыцьця. Ёсьць звароты да беларускага эмігранта—яму трэба вяртацца і будаваць сваю бацькаўшчыну. Наогул, зборнік яднае і адбівае ўсе перажываньні апошніх год,—ён сучасны. У ім ёсьць тое жыцьцё і тая жыцьцяздольнасьць, якая пры бязупыннай працы можа высунуць тых аўтараў, якія яшчэ слабыя з боку тэхнікі вершу" („Домас", Рыга, 1927, № 5). Латышы настолькі зацікавіліся маладой беларускай літаратурай ў Латвіі, што вядомы латыскі поэта Я. Райціс пераклаў шэраг твораў маладых поэтаў: „Бунтаўшчык" А. Бартуля, „Латгалія" Я. Воркуля, „Да моладзі" і „Я веру" Эпле-Палубейкі ды інш. і замясьціў іх у латыскай газэце „Яўнакас Жынес". Дайшло нават да таго, што памянёную, бясспрэчна здольную моладзь, латыскі друк пачаў лічыць латышамі і Клайвішу, Вайводзішу ды інш. Прышлося протэставаць супраць гэтага ў друку-ж („Голас беларуса", № 36).

Як правільна заўважыў аўтар латыскас рэцэнзіі аб „Першым кроку“, амаль усе маладыя беларускія пісьменьнікі і поэты ў Латвіі паходзяць з апошняй. Яны прышлі ў маладую беларускую літаратуру ў Латвіі з латгальскіх і зэмгальскіх сялян ці з беларускіх колаў гарадоў Латвіі. Жыцьцяпіс іх можа ўкласьціся ў некалькі радкоў: бацькі—сяляне, якія і зараз працуюць на сваіх кавалачках зямлі, ці рабочыя ў гарадох; яны сяк-так у голадзе і холадзе вучыліся, а зараз пачынаюць сваю скромную працу ў галіне літаратуры; матэрыяльныя ўмовы і зараз бадай ня лепшыя за ўмовы іх бацькоў або іх уласных вучнёўскіх гадоў; мэта іх—дапамагаць перабудове сучаснага жыцьця. Зараз яшчэ цяжка сказаць, ці скончыўся ў каго-колечы з іх вучнёўскі кругабег іхнай творчасьці. Яны—усе яшчэ ў будучыне. Бадай ніхто з іх яшчэ ня выявіў сябе, як сталага, ужо сформаванага творца з пэўным сьветапоглядам і пэўнымі формальна-мастацкімі прыёмамі. Дый хто-колечы з іх напэўна выпадковы ў літаратуры і адыйдзе ад яе.

Як і трэба было чакаць, у беларускай літаратуры ў Латвіі пераважае поэзія, як лягчэйшы від творчасьці. Прозаічных літаратурна-мастацкіх твораў толькі некалькі, а драматычны—адзін. Аснова поэзіі—сучаснасьць. Усё тое, што атачае поэту ў даны момант, а таксама тое, што выклікана ўспрыйманьнем гэтага акаляючага,—складае зьмест беларускай поэзіі ў Латвіі.

Што ў сэрцы гарыць,
Што ў думках крычыць,
Што шчасьліва ці цяжка хвалюе,—
Дамагаліс злавіць,
Дамагаліс адбіць,
І злажыць у радкі,
Як маляр на хальсьціну малюе,—

гаворыцца ў першым вершы-прадмове да зборніку „Першы крок“. Месца поэты там,

Дзе цемра, стогны, дзе зьдзек, прымусы
Пануюць доўгія гады.
Ідзі туды, дзе енкі, сьлёзы,—
Патрэбна праца там твая.
Там, ля расхілістай бярозы,
Ля чорных хат—твая сям'я.

(*Я. Воркуль*).

Там для тых, хто жыве ў горы і беднасьці, сьвеціць сонца; а ў грудзях поэты палае адвага. Дык,

Ці варта стагнаць, калі сонца ўвысі
Так весела зьзяе, сьмяецца.
Ці варта стагнаць, калі песьня з грудзей
З адвагай на волю ірвецца?
Ці варта прад горам хіліць галаву?
Хай гора схіліцца прад намі!

(*В. Казлоўская*).

Стагнаньне і сьлёзы не абуджаюць чыннасьці. Толькі апошняя, толькі змаганьне можа даць вызваленьне з соцыяльнага і нацыянальнага ўціску. Зусім слушна поэта заклікае сваіх таварышоў да бадзёрых настрояў і змаганьня:

Годзе стагнаць у няволі.
Годзе нам крыўду знасіць.
Стагналі, цярпелі... Даволі!—
Мы гэтак ня хочам больш жыць.

Гора і зьдзек мы знасілі,
*Цяпер-жа ўсе, брацьця, упярод!*
Годзе!—Мы праўду пазналі!
*Сьмела за вольны народ!*

Годзе над намі сьмяяцца!
Мы людзі такія, як вы!
Годзе сярмяг вам чурацца.
Годзе нас зваць „мужыкі!“

(*К. Дубавік*).

А раз трэба змагацца, дык поэта павінен у першую чаргу пець не аб харастве прыроды, але аб соцыяльнай і нацыянальнай бядзе, што гняце беларуса ў Латвіі. Гэта выкліча ў яго яшчэ большае абурэньне і ён ўспрыйме бадзёры заклік поэты да змаганьня:

Што стаў ты сьпяваць салаўіныя сьпевы.
І што твае песьні галосяць
Аб тым, як ўвясну прыбіраюцца дрэвы,
Як сонца сабе яны просяць.
Мы ведаем сьпевы птушыныя ў лесе,
І чуем прыроды красу,
І бачым, як зоркі мігцяць ў паднябесьсі,
І раньне як шлець нам расу.
Пей лепш аб тым, як сумуець, як б'ецца
Бядою пакрыўджаны брат,
Нядолю пазнаўшы яшчэ дзе пры матцы
Пад роднай страхою тых хат.
Яго падтрымай ты, дай моцы, надзеі,
Усьцеш, што занялась зара,
Яму пакажы, як трэ' гора разьвеяць,
*Дай прыклад жывы змагара.*
Ён гляне, падыймецца,—сэрца ўздрыгнецца
У змучанай горам грудзі;
На песьню тваю беларус адгукнецца...
Сьпявай-жа, пясьняр, і будзі...

(*М. Талерка*).

У той час, калі трэба даць жывы прыклад змагара, не павінна быць у творчасьці поэты ня толькі сьлёз, але і асабістых перажываньняў.

Гэта вельмі трапна выказана ў вершы „Маладым песьняром у Латвіі“:

О, чайкі! Ня плачце, ня сумуйце над морам:  
Беларускае мора пачынае прыбой.  
Глядзіце: каля хваль, аб'ядналых горам,  
Хутка мора будзе вольна сьмяяцца,—  
Наперад, чайкі! Воля ідзе...  
Толькі сьмела на хвалях ўздымацца  
І ў бурлівай ныраць вадзе.  
Хай нясуцца чорныя хвалі,  
Ня плачце толькі на іх грудзёх:  
Тады ня трэба плачу і жалю,  
Калі змагацца кажа малох...  
Дык ня жывіце сваім асабістым горам,  
Не займайцеся толькі саміма сабой.  
О, сьмелыя чайкі! Глядзіце:  
Рух разьліваецца морам,—  
Беларускае мора пачынае прыбой.  
(*Вальтэр*).

Поэта, хоць і нарадзіўся ў нядолі, вольны ў сваёй веры ў перамогу, у сваіх песьнях:

Хоць я і радзіўся з нядолі народнай,—  
Сакол я свабодны. Я—вольны сын неба.  
Я веру ў свабоду. Я веру ў шчасьце.  
Жадаю яго я свайму народу.  
Ня век панаваць будзе намі няшчасьце,—  
Я веру у шчасьце. Я веру ў свабоду.  
(*П. Масальскі*).

Гэта цьвёрдае пераконаньне поэты. Але ён таксама добра ведае, што фактычна на гэту волю ў Латвіі ён ня мае праў. Нават тады, калі ён сваёй верай і жаданьнем перамогі ня будзе дзяліцца з іншымі, ён лёгка можа папасьці ў турму:

У турму яго!—У турму!  
Ён думку нейкую, сваю, трымае  
і нікому ня кажа з нас...  
Ад усіх хавае!—  
На розуме ён нешта злое мае...  
У турму яго! У турму!  
(*Кастусёнак*).

Але тады, калі пясьняр сьвядомы ў сваіх грамадзкіх абавязках, калі ў яго—

Зашапталіся думы-красулі,  
Гармонікай вершы грымяць,  
І надзеі, як сьпелыя дулі,  
Скрозь настрояў-лістоў зіхацяць.  
(*В. Казлоўская*).

Гэтых надзеяў і жаданьня перамогі ніхто ня зможа задушыць. Нават тады, калі кругом ворагі, калі ты паранены, сьмела павінен весьці бойку і—

Да кратаў, да магілы
Не агорне цябе страх.
(*М. Талерка*).

І, зразумела, асабліва рады поэта, калі ён знаходзіць водгук сярод масаў на свой заклік; яму як быццам адчыняюцца вочы на далейшыя прасторы:

Чу! Ураз адчыніліся вочы:
Ня лес—браты мне ўвакруг;
Убачыў я люд наш рабочы,
Што хоча разьдзерці ланцуг.
(*М. Талерка*).

А калі ёсьць водгук, дык колектывам пры напорыстым жаданьні ўсё будзе пераможана:

— Хвалі марскія, што б‘ецеся ў бераг,
Цяжка вам скалы размыць!
— Б‘емся мы з сілай, б‘емся мы з верай.—
Наша павінна ўсё быць!—
Хвалі, вы—кроплі, бясьсільныя мары,
Прэч што ад сонца лятуць!
— Верым мы моцна.—Ня згінем ў цяжары,
Кроплі і камні дзяўбуць!
(*М. Талерка*).

Пры падтрыманьні мас, пры такой моцнай веры ў перамогу, песьня поэты ўжо сапраўды зьяўляецца звонам свабоды:

Звон свабоды звоніць, звоніць
І да працы усіх гоніць.
Ён аб волі людцам кажа,
Путы зьдзекаў ім разьвяжа.
Сон цяглівы прэч ён гоніць,
Моцных сілаў многа родзіць,
Людцаў бедных к сабе туліць
І заснуўшых вояў будзіць.
Кліча звон усіх змагацца
Ды з няволі вырывацца.
(*М. Рацын*).

Пры такім здаровым разуменьні канечнасьці сувязі поэты з грамадою зусім нормальнай бывае трывога маладых поэтаў за лёс беларускага друку ў Латвіі. Кругом сьцюжа, холад і голад; поэта змарыўся, ім апанаваў сум; не здаючыся, ён шукае прычыны апошняга:

Мо‘ чым я праграшыўся—
Сплутала пакуса?
Мо‘ на зімку зноў спыніўся
„Голас беларуса?“
(*А. Баркоўскі*).

Паказаныя погляды беларускай літаратуры ў Латвіі на поэту і яго чыннасьць не зьяўляюцца толькі дэклярацыяй. Яны ажыцьцяўляюцца амаль ва ўсёй творчасьці маладых поэтаў. Адпаведна гэтаму асаблівай увагі заслугоўваюць іх мотывы працы. Беларускі рабочы і селянін любіць працу; калі ратай ідзе на ворыва—

Вольна ўздыхае, на твары пахмурным
Радасьць зьзяе, бы сонца ўгары.

(*В. Казлоўская*).

Для рабочага, пасьля яго начнога адпачынку,—

Горад тоне ў прызыўных гудкох
Раніцою...

(*Ю. Таубін*).

Рабочы любіць свой завод; селянін любіць зямлю:

Люблю сваю зямлю-палоску,
Хоць трэба цяжка працаваць
І пот гарачы праліваць.

(*К. Шауман*).

Ва ўмовах буржуазнага ладу прыходзіцца працаваць, але, апрача таго, працаваць на багатых:

Дзень-ноч працуюць усе да поту.
І вось за гэтую работу
Яны чуць-чуць могуць пражыць...
Трэба ў воласьць заплаціць,
А грошай неадкуль здабыць.
Прасіць, чакаць?—дык не чакаюць!
А старшыня яшчэ й пужаіць:
— „Бяры дзе хочаш!—падавай!
А не, дык потым не пяняй!..
Кароўку, сьвітку і канька—
Ўсё прадалі з-пад малатка.

(*К. Шауман*).

Селянін ня можа падумаць аб долі для сябе, бо

Усе пільнуюць кругом
З мужыка каб садраць,
А ўзамен мужыку—
Нічагуські ня даць [1]).

(*В. Ашурак*).

---

[1]) Да рэчы—аб спосабе цытаваньня. Падобна таму, як слова мае значэньне толькі ў контэксьце сказу, цытата мае ўласны сэнс толькі ў контэксьце акаляючых яе вершаў; вырваная з апошніх, яна можа набываць зусім іншы сэнс; дзякуючы гэтаму, а таксама незнаёмству савецкіх чытачоў з беларускай літаратурай у Латвіі, прыходзіцца падаваць магчыма шырэйшыя цытаты.

Ва ўмовах такога абдзіраньня рабочага і селяніна, яго чакае няўхільнае зьнішчэньне:

Вецер прыгібае
На полі быліну,
Доля прыгнятае
Бедака-дзяціну.
У змаганьні з доляй
Патраціўшы сілу,
Ля дарогі ў полі
Ляжа ён ў магілу.
Ад злой непагоды
Зломіцца быліна,
Пад ярмом няўзгоды
Згіне сіраціна.
Ніхто не заплача
Па сірочай долі,
Хіба вецер сумна
Загудзе на волі
Ды хмаранька з жалю
Дождржам заліецца,
Стэп сівым туманам,
Жальбай абаўецца.

(*І. Меншыкаў*).

Адначасна з уціскам соцыяльным беларускім рабочым і сялянам у Латвіі прыходзіцца цярпець і ўціск нацыянальны. Няма чаго ўжо гаварыць пра задаваленьне нацыянальных патрэб, калі ворагі беларускіх рабочых і сялян:

Здаўна казалі: цябе ўжо няма.
— Беларусы?—Якія? Даўно ўжо памерлі.
Нават косьці знайсьці не турбуйцесь дарма,—
А ад злосьці клахтала ў ворага ў горле.

(*В. Вальтэр*).

Зачыняюцца беларускія школы. Аб зачыненьні Люцынскай беларускай гімназіі поэта кажа:

Загас агонь... З начное цемры,
Як з прорвы, глянуў злосны твар,
І рукі хцівыя, грубыя,
Змахнулі ў момант ясны жар.
І вось над згасшым папялішчам,
Як над пахованай труной,
Стаю са смуткам і жалобай,
Але—з паднятай галавой.
І над сьвятыняй зруйнаванай
Я ня схіляюсь, ў смутку знак
Я ня схілюсь.—Бо мімаволі
Рука сьціскаецца ў кулак.

(*П. Сакол*).

У такім цяжкім стане зусім слушна паўстае запытаньне аб прычынах, якія гэты стан выклікалі. Мо' затым, што поэта яшчэ не пасьпеў уведаць сапраўдных прычын уціску, мо' затым, што яму ня можна выказваць іх звычайнаю моваю, ён наіўна кажа, што цярпелі для таго, каб цяпер здабыць радасьць. Пры гэтым поэта больш цьмяна, чым уперадзе, паказвае, што адзіны выхад з становішча ў змаганьні:

Можа быць, мы за тое так доўга цярпелі,
І прыгоннае рабства нясьлі,—
Каб хутчэй цяпер нашыя песьні ляцелі
Над прасторамі роднай зямлі.
Можа быць, мы за гэта вякамі маўчалі
І баялісь духова ажыць,—
Каб цяпер у нас полымя нашага сэрца
Ані хто ўжо ня змог патушыць.
Можа быць, для таго былі годы смутныя
І на мове маўчаньня пячаць,—
Каб маглі-б мы свае непачатыя сілы
Для вялікае працы дзяржаць.
Няма сёнека страхаў ў народа-магута.
Мы над роднай старонкай сваей
Дружным ўзмахам разгонім ўсе хмары пакуты
І адкрыем к свабодзе дзьвер.

(*Я. Сянькевіч*).

Затое, шэраг іншых поэтаў добра ведаюць, што толькі шляхам рэволюцыйнага змаганьня яны вызваляцца соцыяльна і нацыянальна:

Ня дай, каб загон твой чужынцы дзялілі,
Праводзячы межы на ім;
Ня дай, каб багацьце тваё вывазілі,
І білі па твару тваім.

* * *

Змагайся, народзе, за лепшую долю.
Ў змаганьні ёсьць шчасьце тваё.
Прачніся хутчэй і здабудзь сабе волю,
Навострыўшы вострa лязьзё.

(*В. Рацын*).

Чым хутчэй прыдзе час гэтага змаганьня, тым лепш:

Дык, гэй-жа, хутчэй. Ў мазалістых руках
Хай блісьне сякера і молат.
І рэха ад працы хай з родных палей
Прэч згоніць і гора і холад.

(*В. Казлоўская*).

Маладыя поэты клічуць да змаганьня за лепшае, да руйнаваньня старога, да будаваньня новага. У гэтым яны адчуваюць сябе солідарнымі ня толькі з прыгнечанымі беларускімі рабочымі і сялянамі Заходняй

Беларусі, але і з працоўнымі ўсяго сьвету. Толькі гаварыць аб гэтым ня можна:

Але годзе ўжо, годзе аб гэтым,
Бо наш Захад к таму ня прывык.
Бо цяперашнім спужаным сьветам
Скажуць зразу, што бальшавік.

(*Р. Кудаса*).

А таму, аб кім ня то што даведаліся, а толькі сказалі, што ён бальшавік—турма. З'гэтай прычыны лягчэй гаворыцца пра змаганьне ў Заходняй Беларусі; латыскім паном ня так страшна, калі клічуць біць польскіх паноў, а ня іх:

Я казак-гайдамак,
Малайчына хвацкі,—
Ні слупа, ні хлява,
Ні бацькі, ні маткі.
Працаваць я хачу
І араць ахвотна,
Ды зямелькі няма:
Я кругом галота.
Зьеў панок наш лясок,
Пазабраў зямельку,
Згвалціў жонак і дачок,—
Ды п'ець сабе гарэлку.—
Дык дакуль-жа цярпець
Гэты гвалты, зьдзекі?
Трэба цэп, касу браць—
Пусьціць з крыві рэкі.
Палі савінае гняздо—
Згінуць хай гадзюкі,
На кавалкі злыдняў сьсеч
Хай ня дрогнуць рукі.

(*Кастусёнак*).

На жаль, ня толькі ў гэтым выпадку адчуваецца сялянскі анархізм; неорганізованымі выступленьнямі, адзінкавымі падпаламі і забойствамі сваіх ворагаў нічога ня зробіш. Перамога можа быць здабыта толькі організованымі выступленьнямі організованых мас працоўных. Гэта пачынаюць разумець некаторыя маладыя поэты:

І, зьяднаныя працай агульнай,
Ідуць людзі ў натоўпе агромным.
Ідуць людзі, нясуць сваю працу,
Ідуць шляхам, што ўецца крывава.
Ад рук у мазалях—моцай вее,
Постаць кажа: „Мы сіла, мы права!..“

(*Б—ль*).

Вось гэтыя зьяднаныя масы і перамогуць на крывавым шляху барацьбы.

У мотывах змаганьня сустракаюцца ўспаміны пра Савецкую Беларусь. Успамінаюць яе тыя, хто не нарадзіўся там, але апынуўся ў Латвіі, дзякуючы розным прычынам:

На чужым берагу мы з табою адны...
Навакол злая ўюга бушуіць...
І штодня сьніцца мне,
Як ў радной старане
Сонца ласкай п'яніць і калдуіць.

(*Сахарава*).

Але яны не гледачы там; яны ўдзельнікі агульнага руху і спадзяюцца, што тамашні край на іх не забудзецца:

Хай ў чужой старане мы з табою адны,
Навакол няхай ўюга рыдаіць,
Але ведаем мы,
Што край любы, радны
Наша імя дабром успамінаіць.

(*Сахарава*).

Заходня-беларускім змагальнікам проста раіцца кіравацца на Ўсход:

Белы арол увесь забрызган крывёй.
Беларускі народ у кайданах.
Ня мірысь,
Ня хіліcь прад нядоляю злой,—
На усход накіруй цьвёрды шлях!

(*К. Езавітаў*).

Усім тым, хто раней адрокся будаваць з намі нашу савецкую дзяржаву, поэта раіць вярнуцца, пакуль ня позна:

Прадудзела дуда,
Прагучэў покліч ўсім:
— Беларусы, дахаты!
Вярні-і-сь!
У каго вушы—адчуй!
Хто заспаўся—прасьнісь!

(*К. Езавітаў*).

Дый у самой Латвіі трэба браць з нас прыклад:

Падзівіткась на ўсход,
Як там родзічы пануюць,—
Трэба і нам ісьці ўпярод.

(*Б. Рык*).

Асабліва жыва перапляталіся яскравыя вобразы сваёй, латвійскай Беларусі, з уяўленьнем аб нашай, савецкай, у поэткі Казлоўскай. Надзвычайна цікавай здаецца тая краіна, дзе малодшыя за поэтку дзеці, якія таксама ходзяць у школу, ужо ня бачылі жывога жандара. Так хацелася-б пабачыць гэту краіну:

Эх, каб мне ды з чачоткамі рабымі
Паляцець-бы туды да Цябе.

Хоць у полі, вярбінай пахілаю,
Нараджэньне дзён новых вітаць,
А старому, над жоўтай магілаю
Памяць вечную ціха сказаць.
(*В. Казлоўская*).

Пасьля мотываў змаганьня буйное месца ў творчасьці маладых беларускіх поэтаў займае турма. У так званай дэмократычнай дзяржаве яна—звычайная зьява для шмат каго. У турму могуць лёгка папасьці ня толькі поэты беларускай нацыянальнай меншасьці, але і латыскія. У латвійскіх турмах некалькі раз сядзеў выдатны латыскі пісьменьнік Лінард Лайцен; сядзяць зараз некалькі латыскіх рабочых поэтаў, а зборнічак іх твораў конфіскаваны. І яшчэ задоўга да таго часу, калі маладыя беларускія поэты сталі часта выяўляць сябе ў друку, шмат хто з іх таксама пасядзеў у турме. Толькі-толькі пачалася беларуская культурна-нацыянальная праца ў Латвіі, а латвійская буржуазія стварыла вядомы беларускі процэс. Гэтым яна ўзбагаціла беларускую літаратуру ў Латвіі творамі аб турме, перажываньнях у ёй і г. д. Гэты скончаны цыкль розных аўтараў пачынаецца з арышту:

Аркуш паперы, белы, жорсткі,
Радкоў штук з дзесяць,
Рошчырк хлёсткі—
Усю душу ўсхвілявалі мне!
(*Кастусёнак*).

Гэты загад аб арышце выклікае ў поэты.

Успаміны.
Дрож.
Балючы жаль.
І немы крык
У душы, на дне.
(*Кастусёнак*).

Далей апісваецца нудны дзень у турме, прагулка па цесным двары, шчасьлівы выпадак, каму папалася сядзець на верхнім паверсе...

Поэта-арыштант ня траціць надзеі на лепшую будучыну, ён ня сумуе:

Злавілі мяне, пташку вольну, лясную,
Падрэзалі крыльлі, ў турму пасадзілі,
Аднак, ўсе няшчасьці мяне не зламілі,—
Няхай яны цела бяз жалю катуюць,
Трымаюць няхай у магутнай турме,—
Ўсё-ж думка аб волі ня згіне ва мне:
Ў нядолі і ў горы я ўсё-ж ня сумую.
(*В. Эпле-Палубейка*).

З замілаваньнем апісваюць маладыя поэты горад.

Раніцою ў горадзе гудкі
Льлюцца ўдаль трывожным перабоем.
І спавіты шэраньню блакіт раніцою...
(*Ю. Таубін*).

Але гэта—прызыўныя гудкі толькі для новай зьмены рабочых. Горад працуе і ўночы:

Шапочуць дрэвы ўздоўж ракі,
Гудзяць машыны і станкі
бліжэйшай фабрыкі,
і дзіка ўецца дым
з трубы вялікай.
Буксір на рэчцы дзесьці крыкнуў,
мільгнуў агонь
і зноў занікнуў.
Мінае ноч.

(*Я. Воркуль*).

Завод, на якім прыходзіцца працаваць, здаецца жывым організмам:

Зялеза лязгае. Грукочуць колы.
Ў паветры носіцца скрыпеньні шківаў
І цэлы рад карбіду з кіслародам узрываў.
Шуміць матор. Дынама дужая працуе.
Па дротах хутка ток імкнецца.
Машына—пан ўсяго.
І ўсё, чапляючысь адно з адным, нясецца.
Ўзьлятаюць іскры. Грозна полымя зьзяе.
Рытмічна раз-у-раз выстуківае молат.
Завод працуе і жыве,
Як страшны, вялізарны волат.

(*Бартуль*).

Работнік у горадзе адчувае сябе не адным: там, на вёсцы, яго прыяцелі, якія аб ім падумаюць.

Горсьцю сыпануў зярнятак
Я на нівачку сваю.
Дачакаю мо' здабытак
На сьцюдзёную зіму.
А калі мне пашанцуе —
Сабяру ды ў гарадок,
Дзе на фабрыцы працуе
Безьзямельны мой браток.

(*Я. Сянькевіч*).

Цікава адзначыць, што ў маладых беларускіх поэтаў у Латвіі няма ніводнага вершу аб горадзе рэсторанаў, шынкоў, гарэлкі ды распусных жанчын, і апяваецца выключна горад працы. Але яны паходзяць пераважна з вёскі, і большасьць іх твораў аб вёсцы. Гарачае іх каханьне належыць пераважна ёй:

Горача, усёй душой
Кахаю я родную вёску.
Люблю ўспамінаць я парой
Крывенькія хаткі, бярозкі.
Дзлёка ты, вёска мая,—
А думкі к табе так і рвуцца.

(*С. Шаўцоў*).

На гэтым замілаваньні вёскай пабудавана таксама вельмі шмат вершаў з мотывамі каханьня да Беларусі. У іх выказваецца бязьмежная закаханьне Беларусьсю і тое-ж жаданьне не аддаваць яе нікому:

Беларусь мая, любімы край!
Зямля твая, дык быццам рай.
Цябе люблю, зямля мая,
Ня уступлю нікому я!

(*С. Шаўцоў*).

Можна пашкадаваць, што апісаньне тэй краіны, дзе жывуць і дзейнічаюць маладыя поэты, ледзь-ледзь імі закранута. Адзін верш аб Латвіі дый той нацыяналістычны—напірае на тое, што толькі раней было дрэнна:

Была пара—латыскі край
У цемры цяжкай спачываў...
Ліліся пот і кроў ракой
Над скатаванай старaной.

(*А. Калішук*).

Быццам цяпер Латвія—краіна, дзе ўсё добра. Другі адзіны верш аб Латвіі—краіне, дзе беларусы жывуць компактнай масай, любоўна апісвае яе з паказаньнем на цяжкія ўмовы жыцьця:

Я сын тэй старонкі, дзе шмат ёсьць лясоў,
Дзе балоты навокал, вазёры,
Дзе, куды чалавек ці паехаў, пайшоў—
Усюды бачыць кусты, касагоры.
Час-ад-часу і вёска зіркне у вачох.
Стужка хатак саломай пакрыты.

(*Я. Воркуль*).

Значнае месца пасьля вышэйпералічаных мотываў у беларускай поэзіі ў Латвіі займае лірыка прыродаапісальная і лірыка каханьня. Асабліва багатая першая. Поры году: зіма, вясна, лета, восень; часткі дня і ночы: раніца, дзень, вечар, ноч; розныя зьявы прыроды: дождж, навальніца, завея, сонца, зоры, хмаркі, васількі, прастора, рэчка, лес, вёска, замак, рэха, птушкі і г. д.,—усё знайшло свой адбітак у ёй. Аб ёй варта было-б пісаць асобна, але мы абмяжуемся толькі заўвагай на тое, як успрымаецца поэтамі сама прырода. Васількі поэта ўгоесамлівае з маладымі песьнярамі:

Цьвіціце, красуйце, блакітныя кветкі,
На ніве жыцьця залатой.
Хай сьпеў ваш ліецца, да неба імкнецца
І вабіць удаль чыстатой.

(*П. Масальскі*).

Часамі поэта думае, што толькі ў прыродзе няма ўціску і змаганьня, якое пануе паміж людзей, але пасьля пераконваецца, што і там тое

самае. Гэта не наводзіць на яго сум. Наадварот, ён хоча ўзьдзейнічаць на прыроду на сваю для сваёй радасьці:

> Раскідаліся у небе страусавы пёры,—
> Пышныя убёры вабячых нябёс...
> Я люблю вас, неба белыя убёры.—
> Стравусавы пёры і ваш думны лёс.
>
> (*Пятрусь*).

Далей шмат месца ў зборніку вызначана лірыцы каханьня і бытавым пытаньням, жыцьцю ў школах, уласным перажываньням аўтараў, іх жаданьням далей вучыцца ды інш.

Адносна перакладаў трэба сказаць, што з іх удала выбранымі зьяўляюцца творы Франко і Ляйцена—першы аб мове, другі на соцыяльна-грамадзкую тэму. Творы з Я. Райніса, на жаль, ня ўсе ўзяты з першага кругабегу яго літаратурнай чыннасьці, які наскрозь прасякнуты соцыяльнымі і рэволюцыйнымі мотывамі. Некаторыя пераклады зроблены дасканала.

Проза беларускай літаратуры ў Латвіі прадстаўлена наступнымі творамі: „На шляху", „Зачарованы асілак", „Дзень дзіцяці", „У калядны вечар", „Падкурыла", „Легенда аб Люцынскім замку", „Абразкі жыцьця"—В. Казлоўскай; „Перад экзаменам"—Г. Івановай; „Фея"—Алесі; „Душа маладзіка"—Дэмбоўскага і „Адвалівай"—Кудраўцава. П'еса надрукавана толькі адна—„Зачарованы скарб"—В. Казлоўскай. Пераважная большасьць гэтых твораў зьяўляецца дасканалай апрацоўкай народных легенд і паданьняў. Толькі два-тры тычацца перажываньняў маладых пісьменьнікаў у школе. Што-колечы грунтоўнае сказаць аб гэтых творах цяжка, паколькі яны пакуль што адзінкавыя. Бясспрэчна адно—пачынаньні таленавітыя, быць можа, больш удалыя, чым значны лік пачынаньняў у галіне поэзіі.

Мова беларускай латвійскай літаратуры наогул багата русізмамі. Толькі ў апошнія часы яна стала ўнікаць непатрэбных русізмаў ды іншых цяжка зразумелых слоў і пачала ўжываць у большай меры народныя словы латвійскіх беларусаў-тубыльцаў. Спатыкаюцца часамі даволі трапныя новатворы. У галіне формы наогул ёсьць значныя дасягненьні: трапныя асонансы (У. Жучок) і гукавыя паўторы (Г. Іванова), рыфма (Я. Даўгі); удалыя слоўныя комплексы (Сьцефановіч, Даўгая ды інш.), дасканалая штрофіка (Казлоўская) і г. д. Але ў галіне формальнай маладыя поэты і пісьменьнікі яшчэ цалкам у будучыне.

Урэшце, прыходзіцца констатаваць, што беларускія літаратурныя пачынаньні ў Латвіі пры моцнай сувязі з шырокімі масамі працоўных змогуць пазбыцца сваіх хібаў, якія, бясспрэчна, ёсьць, і зрабіць сапраўды каштоўны і свой асабісты ўклад у агульна-беларускую літаратуру.

## АБ ЮБІЛЕІ ТОЛСТОГА

**Проф. С. Вольфсон**

Шырокае ўшанаваньне памяці Льва Мікалаевіча Толстога, якое адбываецца цяпер па ўсім Савецкім Саюзе, выклікае шэраг неўразуменных пытаньняў, якія ідуць з самых рознастайных бакоў. Таварыш Луначарскі, які нядаўна вярнуўся з-за граніцы, паведамляе, што яго там найбольш кваліфікаваныя прадстаўнікі эўропэйскай інтэлігенцыі літаральна засыпалі пытаньнямі, прыкладам, наступнага зьместу: „Ці можа СССР, які ідзе пад сьцягам комунізму, ушаноўваць Толстога ці лічыць яго блізкім да сябе? Што-небудзь адно—ці ваша ўшанаваньне, калі яно будзе шчырым і адпаведным велічы Толстога, пойдзе ў разрэз з вашымі ўласнымі культурнымі лініямі, ці вы прымушаны будзеце ўзяць іншую ацэнку Толстога і ў форме юбілею, па істоце, у значнай меры распачаць з ім барацьбу...“ Поруч з такога роду пытаньнямі, якія ідуць з верхавін эўропэйскай буржуазнай і дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, юбілей Толстога выклікае некаторае пачуцьцё неўразуменьня і ў зусім іншых клясавых групоўках унутры Савецкага Саюзу. Прыкладам падобных настрояў можа быць ліст групы дэмобілізаваных чырвонаармейцаў, якія жывуць у першым доме начлегу Муні—„Ермановие“, адрасованы А. І. Рыкаву:

„Прачытаўшы артыкул у газэце „Правда“ ад 24 ліпня г. г. аб адлічэньні ўрадам 150.000 рублёў на сьвяткаваньне 100-гадовага юбілею з дня нараджэньня Л. М. Толстога,—гаворыцца ў гэтым лісьце,—нам незразумела: чаму наш урад траціць такія вялікія сродкі на юбілей пісьменьніка, тымчасам як дэмобілізаваным даводзіцца валяцца ў начлежцы, дзе пануе зладзейства, п'янства, разбой і простытуцыя і хуткая магчымасьць заразіцца рознымі хваробамі? Думаем, што існуючыя ўмовы пакінуць на нас кепскі сьлед. Мы просім старшыню Саўнаркому т. Рыкава дапамагчы палепшаньню нашых кватэрных умоў і адказаць, чаму ўрад траціць (панашаму, многа) столькі сродкаў на юбілей?“

Падобнага роду ці аналёгічныя неўразуменьні зьвязаны ў значнай меры з прывычнымі ўяўленьнямі аб тым, што кожны юбілей зьяўляецца ўрачыстым ушанаваньнем юбіляра, у часе якога на яго адрас могуць накіроўвацца ўсхваляючыя і панегірычныя словы. Юбілей—гэта гімны, панегірыкі, мядовыя словы. Такая старая прывычка, якая дасталася нам у спадчыну ад буржуазіі. Сапраўды-ж юбілей,—асабліва, калі ідзе гутарка аб буйнай гістарычнай асобе,—павінен мець ня столькі *панегі-*

*рычны*, колькі *крытычны* характар. Юбілей павінен перш усяго даць магчымасьць зрабіць патрэбную гістарычную ацэнку асобы і азначыць яе месца ў процэсе пэўнага грамадзкага разьвіцьця. Такі падыход, мне здаецца, асабліва да рэчы ў стасунку да такой асобы, як Леў Толстой. Толстой вельмі буйная гістарычная фігура і надта вялікі пісьменьнік для таго, каб яго ў дзень юбілею хваліць толькі словамі. Гэта было-б фальшам, які зьневажаў-бы памяць нябожчыка. Аб Толстым мы павінны гаварыць усю праўду, якой-бы суровай яна іншы раз ні была. Юбілей Толстога павінен, такім чынам, мець характар шырокай тлумачальнай кампаніі аб тым, як выглядае Толстой у сьвятле бесстароньняй марксыцкай крытыкі.

У Толстым Савецкі Саюз ушаноўвае перш за ўсё геніяльнага мастака. Як мастак, Толстой пакінуў пасьля сябе такія найвялікшыя творы мастацтва, такія нязгаслыя ўзоры мастацкага штукарства, такія помнікі слова, якія засталіся за вельмі нямногімі імёнамі на ўсім працягу чалавечага быцьця. Толстоўскія палотны зьяўляюцца найвялікшымі з тых вартасьцяй, што мюцца ў культурнай скарбніцы чалавецтва. І, не ўдаючыся ў гіпэрболізм, можна назваць Толстога геніем слоўнага штукарства, геніем мастацкай творчасьці. Наконт прызнаньня *гэтага боку* талстоўскай спадчыны ў нас ня можа быць аніякіх хістаньняў: веліч мастацкага генія Толстога бясспрэчна. Але мастацкая магутнасьць Толстога хавае ў сабе і пэўныя небясьпекі. Шмат хто робіцца ахвярай гэтай магутнасьці, і прымае „ўсяго“ Толстога. У гэтым стасунку перабылтваюцца разрахункі самога Л. М. „Як у балагане выскоквае напаверх паяц і прадстаўляе розныя фокусы для таго, каб прыцягнуць публіку ў сярэдзіну, так і мае мастацкія творы выконваюць такую-ж ролю: яны прыцягваюць увагу да маіх сур‘ёзных рэчаў“. Так сказаў аднойчы Толстой Мечнікаву. Толстой знарок зьменшыў значэньне сваіх мастацкіх твораў. Яго мастацкі геній—не „паяц“, зусім не „паяц“, але Толстой меў рацыю ў адным: чары толстоўскага мастацтва, захапляючы чытача, іншы раз прымушаюць яго прыняць „усяго“ Толстога, г. зн. падпарадкавацца яго філёзофіі.

Характарныя рысы гэтай філёзофіі я імкнуўся азначыць на старонках „Полымя“ ў сваім артыкуле „Маркс і Толстой“ [1]). Каб ухіліцца паўтарэньняў, я толькі коратка напомню аб іх.

1. Толстой—ідэалісты, які ў сваёй крайнасьці даходзіць да саліпсычнага тупіку, разглядае сьвет, як продукт свайго выабражэньня.

2. Ідэалізм Толстога прасякнуты суб‘ектывізмам. Сьвет для Толстога, які выклікаецца ігрой нашых пачуцьцяў,—нешта таямнічае, недасяжнае нашаму разуменьню.

---

[1]) Увайшоў у збор маіх артыкулаў „За марксызм“. Бел. Дзярж. Выдав. 1928 г.

3. Толстой—рэлігійны мысьліцель, прапаведнік новай рэлігіі, вызваленай ад элемэнтаў культу і абраднасьці, але зусім ня вольнай ад анімістычных уяўленьняў.

4. Характарная рыса толстоўскага сьветагляду—страх сьмерці.

5. Філёзофія Толстога дуалістычная: яна падвоена між аскетычнай прагай да жыцьця і аскетычнай зьнявагай да яе.

6. З агульнафілёзофскіх прынцыпаў яго сьветагляду вынікалі і адносіны Толстога да соцыяльных пытаньняў. Ён глыбака задумваўся над грамадзкім бязладзьдзем жыцьця, над контрастам галечы і багацьця, паразытызму і экспляатацыі. Няздольнасьць асмысьліць і вырашыць соцыяльную проблему зьявілася асноўнай крыніцай жыцьцёвай трагедыі Толстога.

7. Вызваленьне чалавецтва ўяўлялася Толстым выключна як вынік зьмены звычаяў ды ўзроўню моральнай сьвядомасьці людзей. Шлях да новага чалавецтва ляжыць толькі праз самаўдасканаленьне ды самаачышчэньне асобы. Адсюль вынікаюць рэзка-адмоўныя адносіны Толстога да кожнага актыўнага ўмяшаньня ў грамадзкае жыцьцё. Ад дрэннага жыцьця трэба ўцякаць, а не пераўтвараць яго. Тое, што Толстой уцёк, было лёгічным вывадам з усяго яго сьветагляду.

8. Толстой—крайні мэтафізык. Асабліва гэта адбілася на яго этычным кодэксе, пабудаваным па-за часам і прасторай, нязьменным і нязрушным, які да таго-ж ігнараваў усю шматвобразнасьць соцыяльнага быту.

9. Толстоўская мэтафізыка ў поўнай меры выявіла сябе пры трактоўцы навукі і мастацтва. Гэтыя ідэолёгіі вышэйшага парадку былі цалкам адкінуты Толстым, які ня здолеў зразумець процэсу іх няўхільнага гістарычнага пераўтварэньня з фактару *прыняволеньня* мас у фактары іх *вызваленьня*.

10. Толстой—самы вялікі і найбольш трагічны з пакаленьня каючыхся дваран. Гэта асабліва яскрава выявілася ў яго адносінах да сялянства. Ён ідэалізаваў незачэпленую капіталістычнай цывілізацыяй вёску, якую проціставіў сапсутаму капіталізмам гораду.

11. Ва ўмовах царызму Толстой выконваў падвойную ролю. Яго творы, якія так удала выяўлялі шмат якія адмоўныя бакі царскай Расіі, часта будзілі нянавісьць да рэжыму і штурхалі на барацьбу з ім. Але яго філёзофія—этычная пропаведзь—адцягвала моладзь ад гэтай барацьбы. Усе гэтыя рысы, якія характарызуюць сьветагляд Толстога, вымагаюць асабліва крытычных адносін да сябе ў нашы дні, бо без натугі можна заўважыць, што гэты сьветагляд сьмяртэльна варожы ўсяму таму, што патрэбна для культурнай рэволюцыі і будаваньня соцыялізму.

Нам патрэбна: бадзёрае, цьвярозае матэрыялістычнае разуменьне сьвету. Толстой прышчэплівае містычны, рэлігійна-этычны погляд на рэчы.

Нам патрэбна навука—магутная спадарожніца чалавека ў барацьбе з навалamі прыроды. Толстой нясе нам тэолёгічны наркоз.

Нам патрэбна сталёвая моц, патрэбна фізычная сіла рабочай клясы, якая, вызваляючы сябе, вызваляе чалавецтва ад векавога прыгнечаньня эксплёататараў і драпежнікаў. Толстой адбірае сілу, якая ставіць за мэту зламаць прыгнечаньне, і прапаведуе добрасумленнае непраціўленьне злу.

Нам патрэбна ініцыятыўнасьць, дзейнасьць, актыўнасьць, напружаньне ўсіх сіл для рэорганізацыі жыцьця, для выкарчаваньня рэшткаў старога згніўшага быту і для ўтварэньня новых, вартых вольнага чалавецтва ўмоў соцыяльнага быцьця. Толстой нясе безьдзейнасьць, пасыўнасьць, квіэтызм, нірвану, састарэласьць.

Вось чаму Толстой зьяўляецца ідэолёгічным антыподам нашай сучасьнасьці. Вось чаму цяпер больш чым калі патрэбна зусім яскравая, ясная матэрыялістычная крытыка філёзофіі Толстога і ўсяго яго сьветагляду, якая-б не пакінула месца для эківокаў і няпэўнасьцяй. Гэта тым больш патрэбна, што шматлікія клясавыя групоўкі, выбітыя рэволюцыяй з сядла, і яўна ці тайна варожыя пролетарскай дыктатуры, могуць выкарыстаць рэакцыйныя элемэнты навукі Толстога для сваіх мэт. Вясковы кулак пасвойму, інтэлігенцыя ўнутраных эмігрантаў пасвойму могуць знайсьці ў толстоўскай навуцы пункты апірышча для таго, каб не прызнаваць наўкольнага жыцьця.

Але ў той-жа час ня трэба перагінаць кія і не пашыраць нашых адмоўных адносін да філёзофскіх твораў Толстога ды на яго мастацкія творы. Гэтыя творы павінны належаць пролетарыяту, які выступае, як адзіны ўпоўнаважаны гісторыяй спадкаемца ўсіх тых культурных вартасьцяй, што стварылі яму папярэднія і цяпер зьнікаючыя з гістарычнай арэны клясы.

Мастацкія творы Толстога могуць і павінны стаць найлепшай школай слоўнага штукарства для тых кадраў пролетарскіх пісьменьнікаў, што ўтварыла рэволюцыя.

Гэтыя творы могуць і павінны зрабіцца невычарпальнай крыніцай эстэтычнае асалоды, фактарам мастацкіх эмоцый для самых шырокіх мас. Ленін не дарма марыў, што калі масы створаць сабе людзкія ўмовы жыцьця, скінуць ярмо памешчыкаў ды капіталістых, дык яны будуць чытаць і цаніць мастацкія творы Толстога, якія зробяцца ўсеагульнай уласнасьцю. Патрэбна дыялектычная ацэнка яго. Асюль: ушанаваньне яго мастацкай творчасьці, дакладнае вывучэньне яго, пранікненьне ў самую тоўшчу народных мас і ў той-жа час суровая крытыка клясава варожай нам філёзофіі геніяльнага яснаполянскага графа.

# МАСТАЦКАЯ ТВОРЧАСЬЦЬ Л. ТОЛСТОГА (1828—1928)

**Проф. І. Замоцін**

У гадавіны памяці вялікіх мастакоў слова і мысьліцеляў зазвычай робяць падрахунак іх літаратурнай ды ідэёвай спадчыне.

Літаратурная спадчына Толстога так вялізарная і бясспрэчная, што не выклікае ніякіх неўразуменных пытаньняў. Іншая справа — ідэёвая спадчына Толстога. Яна заўсёды падлягае самай супярэчлівай і шматбаковай ацэнцы. Дыапазон гэтай ацэнкі — ад захопленага прызнаньня ідэй Толстога яго пасьлядоўцамі да рашучага асуджэньня іх яго супраціўнікамі.

Адмежаваць Толстога-мастака ад Толстога-ідэолёга надзвычайна цяжка, і з гэтай прычыны, кажучы на тэму аб мастацкім значэньні творчасьці Толстога, крытыку прыходзіцца загадзя рабіць заўвагі наконт тэй позыцыі, якой ён будзе трымацца ў сваім аглядзе літаратурнай чыннасьці Толстога.

Я буду выходзіць з тых перадумаў, якімі карыстаецца сучасная соцыолёгічная крытыка ў стасунку да мастацка-літаратурных матэрыялаў.

Гістарычная ацэнка пісьменьніка-мастака, узятая ў схэме соцыолёгічнага аналізу, мае звычайна два накіравальныя тэзісы: 1) пісьменьнік і яго творы ацэньваюцца ў іх сувязі з эпохай, бяруцца як продукт эпохі, яе надбудоўка, ілюстрацыя і 2) пісьменьнік ды яго творы ацэньваюцца як нешта, да пэўнай ступені як-бы перарастаючае эпоху ў яе звычайных зьявах, як нешта, што мае шырокае чалавечае значэньне і, галоўным чынам, як нешта, што організуе нашу псыхіку ды ідэолегію ў бок паступовага жыцьцёвага будаўніцтва.

У першым выпадку творы пісьменьніка расцэньваюцца як „жыцьцяпазнаньне“ эпохі, у другім — як пэўнае „жыцьцябудаўніцтва“ ня толькі ў стасунку да сучаснай пісьменьніку эпохі, але і ў стасунку да наступных пакаленьняў.

Ня ўсе пісьменьнікі зьдзяйсьняюць абодва гэтыя моманты: большасьць радавых пісьменьнікаў, якія разглядаюцца ў гістарычным аспэкце, даюць пераважна матэрыял для жыцьцяпазнаньня эпохі. Меншая частка пісьменьнікаў—галоўным чынам пісьменьнікі сусьветнага маштабу—даюць матэрыял таксама і для жыцьцябудаўніцтва. Да такіх пісьменьнікаў

належаць, напрыклад, Шэкспір, Байрон, Гётэ, Руссо, Сэрвантэс і г. д. Сюды-ж трэба залічыць і Л. Толстога.

Гэтыя пісьменьнікі, г. зн. пісьменьнікі другой катэгорыі, заўсёды да пэўнай ступені могуць быць сугучнымі і з нашай сучаснасьцю, асабліва сваімі рэволюцыйнымі імкненьнямі. Я напомню словы аднаго сучаснага крытыка (А. Багданаў. Даклад на 1-й Усерасійскай Конфэрэнцыі Пролеткультаў 1918 г.), які, кажучы аб адносінах пролетарыяту да старога мастацтва і ў тым ліку да мастацкай літаратуры, сказаў, між іншым, што геніальны твор „Фауст" напісаны тайным саветнікам Гётэ, буржуазным арыстократам, і аднак у „Фаусьце" пастаўлены такія „організацыйныя задачы", якія маюць цікавасьць і для нашага часу. Таксама можна сказаць, што „Детство и Отрочество", „Война и Мир", „Анна Каренина", „Крейцерова Соната" ды іншыя творы напісаў расійскі пан, памешчык, граф Л. М. Толстой, і тым ня менш яго творы мелі і будуць мець організуючае значэньне для паступовага руху чалавечай думкі ў бок будаўніцтва новага жыцьця.

Прыкладзем гэтыя два кіруючыя тэзісы—аб „жыцьцяпазнаньні" і аб „жыцьцябудаўніцтве" ў творчасьці—да асноўных момантаў літаратурнай чыннасьці Л. Толстога.

Што можна лічыць за асноўныя моманты ў творчасьці пісьменьніка? Перш усяго, генэзіс яго творчасьці, г. зн. залежнасьць яго літаратурнай продукцыі як ад акалічнасьцяй яго асабістага жыцьця, так і ад усёй сучаснай яму рачаіснасьці; пасьля — зьмест яго творчасьці, інакш кажучы, яго тэматыку, як вынік пераапрацоўкі переажытага ім у нагляданьнях жыцьця; пасьля — мастацкае афармленьне гэтай тэматыкі, як злучэньне мастацка-тэхнічных дасягненьняў пісьменьніка, і, урэшце, ідэолёгічнае афармленьне тэматыкі, як выяўленьне сьветапогляду аўтара ці, дакладней, яго ідэолёгіі, якая азначаецца яго клясавай позыцыяй і ўсім характарам яго адносін да жыцьця.

Ва ўсіх гэтых момантах творчай работы, соцыяльная вага пісьменьніка азначаецца тым, наколькі яго літаратурныя творы служаць мэтам „жыцьцяпазнаньня" і „жыцьцябудаўніцтва".

Прыложым гэту схэму да Л. Толстога, як пісьменьніка-мастака.

У чым трэба бачыць генэзіс велічнай творчасьці Толстога? З якіх пабуджэньняў ён тварыў? Якімі крыніцамі карыстаўся? Што ўспрыймаў ад жыцьця як матэрыял для мастацкай пераапрацоўкі? Што дало яму для творчасьці асабістае яго жыцьцё, жыцьцё наўкольнае асяродзіны, сучасная яму рачаіснасьць наогул?

Мы падыходзім такім чынам да біографічных даведак.

Як пісьменьнік, Толстой перш усяго, зразумела, вышаў з быту свае асяродзіны, з сваёй клясавай псыхолёгіі ды ідэолёгіі. Гэта была першая крыніца яго творчай работы. Толстой па паходжаньні належаў да вялікасьвецкага краёвага панства. Панскі быт заставаўся асноўным фонам і звыклымі абставінамі яго жыцьця ад раньняга маленства да глыбокай

старасьці, дакладней, да таго часу, калі ён пакінуў сям'ю за некалькі дзён да сьмерці.

Граф Леў Мікалаевіч Толстой нарадзіўся 28 жніўня 1828 г. ў Крапівінскім павеце Тульскай губэрні, у маёнтку „Ясная Поляна", які быў пасагам яго маткі. Бацька яго, Мікалай Ільліч, падпалкоўнік Паўлаградзкага гусарскага палка, у надзеі паправіць свае дрэнныя грашовыя справы, ажаніўся з няпрыгожай, але багатай дзяўчынай, князёўнай Марыляй Мікалаеўнай Волконскай. Гэты шлюб, між іншым, быў вельмі шчасьлівым, і раньняе маленства Л. М. Толстога праходзіла ў спакойных сямейных абставінах. Толстой нядоўга, аднак, карыстаўся замілаваньнем і кіраўніцтвам бацькоў: матку і бацьку ён страціў яшчэ малым, і з дзевяці год рос пад доглядам сваіх цётак, спачатку графіні Остэн-Сакэн, а пасьля Юшковай; але галоўным чынам выхаваньнем яго займалася далёкая сваячка Т. А. Ергольская; яна мела вельмі добры ўплыў на Толстога і пакінула ў ім самыя сьветлыя аб сабе ўспаміны. Пасьля сьмерці Остэн-Сакэн дзецям Толстых прышлося перайсьці пад новую апеку—П. І. Юшковай, якая жыла ў Казані, куды і пераехала сем'я Толстых. Да паступленьня ў Казанскі унівэрсытэт выхаваньне Толстога вялося паводле звычайнага панскага шаблёну. Гэта відаць, напрыклад, з „Детства и Отрочества", дзе намаляваны Толстым портрэты двух яго губэрнэраў—немца і француза. Пры гэтым хлопчык наогул жыў у звычайных панскіх абставінах, і яго багата надараная натура разьвівалася сама па сабе, бяз правільнага кіраўніцтва. У 1844 годзе Толстой паступіў у Казанскі унівэрсытэт. Спачатку ён выбраў факультэт усходніх моў, на якім прабыў, аднак, нядоўга, і цераз год перайшоў на юрыдычны факультэт.

У Казані Толстой прабыў толькі да 1847 году. Ён наогул разьвіваўся парыўчаста, і вось адно з такіх парываньняў — імкненьне ўзяцца за асьмысленую справу—прымусіла яго кінуць навуку і паехаць у вёску, каб заняцца гаспадаркай і наладжаньнем быту прыгонных сялян. Ён пакідае унівэрсытэт, ня скончыўшы поўнага курсу, і едзе ў „Ясную Поляну". Але тут на першых-жа часох ён церпіць у сваіх ідэёвых пачынаньнях поўную няўдачу, аб чым пасьля памастацку перадае ў апавяданьні „Утро помещика". Пачынаючы з гэтага моманту, асоба Толстога даволі яскрава абмалёўваецца ў яго лістох. Лісты Толстога, праўда, не даюць нам даведак аб тым, як гаспадарыў ідэёвы памешчык у сваім маёнтку ў гэты час, затое з іх відаць другія спробы Толстога асмысьліць сваё маладое жыцьцё і да чаго-небудзь сябе прыстасаваць. Аказваецца, Толстой у гэтыя гады—ня проста памешчык Нехлюдов, як мы прызвычаіліся яго сабе ўяўляць, але ён адначасна энтузіасты накшталт маладога Гоголя, які шукае ў Пецярбурзе пасады і дзейнасьці, і романтык накшталт Гончарова—Адуева, які марыць аб высокіх ідэалах, а можа нават і гётэўскі Вільгельм Мэйстэру пэрыод Lehr-ці Wanderjahre і, урэшце, проста „пусты малец", як ён сам гаворыць,—адна з варыяцый знаёмага

нам онегінскага тыпу. Ён зьбіраецца служыць спачатку ў грамадзянскай, пасьля ў вайсковай службе; пасьля кідае гэты замер і займаецца проста марнатраўствам: гуляе ў карты, робіць даўгі, траціць грошы на комфортабельную кватэру, на дарагі выезд.

Ня гледзячы на гэту ўпартасьць і нават лёгкадумства, Толстога не пакідае раз набытае ім імкненьне ў бок моральнага ўдасканаленьня. Унутраная праўда гаворыць яму, што карты, панская кватэра, модныя сані—усё гэта ня тое, што яму трэба. І вось вясною 1851 году ён уцякае з Масквы на Каўказ.

Што цягнула туды гэтага новага „каўкаскага палоньніка“? Цягнула тое, чым былі зачараваны кволыя лятуценьні Руссо, Гётэ і Шыльлера, суровыя тужбоўцы Байрона, улюбёныя героі Пушкіна ды Лермантава,—туды цягнула яго блізкасьць да прыроды, прастора, самота, жаданьне ўцячы з культурнага гармідару. Паездка Толстога на Каўказ была, сапраўды, першым, яшчэ ня зусім асьвядомленым, актам протэсту супроць зла культуры і першай, таксама амаль несьвядомай, спробай рэалізаваць ідэю апрошчаньня, якая ў яго зарадзілася.

Спыніўшыся на аднэй станіцы Паўночнага Каўказу, Толстой пачынае з цікавасьцю прыглядацца да прыроды і людзей гэтай амаль першабытнай, параўнальна са сталіцай, краінай.

На першых часох Толстой захоплены прасторай вольнага стэпавага жыцьця,—у ім прачынаюцца тыповыя для тэй эпохі інстынкты панапаляўнічага, тыя інстынкты, якія з пункту погляду пазьнейшага толстоўства могуць здацца праявай драпежнасьці. У адным з лістоў да брата (1851 г., сьнежань) ён паведамляе, што ў станіцы зацкаваў двух лісіц і да 60 зайцаў, і што зьбіраецца цкаваць козы. Мала таго, марачы аб залічэньні на вайсковую службу, ён загадзя натхнёны ваяўнічасьцю і поўны жаданьня паляваць на азыятаў, як на дзікіх зьвяроў.

Але ўжо цераз месяц Толстой пачынае разумець, чаго ён прыехаў на Каўказ. „Год таму назад“, піша ён цётцы (Тыфліс, 1852, студзень), „я думаў знайсьці шчасьце ў асалодах, у рухах, цяпер-жа, наадварот, адпачынку фізычнага і маральнага—гэта тое, чаго я жадаю“.

Такім чынам, у лістох з Каўказу заўважаецца ўжо пачатак апрошчаньня. Перад намі разгарнаецца ў іх тое якраз маральнае бушаваньне, якое сам Толстой памастацку ўвасабляе ў героі сваёй аповесьці „Казакі“—Оленіне.

Пасьля гэтага зусім зразумела, чаму малады чалавек, які так імкнуўся раней да вайсковай службы, цяпер — ня гледзячы на блізкую вайну з Турцыяй—думае аб адстаўцы, аб жыцьці на вёсцы, аб тым, каб увайсьці ў свой унутраны сьвет.

Адстаўкі Толстой, аднак, як вядома, не атрымаў, і ў лістападзе 1854 г. ён быў ужо ў Сэвастопалі, дзе праслужыў да жніўня 1855 году, часта знаходзячыся пры гэтым у самых небясьпечных мясцох, напры-

клад, на вядомым 4-м бастыоне. Помнікам гэтага прабываньня Толстога зьяўляюцца яго „сэвастопальскія“ апавяданьні, якія разам з тым сьведчаць і аб яго нясупынным індывідуальным разьвіцьці.

Пасьля ўдзелу ў Сэвастопальскай абароне найбольш яскравым здарэньнем надворнага жыцьця Толстога ў канцы 50-х гадоў была яго падарож заграніцу. У лютым 1857 году яго ліст адзначаны Парыжам; пасьля паступова ён піша з Жэнэвы, Люцэрна і г. д. У Эўропе ён непасрэдна стыкнуўся з культурай і, мяркуючы, напрыклад, па характэрным у гэтым сэнсе апавяданьні „Люцерн“, яшчэ мацней адчуў адмоўныя да яе адносіны. У лістох мы ня знойдзем яшчэ гэтага рэзка выяўленага адмаўленьня, але важна тое, што заграніцай Толстога радуюць у кожным разе ня дзівы гарадзкога жыцьця, міма якіх рэдкі турысты праходзіць раўнадушна, але якраз малюнкі прыроды, якая так зьліваецца ў гармоніі з яго культам прастаты і праўды. У гэту першую паездку Толстой бачыў у Парыжы гільотаваньне злачынца, і надзвычайна цяжкае ўражаньне ад гэтага яшчэ больш дапамагала яго адмоўным адносінам да зла культуры.

У гэту першую замежную сваю паездку Толстой зрабіў доўгую падарож па Нямеччыне, Францыі, Швэйцарыі ды Італіі. У 1860 годзе ён другі раз паехаў за межы разам са старэйшым братам Мікалаем, які быў хворы на сухоты і заграніцай-жа памёр на руках Льва Мікалаевіча. Сьмерць брата прымусіла Толстога яшчэ глыбей задумацца над сэнсам чалавечага жыцьця. Вярнуўшыся з заграніцы пасьля гэтай другой падарожы, Толстой пачынае з таго, да чаго няўдачна прыступіў яшчэ ў 1847 годзе, будучы 19-гадовым юнаком. Ён жыве ў „Яснай Поляне“, займаецца гаспадаркаю, заводзіць у маёнтку школу, ужывае ў ёй асобную сыстэму выкладаньня, выдае пэдагогічную часопісь, піша кнігі для народу; у момант вызваленьня сялян Толстой ужо блізка ведаў абставіны ды ўмовы сялянскага жыцьця, сьвядома выказваўся за вызваленьне сялян з зямлёй, і ў якасьці міравога пасрэдніка прыняў самы чынны ўдзел у забясьпечаньні сялянскіх інтарэсаў у першы час пасьля абвяшчэньня волі. У 1862 годзе ён ажаніўся з Зосяй Андрэеўнай Берс, дачкой вядомага тады маскоўскага доктара, і пачаў жыць спакойным сямейным жыцьцём.

З гэтага часу, г. зн. з пачатку 60-х гадоў, пачынаецца той поўвекавы яснапалянскі пэрыод жыцьця Л. М. Толстого, які прывёў яго да сусьветнай славы. У гэтым пэрыодзе мы ня знойдзем ніякіх яскравых здарэньняў і рэзкіх зьмен у надворным быце пісьменьніка: жыцьцё з году ў год, на працягу амаль 50-ці год, у сваім маёнтку, якое перапынялася толькі час-часам паездкамі ў Маскву, на кумыс у Самарскую губэрню і ў Крым лячыцца, габінэтная работа ў блізкім акружэньні сям'і ды гутарак з многалікімі даведвальнікамі, якія наяжджалі ў якасьці паломнікаў у „Ясную Поляну“—вось і ўсе надворныя абставіны сьпелага веку ды старасьці Л. Толстога аж да таго моманту, калі ён перад сьмерцю

назаўсёды пакінуў свой дом. Такое гэта надзвычайна простае па надворнаму выгляду жыцьцё надзвычайна складанага па сваёй творчай рабоце пісьменьніка.

Што далі Толстому яго бліжэйшыя жыцьцёвыя абставіны на працягу ад раньняга маленства да глыбокай старасьці? Яны далі яму, перш усяго, веды клясавага дваранскага быту ды клясавай дваранскай псыхолёгіі і да пэўнай ступені наблізілі яго да шырокай сялянскай масы, з якой ён сустрэўся ня толькі ў пакаёвых абставінах маёнтку, але і ў часе вайсковага жыцьця на Каўказе і ў Крыме, дзе быт і псыхіка расійскага салдата поўнасьцю заўладала яго ўвагай.

З гэтай крыніцы мог выйсьці і вышаў Толстой-мастак, які многавобразна намаляваў панскі маёнтак і яго насельнікаў дарэформенай і пасьлярэформенай пары ў іх сямейных ды суседзкіх сувязях і ў іх адносінах з сялянствам.

Але Толстой значна пераступіў у сваіх абмалёўках за пэрыфэрыю гэтага вузка-клясавага кола зьяў з тэй прычыны, што меў другую крыніцу творчасьці: гэта—шырокая сувязь з людзьмі розных соцыяльных станаў, розных псыхічных ды ідэолёгічных формацый, розных, урэшце, нацыянальнасьцяй, далучаючы ня толькі прыежджых з Заходняй Эўропы, але і з па-заэўропэйскіх краін. Гэта крыніца нагляданьняў Толстога над жыцьцём, нагляданьняў, якія рабіліся ў працягу многіх дзесяткаў гадоў, узбагацілі яго такімі матэрыяламі, якія рассунулі рамкі яго мастацкіх палотнаў да шырокіх разьмераў сусьветнага абхвату.

Наступная крыніца творчасьці Толстога—гэта вялізарныя кніжныя скарбы, якія ён, не атрымаўшы ў свой час строга-сыстэматычнай і закончанай адукацыі, выкарыстаў шляхам чытаньня і крытычнага аналізу ў працягу напоўвекавой габінэтнай работы. Кнігі па філёзофіі, гісторыі, рэлігіі, па мастацтву, па некаторых дакладных навуках, многалікія ўзоры мастацкай літаратуры—усё гэта ўваходзіла, як сыры матэрыял жыцьцязнаўства, у лябораторыю яго магутнага генія і перапрацоўвалася ня толькі ў яго крайнія, большай часткаю няпрыдатныя для нас, утопіі, але і ў яго вялічныя мастацкія вобразы, мастацкія композыцыі, мастацкія замыслы. У прыватнасьці, уплыў на Толстога Руссо з яго адмаўленьнем зла культуры было найбольш моцным з усіх кніжных уплываў, і руссоізм трэба разглядаць як адзін з значных фактараў у творчасьці Толстога.

Урэшце, была і яшчэ адна крыніца, якая мастаку Толстому давала матэрыял,—гэта крыніца высокага ўнутранага напружаньня. Гэта яго нясупынная ўнутраная работа над сэнсам жыцьця, работа, якая ўцягнула яго ў гушчы містыкі і ў тупікі непраціўленства, і тым ня менш увайшоўшае ў склад многіх яго твораў, у якасьці ідэёвага іх афармленьня.

Узяты пад пунктам погляду крыніц сваёй творчасьці, Толстой-мастак быў, так сказаць, вялізарным колектарам, які ўвабраў у сябе, апрача бліжэйшага да яго быту буйнага краёвага панства і вышэйшага чыноў-

ніцтва, нагляданьні над жыцьцём сваім і заграічным у розных яго відах і палажэньнях, у розных гістарычных эпохах, у розных ідэолёгічных устаноўках.

Такім чынам паводле самога генэзіса сваёй творчасьці Толстой становіць сабой зьяву нязвычайную, якая ня страціла глыбокай цікавасьці і для нас. Тыя фабулы, якія сабраў ён для сваіх твораў, тыя жыцьцёвыя факты і зьявы, якія ён launch ператрос і згрудзіў для сваёй мастацкай работы, значна вышлі за рамкі яго эпохі, захапілі чалавечае жыцьцё з розных пунктаў погляду, закранулі потэнцыю чалавечай будучыні,—і ў гэтым сэнсе Толстой яшчэ ня вычарпаны, бо матэрыял творчасьці, ім вызначаны, крыніцы, адкуль ён чэрпаў усе гэтыя толстоўскія фабулы і сюжэты—ад наіўнай казкі ды сямейных паданьняў да самых складаных драм чалавечага жыцьця, ад расійскага дворнага і вясковага быту да соцыяльных проблем эўропэйскага і па-заэўропэйскага маштабу, усё і да нашага часу мае вялікую цікавасьць.

З гэтых рознастайных матэрыялаў сілаю вялізарнага мастацкага таленту Толстога склаўся зьмест яго многалікіх твораў. Якая-ж тэматыка яго творчасьці і ў чым ёсьць яе соцыяльная вага? Як яна зьдзяйсьняе і ці зьдзяйсьняе наогул задачу жыцьцяпазнаньня і жыцьцябудаўніцтва? Тэматыка пісьменьніка бліжэй за ўсё зьвязана з яго клясавай позыцыяй і з яго адносінамі да другіх клясаў. Гэта ёсьць і ў Толстога. Зразумела, Толстой пачаў пісаць як расійскі пан, які ведаў добра ідылію прыгоннага панскага жыцьця і дажыў да часу разбурэньня дваранскага быту. Да пэўнай ступені такі характар захаваўся за зьместам яго твораў да канца яго жыцьця. Але разам з тым ён усё больш і больш перамагаў вузкае кола сваіх тэм, выпрацаванае спачатку пад уплывам яго сямейных і станавых абставін, і ў сталым веку разьвінуўся ў пісьменьніка з тэматыкай шырокага, амаль усеахапляючага зьместу. Яго тэмы ўвабралі ў сябе ня толькі дваранскае і сялянскае жыцьцё, але і жыцьцё расійскай адміністрацыі, вайсковы быт, духавенства, рознастайныя профэсіі і г. д. А самае галоўнае тое, што толстоўская тэма вышла за межы расійскай рэчаіснасьці другой паловы XIX сталецьця і ўвабрала ў сябе чалавечую штодзённасьць і чалавечую драму найшырэйшага—можна сказаць, унівэрсальнага—напаўненьня.

Прасочым на толстоўскіх мастацка-літаратурных узорах разьвіцьцё яго тэматыкі.

Толстой пачаў з аповесьцяй аўтобіографічнага характару. Такія яго „Детство, отрочество и юность“, пекна напісаныя малюнкі дарэформенага дваранскага быту, на фоне якіх ён зарысаваў свае дзіцячыя і юнацкія гады. Пасьля ў аповесьці „Утро помещика“ ён у асобе каючагася дваравіна князя Нехлюдова адзначыў адзін з этапаў свайго моральнага росту, а менавіта спробу бліжэй падыйсьці да працоўнай сялянскай масы. У „Казаках“ у асобе Оленіна ён паведаміў аб тым, як уцякаў ён ад

гуляшчага маскоўскага жыцьця на Каўказ з яго незакранутай прыродай і простымі, амаль першабытнымі, людзьмі. У цэлым шэрагу другіх апавяданьняў („Набег", „Рубка леса", „Встреча в отряде" ды інш.) ён перадае свае ўражаньні ад каўкаскага жыцьця, пераважна ад вайсковага быту на Каўказе. У „Севастопольских рассказах" ён згрупаваў у яскравай і выразнай форме свае нагляданьні ды перажываньні ў часе ўдзелу ў цяжкой Сэвастопальскай абароне.

Але ўжо ў гэтых раньніх творах Толстой значна падняўся над тэмамі вузка-клясавага жыцьцяразуменьня, якое дыктавалася яму ўмовамі яго нараджэньня, выхаваньня ды ўсіх наўкольных яго абставін. Так, у „Детстве, отрочестве и юности" ён, апрача бытавых і грамадзка-псыхолёгічных зарысовак, ставіць перад сабою проблему пазнаньня дзіцячай і юнацкай псыхолёгіі, асабліва ў прыстасаваньні да багата надоранага ад прыроды суб'екта; у „Утре помещика" высьвятляе вялікае і многавяковае пытаньне аб адносінах інтэлігенцыі да народнай масы; у „Казаках" ён упяршыню даў мастацкую рэалізацыю адмаўленьня ад фальшывай культуры на карысьць жыцьця простага, блізкага да прыроды, да народных мас, да фізычнай працы; у „Севастопольских рассказах" пастаўлена пытаньне аб вайне, як найвялікшым культурным зьле і аб адносінах да гэтага зла прадстаўнікоў кіруючых кляс і кляс эксплёатаваных ды прыгнечаных.

Ува ўсіх гэтых выпадках Толстой ставіць свае тэмы ня толькі ў кірунку пазнаньня сучаснага яму жыцьця, але і ў кірунку яго пераацэнкі ды пераўтварэньня, паколькі ён і ў гэтых ужо творах становіцца ў адкрытую опозыцыю да сучаснай яму соцыяльна-культурнай установкі.

Яшчэ шырэй разгортваецца тэматыка Толстога ў наступных буйных яго творах. Нават няўважны перагляд роману „Война и мир" і пабежны агляд тых ілюстрацый, звычайнай альбомнай і вялізарна-панорамнай велічыні, якія былі выкліканы ў выяўленчым мастацтве гэтым раманам,—ужо кажуць аб нязвычайнай шырыні і аб нязвычайнай густаце толстоўскіх мастацкіх палацён. Мімаволі ўспамінаюцца пры гэтым словы аднаго з крытыкаў Толстога, Н. І. Страхова, якія зрабіліся такімі клясычнымі, як і самы роман. „Якая веліч і якая зграбнасьць",—кажа Страхаў.— „Нічога падобнага не дае нам аніводная літаратура. Тысячы асоб, тысячы сцэн, усялякія сфэры дзяржаўнага і прыватнага жыцьця, гісторыя, вайна, усе жудасьці, якія ёсьць на зямлі, усе захапленьні, усе моманты чалавечага жыцьця, ад крыку нованароджанага дзіцяці да апошняга выбуху пачуцьця паміраючага старога, усе радасьці і гора, уласьцівыя чалавеку, рознастайныя душэўныя настроі, ад адчуваньняў злодзея, які ўкраў чырвонцы ў свайго таварыша, да выяўленьня найвялікшага героізму і дум унутраное асьветы,—усё ёсьць у гэтым малюнку". І на гэтым вялізарным палатне, у гэтым музэйным зборы мастацка-слоўных каштоўнасьцяй— тэм, мотываў, малюнкаў, сцэн, вобразаў, псыхолёгічных зарысовак і г. д.,— ізноў адасабняюцца такія тэматычныя заданьні, якія заходзяць за сфэру

выяўленьня расійскага панства, расійскага вышэйшага чыноўніцтва, расійскага ды францускага вайсковага быту і г. д. Гэтыя шырокія заданьні, якія Толстой ня толькі ставіць, але і памастацку выконвае ў сваім романе, ахапляюць „вайну“ ня толькі як падзею пачатку XIX сталецьця, але і наогул як трагедыю чалавечых адносін, даюць сцэны і малюнкі „міру“ ня толькі як бытавыя зьявы расійскага грамадзтва тэй-жа эпохі, але і як псыхолёгічныя ды ідэёвыя проблемы сямейнага і грамадзкага жыцьця наогул; яны раскрываюць значэньне і магутнасьць масавага руху да гісторыі, апісваюць і аналізуюць псыхолёгію масы, яны даюць, урэшце, доўгую галерэю чалавечых портрэтаў-характэрыстык, узятых з розных грамадзкіх груп і рознастайных жыцьцёвых умоў. Таксама ў романе „Анна Каренина“ на фоне шырокага палатна, дзе зьмясьцілася расійскае парэформенае дваранства, вышэйшая адміністрацыя, сьвецкае грамадзтва, пышлівая арыстократычная ваеншчына і другія зьявы 70-х гадоў, Толстой рэзка ўварваўся, як і ў пазьнейшым творы „Крейцерова соната“, у пытаньні пачуцьця, шлюбу, сямейнага жыцьця, свабоднага каханьня і г. д. і вырашыў іх,—праўда, пасвойму тэдэнцыйна, але ў кірунку ня проста жыцьцяпазнаньня, але і карэннага перагляду жыцьцёвых адносін. Яшчэ шырэй тэматыка роману „Воскресение“,—нездарма ён атрымаў больш другіх твораў Толстога сусьветную мову і сусьветнае пашырэньне. Як гаварыў адзін з чужаземных крытыкаў Толстога (Анат. Леруа-Болье), Толстой напісаў свой роман „наўперад заданы, моральны тэзіс“, але пры гэтым узброіў яго такой жыцьцёвасьцю і праўдай, якія забясьпечылі, незалежна ад моралі, самую шырокую за ім цікавасьць. І сапраўды, роман раскрыў глыбока і ўсебакова болькі расійскага дзяржаўнага і соцыяльнага ладу жыцьця ў канцы XIX сталецьця, незадоўга да ўздыму рэволюцыйнай хвалі ў 1905 годзе, але разам з тым ён зьявіўся „соцыяльна-моральным памфлетам“ (М. А. Протопопов), накіраваным супроць усіх сучасных Толстому „культурна-грамадзкіх ідэалаў ды імкненьняў“, супроць усёй фальшы, усёй умоўнасьці, усяе маны капіталістычнага сьвету канца XIX сталецьця; шэраг другіх шырокіх тэм, пераважна, псыхолёгічнага характару, уведзеных у роман, таксама далёка выходзяць за межы расійскага жыцьця.

Ці трэба напамінаць, што ўсе другія творы, як, напрыклад, „Смерть Ивана Ильича“, „Власть тьмы,“ „Хозяин и работник“, „Живой труп“, „Хаджи-Мурат“ і г. д., і г. д.,—усе яны, поруч з фабулай і тэмай мясцовага значэньня, ставяць вельмі шырокія пытаньні, якія ў кожным разе наводзяць чытача на думку аб канечнай патрэбе перагляду і рэорганізацыі друзьлеўшага ўкладу жыцьця так званага культурнага чалавецтва.

Такім чынам як у крыніцах сваёй творчасьці, так і ў іх тэматычнай апрацоўцы Толстой дае ня толькі жыцьцяпазнаньне сваёй эпохі, але і бязумоўныя элемэнты жыцьцябудаўніцтва ў сэнсе, прынамсі, пастаноўкі організацыйных задач, бо закранае і прадстаўляе ў мастацкіх вобразах

тыя бакі жыцьця, якія ва ўмовах яго часу знаходзіліся ў соцыяльных супярэчнасьцях і чакалі сваёй рэорганізацыі, і калі яны ў нас, у нашай савецкай рэчаіснасьці, ужо соцыялістычна рэорганізуюцца, дык у другіх краінах іх перагляд і рэорганізацыя яшчэ стаяць на чарзе. У гэтым сэнсе тэматыка твораў Толстога мае ня толькі констатуючы, але і організуючы характар.

Трэці асноўны момант у літаратурнай творчасьці—гэта мастацкая тэхніка, або мастацкае афармленьне, той тэматыкі, у якую ператварае аўтар пэражытыя ім зьявы жыцьця і нагляданьні. Як-жа Толстой мастацкі афармляе сваю тэматыку? У чым асаблівасьці яго мастацкай тэхнікі?

Звычайна пад пунктам мастацкай формы Толстой азначаецца як пісьменьнік-рэалісты, які даў дасканалыя ўзоры так званага мастацкага рэалізму ў расійскай літаратуры. У гэтым сьціслым азначэньні, аднак, зусім засьцяцца абодва бакі толстоўскай літаратурнай манеры—і бок традыцыйнай тэхнікі,—паколькі Толстой ішоў, як і другія расійскія пісьменьнікі эпохі 40—60 гадоў, па пракладзенаму ўжо і ў эўропэйскай і ў расійскай літаратуры шляху літаратурнага рэалізму і, такім чынам, далучаўся да літаратурнай традыцыі, якая ўсталявалася з часу Пушкіна і Гоголя,—і бок організуючай тэхнікі, паколькі Толстой у сваіх літаратурных прыёмах значна ўжо перарастаў літаратурную традыцыю сваёй эпохі, і ня толькі асьвяжаў літаратурны рэалізм, але і пракладаў у гэтым кірунку новыя шляхі.

І сапраўды, пра Толстога, як тэхніка мастацкага слова, можна з поўнай рацыяй сказаць, што ён ня проста набыў мастацкі рэалізм свайго часу, ня проста даў чытачу яго веданьне, але і організаваў гэты рэалізм у сэнсе далейшага і вельмі дасканалага яго разьвіцьця.

Гэта організуючая сіла толстоўскага рэалізму выяўляецца, галоўным чынам, у двух адзнаках яго манеры пісьма—у об'ектыўнасьці і ў простасьці пісьма. Гэтыя дзьве адзнакі вымагаюць пэўнай заўвагі. Мастацкая творчасьць заўсёды суб'ектыўна; але мастак можа да пэўнай ступені падпарадкаваць сваё суб'ектыўнае ўспрыманьне жыцьця больш-менш об'ектыўнаму яго выяўленьню; інакш кажучы, ён можа ўтвараць максымальную ілюзію об'ектыўнасьці, можа бясконца блізка падыходзіць да рэальнае рэчаіснасьці, рабіць сваю мастацкую рэчаіснасьць як мага больш праўдападобнай. Простасьць пісьма—гэта так сказаць мастацтва быць найбольш натуральным у сваёй літаратурнай манеры, гэта значыць умельства па мове, па падбору стылістычных сродкаў, па композыцыйных прыёмах, па самым выбары фарбаў для жывапісаньня жыцьця,—адным словам па ўсёй лініі мастацкай тэхнікі быць звычайным, будзёным, зразумелым, непрэтэнцыозным і ў той-жа час высока-мастацкім.

Абедзьве адзнакі ў вышэйшай меры ўласьцівы Толстому. У межах літаратурных магчымасьцяў ён, так сказаць, бязьмежна об'ектыўны. Гэта об'ектыўнасьць дасягаецца тым, што Толстой імкнецца выкарыстаць у сваёй жывапісі ўсё, што толькі трапіла ў поле яго вострага, мастац-

кага агляду; для яго ўсё важна з тэй прычыны, што ўсё, узятае з жыцьця, можа быць выкарыстана ў інтарэсах праўдападобнасьці выяўленьня. Вось чаму Толстой, рысуючы шырокі малюнак, заўсёды арыентуецца на яго нязначныя дробязі і, наадварот, рысуючы дэталі, заўсёды іх умее выкарыстаць у інтарэсах наданьня жыцьцёвасьці ўсяму данаму палатну; прыклады гэтага раскіданы ўсюды ў яго творах, асабліва ў романе „Война и мир“. Простасьць пісьма ў Толстого адчуваецца ў тым, што ён умее ўвязаць форму свайго твору з яго зьместам (эпохай, бытам і ўсім соцыяльна-культурным зьместам данага моманту), і асабліва ў тым, што ён падбірае для апавяданьня належны моўны матэрыял, а гэта яму ўдаецца дзякуючы выключна блізкаму знаёмству з моўным апаратам розных грамадзкіх груп і асабліва дзякуючы многагадовай сувязі з народнай мовай. Гэта простасьць давалася, зразумела, нялёгка пісьменьніку: яна вымагала пільных і сталых назіраньняў за жыцьцём, вывучэньнем шматвобразных матэрыялаў і дакумэнтаў, нават розных папярэдніх экспэрымэнтацый, але затое ў выніку атрымалася тая якраз пекная мастацкая простасьць, якая ў мастацтве, таксама, як і ў быце, у адзежы, у абсталяваньні, у архітэктурным творы, заўсёды зьдзяйсьняецца толькі пасьля вялікіх затрат сродкаў, вялікага напружаньня энэргіі, пасьля доўгіх высілкаў творчай мысьлі.

Трэцяя адзнака толстоўскага рэалізму, узятага ў кірунку арганізуючага яго значэньня, гэта шырокае і паглыбленае знаўства ў яго зарысоўцы элемэнтаў фізыолёгіі і псыхолёгіі. Толстой рысуе ня проста надворны від сваіх герояў, ён выяўляе іх фізыолёгічныя асаблівасьці, пранікнена гаворыць аб іх унутраным душэўным жыцьці, паказвае іх у розных жыцьцёвых палажэньнях, умее іх вачамі глянуць на прыроду, на наўкольныя бытавыя абставіны, на другіх людзей і г. д. Няма чаго і казаць, што псыхолёгічная наглядальнасьць Толстога асабліва глыбокая і ўтончаная.

Дадамо да гэтага, што Толстой вельмі дэтальны ў сваіх апавяданьнях ды апісаньнях; што ён нідзе не баіцца шырыні свайго палатна і лічбы дзеючых асоб; ён аднолькава тонка зарысоўвае і асобныя буйныя фігуры і людзкія масы, у якіх трацяцца асобы-адзінкі; што ён заўсёды вобразны і маляўнічы, пакуль трымае ў руках пэндзаль мастака і не пераходзіць да адцягнутых разважаньняў філёзофа і мараліста,—і будзе зразумела, чаму Толстой сапраўды высока падняўся над звычайным рэальным пісьмом свайго часу, і амаль нанава стварыў увесь апарат так званага „умоўнага рэалізму“, г. зн. рэалізму, які будуецца на жыцьцёвым матэрыяле, але яго памастацку пераапрацоўвае. Чужаземная крытыка (назаву для прыкладу D. Souvageot, „Le réalisme et le naturalisme dans la littérature et dans l'art“. P. 1889) даўно ўжо прызнала Толстога непараўнальным прадстаўніком гэтай літаратурнай манеры.

Арганізуючае значэньне мастацкай тэхнікі Толстога засталося ў сіле і ў нашы дні. Толстой можа быць і цяпер высокім узорам і настаўнікам

стылю для сучасных пісьменьнікаў. Гэта асабліва можна прылажыць да стылю пролетарскай літаратуры, якая шукае такога простага пісьма, якое пры наяўнасьці мастацкасьці было-б даступна ўспрыманьню шырокіх чытацкіх мас, было-б для іх пераканальна сваёй яскравасьцю і захапляла сваёй няштучнай пекнатой. Кажучы так, мы маем на мэце, зразумела, не бяскрытычнае перанясеньне ў пролетарскую творчасьць толстоўскага стылю, які мае сваю гістарычную клясавую прыроду, але толькі выкарыстаньне асобных прыёмаў ды сродкаў гэтага стылю, як ня страціўшых і цяпер сваёй мастацка-тэхнічнай вартасьці.

Мы падышлі да апошняга чацьвертага моманту літаратурнай работы мастака слова, да ідэолёгічнага аформаньня яго тэматыкі. Гэты момант заўсёды быў, так сказаць, душой творчасьці, яго сьветавым зьбіральным фокусам, яго ўнутранай зьнітоўкай, тэй нэрвова-мазгавой энэргіяй, якая разьлівалася па артэрыях мастацка-формальных схэм і пабудаваньняў.

Гэты момант творчасьці ў нашы дні, калі мастацкая літаратура дзейна ўдзельнічае ў будаўніцтве новага жыцьця, зьяўляецца асабліва важным і вымагае да сябе большай увагі.

Як-жа Толстой ідэолёгічна афармляе сваю мастацкую творчасьць? І ці выконвае ён у даным выпадку таксама ня толькі задачу жыцьцяпазнаньня, але і жыцьцябудаўніцтва?

Адыходная ідэолёгічная ўстаноўка Толстога шчыльна зьвязана з радавітым краёвым панствам, яго традыцыямі, густамі, яго этыкай ды эстэтыкай і наогул з усім яго сьветаразуменьнем. Пры ўсёй магутнасьці свайго дару, ня гледзячы на сьмелыя ўзьлёты мысьляй, Толстой доўгі час, асабліва ў раньніх сваіх творах, ня мог высока падняцца над узроўнем выхаваўшых яго клясавых ідэалаў. Праўда, Толстой-студэнт ужо робіць спробу адгарадзіцца ад сьвецкай комільфотнасьці, якая азначае годнасьць чалавека па фасону штаноў і гамаш; але і Толстой-малады памешчык, які ўжо кінуў унівэрсытэт, усё яшчэ папанску марнатравіць жыцьцё і жыве ў атмосфэры гультайства; пры гэтым, нават пасьля ўцёкаў сваіх на Каўказ, ён далёкі яшчэ ад таго моральнага аднаўленьня, да якога так імкнуўся, і, падобна да сваіх продкаў, увесь ахоплены настроямі пана-паляўнічага і фэодала—усьмірыцеля ворагаў; гэтым толькі можна вытлумачыць, што, палюючы на Каўказе на зайцаў, ён адначасна марыць аб тым, як ён хутка будзе „з дапамогаю гарматы зьнішчаць драпежнікаў і непакорных азыятаў“ (з ліста да брата. Тыфліс, 1851 г., сьнежань); нават калі Толстой, як ідэолёг, выразна стаў зварачаць на свой асобны шлях, шлях асабістага моральнага ўдасканаленьня і так званага апрошчаньня, яго клясава-ідэолёгічная позыцыя заставалася ў моцы. У 50-х і ў пачатку 60-х гадоў Толстой далучаўся па сваіх поглядах да тых лібэральных памешчыкаў „рэформістых“, што, разумеючы экономічную патрэбу сялянскай рэформы і нават ідэёва яе апраўдваючы, у той-жа час усё яшчэ ў дваранстве бачылі асноўную і накіроўваючую політычную

ды соцыяльна-культурную сілу. Мала таго, нават самы лібэралізм Толстога ў гэты час быў вельмі мернага ўзьлёту. Нам вядома, напрыклад, што Толстой не падзяляў антыпатыі расійскіх лібэралаў да Мураўёва, які люта душыў польскае паўстаньне; да самай справы паўстанцаў ён ставіўся зусім абыяка. Да расійскай радыкальнай мысьлі, прадстаўленай у пачатку 60-х гадоў так званым нігілізмам, г. зн., інакш кажучы, расійскім матэрыялізмам, Толстой адразу стаў у варожую пазыцыю, і ў сваёй комэдыі „Зараженное семейство“ (якая зьяўляецца ў друку толькі цяпер у ліку пасьмяротных яго твораў) дваранска-памешчыцкім традыцыям і ідэалам, на баку якіх былі яго сымпатыі, проціпаставіў, як нігілістычную заразу, радыкальную моладзь у асобе сэмінарыстага Твердынскага і лібэрала Венеровскога, якіх ён намаляваў блізка да карыкатуры; пры гэтым словы „комуна“ і „эманцыпацыя“ вымаўляюцца ў комэдыі, як лаянка (А. Старчкоў, „Толстой в 40 лет“—„Известия“, 1928, № 198). Да рэчы, жаночая эманцыпацыя, гэты рух жаночага пытаньня ў бок прызнаньня жаночага раўнапраўя, а роўна як і пісьменьніца Жорж Занд, абаронца гэтага раўнапраўя, таксама сымпатыямі Толстога не карысталіся. Нават і сьнежаньскае паўстаньне, якому Толстой хацеў прысьвеціць асобны роман, урэшце, як выяўленьне адкрытай рэволюцыйнасьці, страціла права на ўвагу пісьменьніка і засьцілася ідэаламі пакорлівай непраціўленчай каратаеўшчыны. Урэшце, уся філёзофія роману „Война и мир“,— „філёзофія, якую ўжо сучасьнікі Толстога называлі „агіднай“ (Ахшарумаў), „філёзофіяй застою“ (Шэлгуноў), „дзіцячай філёзофіяй“ (Тургенеў),—сьведчыць аб тым, што Толстой ня вытрымаў нават узроўню звычайнага для эпохі 60-х гадоў дваранскага лібэралізму; пры гэтым ён не таіў, што ў гэтым вялікім романе яго клясавыя сымпатыі належаць іменна расійскай арыстократыі, якая яму „цікава і міла“, і што „жыцьцё чыноўнікаў, купцоў, сэмінарыстых і мужыкоў“ яму „няцікава і напалову незразумела“ (А. Старчкоў, тамсама, цытуецца адна з неапублікаваных прадмоў да роману „Война и мир“). Трэба адзначыць, што свае панскія адносіны да чыноўнікаў, купцоў, сэмінарыстых і наогул да сярэдніх грамадзкіх груп Толстой вытрымліваў вельмі доўга: матэрыяльна забясьпечаны пан, які пражыў усё доўгае жыцьцё ў комфортабельных абставінах панскага маёнтку, ён з некаторай зьнявагай глядзеў на ўсю гэтую масу сярэдняга чалавека, якая корпалася і працаю здабывала сваё права на мізэрнае існаваньне; асабліва гэта зьнявага адчувалася ў стасунку да чыноўнікаў, якія атрымлівалі, паводле выразу Толстога ў драме „Живой труп“, „двадцатого числа по двугривенному за пакость“. Сам ён, маючы патрэбную колькасьць гэтых сараковак, спадчынных і набытых, з нейкай ня то спачувальнай жаласьцю, ня то крыўднай выбачнасьцю гаворыць у адным з сваіх лістоў (Н. Я. Гроту, 1888 г., ліпень) аб тых інтэлігентах, якія прымушаны для пражытку прадаваць за грошы сваю разумовую працу. Толстой не бярэ на ўвагу пры гэтым, што ў працоўных інтэлігентаў

няма сваёй экономічнай базы ні ў родавым панскім маёнтку, ні ў грашовых запасах, ні ў рэдакцыях, дзе ўсё-ж ткі аплачвалі, і ня кепска, талент Толстога, як мастака слова. Што да экономічнай базы самога Толстога, дык яна відочна пачала ўзмацняцца з таго часу, як ён моцна асталяваўся ў „Яснай Поляне“. Пачынаючы з 60-х гадоў, ён сядзеў „у гаспадарцы проста па вушы“, паводле ўласнага яго выразу (ліст А. А. Фэту, 1860 г., чэрвень). Ён будуе конскі завод, разводзіць асаблівую пароду голых, каротканогіх сьвіней; марыць купіць маёнтак, але так купіць, каб „прыбытак ці лес з маёнтку пакрыў пакупку“; між іншым, у 1871 годзе ён купляе ў Бузулукскім павеце Самарскай губ. маёнтак у 2.500 дзесяцін; у 1878 годзе куплены там-жа другі маёнтак у 4.022 дзесяціны; у 1882 годзе куплены дом у Маскве ў Доўгахамоўніцкім завулку.

Такім чынам, бытавая ды ідэолёгічная ўвязка Толстога з дваранска-памешчыцкай клясай не выклікае няпэўнасьці, таксама, як ня могуць адкідацца і яго панскія, напоўадмоўныя, напоўвыбачныя адносіны да другіх кляс сучаснага яму расійскага жыцьця. Але з усім тым, ідэолёгія мастацкіх твораў Толстога, аб якой якраз мы цяпер і гаворым, не пакрываецца цалкам яго дваранска-памешчыцкім ідэалам, бо Толстой, застаючыся ідэолёгам лібэральнай часткі дваранства, дакладней сказаць, таго дваранства, што „каецца“, разам з тым даволі рана збочыў на дарогу моралізму, якая на першых парах ішла дзьвюма калеямі—каляёй асабістага моральнага самаўдасканаленьня і каляёй апрошчаньня ці адмаўленьня ад зла культуры на карысьць жыцьця, блізкага да прыроды, простых людзей і да ўмоў здаровае фізычнае працы. Ідучы па гэтым шляху, Толстой перажыў два ідэолёгічныя моманты: спачатку ён шукаў сэнсу жыцьця, прычым час-часам у яго зьяўлялася няўпэненасьць, блізкая да поўнай роспачы; потым ён знайшоў гэты „сэнс жыцьця“, г. зн. аформуляваў яго пасвойму, і стаў старанным прапаведнікам уласнага вучэньня.

У абодвых этапах эволюцыі сваіх ідэёвых шуканьняў і пабудоў Толстой усё больш ды больш рашуча разьвенчываў культурныя вартасьці, узятыя ў агульных нормах, і, у прыватнасьці, усё больш рэзка ганіў паасобныя бакі расійскай рачаіснасьці ў яе дзяржаўных, соцыяльных, сямейных ды іншых зьявах, паколькі яны не адказвалі яго формулам асмысьленага чалавечага жыцьця.

Абодва гэтыя этапы ўвайшлі як ідэолёгічны момант у яго мастацкую творчасьць. У першы пэрыод сваёй літаратурнай чыннасьці Толстой, стоячы на аснове дваранска-памешчыцкіх традыцый, уводзіць у свае творы ў якасьці домінуючага ідэолёгічнага лейб-мотыву шуканьне сэнсу жыцьця, які ён у агульных рысах азначае як сынтэс „простасьці, дабра і праўды“; гэта шуканьне ён укладае ў сваіх галоўных герояў—Нехлюдова, Оленіна, П'ера Бязухава, Левіна. У другі пэрыод, значыць, у мастацкіх творах 80-х і наступных гадоў („Смерть Ивана Ильича“, „Плоды

просвещения", „Власть тьмы", „Хозяин и работник", „Живой труп", „Воскресение", „Отец Сергий", „Диавол" і г. д.) Толстой усё яшчэ, не парываючы з бытавымі ўмовамі панства, стараецца перамагчы іх сілаю сваёй навукі і асноўнай ідэолёгічнай тэмай сваіх твораў робіць рэалізацыю сваёй толстоўскай веры на тым ці іншым з сваіх герояў; амаль ўсе галоўныя героі толькі што пералічаных твораў Толстога цераз шэраг жыцьцёвых памылак і іспытаў прыходзяць да толстоўскага „просіянія" і нават іншы раз да ператварэньня яго навукі ў практыку жыцьця.

Гэта навука Толстога, узятая ў асноўных тэзісах, г. зн. як закліканьне да самаахвярнай любві да блізкага, да шырокіх зносін з людзьмі, да непраціўленьня злу злом і г. д., робіцца ідэолёгічным аформленьнем усёй яго літаратурнай продукцыі апошніх год. Але, ухіляючыся ў глыбокі моралізм, які адыходзіць карэньнямі ў мэтафізыку ды містыку, Толстой не парваў і тут канчаткова са сваёй клясавай ідэолёгіяй, але толькі некалькі зьмяніў яе і дапасаваў да ўвязкі са сваёй навукаю. Калі, рэформацыйны рух 60-х гадоў падмяніўся ўрадавай рэакцыяй, Толстой, як і некаторыя другія лібэралы яго кола, падманутыя ў сваіх рэформісцкіх надзеях, яшчэ глыбей адчуў няўпэўненасьць у мэтазгоднасьці сучаснага яму палітычнага ладу, але на пасьлярэформеную рэакцыю адказаў не протэстам, не рэволюцыйнай барацьбой, а адыходам у асабісты моральны ідэал, у богашуканьне, у непраціўленства і ў поўнае адмаўленьне сучаснага яму палітычнага ды грамадзкага парадку.

Так стваралася гэтая складаная ідэолёгія Толстога другога пэрыоду яго літаратурнай чыннасьці, у якую ўвайшлі і бязьлітасны суд над злом жыцьця—ува ўсіх яго фальшыва-культурных, паводле разуменьня Толстога, дасягненьнях—і ў той-жа час рашучае адмаўленьне ад усялякай барацьбы з гэтым злом, ад усякага гвалту, хоць-бы ён меў рэволюцыйны характар.

Адсюль—тыя трагічныя супярэчнасьці і тупікі, якія мы сустракаем у ідэолёгічных пабудовах Толстога. У артыкуле „О существующем строе" ён гаворыць: „Зьнішчыцца павінен лад капіталістычны і заменіцца соцыялістычным; зьнішчыцца павінен лад мілітарызму і заменіцца разбраеньнем і арбітрацыяй; зьнішчыцца павінен сэпаратызм вузкай нацыянальнасьці і заменіцца космополітызмам ды ўсеагульным братэрствам; зьнішчыцца павінны ўсякія рэлігійныя забабоны і заменіцца разумнай, рэлігійнай, моральнай сьвядомасьцю; зьнішчыцца павінен усякага роду дэспотызм і заменіцца свабодным і любоўным яднаньнем людзей". Чытаючы гэтыя радкі, мы павінны згадзіцца з тым, што Толстой у эпоху суровай рэакцыі ня толькі ўсьведамляў жудасьці жыцьця, але і надзвычайна сьмела ставіў набалелыя пытаньні. Мала таго, у трактатах Толстога мы сустракаем іншы раз і выразна-дадатныя адносіны яго да ідэалаў і прынцыпаў рэволюцыі. Так, у артыкуле „Единое

на потрэбу“ Толстой кажа наступнае: „Дзеячы рэволюцыі ясна выставілі тыя ідэалы роўнасьці, свабоды і братэрства, у імя якіх яны маюць замер перабудаваць грамадзтва. З прынцыпаў гэтых выцякалі практычныя мерапрыемствы: зьнішчэньне станаў,ураўнаньне маемасьцяй, скасаваньне чыноў, тытулаў, зьнішчэньне зямельнай уласнасьці, роспуск сталай арміі, надпрыбытковы падатак, пэнсіі рабочым, адлучэньне царквы ад дзяржавы, нават устанаўленьне агульнай усім, разумнай рэлігійнай навукі. Усё гэта былі разумныя і дабрачынныя меры, якія выцякалі з выстаўленых рэволюцыяй пэўных сапраўдных прынцыпаў роўнасьці, свабоды і братэрства. Прынцыпы гэтыя, таксама, як і вынікаўшыя з іх меры, як былі, так і застануцца сапраўднымі, і да таго часу будуць стаяць, як ідэалы перад чалавецтвам, пакуль ня будуць дасягнуты. Але дасягнуты гэтыя ідэалы ніколі ня будуць гвалтам“. У гэтых радкох мы зноў сустракаем прынцыповае прызнаньне Толстым цэлага шэрагу рэволюцыйных задач, але поруч з імі цьвёрда абазначана позыцыя непраціўленства.

Мімаволі ўспамінаюцца тут ня раз цытаваныя ў друку за гэтыя толстоўскія дні словы Ў. І. Леніна, трапна ахарактарызаваўшага супярэчлівасьць толстоўскіх ідэолёгічных палажэньняў. „З аднаго боку (кажа Ў. І. Ленін у артыкуле „Лев Толстой как зеркало русской революции“)— бязьлітасная крытыка капіталістычнай эксплёатацыі, выкрыцьцё ўрадавых гвалтаў, комэдыі суду і дзяржаўнага кіраўніцтва, выкрыцьцё ўсёй глыбіні супярэчнасьцяй між ростам багацьця ды заваёвамі цывілізацыі і ростам галечы, зьдзічэласьці і мукаў рабочых мас; з другога боку—блазенская пропаведзь „непраціўленьня злу“ гвалтам. З аднаго боку—самы цьвярозы рэалізм, выкрываньне ўсіх ды ўсякіх масак; з другога боку— пропаведзь аднэй з самых ганебных рэчаў, якія толькі ёсьць на сьвеце, а менавіта рэлігіі—імкненьне паставіць на месцы папоў на ўрадовай пасадзе папоў паводле моральнага пераконаньня, г. зн. культываваньне самай тонкай і таму асабліва агіднай папоўшчыны“.

Такім чынам, зусім зразумела, што Толстой, паставіўшы шэраг пытаньняў вялізарнай важнасьці, зусім адмовіўся ад разьвязаньня іх рэволюцыйным шляхам, і ў сваіх мастацкіх зарысоўках дае ў якасьці ідэалу не барацьбіта-рэволюцыянэра, а непраціўленца-богашукальніка, які ў яго звычайна зьяўляецца ці ў відзе мужычка каратаеўскага тыпу, ці мужыкоўствуючага, апрошчанага інтэлігента. Адсюль тая галерэя сялянскіх портрэтаў, якая запаўняе творы Толстога за другі пэрыод яго літаратурнай чыннасьці, асабліва яго народныя апавяданьні, якая намалявана з мастацкага боку надзвычайна рэальна і жыцьцёва (паколькі Толстой зьяўляецца, паводле выразу Ў. І. Леніна, „сапраўдным мужыком у літаратуры“), з ідэолёгічнага боку выяўляе сабою ня тую частку сялянства, якая ўжо змагалася ці гатова была змагацца за лепшую будучыню, а тую, якая (я цытую той-жа вышэйназваны артыкул У. І. Леніна)

„плакала і малілася, і рэзонэрствавала і марыла, пісала заявы і пасылала „хадаталяў“,—зусім як у Льва Мікалаевіча Толстога“, інакш кажучы, Толстой у сваіх зарысоўках сялянскай масы адбіў, як кажа Ў. І. Ленін, толькі „мяккацеласьць патрыярхальнай вёскі“, а не рэволюцыйны рух, які ў ёй пачынаўся.

Я падсумоўваю сказанае па пытаньні аб ідэолёгічным моманце ў мастацкай творчасьці Толстога. Ідэолёгія Толстога зьвязана з яго клясавым выхаваньнем і клясавым абкружэньнем, з колам яго кніжных, галоўным чынам, філёзофскіх інтарэсаў, урэшце, з яго моральна-рэлігійнымі шуканьнямі. У цэлым яго ідэолёгія, паколькі яна ўвайшла ў мастацкую творчасьць, азначаецца розна: скала гэтых азначэньняў хістаецца паміж панскім мерапрыемствам і рэлігійным містыцызмам, ці дакладней рэлігійным анархізмам. У кожным разе ў аснове сваёй сьветагляд Толстога ідэалістычны і, як такі, далёкі нашай сучаснасьці. І тым ня менш нават і ў сваёй ідэолёгічнай частцы мастацкая творчасьць Толстога мае ў сабе элемэнты ня толькі жыцьцяпазнаньня, але і элемэнты жыцьцябудаўніцтва. Яго ідэолёгія характэрна для свайго часу: яна склалася з элемэнтаў, створоных як папярэдняй Толстому культурай, так і культурай, яму сучаснай; яна адбіла настроі і думкі ня толькі пэўнай часткі інтэлігенцыі часу Толстога, але нават і некаторай часткі сялянства (як ужо вышэй было заўважана). У гэтым сэнсе ідэолёгія Толстога дае пэўнае жыцьцяпазнаньне, пэўную ілюстрацыю эпохі.

Але разам з тым яго ідэолёгія была ідэолёгіяй адмаўленьня тэй дарэволюцыйнай культуры, што распадалася, ідэолёгіяй асуджэньня яе фальшы, выкрыцьця яе болек у галіне дзяржаўных, соцыяльных, маральных, бытавых адносін, ідэолёгіяй выкрыцьця фальшы офіцыяльнай царкоўнасьці, ідэолёгіяй протэсту супроць эксплёатацыі працоўных мас. У гэтым сэнсе ідэолёгія Толстога мела і організуючае жыцьцяўтвараючае значэньне, як сьмелае констатаваньне ды бязьлітаснае выкрыцьцё тых ворагаў, з якімі хутка рэволюцыя павінна была распачаць адкрытую барацьбу. Толстой ня прыняў рэволюцыі, а значыць, ня прыняў і рэволюцыйнага мэтоду барацьбы, але ён дапамог усьвядоміць тую варожую сілу, з якой трэ‘ было змагацца, і гэта ім было зроблена ў яго мастацкіх творах.

„Выкрытая фальш,—сказаў неяк Толстой,—ёсьць настолькі-ж важны здабытак для дабра чалавецтва, як і ясна выяўленая ісьціна“, і ён, сапраўды, выкрываў зло капіталізу, гвалту над працоўнымі; выкрываў дзяржаўны лад, царкву, навуку, мастацтва, паколькі яны спрадвеку служылі не дабрабыту шырокіх мас народу, але драпежнаму шчасьцю пануючых кляс.

У гэтым выкрыцьці фальшы і ў гэтым адмаўленьні ад пазбытых застарэлых падвалін жыцьця ёсьць ідэолёгічнае значэньне мастацкай творчасьці Толстога. „Са мною здарылася тое, — кажа Толстой, — што

жыцьцё нашага кола—багатых, вучоных, ня толькі стала прыкрым мне, але страціла ўсякі сэнс. Уся наша чыннасьць, разважаньні, навукі, мастацтва—усё гэта стала перада мной у новым значэньні. Я зразумеў, што ўсё гэта адно свавольства, што шукаць сэнсу ў гэтым нельга. Жыцьцё-ж усяго працоўнага народу, усяго чалавецтва, які творыць жыцьцё, увілася мне ў сапраўдным значэньні“.

Толстой увесь час шукаў шляху да гэтага другога жыцьця, „жыцьця ўсяго працоўнага народу“, але не знайшоў яго. Апошні раз ён пайшоў шукаць гэтага шляху ў канцы кастрычніка месяца 1910 г., калі ён надумаўся канчаткова парваць з сям'ёй і з усімі наўкольнымі абставінамі ды ператварыць свой ідэал у практыку жыцьця, але сьмерць спасьцерагла яго ў самым пачатку цяжкой дарогі.

Толстой памёр, не рэалізаваўшы ў жыцьці свайго ідэалу. Але пасьля яго засталося тое, што, апрача неапраўданага ідэалу, становіць сабою літаратурную спадчыну вялізарнага значэньня: гэта яго найвялікшыя мастацкія тварэньні з іх бязьлітасным аналізам дарэволюцыйнай рэчаіснасьці.

# КНІГАПІС

**М. Лужанін. Крокі.** *Выданьне БДВ. Менск, 1928, ст. 74. Цана 45 кап.*

Лужанін адзін з маладзейшых сяброў літзгуртаваньня „Узвышша". Першы зборнік яго вершаў „Крокі" мае для нас асаблівую цікавасьць, бо дапамагае нам высьветліць тыя шляхі, па якіх ідзе разьвіцьцё „узвышшаўскае" моладзі, ацаніць працу „Узвышша" ў справе выхаваньня пісьменьніцкае моладзі, выявіць тыя тэндэнцыі, пад уплывам якіх формуюцца ў складзе гэтага згуртаваньня новыя пісьменьніцкія кадры.

Нельга сказаць, каб Лужанін у сваёй творчасьці абыходзіў пытаньні грамадзкага жыцьця, каб ён праходзіў міма рэволюцыі, каб ён ня бачыў таго новага, што кожны дзень буйнымі кветкамі вырастае на нашых вачох. Лужанін вельмі добра бачыць што:

> Новы і моцны пакладзены мур.
> Радасьці гэтай ня скволіць.
>
> (Ст. 10).

Ён адчувае, што:

> Новаю песьняй спавіты
> прасьцяг.
>
> (Ст. 11).

І гэтаму новаму Лужанін прысягае.

> У праменьнях новага згару
>
> (Ст. 13).

Пра тое-ж крычаць яму шэрыя дзікія гусі:

> Так і чую: „Нам пераказалі,
> Што у вас цьвіце цяпер вясна".
>
> (Ст. 10).

Відаць, Лужанін сам адчувае ўсю непатрэбнасьць, усю фальш гнілога беспадстаўнага ныцьця некаторых сваіх сяброў. Вось чаму яму так хочацца пяяць сваю песьню вясьне:

> Пра вясну
> Песень мала,—
> Замянілі на восень вясну.
> Я на простых вясковых цымбалах
> Заіграю адну—
> І вясну
> Успамяну.
>
> (Ст. 51).

Такім чынам, здаецца, з мотывамі творчасьці ў Лужаніна справа стаіць ня дрэнна. Аднак, на вялікі жаль, гэта толькі так здаецца. У першым-жа вершы, у вершы, прысьвечаным дзесятай гадавіне Кастрычніка, мы са зьдзіўленьнем даведваемся, што:

> Пад кволыя песьні раджаецца дзень...
>
> (Ст. 7).

Чаму пад „кволыя", а не пад якія іншыя, напр., бадзёрыя, баявыя? Што гэта? Ці, можа, гэта проста—выпадковы ляпсус накшталт клясычнага расійскага „носить бы вам не переносить"? І сапраўды, ляпсусаў у Лужаніна шмат. Так, напр., у яго можна заўважыць поўную блытаніну ў колерах. Спакой у яго, чамусьці, „белы". Белы колер, да рэчы, наогул, самы ўлюбёны колер Лужаніна. Зоры ў яго чамусьці „зялёныя". Чаму зялёныя? Мо' таму, што Лужанін крыху хварэе на дальтонізм? Хто яго ведае! Такім парадкам, магчыма, што і ў „кволых" песьнях мы маем справу проста з ляпсусам маладога поэты.

Аднак, калі мы прасочым як успрымае Лужанін гэтыя „новыя дні", якіх зьмест укладае ён у гэтае разумень-

не, *што* ён разумее пад гэтымі словамі, дык нас чакае жорсткае расчараваньне.

Папершае—нідзе ніўводным радку Лужанін ані словам не ўспамінае пра соцыяльную існасьць рэволюцыі, пра соцыяльную існасьць „новых дзён“, пра соцыяльную існасьць таго змаганьня, якое штодня адбываецца непасрэдна на яго вачох. Мала гэтага. Калі Лужанін гаворыць пра вясну, пра новае не як пра нейкі адцягнены лёзунг, а як пра нешта конкрэтнае—напр., у вершы „Навагодняе“ (ст. 9) ці ў вершы „Трактар“ (ст. 25—32, асабліва на ст. 29), дык у песьні яго пачынае гучэць такая мэлянхолія, такая журба, што неяк мімаволі прыпамінаецца „Сорокоуст“ Есеніна. Вось як апавядае, напр., Лужанін пра мэліорацыю:

Гусі кажуць: „Мы цяпер чужыя,
У краіне больш няма балот...
Дык сьпяшаймася на ростані другія,
Дзе спаткаюць радасьцю наш лёт“.

(Ст. 10).

Або вось:

Ня пужае маўклівасьць таго, што было,
Не заглушыць таго, што вясною наліта.
Дзе стаялі адвечныя вокны балот—
Нагінаецца нізка насьпелае жыта.

(Ст. 27).

Гэтыя радкі хаця-ж бы монотоннасьцю і мэлянхолічнасьцю аднаго свайго рытму дашчэнту забіваюць той уздым, зьнішчаюць тое нарастаньне, якое было ў папярэдніх двух радкох:

Гэта значыць, што нельга спыніць і вярнуць
Зазьвінеўшае слова ў палёх: будаваньне.

(Ст. 27).

А вось якімі „крокамі“ сустракае Лужанін троктарызацыю нашае вёскі:

Штосьці коні вушамі трывогу прадуць,—
Зьнеспакойнелі сьмірныя коні.
Ці пачулі здалёку якую бяду,
Мо' якая напасьць надыходзіць сягоньня?

. . . . . . . . . . .

Там далёка—слупамі ўздымаецца пыл,
Засьцілае шляхоў крыжаваньне і ростань,
І павольнымі крокамі цяжкай ступы
Набліжаецца нейкая дзіўная постаць.

. . . . . . . . . . .

Вось што коняй прымусіла дзіка гайсаць!
Вось якая іх сіла нястрымная носіць!
Ім балюча, што косы зялёных прысад
Прывітаюць ласкава жалезнага госьця.

(Ст. 29).

Прачытаўшы гэтыя радкі, так і хочацца працягнуць іх словамі есенінскага „Сорокоуста“:

Чорт-бы взял тебя, скверный гость.
Моя песьня с тобой не сживется,
Жаль, что в детстве тебя не пришлось
Утопить, как ведро в колодце...

Да рэчы, пераход ад радкоў Лужаніна да радкоў Есеніна для слухача, які і тыя і другія чуе ўпяршыню, як нам здаецца, быў-бы зусім няпрыкметны...

Тое „новае“ і зусім конкрэтнае, што Лужанін сапраўды яскрава і пуката адчувае—гэта бацькаўшчына, Беларусь. Але гэтае „новае“ фактычна зусім ня новае, наадварот, яно старое, як сьвет. На ст. 53 Лужанін гаворыць:

Я-ж і ў песьнях жыву і гару
За краіну сваю, Беларусь.

Яму хочацца:

Будаваць Беларусь! Ўсё жыцьцё Беларусі!
Каб усё-ж ткі квітнеў сонцавеючы дзень.

(Ст. 15).

Але хаця ён і гаворыць, што нібыта чуе, як:

тчэ пуцявіны Беларусь
залататканаю асновай.

(Ст. 13).

„Беларусь“ Лужаніна—гэта нешта абстрактнае, зусім адцягненае, ня то бясклясавае, ня то надклясавае... І ворагі гэтае Беларусі таксама нейкія надклясавыя. Лужанін прыпамінае, што (відаць, у часы окупацыі, але якое—хто яго ведае):

Косы русыя дзяўчат
тапталі нашы супараты.

(Ст. 12).

Ён прыпамінае той час, калі:

...чужынцаў нага
наступіла драпежна краіне на грудзі...

(Ст. 18).

Але хто гэтыя „супараты"—Лужанін не гаворыць. Што за „чужынцы", ён не высьвятляе. Пытаньне клясавага распластаваньня гэтых „чужынцаў" яго мала цікавіць. Лужанін ня ўхіляецца ад „грамадзкіх" мотываў наогул. Але Лужанін сам недзе па-за клясамі, ці мо' над клясамі. Ён лунае ня то ў будучым бясклясавым грамадзтве, ня то наогул ня ў гэтым сьвеце, а недзе ў косьмічных зорных прасторах. Не дарма на ст. 9 ён гаворыць;

Ночка зор *зялёных* накрасала...

(Там у зорах шмат мае радні!)

Таму вось, што радня Лужаніна недзе „там у зорах", таму, што сам ён, відаць, ня тутэйшы нейкі, так сказаць, „зорны жыхар" па сваім пахаджэньні, зусім зразумелы і некаторыя яго „нятутэйшыя" разважаньні пра рэволюцыю накшталт:

Чамусьці шукаем вянкоў перамог,
ня даўшы слабому рукі дапамогі...

(Ст. 8).

Або інтэлігенцка-талстоўскія сьлюнявыя філёзофаваньні на тую-ж тэму, накшталт:

Нашто тады руку падняў
ды чалавек на чалавека.
Усім нам золата паўдня
прымружыць ласкава павекі.

(Ст. 12).

А адгэтуль, у сваю чаргу, робіцца зусім зразумела і тое вялікае замілаваньне, якое адчувае Лужанін пры вымаўленьні слова „спакой", той смак, з якім ён вымаўляе гэтае слова, тая млявасьць, з якой ён лятуцее аб часох, калі:

Будзе гэтак слаўна,
будзе так спакойна
ад трывожных дум.

(Ст. 71).

Падумайце, як смачна:

Вечар.
На століку ціхая лямпа.

(Ст. 21).

Зусім ясна, што Лужанін—не барацьбіт. У часе змаганьня ён здольны хіба толькі сядзець на выгоднай мяккай канапе і адчуваць, як:

У лятуценьнях белага спакою
Сэрца сьніць нябачаныя сны.

(Ст. 9).

У асобе Лужаніна вырастае новы „спадарожнік" ад літаратуры, які, магчыма, можа з часам яшчэ і наблізіцца да пролетарскае ідэолёгіі, але які, покуль што, настолькі-ж далёкі ад яе, як далёкі ён і ад свае радні, што, паводле яго сьцверджаньня, жыве недзе ў міжплянэтных прасторах. А шкода поэты, бо ў сэнсе здольнасьці свае ў галіне формальна-мастацкай ён падае дзе-якія надзеі.

**Алесь Гародня.**

**Jan Adamus.** Z zagadnień prawa Litewskiego. Pamiętnik historyczno-prawny. t. II. Zesz. 3. Lwów 1926, c. 56.

Гістарычна-юрыдычны сэмінар профэсара Дамкоўскага ў Львове вядзе параўнаўча энэргічную навуковую працу. Вядома звыш 20 выпускаў прац „Pamiętnika historyczno-prawnego". Праўда, пераважна гэта невялікія разьмерам сшыткі. Але яны раз-по-разу адносяцца да вельмі цікавых тэм з гісторыі польскага права, а таксама і з гісторыі права вял. княства. Літоўскага, якое, як відаць, сэмінар польскага Львоўскага унівэрсытэту лічыць за від таго-ж польскага права. Да апошняга тыпу адносіцца і невялікая кніжачка (вялікія дасьледваньні з гісторыі права В. Кн. Літоўскага ў польскай навуцы рэдкая справа) Я. Адамуса.

Кніжка Я. Адамуса зьмяшчае ў сабе па сутнасьці некалькі крытычных артыкулаў, напісаных на розныя тэмы з гісторыі літоўска-украінска-беларускага права. У прадмове да кніжкі аўтар тлумачыць прычыны і мэту яе друкаваньня. Ён тут піша, што „ёсьць, здаецца, вялікая патрэбнасьць выбраць з спадку расійскае навукі, што не заўжды стаіць на высаце задачы, а часта застарэлая,

цэнныя элемэнты і адкінуць тое, што разьвіцьцю навукі, як такой, можа шкодзіць“ (с. 5). Бясспрэчна, думка цалкам правільная. Але не даведзеная да лёгічнага канца. Бо калі на гістарычна-юрыдычны спадак літоўскае эпохі і дзяржавы ня мае права расійская навука, дык у такім-жа, абсолютна такім-жа становішчы ёсьць і навука польская, пра якую Я. Адамус маўчыць. Спадкаемцы ёсьць навукі беларускага, украінскага ды літоўскага народаў. А для расійскае і польскае навук ёсьць магчымасьць вывучаць гэтае права ў парадку дасьледваньня параўнальнага, у парадку азнаямленьня з ім, як з пэўным тыпам славянскага права (калі лічыць, што літоўскія элемэнты ў ім былі нязначныя).

Першы артыкул кніжкі спыняецца над „увагамі да выданьня крыніц літоўскага права“. Аўтар думае, што выданьне літоўскіх статутаў ёсьць вельмі патрэбная задача, але зьдзейсьніць яе цяжка. Лёгкая толькі справа выданьня III Статуту; ужо горш з статутам 1566 г. А розныя рукапісы Статуту патрабуюць вялікае падрыхтоўчае працы. Ды і наогул, на погляд аўтара, казуістычны Статут ня ёсьць першая і адзіная крыніца права вялікага княства. Нароўні з ім трэба паставіць уставы вялікага князя, прывілеі і г. д. Мабыць, шмат яшчэ нявыданых уставаў ёсьць у актах Літоўскае Мэтрыкі. Таму трэба Літоўскую Мэтрыку (дзяржаўны архіў вял. княства) выдаць. Адамус думае, што выдаваць Літоўскую Мэтрыку трэба ня спосабам асобных выпускаў, прысьвечаных спэцыяльным пытаньням, і якія падбіраюць матэрыял для гэтых пытаньняў,—але выдаць яе ўсю, цалкам. Апроч таго, трэба адшукаць ды выдаць акты вясковых судоў. Бясспрэчна, што аўтар у поўнай меры мае рацыю, калі кажа пра патрэбу ўважнага разгляду розных рукапісаў I Статуту. Думка-ж пра выданьне Літоўскае Мэтрыкі цалкам, без сыстэматызацыі матэрыялаў па пэўных тэмах—спрэчная, пры цяперашніх акалічнасьцях цяжкая для выкананьня.

Другі артыкул прысьвечаны „Статуту Літоўскаму ў сьвятле найноўшае літаратуры“. У ім разглядае аўтар артыкулы Лаппо, Лашчанка, Эрэнкрэйца ды Пташыцкага. І Лаппо ў сваім артыкуле „Litewský Statut, a jeho sankce w r. 1588“, надрукаваным у чэскай юрыдычнай часопісі „Sbornik vĕd práwnich a státnich“, 1922 г. № 1, даводзіць, што III Статут ня быў санкцыянаваны соймам (прынятая ў навуцы думка Леантовіча), а нададзены ледзь прывілеем караля. Я. Адамус, нагадваючы, што першы выказаў гэты погляд Пташыцкі, а Лаппо яго паглыбіў і разьвіў, з поглядам гэтым згаджаецца. Але ён востра полемізуе з Лаппо, калі гэты лічыць III Статут за нарушэньне норм Люблінскай вуніі і за конституцыю Літвы. Адамус думае, што ніякага нарушэньня вуніі ня было, таму што па закону кароль мог сам бяз сойму зацьвярджаць судовую рэформу; за такую судовую рэформу і трэба лічыць статут 1588 году. Бясспрэчна, аўтар знайшоў цікавае тлумачэньне каралеўскага прывілею і яго законнасьці. Але гэта ўсё-ж такі не пераконвае, бо ёсьць тут бясспрэчная юрыдычная нацяжка. Аджа статут ёсьць ня толькі працэсуальны кодэкс, але зьмяшчае ў сабе шэраг дзяржаўнапраўных норм. Нядаўна яшчэ ясьней і выразьней, чым Лаппо, паказаў і падкрэсьліў конституцыйнае значэньне для Вял. Княства Літоўскага гэтага кодэксу беларускі вучоны В. Дружчыц у артыкуле „Палажэньне Літоўска-Беларускае дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі“. Таму трэба хутчэй згадзіцца з Лаппо, што ёсьць тут пэўнае нарушэньне вуніі.

Рэзка крытыкуе аўтар артыкул украінскага вучонага Р. Лашчанка „Літовський Статут, яко памятник українського права“. Рабоце гэтага вучонага прыпісвае аўтар тэндэнцыйнасьць

і несамастойнасьць вынікаў і думае, што можа яна зрабіць шкодны ўплыў на новую навуку гісторыі украінскага права. „Надта лёгка, кажа Адамус, падставіць у творах расійскіх вучоных замест слова „русский“ слова „украінскі“ ды заанэксаваць усё літоўскае права да ўжываньня права украінскага“ (с. 20). Дакор, бясспрэчна, важлівы, і думаецца, што сваім спрошчаным падходам (яго не выракаецца проф. Лашчанка і ў пазьнейшых творах, хоць-бы ў другой частцы сваіх „Копных судоў“) проф. Лашчанка зрабіў дрэнную паслугу украінскай навуцы. Бо, сапраўды, занадта ўжо лёгка і занадта ўжо проста замяніць слова „русский“ словам „украінскі“ і забыць, што „рускімі“ зваліся і беларусы. Адамус згаджаецца што Руская Праўда ёсьць хутчэй за ўсё помнік украінскага права „ня пэўна толькі тое, на якіх землях яна абавязвала (ці толькі на Кіеўшчыне, ці таксама на ўсіх землях этнографічна і моўна русінскіх (русінамі і маларосамі называе Адамус украінцаў, гэта на яго кніжцы адценьне украінафобства. *Л. О.*), ці таксама нават па-за гэты абшар этнографічна русінскі). Няясна таксама, як доўга абавязвала Руская Праўда“ (с. 20). Усё-ж такі дасьледваньні Рускае Праўды аўтар згаджаецца пакінуць праву украінскаму. Ясна, што тут пастаўлена цікавая проблема. Аджа абшар пашырэньня Рускай Праўды няясны. Пэўныя адзнакі яе з беларускаю „Смаленскай Праўдай“ (дагавор 1229—30 г. г.) кажуць за тое, што ў беларускіх землях маглі быць свае, хоць і падобныя, нормы. Але нормы старажытных помнікаў і старых звычаяў раз-по-разу надзвычайна падобныя, хоць і творацца самастойна. Як доўга абавязвала Руская Праўда ў украінскіх землях таксама няясна, магчыма, што да татарскага находу. Трэба думаць, што некаторую ролю для вырашэньня проблемы пра раён распаўсюджаньня Рускае. Праўды магло-б адыграць дэтальнае дасьледваньне норм мясцовых прывілеяў вялікага княства Літоўскага і параўнаньне гэтых норм з Рускай Праўдай. Адамус спыняецца яшчэ над пытаньнем, „якія адзнакі былі паміж правам зямель моўна маларускіх і правам зямель моўна беларускіх, ці магчыма гутарка пра права маларускае (украінскае) і беларускае ці пра адзінае наогул рускае права. Калі-б мы побач з гэтым змаглі нарысаваць права пляменьняў літоўскіх,—знайшлі-б мы трэці (ці другі, залежна ад вынікаў) элемэнт пазьнейшага права вялікага княства Літоўскага“. Аўтар сумняваецца, ці навука гісторыі украінскага права „мае займацца правам цэлай заходняй часткі рускіх пляменьняў, ці мажлівым, хоць і ня пэўна, правам украінскім (маларускім, русінскім)“ (с. с. 20—21). Аўтару гэтых радкоў ужо даводзілася ставіць гэтае пытаньне і адказваць на яго. Думаецца, што чарговае заданьне гісторыі беларускага права і гісторыі украінскага права ёсьць у намячэньні асобных норм і іх адзнак у праве розных народаў, якія ўваходзілі ў вял. княства Літоўскае. Адзнакі гэтыя ў пэўных рысах паметныя (яны не маглі ня быць, асабліва ў XIV, XV ст. ст., але маглі быць і пазьней), але над імі дагэтуль спэцыяльна ня спыняліся. Відавочна, такое дасьледваньне мае ісьці па лініі разгляду і параўнаньня норм провінцыяльных прывілеяў, а таксама ў дасьледваньні адзнак у судовай практыцы мясцовых судоў. Навука, напр., гісторыі беларускага права ў першую чаргу мае дасьледваць мясцовыя нормы і інстытуты беларускіх земель, а таксама будзе яна займацца нормамі і ўстановамі, супольнымі для ўсіх трох нацый (напр., цэнтральныя ўстановы), якія, апроч яе, будуць вывучаць, як сваё мінулае, і украінскія і літоўскія вучоныя. Ніякай анэксіі апошніх норм для аднаго народу быць ня можа, а няўдатная спроба яе проф. Лашчанкам сустрэла суровую крытыку шмат

якіх вучоных. Я. Адамус настолькі лічыць украінскае (вось-жа і беларускае) права за „няпэўнае“, што прапануе ўсё-ж такі пакінуць старую назву „літоўска-рускае“ права. Ня будзем тут з ім полемізаваць. Значная работа вядзецца цяпер па вывучэньню гісторыі украінскага і беларускага права. Некаторыя вынікі яе ўжо цяпер ёсьць, шмат што будзе зроблена за бліжэйшыя гады. Калі вынікі гэтае працы дадуць матэрыялы для пацьвярджэньня вышэйнаведзеных нашых поглядаў, дык тыя, што маюць вочы—пабачаць. Не пабачаць, бо не захочуць бачыць, толькі тыя, што не захочуць лічыцца з об'ектыўнай ісьцінай у імя сваіх нацыянальных перакананьняў і інтарэсаў. Думаецца, што з разьвіцьцём нашых навук урэшце давядзецца лічыцца і ім.

Некаторых з пастаўленых тут проблем Адамус датыкаецца, калі кажа пра артыкул віленскага польскага вучонага Эрэнкрэйца „Stan badań nad Statutami litewskimi“. Тут ён кажа, што трэба паставіць пытаньне пра нацыянальнае пахаджэньне „літоўска-рускага“ права. Адна падобнасьць Рускае Праўды да Статуту яшчэ ня кажа пра тое, што яна была яго крыніцай. Калі ўкладалі Літоўскі Статут, пра Рускую Праўду наўрад ці помнілі. Жыцьцё ішло ўперад і ад Рускае Праўды да Статуту ўтварыла шэраг новых норм і новых праваадносін. „Калі злучаліся тры этнографічныя комплексы (літоўскі, беларускі і маларускі) у адну дзяржаву, былі на яе землях дзьве ці нават тры юрыдычных сыстэмы, паколькі захочам прызнаць, што кожная этнографічная група стварыла сваю асобную юрыдычную сыстэму, і паколькі не захочам прызнаць, што ў кожным з гэтых краёў існавалі далей разьвітыя партыкулярызмы“ (с. 25). Аўтар цалкам справядліва спрачаецца супроць недаацэньваньня ўласна-літоўскага права. Прысваеньне праўных норм ішло, на яго погляд, трыма шляхамі: 1. Пэўнае палажэньне вядомае было як на Літве, дык і на Русі, і вялікае княства мела толькі сьцьвердзіць гэтае адзінства; 2. Пры адменных нормах уніфікацыйная дзейнасьць рэцыпіравала: а) норму рускую, ці б) норму літоўскую бяз зьмен; 3. Альбо ішло да замены дзьвёх супярэчных норм нормай трэцяй, сярэдняй. Апроч таго, маглі нарадзіцца новыя нормы, такія, якія ня былі вядомы ні старому рускаму праву, ні этнографічна літоўскаму. Вось-жа гэта была-б група чацьвертая, якая, апроч трэцяй групы, магла-б утварыць нормы, якія тварылі культурны здабытак вялікага княства і дзеля гэтага не належаць ужо да праў яго этнографічных груп“ (с. 25). Тут у цэлым вернай мысьлі абмылковая мова пра супольнае „рускае“ права. Нормы-ж, што тварыліся, як нормы новыя, таксама маглі, пападаючы на глебу асаблівых адносін асобных тэрыторый і нацый, у свой чарод мяняцца і тварыць сабой якраз здабытак таго ці іншага мясцовага нацыянальнага права. Шлях тварэньня сярэдняе нормы пры супярэчных нормах асобных нацый даволі няпэўны, хутчэй тут бывала ўсё-ж такі рэцэпцыя аднэй з гэтых норм, альбо заставаліся пры старым партыкулярызьме—яго ведалі і з ім лічыліся і цэнтральныя суды, што судзілі па мясцоваму праву старон—партыкулярызьме, што пазьней ступянёва зьнікаў пад уплывам агульных пісаных законаў.

Нацыянальнае пахаджэньне тых ці іншых юрыдычных норм аўтар думае дасьледваць так: „трэба ўстанавіць: 1) норму этнографічна літоўскую, 2) норму рускую (ці, магчыма, нормы рускія), 3) норму дзяржаўна-літоўскую. Толькі тады будзем ведаць, да якой з вышэйназваных груп давядзецца аднесьці юрыдычную норму XVI стагодзьдзя. Пераважна ведаем, альбо пазнаць можам у большасьці выпадкаў, норму дзяржаўна літоўскую, але затое пераважна ня ве-

даем норм літоўскіх ды рускіх плямён. У апошнім здарэньні задачу не пашанцавала-б вырашыць. Немагчыма было-б вырашыць задачу, калі, апроч Статуту, будзем ведаць, напр., норму рускую, а ня будзем ведаць, ці ня ведалі такой-жа нормы і самі літоўцы (група І з вышэйназваных). Але наша задача будзе магчымая, калі будзем ведаць усе тры элемэнты, якія нам давядзецца параўнаць (с. с. 25—26). Мысьль справядлівая, калі толькі ўнясьці ў яе корэктыў ды гаварыць адразу не пра 3 элемэнты (літоўскі, „рускі", і агульна-дзяржаўны), а пра 4, бо „рускі" элемэнт трэба раскласьці на нацыі, што ўваходзілі ў яго—украінцы ды беларусы—ды асобна прасачыць нормы украінскіх зямель і нормы зямель беларускіх. Наогул-жа ў гэтым пытаньні трэба мець на ўвазе пэўную пэрыодызацыю. У розныя пэрыоды нормы нацыянальныя былі не ў аднолькавых адносінах паміж сабою. Калі ў XIV—XV ст. ст. мы, відавочна, будзем мець справу з асобнымі сыстэмамі нацыянальных юрыдычных норм (а магчыма і з сыстэмамі норм асобных зямель), дык у XVII—XVIII ст. ст. будуць цалкам пераважваць нормы агульна-дзяржаўныя, а нормы мясцовыя застануцца ледзь у форме партыкулярызму мясцовых звычаяў[1]).

Апроч таго, пасьля 1569 г., пасьля Люблінскае вуніі для права вял. княства Літоўскага ўжо ня будзе патрэбнасьці раскладаць „рускія" нормы на нацыянальныя групы, бо з гэтага часу землі украінскія адышлі да Польшчы, і „рускія" землі ўжо цяпер—землі беларускія.

Далей Я. Адамус кажа пра ўплывы польскага права на права вял. княства Літоўскага, уплывы нясумненна бясспрэчныя. Алемусім сказаць, што аўтар іх вельмі перавялічвае, калі кажа, што „падобнасьць права літоўскага з коронным (г. зн. польскім. *Л. О.*) творыць магчыма галоўны зьмест статутаў, а не кодыфікацыя так званага звычаёвага рускага права" (с. с. 26—27). Прысваеньне Статутам звычаёвых норм беларускіх і украінскіх зямель у навуцы ўжо даводзілася (хоць і не рабілася пры гэтым спроб дасьледваць, права якіх іменна плямён ды тэрыторый прысвайваў Статут) і адмаўленьне гэтага Адамусам бязгрунтоўнае. А ўплыў польскага права, што мэрам-бы пераважала права звычаёвае—надта перавялічаны. Нам, да таго-ж, думаецца, што немагчыма гаварыць агульна пра польскі ўплыў у „Статуце". Аджа пад назваю „Статут" разумеюць тры юрыдычных помнікі—кодэксы 1529, 1566 і 1588 г. г. І калі ў III Статуце ўплыў польскага права наяўны і ясны, дык І Статут абапіраецца якраз пераважна на звычаёвае права судовае практыкі вялікага княства Літоўскага.

З уплыву польскага права выводзіць Адамус вынік, што Літоўскае права трэба разьбіць на дзьве часткі. Адна з іх аднасіцьмецца да эпохі, калі ўплыў польскага права быў невялікі, і другая—эпоха гэтага ўплыву. „Абедзьве гэтыя проблемы ёсьць у слабай сувязі паміж сабою, хоць, аднак, і злучаюцца на глебе аднэй навукі. Адну з іх можна было-б назваць проблемай права *літоўска-рускага*, другую—права літоўскага, як *партыкулярнага польскага права* (падкрэсьліваньне аўтара). Калі першая ёсьць хутчэй дэзідэратам і плянам, дык другая ёсьць сапраўдная навуковая рачаіснасьць. З адзінай дагэтуль навукі літоўскага права могуць зрабіцца дзьве дысцыпліны, што будуць адрозьнівацца мэтамі ды мэтодамі. Адна будзе толькі мець справу з азначэньнем нацыянальнасьці папярэднікаў літоўскага права, другая будзе цалкам далёкая ад гэтай проблемы" (с. 27). З гэтай мысьлю ніяк ня можам згадзіцца. Навука разаб'ецца цяпер de facto, але не на

[1]) XVI стагодзьдзе, пра якое кажа Адамус,—эпоха пераходная, пераломная.

тыя групы, на якія яе хоча падзяліць польскі вучоны. Яна разаб'ецца на дасьледваньні літоўскага, украінскага і беларускага права. Вось-жа будзе 3 навукі. Яны будуць пачынаць свае дасьледваньні ад першых часоў, ад якіх засталіся крыніцы, па якіх магчыма прасачыць юрыдычныя нормы (значыцца, для беларускага і украінскага права княская эпоха) і ад якіх маюць вясьці далей лінію разьвіцьця гэтага права ў вял. княстве Літоўскім і далей. Для беларускага і літоўскага гэта далейшая эпоха ёсьць эпоха Люблінскае вуніі і моцных уплываў польскіх норм, для украінскага — эпоха перабываньня пад Польшчай (1569—1648 г. г.) і эпоха рэнэсансу украінскае дзяржаўнасьці ў дзяржаве казацкай (і на Беларусі была спроба ўтварэньня казацкае організацыі; пра яе мы пісалі ў „Полымі“). Пасьля 1569 г. вялікае княства Літоўскае ды Украіна маюць свой асобны кодэкс—Літоўскі Статут увесь час перабываньня ў вуніі з Польшчай. Значыцца пра гэты пэрыод магчыма гаварыць толькі пра большыя ўплывы польскіх установ і норм, але немагчыма ўсё мясцовае права лічыць польскім, паколькі асновы яго і галоўны пісаны кодэкс былі ня польскія. Вось-жа ўвесь гэты погляд польскага вучонага няпраўдзівы ды напяты для пэўнай концэпцыі польскае навукі.

Урэшце, яшчэ артыкул Пташыцкага „Nieco o trzecim Statucie Litewskim“ разглядае Я. Адамус. Ён полемізуе з гэтым вучоным, які думае, што III Статут быў адразу выданы і „рускай“ і польскай мовамі. Я. Адамус справядліва кажа, што на польскую мову III Статут быў ужо пасьля перакладзены, а аўтэнтычны тэкст— гэта тэкст „рускі“. Даводзіць гэта ён цытатай з Льва Сапегі.

3-ці артыкул „Zagadnień“ прысьвечаны пытаньню, паколькі канстытуцыі супольных соймаў пасьля 1569 г. мелі сілу і ў вялікім княстве Літоўскім. Тэму гэтую разглядае аўтар у сувязі з вышэй названым артыкулам Пташыцкага ды артыкулам Эрэнкрэйца „Ustawa o ważności zapisów a praktyka sądowa litewska“. Трымаецца аўтар таго-ж погляду, што і Пташыцкі, г. зн., што ўсякая канстытуцыя супольных соймаў мела сілу і на Літве, калі ў ёй толькі ня было спэцыяльна агаворана, што яна на вялікае княства не пашыраецца. Мысьль гэта няпэўная. Адамус ня ўносіць у гэтым пытаньні нічога новага, апроч, ласьне, думкі, што права вялікага княства ёсьць від польскага права (с. 35). Але пра гэта ён ужо вышэй гаварыў.

Наступная заметка прысьвечана „увязаньню (акт перадачы на ўладаньне) у літоўскім праве“. Зьмест яе— полеміка з Эрэнкрэйцам, які думае, што інстытут увязаньня ў літоўскім праве цалкам адменны ад аналёгічнага польскага інстытуту.

Нарэшце пяты і апошні артыкул ёсьць „Некалькі слоў пра копны суд“. Напісан ён з прычыны заметкі польскага этнолёга Ст. Цішэўскага „Południowosłowiańska sprzążką a otarica Ruskiej Prawdy“, умешчанай у кнізе гэтага вучонага „Prace etnologiczne“ t. I. Мы гэтай кнігі ня бачылі. Паводле Я. Адамуса Цішэўскі думае, што заўвага пра „Копу“ ў Рускай Праўдзе ёсьць паказаньне на тагачасны копны суд, а „отарыцу“ Рускае Праўды збліжае з багаўрскай „спряжкай“. Адамус думае, што погляд Цішэўскага цікавы і сьмелы, але сам з ім не згаджаецца. Толькі заўважае, што да гэтага аўтара ніхто яшчэ ня лічыў капу Р. Праўды за таежсамую з капай—суду Літоўскае эпохі. Погляд сапраўды „сьмелы“ і думаецца, што надта ўжо сьмелы. Аджа вывесьці з тэксту шырокае рэдакцыі Р. Праўды, дзе гаворыцца пра тое, што закуп „купу смлеть“ ад гаспадара і што гаспадар здараецца, „уверeдить купу его“, што гутарка ідзе пра копны суд,—надта сьмела. Але такія дылетанцкія „прожэкты“ сустракаліся і раней. Пры-

гадваем, напр., стары артыкул расійскага вучонага Мсьціслаўскага, які даводзіў, што „огніщаны“ Рускае Праўды ёсьць ня больш і ня менш як патомкі мінулых славянскіх князёў (затым, што часам зваліся яны „княжымі мужамі“, г. зн., як зазвычай думаюць, дружыньнікамі). Настолькі-ж сьмелая і бязгрунтоўная мысьль Цішэўскага. Леантовіч шукаў сьлядоў копных судоў у Руск. Праўдзе, але бачыў іх у конах (землях) Р. Праўды. Погляд, хоць і памылковы, але мае ён за сабой хоць некаторыя падставы.

Я. Адамус з прычыны гэтага пытаньня, правёўшы даныя пра копныя суды ў вял. княстве Літоўскім, кажа ў канцы сваёй кніжкі, „што ўвязка літоўскага права з рускім ня ёсьць справа лёгкая і патрабуе многа найсур‘ёзьнейшай працы навукі. Калі гэта думка справядлівая, дык, сапраўды, перад навукай літоўскага права ляжыць яшчэ адна труднасьць. Для перамогі гэтых труднасьцяй трэба інтэнсыўнага і плянавага разьвіцьця навукі (с. 56). Мысьль гэта справядліва тым, што праца гэткая ня латвая. Але ня латвая кожная навуковая задача. Тут-жа мы маем справу з проблемай, якую амаль што не распрацоўвалі. Нешта Леантовіч, Ясінскі... рабілі, але надта ўжо агульна і з некаторымі мэтодолёгічнымі памылкамі. Відавочна з Рускае Праўды магчыма выводзіць толькі інстытуты украінскіх земель ды тых агульна-дзяржаўных норм і ўстаноў, што генэтычна з украінскіх норм выходзілі. Для беларускіх інстытутаў першых крыніц трэба шукаць у юрыдычных помніках Смаленску і Полацку, у мясцовых прывілеях, для літоўскіх—у старадаўнім звычаёвым праве літоўскім. Праца гэтая сапраўды складаная ды нялатвая, але час ужо паставіць яе, як чарговую, навуковую задачу.

Трэба зьвярнуць увагу на адзін бок заметак Я. Адамуса. Да пэўнай меры ён характарны для большае часткі гістарычна-юрыдычных твораў цяперашняе польскае навукі. Гэта — адсутнасьць соцыолёгічнага асьвятленьня юрыдычных норм ды інстытутаў і дасьледваньня іх у сувязі з соцыяльна-экономічным становішчам данае эпохі. Зусім няма гэтага ў заметках Я. Адамуса. А якраз для яго гэткая сувязь была-б абсолютна патрэбна таму, што рэцэпцыя польскага права і тлумачыцца экономічным узростам вялікага княства Літоўскага. З пашырэньнем грашовае гаспадаркі, з разьвіцьцём гандлёвага звароту ў сувязі з разьвіцьцём гандлёвага капіталізму павінны былі зьменьвацца, дапасоўвацца да новага становішча спраў і юрыдычныя нормы. З Польшчы, што стаяла на вышэйшай ступені экономічнага разьвіцьця, таму і пазычаліся праўныя інстытуты, што яны лепей адпавядалі новым формам гаспадаркі. Гэтым-жа тлумачыцца і прысваеньне дзяржаўных інстытутаў; а таксама і самая Люблінская вунія, абмоўленая перамогай сярэдняга зямляўладаньня, зямляўладаньне шляхты над буйным зямляўладаньнем магнатаў; першае, злучаючыся з шляхецкай Польшчай, замацоўвала свае палітычныя і экономічныя позыцыі. Усяго гэтага ня бачыць Адамус. Ня бачыць ён і таго, што праводнікам такой рэцэпцыі польскіх норм была пераважна судовая практыка, што латвей дапасоўвалася да конкрэтных акалічнасьцяй жыцьця, чым агульна-дзяржаўныя законы — конціітуцыі.

Мы падрабязна спыніліся на кнізе польскага вучонага, бо яна важлівая ў мэтодолёгічным значэньні. У ёй мы бачым тэндэнцыйны падход да навук гісторыі украінскага і беларускага права, памылковую ацэнку права XVI—XVIII ст. ст., як права польскага, адсутнасьць соцыолёгічнага асьвятленьня. Аднак важлівыя думкі аўтара пра дасьледваньне асобных элемэнтаў „літоўска-рускага права; думкі гэтыя даюць шэраг ціка-

вых даных. У іх трэба абавязкова ўнесьці той корэктыў, што і „рускае“ права трэба раскласьці на яго элемэнты—права беларускіх ды украінскіх зямель. Такую мысьль аўтару гэтых радкоў ужо неаднойчы прыходзілася выказваць.

**Л. Окіншэвіч.**

**І. Свенціцкий.—Розквіт культурно-національного життя Східної Білоруси.** *Львів. 1928. Стар. 41.*

Дваццаць год таму назад зьявілася была першая кніжачка І. Свенціцкого пад назваю „Відродження білоруського письменства“. Сустрэлі яе на Беларусі розна: польска-шляхэцкія і чыноўніцкія колы варожа, бо „што можа быць цікавага на „мужычай“ мове?“; у Вільні, у рэдакцыі „Нашае Нівы“, і ў Ленінградзе (тады—Пецярбурзе) беларусы спаткалі яе з радасьцю. У часе рэволюцыі гэтая праца ў перакладзе на расійскую мову ўвайшла ў Янчукоў „Сборник белоруссоведения“.

Мінулася дваццаць год. Зьмяніліся ўмовы жыцьця, зьмяніліся дзяржаўныя лады ў шмат якіх краінах. Зьявілася магчымасьць разьвіцьця для розных, раней прыгнечаных, нацыянальнасьцяй. Асабліва добрыя ўмовы для гэтых нацыянальнасьцяй стварыліся пры савецкай уладзе. Сярод іншых пачало шпарка разьвівацца і беларускае культурнае жыцьцё.

І калі дваццаць год таму назад І. Свенціцкий, вядомы культурны дзеяч Зах. Украіны, пісаў пра адраджэньне беларускага пісьменьніцтва, дык зараз ён мае поўнае права пісаць пра росквіт культурна-нацыянальнага жыцьця Беларусі „На ўсходзе росквіт гэты ёсьць яўны і з вялікім размахам, на захадзе стрыманы мінютнымі ўмовамі палітычнага жыцьця“.

Рэцэнзаваная брошура мае наступныя разьдзелы: Дваццаць год таму назад; „Менск“—„Вільня“—„Львоў“; Нерашучасьць і ваганьні ў справе самавызначэньня; Тыпы жыцьця ў пісьменьніцтве; Космічныя проблемы ў літаратуры; Вяшчункі новага жыцьця; Супольныя пытаньні ў пісьменьніцтве; Дасягненьні закончанае рэволюцыі і Два сонцы беларускага пісьменьніцтва.

Што было дваццаць год назад—пра гэта было вышэй. Што ёсьць зараз?—Нацыянальнае прыгнечаньне там, дзе пануюць „соцыялістыя“ з II Інтэрнацыяналу, і поўная роўнасьць нацый там, дзе пануе III Інтэрнацыянал. Да гэткіх вывадаў даходзіць І. Свенціцкий, і ён мае рацыю; яму самому прышлося бачыць, як праводзяць нацыянальнае пытаньне ў Польшчы, Усх. Украіне. І дзеля таго ён параўноўвае Менск—Вільня—Львоў.

Што можна бачыць з гэткага параўнаньня?

Менск.—Жыцьцё шпаркімі крокамі сягае наперад. Тут будуе сваё ўласнае жыцьцё беларус. Поруч з ім, як роўны з роўным, крочыць паляк. На Сав. Беларусі раскіданы польскія школы, польскія сельсаветы, ёсьць тэхнікум. Пры Інбелкульце—польскі аддзел.

А ў Вільні?—„Беларуская гімназія, беларускі музэй, беларускае навуковае таварыства ня маюць ані якіх праў, памяшканьня, сродкаў“. Амаль тое самае і ў Львове. „Права нацыянальнага самавызначэньня выяўлена на цэлым прастору ад Вільні да Стыру і Бугу-Сяну, але... польскімі школамі, польскімі настаўнікамі, што нават двох сказаў пабеларуску, або паукраінску ня ўмеюць без памылкі сказаць“. Поўную процілегласьць гэтаму мы маем у Савецкім Саюзе.

Гэтак піша І. Свенціцкий, прычым адзначае, што ў процэсе нацыянальнага самавызначэньня бывае шмат ваганьняў. Ад гэтага ён і пераходзіць да разгляду тыпаў жыцьця ў пісьменьніцтве. У першую чаргу ідуць творы, якія адпавядаюць толькі што выказаным думкам. Тут і „Дзьве душы“—Зарэцкага, „Непатрэбны чалавек“—М. Чарота, „Адам Залес“—Хурсіка ды інш.

Далей разьбіраюцца косьмічныя проблемы ў нашай літаратуры, і нарэшце аўтар пераходзіць да новага жыцьця.

Сьвядомасьць надыходу новага жыцьця аўтар бачыць у беларускай літаратуры яшчэ задоўга наперад. Гэта можна бачыць у Я. Купалы ў вершы „Там“ (1907 г.), у творах К. Буйлы (1914 г.). І гэтае жыцьцё зараз крынічыць, б'е поўным пульсам.

Свенціцкий пералічае ўсіх тых, хто творыць гэтае новае жыцьцё ў нашай літаратуры. Тут Цішка Гартны—„публіцысты рэволюцыі, вяшчун новага жыцьця“; тут Зьмітрок Бядуля (Ясакар) — „поэта-грамадзянін, пясьняр беднаты і прыгнечанай краіны“; тут Зарэцкі, Чарот, Чорны і шмат іншых. Тут нашы былыя пясьняркі—Канстанцыя Буйло і Цётка (Пашкевіч), і новыя, маладыя пісьменьніцы,—Іда Чырвань, Бандарына, Вішнеўская і Пфляумбаум.

І над усім гэтым—Янка Купала ды Якуб Колас, іх жыцьцё і праца, іх каханьне да роднае Беларусі.

Гэтак піша ў сваёй кніжацы І. Свенціцкий. Ён датыкаецца і іншых галін культурнага жыцьця Сав. Беларусі, але найбольш спыняецца на літаратуры.

Падаючы весткі аб беларускай культуры ды яе разьвіцьці, аўтар увесь час параўноўвае іх са станам культуры Ўсх. Украіны, і станам тае і другое ў Польшчы. Параўнаньне гэта далёка ня спрыяе панскай Польшчы, дзе пануюць прыгнечаньне ды ўціск.

Кніжка гэтая, напісаная бесстароньне, зьяўляецца значным укладам у літаратуру а Беларусі. Сярод цэлае сэрыі артыкулаў і кніжок, якія мы маем зараз а Беларусі наогул на украінскай мове, праца І. Свенціцкого зьяўляецца аднэй з лепшых і прыхільных да нас.

**Яз. Бараноўскі.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў**

* Інбелкульт вядзе падрыхтоўчую работу да сьвяткаваньня *дваццацігадовага юбілею літаратурнай дзейнасьці вядомага беларускага пролетарскага пісьменьніка Цішкі Гартнага (З. Жылуновіча)*. Да юбілею будзе выдана кніга „Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы“. Рыхтуюцца таксама да адзначэньня юбілею Цішкі Гартнага беларускія эспэрантыстыя, якія маюць намер выдаць на эспэранцкай мове нарысы літаратурнай дзейнасьці, а таксама і перакладныя творы юбіляра—Цішкі Гартнага.

* *Міхайла Грамыка* зараз піша п'есу новай формы (поэма-драма) пад назвай „Салоны хвалі“ з сучаснага жыцьця Заходняй Беларусі.

* *Янка Маўр* заканчвае новы прыгодніцкі роман з часу апошняга паўстаньня на Яве. Паміж іншым, матэрыялы для роману атрымліваліся аўтарам праз эспэрантыстых непасрэдна з Явы і Голяндыі.

* *Міхась Чарот* зараз канчае перапрацоўку лібрэта музычнай драмы „На Купальле“. Будзе напісаны нанова яшчэ адзін першы акт (было тры акты), пасьля чаго беларускі композытар М. Аладаў будзе пісаць новую і перапрацоўваць старую музыку з захаваньнем ранейшай мэлёдыі.

„На Купальле“ будзе пастаўлена ў адзнаку дзесятых угодак існаваньня БДТ-1, як савецкага беларускага тэатру.

* *Ал. Салагуб*, сядзеўшы ў Лукішках (Заходняя Беларусь), напісаў п'есу ў 3-х актах „Вясельле“. У п'есе малюецца быт беларусаў, звычаі на вясельлі; пачатак організацыі „Грамады“. Гэты-ж аўтар напсаў новае апавяданьне „У інтэрнаце“ з жыцьця вучнёўскай моладзі Заходняй Беларусі.

* *М. Нікановіч* канчае вялікі роман у 8 частках „Заклятае шчасьце“. У романе аўтар адбівае жыцьцё і падзеі сучаснай савецкай беларускай вёскі. Роман будзе друкавацца ў „Полымі“.

Адначасна гэтым-жа аўтарам падрыхтаваны да друку новы зборнік апавяданьняў „У палявых дарогах“.

* *Я. Ліманоўскі* рыхтуе і ў хуткім час здае Белдзяржвыдавецтву ў друк зборнік сваіх твораў.

* *М. Сцэнковічам* (Заходняя Беларусь) перароблены для сцэны вершы Янкі Купалы „На куцьцю“ і выданы як абразок у адным акце.

* *Андрэй Александровіч* напісаў новы вершаваны роман пад назвай „Нараджэньне чалавека“. Роман будзе друкавацца ў бліжэйшых нумарох „Полымя“.

* *М. Касьпяровіч* напісаў кнігу аб творчасьці беларускага пісьменьніка Каганца. Каб атрымаць больш падрабязны матэрыял аб пісьменьніку, т. Касьпяровіч зьбірае матэрыялы, запісаныя аб Каганцу яго прыяцелем Багданам ды інш.

Апроч гэтага, Койданаўскае краязнаўчае т-ва зьбірае ўспаміны сялян аб Каганцу, які жыў у мястэчку доўгі час.

* На працягу сакавіка—жніўня месяцаў Менскай філіяй „Маладняка“

наладжана было 15 літаратурных вечарын.

Вечарыны ў пераважнасьці наладжваліся ў рабочых клюбах.

Абслужана звыш 4.000 слухачоў.

* ЦБ краязнаўства зьвярнулася да старога беларускага дзеяча з нашаніўскай эпохі, Лявона Гвозда, які зараз знаходзіцца ва Ўладывастоку, напісаць свае ўспаміны аб сваёй дзейнасьці і аб усіх тых беларускіх культурніках, з якімі яму даводзілася сустракацца.

* На апошнім пасяджэньні ЦБ „Маладняка“ па пытаньні аб удзеле ў сьвяткаваньні 10-леьця БССР, ухвалена зьвярнуць увагу ўсіх сяброў „Маладняка“ на тое, каб яны адбілі ў сваёй творчасьці героічны шлях БССР за 10 гадоў.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* У Менску распачаў зімовы сэзон з верасьня г.г. Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр пад кіраўніцтвам Ул. Галубка.

Першая пастаноўка адбылася 8-га верасьня ў Доме Працасьветы. Характар вечару быў концэртны. Апроч п'есы ў 1-й дзеі „Бабы ліхадзейкі“ адбыўся вялікі концэрт у 2 частках. У рэпэртуары хору вызначаліся новыя сьпевы, якія зрабілі добрае ўражаньне на слухача. Таксама трэба адзначыць добрае выкананьне беларускіх нацыянальных танцаў, асабліва танец „Лубок“.

У тэатры будзе працаваць новы рэжысэр, артысты з Харкава, Станкевіч, аўтар п'ес з сучаснага жыцьця Заходняй Беларусі, як, напр., „Провокатар“, драма ў 5-ці актах. „Шляхам Кастрычніка“, драма ў 3-х актах ды інш.

* Белдзяржкіно даручыла вядомаму рэжысэру Ю. Тарычу і пісьменьніку В. Шклоўскаму распрацаваць сцэнары „Дьявол“ па аповесьці Л. М. Толстога. БДК будзе ставіць гэтую фільму супольна з нямецкай кінэматографічнай фірмай „Хом-Фільм“.

* Прыехаўшы з Адэсы новы балетмайстар БДТ-1 т. Сямёнаў пачаў працу над інтэрмэдыяй да п'есы „Мешчанін-дваранін“. П'еса пойдзе ў пераапрацованым выглядзе ў гэтым сэзоне.

* У мінулым годзе сіламі саміх слухачоў опэрнай клясы Белмузтэхнікуму была пастаўлена толькі адна опэра, цяпер-жа ў наступным годзе мае быць пастаўлена 6 опэр: „Евгений Онегин“—пастановачная работа над гэтай опэрай ужо пачата, „Русалка“, „Тарас на Парнасе“ музыка Аладава, „Сэвільскі Цырульнік“, „Галька і Даліна“. Тэкст опэр перакладзены на беларускую мову.

У гэтым годзе ў Белмузтэхнікуме пашыраецца інструктарскае і композытарскае аддзяленьні. У тэхнікум запрашаюцца новыя сілы. З Адэсы прыяжджае на сталую працу ў музтэхнікум вядомы музычны дзеяч проф. Словачэўскі, запрошан таксама ў тэхнікум вядомы кіраўнік ковенскай опэры Букшэй.

Опэрная кляса музтэхнікуму значна пашырае сваю работу. Вядуцца перагаворы аб запрашэньні на працу ў якасьці дырыжэраў опэрнай клясы вядомага дырыжэра былога Марыінскага тэатру ў Ленінградзе Похітонава і дырыжэра харкаўскай опэры Міхайлава.

Працу над опэрнымі пастаноўкамі Белмузтэхнікум увязвае з БДТ-1, які будзе дапамагаць тэхнічнай справай, дэкорацыямі і інш.

З 1929-30 г. у Белмузтэхнікуме прадугледжваецца арганізацыя опэрнай студыі.

* Выехала ў Гомель здымачная група для здымкаў фільмы „Хвоі шумяць“ (Атаман Аса) паводле сцэнарыя Вольнага і Дзяржавіна.

Фільм будзе здымацца ў гор. Гомлі.

Гомельскі палац б. графа Паскевіча-Эрыванскага, князя варшаўскага ня горшы за тыя палацы, якія знаходзяцца пад Ленінградам і якія да

гэтага часу выкарыстоўваліся для здымкаў некаторых нашых фільм. Палац, парк, Сож, выспа „Мельнікаў Луг“, лясы, усе суседнія беларускія вёскі—сярод іх будзе зроблена фільма „Хвоі шумяць“.

Зьмест фільмы: героіка паўстаўшай Беларусі ў барацьбе за волю, рэвалюцыйная романтыка нашага нядаўнага мінулага. Фільма будзе зроблена ў разрэзе прыгодніцкім. У фільме будуць здымацца некалькі беларускіх артыстаў (БДТ-1 і БДТ-2).

Рэжысэр фільмы б. рэжысэр „Межрабпом Русь“ т. Л. М. Малчанаў.

* БДТ-1 распачне свой тэатральны сэзон п'есай Міровіча „Верацёны сьпяваюць“. Тэатр запрасіў для пастаноўкі гэтай п'есы рэжысэра МГСПС т. Вінэра і мастака т. Волкава.

Зараз тэатр рамантуецца як знадворку, так і ўнутры. Сцэна будзе рухавая а бакавыя лёжы будуць зьнішчаны; будзе павялічаны лік крэслаў. Застаецца ўсяго 4 лёжы.

* Драматычная кляса Белмузтэхнікуму з гэтага году перадаецца 1-му Белдзяржтэатру, як сталая драматычная студыя накшталт былой маскоўскай, з якой стварыўся БДТ-2. Акрамя рэжысэраў БДТ-1 Міровіча і Сьмянава, для работы ў студыі запрашаецца яшчэ шэраг новых выкладчыкаў. Студыя разьлічана на 35 ч. Частцы студыйцаў мяркуецца выдаць стыпэндыі.

* Гэтымі днямі ў Белдзяржмузэй прадставілі свае мастацкія работы мастакі: Грубэ—вялікую монумэнтальную скульптуру „Праца“, Бразэр—малюнак „Пры маслабойцы“, Кастэлянскі—„На сенажаці ў яўрэйскай колёніі“. Прадставілі таксама работы мастакі Станюта, Гусеў і Галубкіна. Для ацэнкі гэтых карцін Белдзяржмузэй склаў спэцыяльную камісію, у якую ўваходзяць прадстаўнікі Галоўнавукі, Інбелкульту, Белдзяржмузэю, саюзу Рабіс і ўсебеларускага аб'яднаньня мастакоў. Спазьніліся з прысылкаю віцебскія мастакі Волкаў і Эндэ.

* З будучага году будуць распачаты вялікія работы па пабудаве ў Менску новага будынку для дзяржаўных тэатраў. На гэту мэту пакуль вызначаецца 50.000 р. Галоўнавука мяркуе закончыць работы па пабудове новага будынку на працягу трох год. Агульны кошт будынкаў вызначаецца ў 1.350 тыс. р. Саля для гледачоў будзе разьлічана на 1.500 чал.

* У Менск прыехаў з Масквы рэжысэр тэатру МГСПС тав. Вінэр для пастаноўкі ў 1-м Белдзяржтэатры п'есы „Бронепоезд“. Падрыхтоўчая работа да гэтай п'есы праведзена рэжысэрам - інспэктарам Камэрнага Маскоўскага Тэатру тав. Сьмяянавым.

Тав. Вінэр вядомы, як таленавіты рэжысэр. У тэатры МГСПС ім пастаўлены п'есы „Луна слева“ і „На лясох“. Ён зьяўляецца вучнем школы Мэерхольда.

Нядаўна прыэхалі з Адэсы ў Менск балетмайстар тав. Сямёнаў, салістка балету Л. Брэвы і мастак тэатру МГСПС т. Волкаў, які афармляў п'есу „Рэйкі гудуць“. Тав. Волкаў будзе афармляць „Бронепоезд“. Макет па яго эскізу ўжо зроблены мастаком маскоўскага камэрнага тэатру Федосьевым. У сучасны момант ідзе падрыхтоўка па організацыі гледача.

Адкрыцьце сэзону адбудзецца не пазьней 15-га кастрычніка п'есай тав. Міровіча „Загудуць гудкі, запяюць верацёны“, П'еса ўжо ў рабоце і атрымала поўную ўхвалу Галоўліту ды інш. органаў. Макет для гэтай п'есы зроблены мастаком Федосьевым. Ставіць сам аўтар. Пастаноўка будзе на рухомай сцэне. П'еса адбівае сучаснае жыцьцё беларускай фабрыкі, у прыватнасьці ткацкай.

* Галоўмастацтва пры Нар. Кам. Асьветы зараз вырашае пытаньне аб аб'яднаньні оркэстру БДТ-1 з музычнай часткай Белдзяржмузтэхнікуму. Паводле проекту дырэктара Купэра гэткае аб'яднаньне дасьць

скарачэньне выдаткаў на 4.500 руб. у год. Проект падтрымлівае саюз мастацтва. Оркестр будзе папоўнен новымі мастацкімі сіламі і будзе абслугоўваць тэатр і музтэхнікум.

* Наркамасьветы вырашана ў станоўчым сэнсе пытаньне аб паступовай рэорганізацыі менскага музтэхнікуму ў консэрваторыю. У 1929—30 годзе пераводзяцца на консэрваторныя пачаткі работы вокальная частка і кляса рояля, а ў 1930—31 годзе клясы скрыпкі і духавых інструмантаў, а з 1931—32 году—усе іншыя клясы. Для выкладаньня ў консэрваторыі будзе запрошаны шэраг выдатных музыкаў.

* Спэцыяльна вызначаная Галоўмастацтвам пры Наркамасьветы камісія з прадстаўнікоў Інбелкульту, I Белдзяржтэатру, Музтэхнікуму і Дзярж. Капэлі ў прысутнасьці намесьнікаў Наркамасьветы т. т. Жылуновіча і Шастакова слухалі сымфонічныя, сьпеўныя ды інш. музычныя творы выдатнага беларускага музычнага дзеяча і композытара М. М. Чуркіна.

Вялікае ўражаньне на камісію зрабіла сымфонія для оркестры з яскрава і living розгастайна распрацаванымі і дасканалымі з тэхнічнага боку тэмамі беларускіх народных сьпеваў. Асабліва цікавая распрацоўка ўступу і rondo. Вельмі каштоўнымі зьяўляюцца гармонізацыі харавых песень. Шматгадовая праца т. Чуркіна па зьбіраньні, вывучэньні і гармонізацыі народнай песьні дала ў яго творах вельмі каштоўны адбітак у сэнсе захаваньня чыстага, непарушнага фольклёру, і нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо на Беларусі т. Чуркін працуе звыш 30 год.

Творы т. Чуркіна перадаюцца ў спэцыяльную камісію па адбору для друкаваньня. Гэтыя творы зьявяцца сапраўдным каштоўным укладам у скарбніцу беларускай культуры і, выдаўшы іх, Дзярж. Выдавецтва зробіць вялікую справу, бо гэтыя творы лепш за ўсе ранейшыя гармонізацыі, дзякуючы сваёй мілагучнасьці, даступнасьці і лёгкасьці, задаволяць той вялікі рэпэртуарны голад, які адчуваюць усе харавыя гурткі Беларусі.

Шмат з гэтых твораў можна скарыстаць, паводле заўвагі дырэктара I Белдзяржтэатру т. Сэляха і дырыжэра таго-ж тэатру т. Купэра, для пастановак у беларускіх тэатрах.

Трэба адзначыць, што т. Чуркін сваю шматгадовую працу аддае бясплатна, як падарунак Наркамату Асьветы.

* Мастак Філіповіч выканаў 7 драўняных фігурак натуралістычна-рэалістычнага кірунку. У сваіх фігурках Філіповіч даў шэрах беларускіх нацыянальных тыпаў, як „Лявоніха з казою", „касец", „жанчына за працаю", „піонэр" і г. д. Фігуркі ад 12 да 16 сант. у вышыню.

* Вандроўны беларускі тэатр „Полымя", організаваны цэнтральным праўленьнем саюзу працаўнікоў зямлі і лесу, апошні свой рэйс зрабіў па Гомельскай акрузе.

За час з 24 чэрвеня да 23 ліпня трупай тэатру зроблена каля 500 вёрст. За гэты час малады тэатр наведаў 11 савгасаў і адно мястэчка, у якіх зроблена 24 пастаноўкі. На пастаноўках тэатру пабывала 3.729 чал., з якіх каля паловы—члены саюзу прац. зямлі і лесу, а рэшта—сялянства і батракі.

* Галоўмастацтва, Наркамасьветы БССР унесла шэраг дадаткаў у пяцігадовы плян будаўніцтва мастацкіх устаноў.

Згодна пляну ў 1929-30 годзе маецца на мэце організаваць тры новых вандроўныя тэатры: яўрэйскі польскі і яшчэ адзін беларускі.

Прадугледжана павялічэньне ліку музычных школ з трох да 8, з такім разьлікам, каб у кожнай акрузе ў працягу 5 год была адчынена адна музычная школа.

У будучым годзе ў Менску організуецца сталы сымфонічны оркестр з 10—15 чал.

Прадугледжана адкрыцьце 5 школ выяўленчага мастацтва.

Вялікія мерапрыемствы будуць праведзены па кінофікацыі Беларусі. Маецца на мэце павялічыць колькасьць кіно-тэатраў па БССР з 11 да 18, а кіно-ўстановак у клюбах з 135 да 252. Новыя кіно-тэтры будуць пабудованы ў Гомлі.

Лік кіно-перасовак будзе павялічаны з такім разрахункам, каб у кожным раёне было ня менш 2 перасовак. Будзе ажыцьцёўлена і кінофікацыя школ, для чаго прадугледжаны водпуск адпаведных сродкаў. Кіно-апараты будуць устаноўлены ў тэхнікумах і некаторых сямігодках.

Кіно-фабрыка Белдзяржкіно ў Ленінградзе будзе даабсталявана і ў 1931—32 годзе пераведзена ў Менск.

У галіне радыёфікацыі маецца на мэце ўставіць радыё ў 240 нардамох і хатах-чытальнях. У 14 паказальных вёсках будуць устаноўлены прыёмныя радыё-пункты. Акрамя таго будуць радыёфікаваны сямігодкі, тэхнікумы і клюбы.

* П'еса „Машэка" зараз перапрацоўваецца на чыста музычную драму. Галоўныя ролі будуць выконвацца сьпевакамі. Музыку да п'есы піша беларускі композытар Ул. Тэраўскі і Маркевіч. „Машэка" пойдзе ў гэтым сэзоне.

* Да гэтага часу ў нас мала што зроблена ў галіне гармонізацыі беларускай песьні. З гэтага году пры Белмузтэхнікуме будзе стала пастаўлена гэта справа, кіраўніцтва ёю будзе даручана новаму выкладчыку тэорыі композыцыі, якім мае быць проф. Ленінградзкай консэрваторыі Чарноў.

* Беларускі дзяржаўны музэй заказаў студэнту Ленінградзкай Акадэміі мастацтва тав. Азгуру зрабіць у натуральны рост статую Францішка Скарыны Таварыш Азгур ужо прыступіў да выканананьня гэтай працы.

* З гэтага году Беларускую Дзяржаўную капэлю мяркуецца ўзяць частково на дзяржаўнае ўтрыманьне. У Капэлі працуе 45 чал. За два гады яна значна вырасла. Капэля ў далейшым будзе прымацавана да опэрнай клясы музычнага тэхнікуму і скарыстана пры пастаноўках. Лепшую частку вячэрняе харавое клясы мяркуецца зьліць з капэляй. У мінулым сэзоне ўсю працу па капэлі выконваў адзін т. Егораў, а зараз пачынае з ёю працаваць і т. Сэлях, які будзе кіраваць вокальнай часткай і мастацкай апрацоўкай пастановак.

* У першых лічбах кастрычніка ў Менск прыяжджае ленінградзкая кіно-экспэдыцыя на чале з рэжысэрам Гардзіным для здымак фільмы „Песьня вясны". Цяпер экспэдыцыя працуе ў Барысаўскай акрузе. Кіно-фільма „Песьня вясны" будзе паказвацца на экранах у дні сьвяткаваньня дзесяцілецьця БССР.

## Хроніка друку

* Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай падрыхтоўвае да друку другі зборнік „Беларуская культура" на нямецкай мове. У зборнік увойдуць артыкулы пра Інбелкульт, Белдзяржкіно, С. Г. Акадэмію, Комвуз ды інш.

* Народны Камісарыят Асьветы БССР хадайнічае аб водпуску сродкаў на выданьне твораў Л. М. Толстога на беларускай мове.

* Бабруйская філія „Маладняк" выдае другі збор твораў сваёй філіі „Уздым".

* Беларускі поэта А. Гурло пераклаў з украінскае мовы зборнік поэзіі „Вітер з України" П. Тычыны і здаў для надрукаваньня Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву.

* Віцебскае краязнаўчае т-ва нядаўна выдала зборнік „Віцебшчына", што зьяўляецца вялікай працай у галіне вывучэньня вытворчых сіл акругі, яе гістарычнага мінулага і сучаснага культурнага стану. У гэтай працы прынялі ўдзел як спэцыялісты-вучоныя, так і маса працоўных праз краязнаўчыя організацыі.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва пачало друкаваць выбраныя творы Леніна на беларускай мове. Мяркуецца выдаць 12 тамоў выбраных твораў. У гэтых 12-ці кніжках будуць зьмешчаны самыя галоўныя творы, артыкулы ды прамовы Леніна.

Работа па выданьні павінна быць скончана 1-га студзеня 1930 году. У кастрычніку бягучага году выйдуць з друку 3-ці і 5-ты тамы, рэшта будзе выходзіць паступова па меры падрыхтоўкі матэрыялу.

Рэдагаваньне твораў праводзіцца рэдакцыяй у складзе т. т. В. Кнорына, У. Ігнатоўскага, Сянкевіча і В. Сэрбэнты.

Стылістычнае афармленьне твораў вядзе стылістычная камісія, у якой працуюць Якуб Колас, У. Чаржынскі і В. Сэрбэнта. Апрацоўка тэрмінолёгіі даручана тэрмінолёгічнай камісіі Інбелкульту.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва канчае друкаваць кнігу Зьм. Жылуновіча „Узгоркі і нізіны“, зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў.

* Інстытутам навуковай мовы і літаратуры зараз друкуецца хэмічная тэрмінолёгія. Падрыхтованы да друку і ў хуткім часе пачынае друкавацца слоўнік сельска - гаспадарчых тэрмінаў.

Апроч таго апрацоўваецца тэрмінолёгія фізычная, практычнай мэханікі, пэдагогічных дысцыплін і расьлінагадоўлі.

Новым выданьнем і ў новай апрацоўцы рыхтуецца тэрмінолёгія геолёгіі, мінэралёгіі, крышталёграфіі і пэтрографіі.

* Да новага навучальнага году Белдзяржвыдавецтвам здана ў друк каля 20 новых падручнікаў. Выпушчана ўжо паўторнымі выданьнямі больш 7 падручнікаў. Шэраг кніг выдана на яўрэйскай, польскай ды інш. мовах.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва здало ў друк зборнік апавяданьняў Анры Барбюса „Розныя здарэньні“, пераклад з французскае на беларускую мову зроблены Ю. Зэмелем.

* У хуткім часе ЦБ Краязнаўства выдае 2-гі том зборніку „Асіпавіцкі раён“, у які ўваходзіць: апісаньне Зборскага с.-с., мястэчка Асіпавічы, в. Журавец і помнікаў старасьветчыны Асіпавіцкага р. Выданьне будзе багата ілюстравана рознымі фотографіямі, дыяграмамі і г. д.

* Інбелькульт скончыў друк акадэмічнага выданьня 2-га тому твораў Максіма Багдановіча. Апроч гэтага, скончана падрыхтоўка да друку акадэмічнага выданьня твораў Алеся Гаруна.

* У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве канчаецца друкавацца і ў хуткім часе выйдзе з друку першы том збору твораў Якуба Коласа. Да першага тому напісаны Ўл. Дзяржынскім вялікі крытычна-біографічны нарыс творчасьці Якуба Коласа.

### Хроніка беларускай навукі

* Дыялектолёгічная Камісія ІБК організавала сёлета шэраг экспэдыцый: адну ў Барыцкі р., Бабруйскай акругі у складзе С. Некрашэвіча і Ягорава; другую—у Гомельскую і Магілеўскую акругі ў складзе Я. Лёсіка і М. Аладава.

У абедзьвюх экспэдыцыях прымаў удзел і проф. П. Бузук, які сёлетнія досьледы закончыў паездкай у б. Себескі пав., Віцебскай губ. Экспэдыцыям удалося сабраць шмат цікавых матэрыялаў, якія і рыхтуюцца да друку.

* У часе археолёгічнай экспэдыцыі ІБК быў дасьледваны ў Віцебску так званы „Верхні Замак“, дзе павінна было быць гарадзішча. Аднак, там цэлае гарадзішча ня знойдзена. З упэўненасьцю нельга сказаць, дзе дакладна было гарадзішча, але там былі знойдзены кавалкі пасудку, якія сьведчаць аб тым, што тут, мабыць, было гарадзішча да-славянскага часу.

Таксама быў абсьледваны „Ніжні Замак“, дзе пакуль што выяўлена культура канца XI і XII ст. ст.

* Навуковы беларускі краязнаўчы гурток у Рызе (Латвія) рыхтуе цэлы шэраг матэрыялаў па вывучэньні быту беларускага насельніцтва ў Латвіі. Гэты матэрыял будзе зьмешчаны ў краязнаўчай часопісі „Наш Край“.

* ЦБ Краязнаўства праводзіла сёлета ў некаторых мясцох БССР вывучэньне таго, як прасякае ў вёску новы быт. Дасьледваньні паказалі, што паміж сялянствам ня рэдкі выпадкі выкананьня толькі грамадзянскіх форм некаторых бытавых зьяў, як шлюб, пахаваньне і нараджэньне. Гэта сьведчыць аб тым, што ў сьвядомасьць сялянства глыбака ўжо прасяклі новыя формы савецкага быту.

* У Дубровенскім раёне, Аршанскай акругі, нядаўна выяўлены і апісаны некалькі старажытных гарадзішчаў. Апроч гэтага, у гэтым-жа раёне быў вывучаны цэлы шэраг курганоў, якія зьвязаны ў мясцовага насельніцтва з рознымі гістарычнымі падзеямі.

* Навукова Дасьледчы Інстытут існуе паўтара гады. За гэты час амаль скончаны організацыйны пэрыод працы і праведзена значная дасьледчая праца. Інстытут імя Леніна складаецца з пяці аддзелаў: 1) аддзел сельска-гаспадарчай экономікі ды аграрнай політыкі, 2) аддзел расьлінаводзтва і практычнай ботанікі, 3) аддзел жывёлаводзтва і практычнай зоолёгіі, 4) аддзел мэліорацыі і культуры балот. Аўтономнай навуковай адзінкай у складзе Інстытуту зьяўляецца Беларуская Геофізычная Служба—„Белгеофіз“.

Асноўнай працай *аддзелу с.-г. экономікі* зьяўляецца організацыя сталых рахункаводных запісаў у сялянскіх гаспадарках, як асноўнага матэрыялу для выяўленьня рэнтабельнасьці сельскай гаспадаркі і яе паасобных галін („Сялянская бухгальтэрыя“). Праца гэта вядзецца паводле швэйцарскага і дацкага мэтодаў. Раней бюджэтныя досьледы сялянскіх гаспадарак вяліся экспэдыцыйным мэтодам, што адбівалася, з аднаго боку, на дакладнасьці даных, з другога боку, на малым скарыстаньні даных самымі сялянамі. Зробленыя-ж самім селянінам сталыя бюджэтныя запісы будуць дапамагаць яму ў справе выяўленьня прыбытковасьці яго гаспадаркі і пакажуць гэтым самым шлях да перабудовы організацыі гаспадаркі.

У першы год працы аддзел завёў сталыя бюджэтныя запісы ў 70 сялянскіх гаспадарках розных раёнаў БССР. Організацыя запісаў была вельмі добра праведзена, і ўжо на другі год у Інстытут былі паданы заявы з пажаданьнем рабіць гэтыя бюджэтныя запісы ад 220 сялянскіх гаспадарак. Організацыю сталых рахункаводных запісаў у БССР трэба лічыць надзвычайна важнай справай выключнага значэньня ў вывучэньні экономікі сялянскай гаспадаркі. Толькі на падставе гэтых запісаў можна будзе мець дакладны і вычэрпваючы матэрыял для абмеркаваньня ўсіх падрабязнасьцяй організацыі сялянскай гаспадаркі. З паступовым разьвіцьцём сталых рахункаводных запісаў зусім зьнікае патрэба організоўваць экспэдыцыйныя бюджэтныя абсьледваньні сялянскіх гаспадарак.

Апроч стацыянарнай працы, аддзелам сельска-гаспадарчай экономікі праведзены наступныя экспэдыцыі: 1) па вывучэньні экономікі сельскай гаспадаркі Мазырскага Палесься, 2) па вывучэньні экономікі культур лёну і канаплі ў паўночнай Беларусі, 3) па вывучэньні рыначнага сьвінаводзтва Случчыны, 4) экономічнага профілю БССР, 5) экономікі мэліорацыі БССР, 6) па вывучэньні форм і эфэктыўнасьці землеўпарадкаваньня БССР, 7) эфэктыўнасьці сельска-гаспадарчага крэдыту, 8) эфэктыўнасьці капітальных укладаньняў у дзяржаўныя мерапрыем-

ствы па сельскай гаспадарцы БССР, і 9) па вывучэньні тыпаў севазваротаў і сыстэм паляводзтва БССР.

Ужо часткова скончаны і зданы ў друк матэрыял першых 6-ці экспэдыцый. Ідзе падрыхтоўка да правядзеньня наступных экспэдыцый: 1) па вывучэньні соцыялістычных форм сельскай гаспадаркі БССР: комун, калгасаў, сябрынь ды інш. і 2) організацыі савецкіх гаспадарак у БССР. Пералічаныя экспэдыцыі дадуць багаты матэрыял для вывучэньня экономікі БССР, высоўваючы Беларусь, яшчэ нядаўна найменш вывучаную ў экономічным стасунку частку Саюзу ССР, у разрад тэрыторый з больш вывучанай экономікай сельскай гаспадаркі.

З стацыянарных работ аддзелу, якія знаходзяцца ў розных стадыях распрацоўкі, вядуцца наступныя: 1) дробнае раёнаваньне сельскай гаспадаркі БССР, у асноўным гэта праца ўжо скончана, сетка мікра-раёнаў вызначана, ідзе праверка і падрыхтоўка матэрыялаў да друку, 2) вывучэньне матэрыялаў па ўраджайнай статыстыцы этнографічнай Беларусі, пачынаючы з 1883 году (апрацоўка вядзецца мэтодам матэматычнай статыстыкі), 3) вывучэньне незямляробчых промыслаў сельска-гаспадарчае насельнасьці БССР, вывучэньне экономікі сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі.

У складзе аддзелу працуюць 3 габінэты: 1) габінэт сельска-гаспадарчай экономікі і організацыя сельскай гаспадаркі, 2) габінэт соцыялістычнага зямляробства і аграрнай політыкі, 3) габінэт сельска-гаспадарчай географіі і статыстыкі.

*Аддзел расьлінаводзтва і практычнай ботанікі.* Аддзел працуе ў складзе: цэнтральнай бульбянай станцыі і Менскай расьлінаводнай станцыі. Бульбяная станцыя пачала працаваць з вясны бягучага году ў савгасе Вялікая Сьляпянка. Самай галоўнай працай зьяўляецца выпрабаваньне гатункаў бульбы з 115 розных пунктаў БССР, працы з колекцыямі бульбы, апробацыя засеваў бульбы ў савгасах плошчай у 5 тыс. гэктараў (гэта праца ўжо пачалася) і дробны падлік ураджаю для вывучэньня тэрыторыі станцыі і падрыхтоўкі яе да досьледаў. Распрацоўваецца проект абсталяваньня Бульбянай Хэміка-Тэхнолёгічнай лябораторыі для вывучэньня асноўных тэхнолёгічных процэсаў па пераапрацоўцы бульбы, як тых, што выкарыстоўваюцца ў прамысловасьці, так і новых (сушэньне бульбы ды інш.).

*Аддзел жывёлаводзтва ды практычнай зоолёгіі.* Працуе аддзел у складзе 2-х станцый: 1) Цэнтральная сьвінаводная станцыя, у Малой Сьляпянцы, і 2) станцыя па вывучэньні буйнай рагатай жывёлы, у Прылуках. На абедзьвюх станцыях будаўнічыя работы ўжо вядуцца і будуць скончаны ўвосень гэтага году (будуюцца аборы для буйнай жывёлы і досьледныя сьвінарні). Аддзелам зроблена наступнае: 1) аналіз мясцовых кармоў, 2) распрацоўка матэрыялаў па абсьледваньні 3 раёнаў каняводзтва БССР: Менскага, Гомельскага і Мазырскага, 3) вывучэньне гадоўлі парасят, 4) абсьледваньне буйнай рагатай жывёлы ў Менскай і Віцебскай акругах. Пры распрацоўцы матэрыялаў гэтага абсьледваньня для мэтаў параўнаньня будзе апрацованы першы матэрыял экспэдыцыі па вывучэньні буйнай рагатай жывёлы, праведзенай проф. Ліскунам у 1912 годзе на Беларусі.

*Расьлінаводная станцыя.* Менская расьлінаводная станцыя рабіла новыя досьледы на сваёй старой тэрыторыі, на Пярэсьпе, і вяла падрыхтоўку да пастаноўкі палявых досьледаў у аддзяленьні станцыі—у савгасе Атоліна. Галоўная тэма працы станцыі—вывучэньне спосабаў палепшаньня ўраджайнасьці беднай пяшчанай і лёгкай сугліністай глебы шляхам зьбіраньня органічных матэрый і ўзбагачэньня імі глебы, вывучэньня больш шчыльных севазваро-

таў, з увядзеньнем клубняплодаў і падсеўных бабовых на зялёны корм. Пытаньне аб увядзеньні больш шчыльных севазваротаў зьяўляецца галоўнай організацыйнай проблемай у рэорганізацыі сыстэмы палявой гаспадаркі Менска-Слуцкага інтэнсыўнага раёну.

Станцыяй азначаны правільныя шляхі да досьледнага вырашэньня гэтай цэнтральнай проблемы. На вялікі жаль, умовы рэльефу, глебы і разьмеры плошчы, якую займае зараз станцыя, не даюць магчымасьці своечасова і навукова-абгрунтавана вырашыць гэта пытаньне. Ня гледзячы на пяцігадовую даўнасьць існаваньня станцыі, об'ектыўныя ўмовы не далі ёй магчымасьці дасягнуць пэўных навуковых вынікаў; тэрыторыя станцыі два разы мянялася і надзвычайна няўдала.

Аддзел расьлінаводзтва пачаў працу па ўвязцы плянаў і програм раённых дасьледчых станцый; дзеля гэтага праведзена ўсебеларуская нарада дасьледчыкаў-расьлінаводаў і маецца быць другая нарада ўвосень гэтага году. Аддзелам распачата праца па вывучэньні садоўніцтва БССР.

*Станцыя аховы расьлін ад шкоднікаў.* Гэта станцыя, апроч стацыянарных работ, паводле програмы мінулых гадоў, праводзіць экспэдыцыйнае вылучэньне распаўсюджаньня шкоднікаў у БССР. Экспэдыцыяй ахоплены 4 акругі БССР: Полацкая, Віцебская, Мазырская і Гомельская. Выяўлена вельмі значнае распаўсюджаньне шкоднікаў, ахапляючы ў некаторых мясцовасьцях да 10—15 проц. тэрыторыі, напрыклад, у Віцебскай акрузе папсавана блізка 6000 гэкт. законтрактаваных засеваў лёну(шкоднік—капусная доўганожка).

„Белгеофіз", апроч нормальнай працы па асноўнай мэтэоролёгічнай сетцы, правёў значную працу па організацыі беларускай геофізычнай обсэрваторыі ў гор. Менску.

*Цэнтральная хэмічная лябораторыя Навукова-Дасьледчага Інстытуту* вяла працу па абслугоўваньні асноўных аддзелаў Інстытуту. З самастойных тэм трэба адзначыць працу па вывучэньні торфу і фосфорыту.

Пры Навукова-Дасьледчым Інстытуце організаваны *інстытут сялян-дасьледчыкаў*, які здолеў шырока разгарнуць працу. Лік сялян-дасьледчыкаў з 63 у пачатку працы дасягнуў 474 у канцы першага году і зараз перавысіў 1000 чал., працай іх кіруюць дасьледчыя станцыі БССР. Па ўсіх станцыях былі праведзены конфэрэнцыі сялян-дасьледчыкаў і агрономаў.

*Аддзел мэліорацыі і культуры балот* вядзе дасьледчую працу па двух асноўных цыклях пытаньняў: 1) мэтазгодная адлегласьць паміж асушальнымі канавамі і 2) разьмеры і формы трывалых вадаадводных магістраляй.

Досьледы па культуры балот вядуцца Менскай Балотнай Станцыяй. Станцыя мае цэлы шэраг вельмі каштоўных вынікаў. Але, прымаючы пад увагу, што вывады работ станцыі можна распаўсюдзіць толькі на той тып балот БССР, на якім знаходзіцца Камароўскае досьледнае поле-станцыя—нізінны тып,— Інстытут імя Леніна організуе два новыя досьледныя палі-станцыі на іншых тыпах балот: Сьляпянскім—каля Менску, на махавым балоце, і Палескае—у Мар'іне—на траўна-асокавым балоце. Работы на Палескім балотным досьледным полі ўжо вядуцца.

*Аддзел лясной гаспадаркі.* Аддзел працуе ў складзе Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі з трыма досьледнымі лясными вучасткамі: Горацкім, Жарнаўскім і Вяляціцкім, з агульнай плошчай 1100 гэкт., ахапляючымі сасновы і грудавы тыпы лясоў БССР. Досьледы вядуцца па вывучэньні дэндролёгіі і біолёгіі драўнінных парод БССР, вывучэньне біолёгіі лясных насаджэньняў і іх тыпаў, вывучэньне натуральнага лесааднаўленьня і лясных парубак, вывучэнь-

не лясных культур і лесамэліорацыі, таксама і лесаўпарадкаваньня, лясной тэхнолёгіі і леса-экономікі. Найбольш поўна пададзены досьледы па агульнаму лесаводзтву, лесатаксацыі і лясной хэмічнай тэхнолёгіі. Аддзелам лясной гаспадаркі была прароблена вялікая праца па складаньні асортымэнтных табліц для лясоў Беларусі.

Пры аддзеле працуе станцыя выпрабаваньня лясных насеньняў, якая контролюе насеньне з розных лясьніцтваў Беларусі і суседніх раёнаў РСФСР.

* У хуткім часе распачынаюцца раскопкі Банцараўскага гарадзішча, якое мае вялікую вартасьць для навукі. Апроч гэтага, будуць праводзіцца археолёгічныя раскопкі ў Лагойскім раёне ды інш. мясцох.

* Зараз маскоўскі проф. Яўціхіеў з асыстэнтам Бэргманам, па заданьні Дасьледчага Інстытуту Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя Леніна, праводзіць працу па вывучэньні сучаснага зямельнага права БССР.

Гэта праца праводзіцца па матэрыялах Цэнтральнага архіву Кастрычнікавай рэволюцыі. Пасьля апрацоўкі ўсіх матэрыялаў, проф. Яўціхіеў мае выпусьціць спэцыяльную кнігу, прысьвечаную гэтаму пытаньню.

* Ленінградзкі проф. Акадэміі матэрыяльнай культуры Гольбек сёлета правёў досьледы па беларускіх архівах для вывучэньня працы цэхаў алавянішнікаў часоў XVIII і XIX ст. ст.

Па гэтым пытаньні проф. Гольбек піша працу, дзе значнае месца будзе выдзелена Беларусі.

* Сябра Магілеўскага краязнаўчага т-ва т. Сушынскі, які працаваў супольна ў часе экспэдыцыі з выкладчыкам музыкі і сьпеваў Магілеўскага Белпэдтэхнікуму т. Чуркіным, сабраў каля 300 народных песень (слоў і мэлёдый). Сабраны матэрыял зьяўляецца нязвычайна вялікай каштоўнасьцю. Песьні перададзены ў Інбелкульт.

* Пад Віцебскам каля Старага-Сяла, на Дзьвіне, дасьледвана да-славянскае гарадзішча, у якім знойдзена лепная пасуда, косьці бабра, каровы ды інш. зьвяроў. Побач з гарадзішчам дасьледваны курганы і ў адным з іх знойдзены 4 урны. Гэта гарадзішча і курганы аднаго часу.

У праведзеных дасьледваньнях навуковай экспэдыцыі ІБК прымалі чынны ўдзел віцебскія краязнаўцы: т. т. Супінскі, Калодкін, Багародзкі і Палякоў.

* Бягучым летам Мазырскае краязнаўчае т-ва правяло значную працу ў сэнсе вывучэньня розных галін гаспадаркі і прыроды акругі. Былі організаваны экспэдыцыі па складаньні гэрбарыю, па вывучэньні экономічнага стану сельскай і лясной гаспадаркі і быту насельніцтва.

Значную працу выканала краязнаўчае т-ва ў галіне вывучэньня шаўкоўніцтва ў акрузе.

* У чэрвені месяцы аддзел прыроды і гаспадаркі ІБК наладзіў географічную экспэдыцыю пад кіраўніцтвам проф. Смоліча.

Мэтай экспэдыцыі было дасьледваньне сельскай гаспадаркі ў паўночна-ўсходняй Аршаншчыне і паўднёвай Віцебшчыне.

Як выявілася, раён уплыву асінабудаўніцтва распадаецца на дзьве часткі—бліжэйшая ваколіца Воршы адзначаецца высокай інтэнсыўнасьцю гаспадаркі і вельмі высокай культурнасьцю насельніцтва.

Раён ад Асінстрою да Бабышавіч і далей на ўсход да Смаленшчыны—другая частка, вельмі багатая на лес і балоты, так званая палесіца. Адзначаецца яна вялікаю роляю промыслаў у сельскай гаспадарцы—пераважна лясныя, возьніцкія, выраб колаў, цясьлярства, адыходныя на Асінстрой ды інш.

Гаспадарка там закінута. Вядзецца яна пастарасьвецку, досыць экстэнсыўна.

Адначасна экспэдыцыяй вяліся назіраньні над зьявамі матэрыяльнай

культуры, асабліва над сялянскімі будынкамі.

Пры вывучэньні прыродных асаблівасьцяй між іншым дасьледваліся кірункі канцовых морэн у раёне Днепрадзьвінскага вадападзелу і характар іншых ледавіковых ды пасьляледавіковых утварэньняў (камы, озы, выдмі і г. д.).

* Пры раскопках у мясцовасьці Бельчыцы (каля Полацку) архітэктар Хозараў прышоў да пераканьня, што руіны старой царквы ў Бельчыцах ёсьць помнік не XII, а XI ст. Тав. Хозараў надаслаў цэлы шэраг экспонатаў, датычных будаўнічага мастацтва тых далёкіх часоў.

* Кіраўнік краязнаўчага музэю ў Белай Царкве (Украіна) тав. Драздоў (па паходжаньні беларус) надаслаў у БДМ старыя дакуманты, якія датычаць гісторыі Беларусі. Апроч таго, тав. Драздоў надаслаў розныя монэты.

### Рознае

* У Нар. Кам. Асьветы БССР распачалася падрыхтоўка да адзначэньня 10-лецьця агалашэньня БССР. Да юбілею НКА выдае брошуру. Складаньне гэтай брошуры даручана пісьменьніку Міхасю Зарэцкаму. Да юбілею таксама будуць выпушчаны мастацкія карціны. У сувязі з гэтым галоўмастацтвам склікаецца ў бліжэйшыя дні нарада беларускіх мастакоў, дзе будзе абгаворана пытаньне аб удзеле іх у юбілеі. Мяркуецца выдаць карціны на наступныя тэмы: падпісаньне маніфэсту аб БССР, „Ад веку мы спалі“, „Партызаншчына пры окупацыях“, „Будаўніцтва ў БССР“ і г. д.

За лепшыя карціны будуць выданы прэміі.

* Беларускі Дасьледчы Інстытут Сельскай і Лясною Гаспадаркі склаў проект пабудовы Беларускай Геофізычнай Обсэрваторыі. Абсталяваньне для Обсэрваторыі заказана часткова ў Нямеччыне, часткова купляецца ў СССР.

* У палове верасьня ў Маскве адбыўся зьезд беларускіх культурнікаў у РСФСР. Зараз на тэрыторыі РСФСР налічваецца 152 школы першай ступені, 4 школы павышанага тыпу, 104 бібліотэкі (2 губэрнскія), 33 хаты-чытальні, 40 чырвоных куткоў, 31 пункт па ліквідацыі няпісьменнасьці, 2 беларускія клюбы—адзін у Маскве, другі ў Ленінградзе.

* Дзяржаўнае Выдавецтва РСФСР праводзіць зараз падрыхтоўчую работу да выданьня антолёгіі мастацкай літаратуры ўсіх нацыянальнасьцяй, якія ўваходзяць у Саюз ССР.

* Пасьля летняга перапынку пачаў разгортваць сваю працу Белдзяржмузэй. Адкрыты аддзелы: археолёгічны, нумізматычны, мастацкі і яўрэйскі. З прычыны ўнутранага рамонту этнографічны аддзел будзе адкрыты толькі ў пачатку кастрычніка.

За гэтае лета музэй значна папоўніўся гістарычнымі, мастацкімі, этнографічнымі і археолёгічнымі рэчамі. З цікавых экспонатаў, якія прыбылі ў музэй, трэба адзначыць ляпідарныя каменныя помнікі (надзвычайна цікавы экспонат каменнае бабы з м. Прапойску, каменныя крыжы з надпісамі ды інш.). Этнографічны аддзел папоўніўся рэчамі, якія сабраны этнографічнымі экспэдыцыямі Інбелкульту.

Паміж сабраных матэрыялаў асабліва вызначаюцца нацыянальная беларуская жаночая вопратка і экспонаты, якія характарызуюць беларускую разьбу па дрэве. Гэтыя экспонаты былі знойдзены ў раёне Слуцак—Мазыр. Мастацкі аддзел папоўніўся работамі членаў усебеларускага аб'яднаньня мастакоў, якім былі даручаны заказы ад музэю. Археолёгічны аддзел атрымаў значнае папаўненьне ад катэдры археолёгіі Інбелкульту з раскопак, зробленых сёлета ў розных раёнах Беларусі. Асабліва цікавыя экспонаты былі знойдзены ў ваколіцах Полацку, дзе

ў курганох была адкрыта культура, дужа блізкая да люцінскай культуры. Некаторыя цікавыя рэчы этнографічна-бытавога характару атрымаў таксама і яўрэйскі аддзел.

* Нямецкі саюз франтавікоў прыслаў у Менск некалькі проклямацый, выданых бальшавіцкай організацыяй Беларусі ў 1918 годзе ў часе нямецкай окупацыі для распаўсюджаньня сярод нямецкіх салдат. Проклямацыі пераданы ў Музэй Рэволюцыі.

* Колегія Наркамасьветы РСФСР канчаткова зацьвердзіла проект катэдры беларускае мовы і культуры на пэдагогічным факультэце Смаленскага дзяржунівэрсытэту. Зараз удакладняецца пытаньне аб штатах катэдры, стварэньня пры ёй спэцыяльнага габінэту і г. д.

* На днях беларуская дзяржаўная бібліятэка атрымала з Чэха-Славакіі вялікую партыю кніг.

Кнігі атрыманы ад Славянскай бібліотэкі ў Празе, Чэскай Акадэміі Навук ды інш.

* У апошнія часы ў БДМ паступіў цэлы шэраг скарбаў з розных акруг БССР. У скарбах монэты XVII і XVIII сталецьцяў. Некаторыя скарбы зьмяшчаліся ў адмысловых пячурках, зьлепленых з гліны.

* Цэнтральнае архіўнае кіраўніцтва БССР зараз вядзе перамаўленьні з Віцебскім акрвыканкомам аб перадачы яму закрытага Ўсьпенскага сабору для разьмяшчэньня архіўных матэрыялаў Кастрычнікаўскага пэрыоду Віцебшчыны. Гэты сабор пабудован у XVII сталецьці італьянскімі архітэктарамі і зьяўляецца надзвычайна цікавым помнікам прыгожай архітэктуры. Канчаткова гэтае пытаньне будзе вырашана ў прэзыдыуме ЦВК БССР.

* Згодна тэлеграфнага запатрабаваньня ад дырэктара Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі, які зараз знаходзіцца на Міжнароднай Кёльнскай выстаўцы з мэтай організацыі беларускага аддзелу, Беларускае т-ва культурнай сувязі з замежамі выслала на адрас выстаўкі 100 экз. інформацыйнага зборніку № 1 „Беларуская Культура“ на нямецкай мове. Адзначаныя кнігі высланы дзеля інформацыі наведваючых выстаўку, а таксама культурных устаноў Нямеччыны і Скандынаўскік краін.

* У Казанскім унівэрсытэце знаходзіцца шмат рэчаў, якія маюць музэйнае і гістарычнае значэньне для БССР. Сярод гэтых рэчаў—сярэднявяковая яўрэйская „тора“ з шматлікімі мініятурамі. Вялікую цікавасьць мае пісьмовае пасланьне полацкіх яўрэяў да Кацярыны II. Наркамасьветы РСФСР па хадайніцтву Наркамасьветы БССР перадае некаторыя з гэтых рэчаў Белдзяржмузэю.

* У беларускі цэнтральны архіў здаены грам. А. Дзямідовічам некалькі нумароў газэты „Пролетарій“— органу расійскай соц.-дэм. партыі, які выдаваўся ў Жэневе ў 1905 г.

Гэтыя газэты зьяўляюцца бібліографічнай рэдкасьцю.

* За апошні час Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка атрымала вялікую партыю кніг ад Лунскага Унівэрсытэту (Швэдзія). Кнігі прадстаўляюць працу гэтага унівэрсытэту за апошнія гады і маюць вялікую навуковую вартасьць.

Апрача гэтага, атрыманы партыі доктарскіх дысэртацый ад Мюнхэнскага, Браслаўскага і Кенігсбэрскага унівэрсытэтаў.

* Гомельскі музэй паведаміў Галоўнавуку аб тым, што ім узбуджана хадайніцтва а перадачы музэю сядзібы былога палацу Паскевіча з тэрыторыяй у 28 дзесяцін, а таксама ўсіх будынкаў, якія знаходзяцца на гэтай тэрыторыі. Музэй мяркуе організаваць на гэтай тэрыторыі першы ў БССР узорны парк.

* Загадчык агітацыйна-пропагандыцкага габінэту клюбу „Карла Маркса“ знашоў на гары дому вельмі цікавы гістарычны ліст з варшаўскай цытадэлі, датаваны 31 мая 1880 г. Ліст, мяркуючы па яго зьместу, належыць члену польскай со-

цыялістычнай партыі „Пролетарыят“ тав. Акімаву. У гэтым лісьце апісваецца суд над цэлай групай арыштаваных і жыцьцё ў цытадэлі. Ліст перададзены ў Музэй Рэволюцыі.

* Пры разборы ў г. Слуцку доміка г-на Ярко быў знойдзены сшытак з матэрыяламі аб Слуцкай падпольнай бальшавіцкай організацыі, якая працавала ў часе бела-польскай окупацыі. У гэтым сшытку маецца падлік падпольных ячэек, аружжа, а таксама лік таварышоў, якія трымалі сувязь з вёскамі б. Слуцкай акругі. Сшытак перададзены ў Музэй Рэволюцыі.

* Нядаўна Беларускі Дзяржаўны Музэй набыў некалькі цэлых і розныя часткі 17 слуцкіх паясоў. Зараз у БДМ маецца ўжо да 50 паасобных экзэмпляраў слуцкіх паясоў.

* У Лепельскім краязнаўчым музэі сабрана шмат цікавых рэчаў старажытнасьці. Да цікавых рэчаў музэю трэба аднесьці бронзавы кельт і шкляныя кулькі. Бронзавы кельт сьведчыць а бронзавым веку на Беларусі. Пахаджэньне шкляных кулек мае некалькі тэорый; адна з іх зьвязана з старажытным рытуалам пахаваньня, калі сваякі зьбіралі сьлёзы ў шкляныя кулькі і зьмяшчалі іх у дамавіну блізкага чалавека.

* Белдзяржмузэй прыступае да выданьня альбому „Стары Менск“, у якім будзе падана гісторыя гор. Менску, пачынаючы ад старажытнага часу да канца XIX сталецьця. Уступны артыкул да альбому піша прыватдоцэнт БДУ Даўгяла.

Акрамя тэксту, у альбоме будзе зьмешчана звыш 40 малюнкаў—старадаўнія пляны Менску, віды, гістарычныя будынкі, портрэты менскіх дзеячоў, пячаткі і інш.

Працу па выпуску альбому мяркуецца скончыць да 1 студзеня 1929 году.

* У маёнтку Селізоры, Лепельскага раёну, у дарэволюцыйныя часы знаходзілася вялікая бібліотэка, у якой было шмат рэчаў з беларускай культуры. Паміж іншым, тут знаходзілася драма „Аказія подпалкоўніцам“ Гароніма Марцінкевіча (брат Вінцука Марцінкевіча), якая ў 1862 г. ставілася на Віцебскай сцэне.

Лепельскае краязнаўчае т-ва зараз вядзе адшуканьне гэтага твору.

* Для дому пісьменьнікаў, які организуецца ў Менску, адводзіцца памяшканьне Беларускага Комунальнага Банку (Савецкая вул.).

* Пры Беларускім доме працаўнікоў асьветы ў Ленінградзе організуецца цэлы шэраг гурткоў—драматычны, краязнаўчы, музычны, літаратурны і г. д.

Беларускі клюб у Ленінградзе гэта будзе новы асяродак беларускай культуры для тых 14.000 беларускага насельніцтва, якое, згодна апошніх і вельмі дакладных статыстычных даных, пражывае ў Ленінградзе.

**Замежныя краіны аб Беларусі.**

* У зьвязку з 20-гадовым юбілеем беларускага пролетарскага пісьменьніка Цішкі Гартнага, эспэранцкія організацыі маюць зьмясьціць у замежных эспэранцкіх часопісах нарысы аб жыцьці і творчасьці юбіляра і пераклады некалькіх яго твораў.

* Перакладзена П. Кобзярэўскім на расійскую мову поэма беларускага поэты А. Дудара—„Шанхайскі шоўк“. Гэты твор павінен быць надрукаваны ў бліжэйшых нумарох часопісі „Октябрь“.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны здало ў друк вялікі (каля 20 друкаваных аркушоў) альманах „Нова Беларусь“, куды ўваходзяць пераклады трыццаці сучасных беларускіх бэлетрыстых і поэтаў.

* У замежным друку часта зьяўляюцца артыкулы аб культурным будаўніцтве ў БССР. У часопісі „Міжнародны мэдычны агляд“, якая выхо-

дзіць у Францыі, надрукованы артыкул аб Народнай Ахове Здароўя ў БССР. У балгарскай газэце рабочай моладзі „Младзежка дума“ надруковены артыкул аб студэнцтве Беларусі.

* У балгарскай літаратурнай часопісі „Накавальня“ зьмешчаны вялікі артыкул на тэму: „Культура Савецкай Беларусі“.

У ангельскай часопісі зьмешчаны артыкул аб становішчы беларусаў у Польшчы.

* Выдавецтва „Украінский робітник“ выдае ў перакладзе Л. Кардзіналоўскай пад рэдакцыяй С. Піліпэнка сэрыю кніжак—твораў беларускіх пісьменьнікаў: Цішкі Гартнага — „Страйкалом“, М. Чарота—„Галя“, З. Бядуля—„Лявоніха і Сымоніха“, М. Зарэцкага „Радасьць“.

## ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны друкуе творы Э. Золя: „Грошы" (пераклад В. Дуброўскага), „Зямля" (пер. Л. Пахарэўскай), „Прорысьць" (пер. В. Чарняхоўскай), „Чалавек зьвер" (пер. В. Шчэрбаненка), „Чэрава Парыжу" (пераклад О. Езерніцкай), „Доктар Паскаль" (пер. Каваленкавай), „Старонка каханьня" (пер. Васковіча), Роні-Старэйшы—„Чырвоная хвіліна" (пер. Волковіча); Окорэ Бальзак—„Шагрыневае шкура" (пер. В. Вражлівага). Усе гэтыя творы ўваходзяць у „Бібліотэку сусьветнай літаратуры".

* Проф. М. Плевака здаў да друку Дзяржаўнаму Выдавецтву Украіны сваю вялікую працу „Нова українська література".

* На апошнім пасяджэньні Наркамасьветы УССР зацьверджаны проект украінскага правапісу. Зацьверджаны проект ёсьць вынік двухгадовай працы спэцыяльнай камісіі, у якой прымалі ўдзел цэлы шэраг акадэмікаў, профэсароў і літаратурных дзеячоў.

* Пры кіеўскім мастацкім інстытуце ўтворана камісія, якая павінна распрацаваць проект рэорганізацыі мастацкага інстытуту ва Усеукраінскую Акадэмію Мастацтва. Паводле проекту пры Акадэміі будзе мастацкі інстытут і навукова-дасьледчыя катэдры па галіне мастацтвазнаўства.

* Колегія Наркамасьветы УССР зацьвердзіла сьпіс опэрных і драматычных дзяржаўных тэатраў, якія маюць выдатную мастацкую і ідэолёгічную вартасьць агульна-рэспубліканскага значэньня. У гэты сьпіс увайшлі: сталічная, кіеўская і адэская опэры, тэатр „Березіль", тэатр ім. Дранка, адэская дзяржаўная драма, тэатр ім. Шаўчэнкі, тэатр ім. Заньковецкай і яўрэйскі тэатр. Усімі гэтымі тэатрамі кіруе Наркамасьветы УССР.

* Прэзыдыум Украінскай Акадэміі Навук ухваліў праверыць дзейнасьць свайго Інстытуту Навуковай Мовы. З гэтай мэтай вызначана камісія ў складзе профэсароў Сіняўскага, Тымчэнкі, П. Бузука, М. Глабкага і Сэмко.

* У гэтым годзе Ўсенародная бібліотэка Украіны сьвяткуе дзесяцілецьце з дню свайго заснаваньня. Зараз Усенародная бібліотэка Украіны налічае 1.900.000 кніжак і часопісаў, 1 млн. газэт, 200 тысяч розных лістовак.

* У Харкаве організуецца новы Палеонтолёгічны музэй-сад.

* ВФКУ пачало здымку новай кінофільмы „Жовтень України".

* У гэтым годзе спаўняецца 80 год з дню выхаду першай украінскай газэты „Зоря Галицька".

* Украінскі скульптар Н. Навасельскі зрабіў бюст Васіля Блакітнага, гэты бюст набывае літаратурны будынак імя В. Блакітнага.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, Я. Васілевіч, А. Баліцкі, М. Чарот.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

## ЗЬМЕСТ

Стар.

# Да ведама падпішчыкаў „ПОЛЫМЯ“

Рэдакцыя часопісі „ПОЛЫМЯ“ **напамінае сваім гадавым і паўгадавым падпішчыкам, што той, хто ня ўнёс і ня ўнясе да 15 кастрычніка г. г.** падпісной платы, таму спыніцца дасылка далейшых нумароў „ПОЛЫМЯ“.

Таксама рэдакцыя „ПОЛЫМЯ“ **просіць гадавых і паўгадавых падпішчыкаў паведаміць, які патрэбна выслаць бясплатны літаратурны дадатак, які належыць, да часопісі „ПОЛЫМЯ“ на 1928 год.** Не паведаміўшым да 15 лістапада 1928 г. дадатак будзе дасланы па выбару самой рэдакцыі.

Паведамляць аб дасылцы дадатку і надсылаць грошы за падпіску па адрасу: Менск, рог вул. Ленінскай і Савецкай, Цэнтральнай Кнігарні Белдзяржвыдавецтва.